# Маладосць

**Штомесячны
літаратурна-мастацкі
і грамадска-палітычны
ілюстраваны часопіс**

**(695) КАСТРЫЧНІК, 2011**

**Выдаецца з 1953 года**

Галоўны рэдактар
**Таццяна Мікалаеўна СІВЕЦ**



**10**



**Рэдакцыйна-выдавецкая
ўстанова
«Літаратура і Мастацтва»,
г. Мінск**

**У НУМАРЫ:**



***Льготная падпіска для ўстаноў Міністэрства культуры і Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь. Ведамасны льготны індэкс — 00731; падпісная цана на 1 месяц — 13 244 руб.***
***Індывідуальная падпіска. Індэкс — 74957. Цана на 1 месяц — 9470 руб.***
***Ведамасная падпіска. Індэкс — 749572. Цана на 1 месяц — 16 694 руб.***
***Індывідуальная льготная падпіска для настаўнікаў. Індэкс — 00592. Цана на 1 месяц — 6710 руб.***

Дызайн вокладкі *Веранікі ШНІП,* фота на вокладцы *Кастуся Дробава*
Тэхнічнае рэдагаванне і камп'ютарная вёрстка *Святланы СТАРАВЕРАВАЙ*
Стыльрэдактар *Кацярына ГОЛУБ*

Рэдакцыя не ўступае ў перапіску з чытачамі, не рэцэнзуе і не вяртае дасланыя рукапісы.
Пры перадруку спасылка на «Маладосць» абавязковая.

Юрыдычны адрас: 220005, Мінск, пр. Незалежнасці, 39.
Паштовы адрас: 220034, Мінск, вул. Захарава, 19. Тэлефоны: 284-85-24, 284-41-88, 288-20-72.

Падпісана да друку 06.10.2011. Фармат 84×108 $^{1}/_{16}$. Папера газетная. Друк афсетны. Умоўн. друк. арк. 13,44.
Ул.-выд. арк. 12,15. Тыраж 2347 экз. Заказ 2757. Кошт нумара ў розніцу 11 000 руб.
Рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку».
220013, Мінск, праспект Незалежнасці, 79.
ЛП № 02330/0494179 ад 03.04.2009 г.

Часопіс «Маладосць» зарэгістраваны ў Міністэрстве інфармацыі РБ. Рэг. нум. 16.


**maladost@bk.ru** **http://maladosc.livejournal.com**

**Заснавальнікі — Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь;**
**грамадскае аб'яднанне «Саюз пісьменнікаў Беларусі»;**
**рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Літаратура і Мастацтва»**



# Госць часопіса «Маладосць» — Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Кыргызскай Рэспублікі ў Рэспубліцы Беларусь Эрык АСАНАЛІЕЎ



**14 кастрычніка ў Беларусі адзначаецца Дзень маці.**

**Гэта ім нашыя аўтары паказваюць свае першыя творчыя спробы. Гэта яны з нецярпеннем чакаюць нумар «Маладосці» з творамі сына ці дачкі. Яны шчаслівыя, калі ў нас усё атрымліваецца. Яны побач, калі мы хварэем. У нашых перамогах — іх цярпенне і вера.**

**Матулям мы прысвячаем гэты нумар часопіса «Маладосць».**

**А пра лёс і ролю жанчыны ў сучасным грамадстве пагутарым з нашым госцем!**

***— Эрык Акматбаевіч, у хвіліну страху ці адчаю чалавек спрадвеку выгуквае: «Мама!», але ў даўнія часы роля Маці, Жанчыны ў грамадстве адрознівалася ад той, якую яна адыгрывае сёння. Наколькі моцныя гендэрныя традыцыі ў сучасным Кыргызстане?***

*— Сёння мы жывём у цывілізаваным свеце, але нашыя сучасныя законы абапіраюцца менавіта на асновы, закладзеныя продкамі. Таму, магчыма, уплыў традыцыі ў пэўных умовах адыгрывае сваю ролю. Да слова, сямейныя святы, сялянскія сходы, урачыстыя мерапрыемствы — там мае значэнне і дрэс-код, і паводзіны, і абстаноўка. Узяць хоць бы вяселле ці пахаванне як самыя старажытныя абрады — усе жанчыны мястэчка, не толькі сваячкі, а сапраўды ўсе прыходзяць на дапамогу, застаюцца на некалькі дзён, як і проста знаёмыя і знаёмыя знаёмых — усіх прымаюць як удзельнікаў рытуалу, якіх трэба сустрэць, накарміць, агарнуць увагай — і гэта таксама кладзецца на плечы жанчын. А што да грамадскага жыцця, скажам, хто павінен першым прамаўляць, хто каго павінен прапускаць наперад... У нас правіла трывалае — перавага аддаецца старэйшым — незалежна ад таго, жанчына ці мужчына! Калі, напрыклад, нейкаму чыноўніку па пратаколе вызначана месца за сталом, ён можа саступіць яго чалавеку старэйшага ўзросту. А калі ў сям'і няма бацькі, то маці становіцца галоўнай. Я вось, хоць і сам ужо маю больш за пяцьдзясят гадоў, але па важных жыццёвых пытаннях не саромеюся параіцца з маці. Магчыма, сённяшнія мае набыткі — як маральнага, так і матэрыяльнага, палітычнага кшталту — гэта таксама вынік такой пазіцыі. У нас нават калі сыну семдзясят гадоў,*

*ён па самым важным пытанні збярэ хатні савет, у чырвоны кут пасадзіць маці і абмяркуе сваё рашэнне. Гэта мне нагадвае стаўленне да англійскай каралевы, напрыклад: яна, можа, не так уплывае на падзеі, але яе трэба спытаць, папрасіць благаславення, расказаць пра тое, хто і за што адказвае, як будуць размяркоўвацца грошы. Так што на паводзіны чалавека ўплываюць якраз падобныя традыцыі...*

***— Аднак пры ўсёй павазе да асноў, у свеце зараз назіраецца імкненне да глабалізацыі. Ці не ўплывае гэта на стасункі мужчыны і жанчыны, асабліва тады, калі ад іх залежыць выхаванне дзяцей у межах пэўнай традыцыі?***

*— Нельга вырашаць падобныя праблемы па прымусе. Праблема бацькоў і дзяцей існавала і існуе. Пры гэтым, традыцыі не адмаўляюць навізны і сучаснага светапогляду. Традыцыя — гэта не табу, гэта гармонія чалавека з маральнымі асновамі, выпрацаванымі чалавецтвам. Адпаведна, кожная грамада мае тое, што яна заслужыла. Так, віртуальны свет робіцца даступным для нашай моладзі, яны ведаюць пра многія рэчы ў свеце, скажам, свабоду выбару, аднаполыя шлюбы і г. д. Але менавіта традыцыя, не забараняючы нечага, дапамагае зрабіць правільны выбар. Свабоднае каханне і да таго падобныя праявы сённяшняга часу ў пэўнай ступені закранаюць інтарэсы ўсяго грамадства, выклікаючы цэлы шэраг іншых праблем, як наркаманія, СНІД, венерычныя захворванні. Вось тут традыцыя набывае асаблівае пазітыўнае значэнне.*

***— Паводле ўсходняй традыцыі жанчына мусіць ісці за два крокі ззаду ад мужчыны. Якім чынам мужчыны ў Вашай краіне ставяцца да сваіх жанчын, сярод якіх і жанчына-прэзідэнт, і жанчыны-дэпутаты?..***

*— Гэта ўтрыраваны падыход! Ён распаўсюджаны ў арабскім свеце. Але і там у жанчыны пад паранджой такія ўборы, такое адзенне, што еўрапейцам і не снілася! Магчыма, калі б не гады савецкай улады, мы б пайшлі па тым самым шляху, але савецкая сістэма зрабіла ўсіх роўнымі, а сённяшні свет адкрыты кожнаму, нашыя грамадзяне атрымалі доступ у любы куток свету. Вось у майго сябра, напрыклад, брат тут служыў, застаўся, ажаніўся з беларускай. У майго цёзкі, які працаваў саветнікам у пасольстве яшчэ да мяне, — жонка беларуска! У нас няма жорсткай пазіцыі на гэты конт.*

***— Пры гэтым, Вы падтрымліваеце традыцыі сваёй краіны, нават знаходзячыся на Беларусі?***

*— Так, калісьці многія, у час вайны, ажаніўшыся, вярталіся на Радзіму з жонкамі. А тыя прымалі і засвойвалі нашыя традыцыі. Вось — у працяг самай першай тэмы — напрыклад, лічылася, што ў пакоі са сталым чалавекам нельга знаходзіцца дзецям ці маладой дзяўчыне, карыстацца яго адзеннем... Дарэчы, анёл-ахоўнік у кожнага свой — у жанчыны, у мужчыны і ў дома. Калі ж казаць пра юрту, то там наогул вельмі строгі падзел на мужчынскую і жаночую палову. І тут няма дыскрымінацыі! Разуменне многіх рэчаў прыходзіць з веданнем законаў прыроды, навакольнага асяроддзя, псіхалогіі чалавека. Але некаторыя і па сёння не разумеюць, чаму нельга рабіць так ці інача... Вось у нас, ведаеце, ёсць забарона вечарам падразаць ногці. Чаму? Мне ніхто не мог адказаць. А насамрэч, справа ў тым, каб ногаць не патрапіў некуды ў ежу ці ў ложак! Усё проста і лагічна, бо бярэцца з прыроды!*

***— Але ёсць яшчэ і лёс, талент... Калі звярнуцца да Вашай роднай літаратуры — што піша і чытае сёння моладзь Кыргызстана?***

*— У нас вельмі адкрытае грамадства — даступна ўсё, практычна няма кантролю! І крыўдна, што часам прыніжаюцца дасягненні творцаў мінулага стагоддзя.*

*Аднак праблема ў тым, што не ўсе маюць магчымасць апублікавацца: мноства газет, скіраваных на падачу інфармацыі, ператвараюцца ў лёгкае чытво ці публікуюць «заказныя» артыкулы. Некаторыя аўтары працуюць ў расійскіх прыватных выдавецтвах, самі сябе перакладаюць... А таленавітых матэрыялаў можна было б друкаваць і больш!*

*Дарэчы, я хацеў бы наладзіць сувязі з Вашымі пісьменнікамі, з творцамі з іншых краін, даведацца больш пра сучасную беларускую літаратуру і спадзяюся, што часопіс «Маладосць» гэтаму паспрыяе!*

***Гутарыла Таццяна СІВЕЦ***



ІРЫНА ЧАРНЯЎСКАЯ

# У ТВАЁЙ ВОСЕНІ — МАЕ РЫФМЫ

*Ірына Чарняўская нарадзілася ў 1987 годзе ў вёсцы Більдзюгі Шаркаўшчынскага раёна Віцебскай вобласці. У 2010 годзе скончыла факультэт беларускай філалогіі і культуры БДПУ імя Максіма Танка, пасля — магістратуру БДПУ. Друкавалася ў газеце «Літаратура і мастацтва», часопісе «Маладосць».*



**Ірына Чарняўская, у 2010 годзе атрымаўшы дыплом з адзнакай, папоўніла шэраг тых выпускнікоў-філолагаў, якіх у БДПУ імя Максіма Танка часта ставяць у прыклад студэнтам. Яркая, актыўная, тэмпераментная, упэўненая, шчырая, артыстычная, яна запомнілася і выдатнай вучобай, і актыўным удзелам у пазавучэбным жыцці факультэта і ўніверсітэта, і здольнасцю да навуковай працы. У чэрвені 2011 года Ірына паспяхова абараніла магістарскую дысертацыю і цяпер рыхтуецца да паступлення ў аспірантуру.**

**Пісаць вершы яна пачала, можна сказаць, за кампанію. «Справакаваў» на гэта тады яшчэ студэнтку першага курса вядомы паэт Мікола Шабовіч, кіраўнік універсітэцкага літаратурнага аб'яднання «Крокі». У пошуках папаўнення суполкі маладымі творцамі ён завітаў на паток, дзе вучылася дзяўчына, і папрасіў падняць рукі тых, хто нешта піша.**

**Паддаўшыся агульнаму ўзрушэнню, Ірына заявіла: «І я! Я таксама буду пісаць вершы!» Назаўтра ж яна прынесла свой першы верш Міколу Віктаравічу.**

**Пачатак аказаўся на дзіва ўдалым, і неўзабаве дзяўчына ўжо не магла каб не занатоўваць свае думкі, уражанні і эмоцыі ў вершаваных радках. У новых творах выяўляюцца тонкі густ, выключнае адчуванне мовы, раскрываецца паэтычная адоранасць аўтаркі. Будзем спадзявацца, што гэтая публікацыя стане чарговай прыступкай на шляху Ірыны Чарняўскай да паэтычных вяршынь.**

***Наталля ЗАЯЦ,***
***кандыдат філалагічных навук***

* * *

У маёй восені — надвор'е на шалях:
То дождж, то снег.
У тваёй восені — мае духі і мой шалік,
Мой смех.
У маёй восені — халодныя рукі,
Замерзлыя пальцы.
У тваёй восені — мае рухі
І мае танцы.
У маёй восені збітыя рытмы
Жыццё вершаць.
У тваёй восені — мае рыфмы
І мае вершы.
У маёй восені цяжар адносін
Лягчэйшы ўдвая,
Бо ў маёй восені... ужо восень,
А ў тваёй — яшчэ я.

* * *

Маё каханне знічкай на далоні
Табою прыгаворана сатлець.
Ужо не грэе — цепліцца ледзь-ледзь
Маё каханне знічкай на далоні.
Не мае сілы факелам гарэць
І, як раней, душу тваю палоніць.
Маё каханне знічкай на далоні
Табою прыгаворана сатлець.

* * *

Прыступка за прыступкай, як па лесвіцы,
Трапляючы пад позіркаў абстрэл,
Я да цябе ішла. Не тыдні — месяцы!
А ты мяне наверсе не сустрэў.

* * *

У каве неба патанула
Кругі пакінуўшы навечна.
Я перакрэсліла мінулым
Усе наступныя сустрэчы.

Усе магчымыя прызнанні
З лячэбным пахам зверабою,
Усе адказы і пытанні
Даўно закрэслены табою.

Наўрад ці нехта будзе лепшым.
Наўрад ці іншы стане любым.
Твой вобраз, выспелены ў вершы, —
Мая свядомая загуба.

* * *

Я позірк твой, хвалюючы і пільны,
Наўрад ці ўжо калі забыць змагу.
Ды позіркам сваім перамагу
Я позірк твой хвалюючы і пільны.
Нібыта скарб каштоўны, берагу
Твой вобраз так балюча незабыўны.
Я позірк твой хвалюючы і пільны
Наўрад ці ўжо калі забыць змагу.

## КНЯЗЁЎНА

Хочаш, буду тваёй князёўнай
Ці Канстанцыяй, ці Паўлінкай,
Ці Джульетаю — усё роўна!
Буду частачкай, палавінкай.

Хочаш, буду тваёй Рагнедай
Без падману і без прымусу,
На прасторах зямлі і неба
Саладзейшай за ўсе спакусы.

Калі стану тваёй князёўнай
Ці чаканай табой Мальвінай,
То мне будзе ужо ўсё роўна,
Што раней я была Ірынай.

## ДЗЯКУЙ

Я скажу табе проста «дзякуй»
І спушчуся з нябёс далоў.
Больш не трэба ісці ў атаку,
Больш не трэба дзяжурных слоў...

Проста дзякуй табе, мой мілы,
За растоплены ўмела лёд,
Хоць з паперы, але за крылы,
Хоць і з дзёгцем, але за мёд.

Я не буду знаёмым хлусіць,
Што не маю для слёз прычын.
Так фартуна рашыла, мусіць,
Мы ж з табою тут ні пры чым.

Хоць кахання твайго не ўкрасці,
Наракаць не хачу на лёс.
Табе мала мяне для шчасця,
Мне — звыш нормы цябе для слёз.

## РАМОНАК

Для цябе я рамонкам была
Сярод соцень прываблівых кветак!
Ды сабою, на жаль, не змагла
Упрыгожыць твой дзіўны палетак.

Я чакала увагі штодня,
Распраўляючы крылы-пялёсткі,
А ты позірк аддаў задарма,
Толькі быў ён занадта ўжо хлёсткі.

Ты пялёсткаў маіх не збярог,
Хоць я іх вартавала старанна.
Ну, навошта ты так? Як ты мог
Варажбой мяне знішчыць так рана!

Я зрабілася частачкай сноў,
Толькі рэха усё паўтарае:
«Не кахае, кахае...» і зноў,
Ў соты раз «Не кахае, кахае...»

Як імгненна калісь зацвіла,
Так і знікла маланкаю хуткай.
Для цябе я рамонкам была,
А хацелася быць незабудкай.

**ПРЫВІТАННЕ**

Прывітанне! А колькі мінула ўжо вёснаў!
Колькі зім праляцела, і як абмялеў небакрай!
Прывітанне. Я ведаю, ведаю позна
Адмяняць нашай новай сустрэчай старое «бывай».

Прывітанне... і словы застылі ў паветры,
А калісьці мы іх супыніць аніяк не маглі,
І яны вершаваным радком залятаді ў канверты,
Рассыпаліся смехам, лілеяй на вуснах цвілі!

Прывітанне. І знешне ніякіх эмоцый.
А ці ведаеш ты, як няпроста іх зараз хаваць?
А ці ведаеш, колькі разоў не хапала мне моцы,
Каб запалкай паштоўкі твае у нябыт адасланць?

Прывітанне. Ты бачыш, з якім шкадаваннем
Назіраюць за нашай сустрэчай сябры-ліхтары?
Яны ўсё яшчэ помняць, як ты мне на першым спатканні
Замест сонца і зорак усмешкі святло падарыў...

Ды навошта ўспаміны, як столькі мінула ўжо вёснаў!
Што надзеі, калі ад самоты змялеў небакрай!
Мы стаім удваіх, але каяцца, каяцца позна —
Нібы песня «на біс», паўтараецца слова «бывай».



*Алесь ВЯРОЎКІН*

# КАРОТКІЯ АПАВЯДАННІ



*Алесь Вяроўкін нарадзіўся ў 1985 годзе ў Наваполацку. Скончыў Полацкі дзяржаўны ўніверсітэт. Магістр гістарычных навук. Часова жыве і працуе ў Санкт-Пецярбургу. У «Маладосці» друкуецца ўпершыню.*

**Колькі ж дзіўных і, часам, наіўна-смешных мар мы маем у заўсёды шчасліва-ружовым дзяцінстве. Так, менавіта шчасліва-ружовым! Не важна, што яно, дзяцінства, можа быць з дамешкам слёз, палыновай гаркатою расчараванняў, але ўсё роўна — шчаслівым! Гэта мы разумеем з цягам часу, пасталеўшы і сербануўшы напоўніцу дарослага (жаданага) жыцця. Вось і пачынаючы празаік Алесь Вяроўкін, які ўпершыню друкуецца ў «Маладосці», распавядае нам гісторыю пра мару дзяцінства (не абавязкова свайго, магчыма — майго альбо вашага). Галоўнае, зроблена гэта нядрэнна, з літаратурным густам.**

**Другое кароценькае апавяданне «Зіма з вачыма небяспекі...» наводзіць на лірычна-мінорны роздум: за кожнымі дзвярыма альбо вокнамі шматпавярховікаў любога горада, любой краіны — свае камедыі і трагедыі, свае радасці, клопаты ды турботы... У кагосці, як зазначае А. Вяроўкін, «зіма ў мазалях жыве», а ў некага «ў вачах няма жыцця». Ну што тут дадасі яшчэ...**

***Аддзел прозы часопіса «Маладосць»***

## АВАКАДА

Для мяне, колішняга, авакада заўсёды было сінонімам мары. Чаму? Не адкажу. Складанае пытанне. Мабыць, таямніца ў слове ці слова ў таямніцы. Пра авакада штодзень не думаў, але калі-нікалі сліна пачынала запаўняць рот, а галаву ахопліваў вобраз невядомай замежнай садавіны. Вобраз неабсяжны. Бо мара не можа мець межаў! Проста надзвычай смачна ў роце. Ева з яблыкам, відаць, штосьці падобнае адчувала. Я — не Ева і нават не Адам, я не ў раі, я прагну паспрабаваць авакада. Згодны, мара не вельмі каб. А можа, гэта і не мара, а мэта. Ці ёсць розніца між «марай» і «мэтай» — абодва словы на «м» пачынаюцца і на «а» канчаюцца. Так хутка мінае час, змяняюцца меркаванні, а авакада застаецца. Яно і мара мая, і мэта. Мэты дасягнуць лёгка, мары — цяжка! Авакада! Авакада! Авакада!!! Пайсці ў краму і набыць кэгэ? Задужа проста, а потым навошта існаваць? Не жыць, а менавіта існаваць! Богведама... а я не Ева, і не Адам...

Упершыню ўбачыў ЯГО ўжо дарослым. Зялёная садавіна, нейкая нязграбная, пах агідны, карацей, зусім не мара. Былыя часы — мая першая сямігодка і адначасова апошняя пяцігодка Савецкага Саюза. Я жыў, дзяржава гінула. Апельсін ці банан быў для дзецяй сапраўдным дзівам. Мне пашанцавала. Балазе, маці працавала дырэктарам рэстарацыі, таму часцяком ператварала нашу аднапакаёўку ў казачны палац. Аднойчы прыйшоў дахаты, а на стале — банан, імпэтна схапіў яго, зжаваў, а потым ледзь не сплахела — ля халадзільніка месціліся тры скрыні

ўлюбёнага ласунка малпаў. Такім чынам, слова «кантрабанда» розум атаясамляў з дабром, а «кантрабандыстам» быў чалавек з бананамі. Мне карцела працаваць кантрабандыстам, нават нягледзячы на зялёны колер і мыльны прысмак бананаў. Самае цудоўнае, што выспявалі яны ў шафе — пальмаў не трэба! Я дбайна здзіраў з бананавых шалупаек налепкі «Marос», каб аздобіць імі абгортку школьнага сшытка. Зрэдзьчас тата — таксама своеасаблівы кантрабандыст — частаваў апельсінамі, праз гэта абгортка жвава рабілася прыгожая-прыгожая. Неўзабаве ў школе я прадэманстраваў хатняе заданне ў сваім файным сшытку. Настаўніца скасавурылася і загалёкала: «Ах, вы, буржуі ачмурэлыя, зусім сорам страцілі!» Так я атрымаў мянушку Буржуй і пару па матэматыцы. Буржуй ці не, аднак, апроч апельсінаў ды бананаў, іншай садавіны не памятаю, грушы з яблыкамі не лічацца. Дзе авакада? Адкуль авакада? Куды авакада? Загадка падсвядомасці?

Які я быў шчасл...

Авакада! Авакада! Авакада!!!

Першы курс універсітэта, першая стыпендыя, першы кэгэ авакада. Не вытрамаў, вырашыў ажыццявіць мару. З садавінай у торбе прышкандыбаў да знаёмых дзяўчат, яны прагавіта парэзалі ласунак, знаёмая сліна зноўку запанавала ў роце і-і-і-і... Авакада — сумесь бульбы з агурком.

Няма мары, няма авакада, няма стыпендыі...

Авакада! Авакада! Авакада!!!

## ЗІМА З ВАЧЫМА НЕБЯСПЕКІ...

Зіма з вачыма небяспекі прыйшла ў сне. Не памятаю, што сніў, але дакладна штосьці небяспечнае, бо сэрца грукатала, нібы падсілкаваўся талеркай адрэналіну, а вочы праз слёзы нараджалі нейкую жахлівую маркоту. Вочы заплюшчаны, аднак слязам гэта не перашкаджала. Першы раз плакаў з заплюшчанымі вачыма...

Бракавала сіл, але супакоіўся, падняўся з канапы, запарыў гарбату, п’ю, а за акном ніяк не супакоіцца зіма. Насыпала снегу, зрабіла ледзяныя горкі, скавала маразамі. Зіма не толькі за акном, зіма хаваецца і недзе зусім побач. Мажліва там, за сценкай, у іншым пакоі, а мо і там, крыху ніжэй, праз некалькі паверхаў. Час запоўніць няма чым, таму можна праверыць, дзе прыхавалася зіма.

Самотна-рыпучы ліфт, аздоблены надпісамі кшталту «Света 9017464» і «Punks not dead», у чарговы раз паслухмяна выканаў свой штодзённы абавязак. Першы паверх. Тут ужо адчуваецца зіма... Дзяўчына дазволіла яму застацца, а той досвіткам ліхаманкава знік, пакінуўшы дзесяць тысяч рублёў на падлозе і цыдулку: «Дзякуй!» Дзесяць тысяч! Абражана ўжо не дзяўчына, а жанчына сутаргава прачытала і адразу знепрытомнела: яна пакахала юрлівага ашуканца, але сказаць пра тое не здольна была — саромелася. Каханак быў сябрам ейнага брата. Брат за сястру абавязкова адпомсціць кулакамі, а вось каханню наўрад ці дапаможа. Здрадніцкая смага ўладарыць у горле жаночым, зіма ж выбрала кволае сэрца...

Лесвіца і другі паверх. Сустрэў думкі бабулькі, што летуценна чакае прыезду дзяцей і ўнукаў. Чакае запар тры гады, але цешыцца нават і рэдкім званкам-віншаванням на восьмага сакавіка і дзень нараджэння, а часцяком не спіць: і восьмага, і дзявятага не спіць. Адна ў кватэры жыве і балазе хоць ёсць фотаальбом, які раз-пораз нараджае чорна-белую ўсмешку на твары бабулькі. У састарэлых свая зіма...

Крок за крокам — і трэці паверх. Зіма ў юнака. Ён ні на хвілю не змружыў павекі, бо не можа ўначы спаць пад бясконцыя гукі: «а-а-а-а» і словы: «яшчэ, хутчэй,

малойца». Словы не ягоныя і не ягонай дзяўчыны. Гукі суседскія, з чацвёртага паверха. Суседзі рабілі чарговае дзіця, а юнак зімна марыў...

Наступны паверх. Дзіця зрабілі, ужо дзясятае ў кватэры. Куды яго? Адказ — пляшка, чарка і: «Ну, за маленькага Валерыка!», ладны глыток і «а-а-а-а». Зіма адлюстравалася ў падхмеленым шкле...

Сярэдзіна пад'езднай вандроўкі — пяты паверх. Мужчына, сорак год, дырэктар на заводзе. Пабудаваў сабе джакузі, мае тры машыны, набыў яшчэ кватэру, яшчэ машыну, яшчэ джакузі... Яму ўсё мала. Збірае грошы, а ў вачах няма жыцця, а толькі $. Папяровая зіма...

Шосты паверх. Зіма ў ката. Яго ў нядзелю адправяць у высылку на вёску, дзе замест «Фрыскас» і «Віскас» будуць іншыя прысмакі — пацукі ды мышы. А кот невінаваты. Гэта сын гаспадыні разбіў вазон з ружамі, але кемліва паказаў на ката, калі маці спытала: «Хто гарэзнічаў?»

На сёмым паверсе няма нікога. Усе працуюць і дзень і ноч. Не ведаюць нават, як завуць іхніх суседзяў. Зіма ў мазалях жыве...

Паміж сёмым і восьмым паверхам напаткаў знаёмага таксіста. Стаіць і паспешліва паліць. Штраф за курэнне каля мільёна, а ён насмаліў ужо на мільёнаў пяцьдзясят, прынамсі, так кажуць недапалкі ў паўлітровым слоіку. Таксіст толькі ўначы кіроўцам працуе, а ўдзень таксіст — касір у банку. Яму трыццаць год, а выглядае на сорак шэсць і дачасна старэе не таму, што не спіць. Справа ў тым, што летась паслаў ён маці сваёй жонкі ў тое месца, дзе яна не была ўжо шмат год... Цешча забрала дачку, дачка забрала дзяцей, дзеці ўзялі цацкі і пайшлі з кватэры. Неўзабаве дзеці даўмеліся, што тата благі і нават размаўляць з ім не варта. Ён працаваў дзеля дзяцей, а цяпер... Таксіст без галасоў родных дзяцей зімуе ўжо год. Зімуе — старэе, старэе — зімуе...

Хутка скончыцца вандроўка — восьмы паверх. Блазан-студэнт з зімою ў логіцы і філасофіі. Жыў як у казцы: на лекцыі не хадзіў, а хадзіў на дыскатэкі, дзе логіцы і філасофіі цяжка навучыцца. Але пачынаюцца залікі ды іспыты, і калі не атрымаць станоўчую адзнаку, дык ваенкамат пацешыцца з танцора-небаракі...

Вось і апошні, мой паверх. Мая кватэра. Мой пакой. Мая канапа. Паўсюль зіма, яна магнат, а я тут служка. Я прагну вясны. Але да вясны яшчэ зіма... Зіма з вачыма небяспекі...



Зміцер АРЦЮХ

# НАПАМІН



*Зміцер Арцюх нарадзіўся ў 1978 годзе ў вёсцы Рутка Навагрудскага раёна. Скончыў Мінскі педагагічны каледж імя Максіма Танка, факультэт журналістыкі Белдзяржуніверсітэта. Працаваў на Беларускім тэлебачанні, у часопісе «Промышленная безопасность». Друкаваўся ў часопісах «Полымя», «Маладосць», у газеце «Літаратура і мастацтва». Аўтар зборніка вершаў «Вясна ў кароткім паліто».*

**Уменне пісаць у класічнай вершаванай манеры для маладога паэта першай паловы XXI стагоддзя — хутчэй выключэнне, чым правіла. Найноўшае пакаленне літаратараў бачыць сябе ў эксперыментах, у нонканфармізме. Магчыма, нехта менавіта з беларускіх маладзёнаў у хуткім часе дастасуе нанатэхналогіі да паэзіі. Але кожны творца разумее, што верш мусіць быць падобным да свайго аўтара і мець душу — сапраўдную, жывую, трапяткую — зрэшты, як і любы іншы ўзор высокага мастацтва.**

**Паэт, прадстаўлены сёння на старонках «Маладосці», паміж класікай і авангардам без сумнення абярэ першае — і не памыліцца. Бо прырода яго літаратурных здольнасцей, нягледзячы на досыць малады ўзрост аўтара і знаходжанне сусветнай культуры ў эпосе постмадэрнізму, падказвае маладому творцу замест верлібраў — рыфмаваныя радкі, а замест бясконцых эстэтычных пошукаў — спакойнае і разважлівае наследаванне класічнай форме.**

**Што ж, хаця мода на паэтычныя апранахі зменлівая, але ў беларускай літаратурнай прасторы заўсёды знойдзецца пачэснае месца для неакласікі.**

***Аддзел паэзіі часопіса «Маладосць»***

## ЗА НЁМАНАМ

Неапраўданая самота
Нашаптала самотны снег.
Я душы адчыніў вароты,
Ад самоты за горад збег.
У той край, дзе спявае Нёман,
Дзе анёлы чытаюць Псалтыр...
Тут душа сустракаецца з домам,
Тут яна набывае мір.
І ніхто не парушыць, не знішчыць
Гэты мір, гэты Нёман, мяне.
Над самотаю ёсць Усявышні
І самота, як снег, — праміне.

* * *

***Прабач мяне і як мага хутчэй забудзься.***
***Я цябе пакідаю назаўсёды.***
***Не шкадуй мяне, гэта бессэнсоўна.***
***Я стала ведзьмай...***

М. БУЛГАКАЎ

Варожыць ноч на зорках адзінокіх,
А неба — кубак кавы недапіты.
Па гушчы зорак я чытаю, хто ты.
І пакідаю зноў акно адкрытым.

І свечку зноў запальваю, як поўню.
Яна — маяк і шлях у мой сусвет,
Які натхненнем, быццам небам, поўны.
Я толькі там збіраю свой букет.

Ты разумееш: цяжка ён здабыты.
Каб зоркі рваць, патрэбна майстрам быць.
Пагасне свечка. Вусны Маргарыты
Маю самоту з вуснаў будуць піць.

* * *

Аднойчы на праспекце
Выпадкова
Мы зноў сустрэнемся.
І першы наш раман
Мы не паўторым,
Бо на іншай мове
Даўно гаворым.
Гэта быў падман,
Які, на шчасце, распазнаць змаглі мы,
Таму цябе не запрашу ў вясну.
Мы толькі слёзы памяці павінны.
Я заплачу́.
Прабач.
І адпушчу
Цябе туды, дзе лётаюць сініцы,
Дзе шчасце сніцца
Толькі жураўлю.
Я буду за цябе заўжды маліцца,
Бо не кахаю. Я цябе люблю!

* * *

***Помніш, калі я спаткаўся з табою,***
***Зорка Венера ўзышла.***
Максім БАГДАНОВІЧ

Ракуцёўскае лета
Зноў прысніцца вясною.
Я самоту тваю паспрабую дапіць.
З успамінаў мінулых
Памяць я супакою —
І па-новаму буду ў сучаснасці жыць.

Ракуцёўскае лета —
Напамін аб каханні,
Недапіты настрой у крынічнай вадзе.
Заблукаю і знікну.
Перажыта маўчаннем.
Хай Венера з нябёс на твой шлях упадзе.

* * *

Віртуальная казка
Не набудзе працягу,
Абарвецца, як нітка
У старым паліто.
І схаваецца ў восень пажаўцелая Прага.
Я ў свой блог запішу. Так, не верш.
Абы-што.
Пацякуць успаміны
Пра халодныя ночы,
Пра халодныя думкі і пустую душу...
Я з дарогі шырокай
На вузейшую збочу.
І не верш,
А малітву
У блог запішу.

**АНЁЛУ-АХОЎНІКУ**

Не пакідай мяне
У дзень апошняй бітвы,
Калі душа і цела будуць ваяваць.
Хачу адчуць агонь тваёй малітвы,
Хачу з табой зямлю я пакідаць.
На новую прыступку падымацца,
І сорак дзён з табою побач быць...
І не баяцца,
Смерці не баяцца.
Надзею несці:
З Богам вечна жыць.

**МЯХІ СА СТАРЫМ ВІНОМ**

Пазіраю ў глыбокі калодзеж.
І не бачу там дна. Не відно...
«Ты чаму да мяне не прыходзіш,
Не ўліваеш старое віно?
Бо мяхі, што з сабою ты носіш,
Трэба новым вінам напаўняць...
Вось ізноў урадлівая восень.
Ты скажы: мне цябе пачакаць?»

* * *

Я шчаслівы,
Бо здольны пісаць
Свае думкі, жаданні, пачуцці.
Гэта выйсце,
Бо дзіўна крычаць
На ўсё грудзі,
Ды горад не пусціць...
Ён зацісне ў людскія ціскі,
Ён затопча на снежным асфальце.
А душа будзе ціха прасіць:
Новы верш
І свабоду
Аддайце.

Антон ЯНКОЎСКІ

# ВЕРЫЦЬ І... КАХАЦЬ

## *Апавяданне*



*Антон Янкоўскі нарадзіўся ў 1986 годзе ў вёсцы Енчы Воранаўскага раёна Гродзенскай вобласці. Скончыў Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт культуры і мастацтваў. Працуе выкладчыкам тэатральных дысцыплін у Гродзенскім дзяржаўным каледжы мастацтваў. Друкаваўся ў раённых, абласных і рэспубліканскіх выданнях.*

**«Мяне вучылі давяраць людзям, выбачаць іх і дапамагаць у цяжкую хвіліну. Мяне паспелі навучыць асноўнаму перад тым, як адправіць у дарослае жыццё...» — так зазначае герой апавядання Антона Янкоўскага. Такое сцвярджэнне абнадзейвае, дае ўпэўненасць, што не ўсё ў наш час так безнадзейна здробнена і падменена духоўнае матэрыяльным.**

**Апавяданне «Верыць і... кахаць» напісана А. Янкоўскім вельмі цёпла, даверліва і лірычна. Па ўсім бачна, што аўтар спаўна «сплачвае» свой доўг-павіну настаўнікам жыцця (мо бацькам, сябрам, суседзям ці проста зусім незнаёмым месцічам) прыгожым словам і паважлівым стаўленнем, аднойчы як да бліжніх сваіх, так і да нас з вамі, шаноўныя чытачы.**

***Аддзел прозы часопіса «Маладосць»***

Цягнік заўсёды кранаецца нечакана. Ты стаіш у вагоне, глядзіш на сяброў, што прыйшлі цябе праводзіць у дарогу, прыйшлі пасмяяцца і адначасова пазайздросціць тваёй рашучасці, прыйшлі пажадаць поспеху, а ён (цягнік) як штурхане, што ледзь на нагах утрымаешся, а падарожжа ўжо пачалося...

Я ўвогуле не люблю ездзіць цягніком. Гэта яшчэ з дзяцінства. Аднойчы з бацькам ехалі ўночы плацкартам. Леглі спаць. Я заплюшчыў вочы і пачаў засынаць, уяўляючы парк, сябе, сяброў. Мы размаўляем і праз нашу размову чутно крыху прыглушанае: «Тух-тух-тух». Прачнуўся ўвесь разбіты. І з таго часу, калі ёсць выбар, то заўсёды выбіраю машыну ці аўтобус.

А тут выбар быў у іншым: ехаць ці не? Добра, хопіць ужо хадзіць вакол ды каля. Распавяду гісторыю з самага пачатку. Хаця, калі яна пачалася, вызначыць даволі складана. Ці то з моманту, калі зайшоў у інтэрнэт і зарэгістраваўся на сайце знаёмстваў, а магчыма, са дня расстання са сваёй былой дзяўчынай.

З Кацярынай мы сустракаліся каля дзесяці месяцаў. Пазнаёміліся ў летніку, дзе абодва працавалі важатымі. Накіравалі нас у адзін атрад. Ужо праз тры дні адбыўся першы пацалунак. Мы пачалі сустракацца, але пра гэта напачатку ніхто не ведаў, затое напрыканцы змены ўжо нават піянеры спрабавалі нас ажаніць. На жаль, у іх нічога не атрымалася. А можа, і дзякуй Богу...

Здавалася, мы падыходзілі адзін аднаму. А пасля незабыўнай паездкі ў Крым і сумневу не засталося, што створаны адзін для аднога. Ды наступіла восень. Мы вярнуліся ў халодны і брудны горад. Спатканні, пацалункі, ночы палкага жадання працягваліся, але каханне, не падуладнае лёсу,

пачало паступова, не бачна для нас, згасаць, пакуль аднойчы ў свядомасці не з'явілася жудасная думка, што ўсё падышло да свайго лагічнага завяршэння...

Не пытайце, што здарылася. Я і сам не ведаю. Проста былі — і разышліся. Нешта згубілі, нібы прачнуліся і не знайшлі побач нечага вельмі важнага, што ўвесь гэты час нас яднала. Адно добра, засталіся сябрамі.

Напачатку было цяжка. Часам пры сустрэчы сяброўскія размовы пераходзілі ў п'янкі абдымкі і пацалункі, якія заканчваліся слязьмі і бессэнсоўнымі апраўданнямі сваіх вар'яцкіх паводзін. Мы злавалі адзін на аднаго, але з часам зноў не стрымліваліся, шукаючы паратунку ў згубных пачуццях. Не вядома, каму з нас было цяжэй. Урэшце час загаіў раны. Але сам працэс вельмі выматаў. Больш маральна, чым фізічна. Пачаўся бессэнсоўны пошук. Я шукаў не каханне, а дзяўчат, якія б дапамаглі не думаць пра страчанае. Не атрымлівалася. Усё гэта так дастала, што давялося змяніць нумар, каб не ігнараваць тэлефанаванні былых аднадзённых «прыгажунь». Я сышоў у сябе. Увесь вольны час аддаваў працы ды вучобе.

Сябры дзівіліся з маіх паводзін. Нават Кацярына аднойчы патэлефанавала і спалохана запытала: «З табой усё добра?» — «Усё». Мы сустрэліся. Пасля выпітага піва плоцкае жаданне зноў з'явілася, але гэтым разам усё скончылася пацалункамі. «Што з табой?» — запытала дзяўчына. «У сэнсе?» — «Ты мяне не хочаш». — «Мы ж сябры», — з'іранізаваў я. «Ты ўсё добра разумееш. Мы не раз кахаліся будучы ўжо сябрамі». — «Выбачай, але час мяне крыху змяніў». — «Ты гей?!» — яе вочы ажно вылезлі з арбіт, а я ў адказ зайшоўся істэрычным смехам. Пасля на поўным сур'ёзе адказаў: «Дурніца ты. Мне проста надакучыла бессэнсоўнае ёрзанне целаў. Надакучыла ў кожнай прыгажуні бачыць сваю каханку. Надакучыла памыляцца. Я, напэўна, вырас. Мне проста хочацца нечага вечнага, чыстага. Хочацца кахання». — «І мне таксама...» — прашаптала Кацярына.

Хутчэй за ўсё менавіта гэты момант можна лічыць пачаткам маёй гісторыі, пачаткам новага жыцця. Менавіта ў гэты вечар была пастаўлена канчатковая кропка ў былых адносінах.

Я выйшаў у той вечар ад Каці, і мне так лёгка зрабілася! Я ўставіў у вушы навушнікі, уключыў на поўную моц вясёлую песню і пайшоў праз цёмны, пусты (была гадзіна ночы) парк. Я не ішоў, а, нібы птушка, лётаў, прытанцоўваў і ва ўвесь голас (не маючы голасу) спяваў любімую песню. Нібы вялізны цяжар зваліўся з плеч і выраслі крылы. Такім шчаслівым я не быў да гэтага аніколі.

Што далей? Цягнік спыніўся на нейкай станцыі, выйшлі людзі, зайшлі новыя, а за акном пачынала цямнець. Дрэнна, што мытню давядзецца праходзіць ноччу — не выспішся. А можа, нават лепш: будзе больш часу, каб абдумаць сваё шалёнае падарожжа за віртуальнай марай.

А мара прыйшла паступова, выкрышталізавалася з часам. Крок за крокам, ліст за лістом, размова за размовай. Я пазнаёміўся з прыгожай дзяўчынай. Яе звалі Вера. Адно толькі было для мяне незвычайным: мы пазнаёміліся на сайце знаёмстваў. Я не веру ў каханне па інтэрнэце, я заўзяты праціўнік гэтага. Быў да пэўнага моманту. Ды неяк у госці зайшла адна добрая знаёмая і вырашыла выратаваць мяне ад адзіноты. Мы зайшлі ў інтэрнэт, і яна зарэгістравала мяне на сайце знаёмстваў. Доўга смяяўся, пасля таго як мы пачалі шукаць мне кандыдатак, а выбіваліся старонкі з прапановамі: «Споўню твае самыя патаемныя жаданні!», «Вазьму!», «Дам!» і так далей. Я закрыў гэты сайт і паабяцаў, што больш ніколі сюды не зайду, адно толькі для таго, каб выдаліць сябе з іх спіса. Аднак атрымалася інакш...

14 лютага — дзень усіх закаханых — сустракаў адзін. Я і мой камп'ютар, які вісне ў самы адказны момант. Зрэшты, ён у мяне як дзяўчына: мазгоў мала, а вычвараецца! Ды гісторыя не пра камп'ютар, хаця ён таксама ўнёс сваю долю ў

нашыя адносіны. У той вечар мне зрабілася дужа самотна, захацелая з кім-небудзь паразмаўляць, падзяліцца сваімі бедамі. Захацелася кахання. Я зайшоў на сайт знаёмстваў. Чаму? Цяжка растлумачыць, я ж быў заўзятым праціўнікам віртуальных зносін. Адкрыў сваю старонку, паглядзеў анкеты людзей, якіх зацікавілі мае дадзеныя, ды знайшоў усё той жа кантынгент сексуальназаклапочаных дзяўчат. Ад гэтага зрабілася яшчэ больш самотна. Я зайшоў у раздзел «Дзённік» і вырашыў выкласці свае пачуцці на віртуальнай паперы.

«Навошта я зайшоў на гэты сайт? Канечне, не для сексу, мне надакучыла залежнасць целаў. Хочацца сапраўдных чалавечых адносін. Хочацца сапраўднага шчырага кахання! Такога, дзе кожны гатовы аддаць усё дзеля шчасця другога. Хочацца вечнага! Асабліва сёння — у дзень усіх закаханых...»

Я націснуў «захаваць», і камп'ютар завіс. Я яшчэ пажартаваў, што прыраўнавала мяне жалезка да паўаголеных дзяўчат. Пасмяяўся і задумаўся, а пасля перазагрузіў комп. Зноў зайшоў на сайт, і там мяне ўжо чакаў сюрпрыз, можа, нават лёс, хто ведае. Мне прыйшло паведамленне: «Прывітанне! Мяне завуць Вера. Я толькі хацела выдаліць сваю старонку, але выпадкова прачытала твой дзённік».

З таго часу 14-га кожнага месяца мы адзначаем як дзень знаёмства з тортам і гарбатай па розныя бакі манітора. Тады, у дзень закаханых, мы размаўлялі ледзь не ўсю ноч і леглі спаць толькі пад раніцу. У мяне было адчуванне лёгкасці. Я сустрэў аднадумцу, з аднолькавымі марамі і такой самай адзінотай.

Гісторыя ў яе была іншая. З дзяцінства бацькі выхоўвалі дачку на хрысціянскай маралі. У падлеткавым узросце дзяўчына расчаравалася ў каханні. Усё вакол яе будавалася на сексе і аўтарытэце, на прыгажосці і здзекванні са «страшненькіх». Вера не змагла прыняць гэтыя законы і аўтаматычна ператварылася ў чарговую няздару. Яе абсмейвалі і абыходзілі, але час зрабіў сваё. З узростам прыродная прыгажосць вывела Веру ў дзявочыя лідары, за якімі хлопцы ажно табунамі хадзілі. Але дзяўчына ператварылася ў непрыступную крэпасць. Вера не давярала нікому. Аднаму, праўда, захацела даверыцца, а ён проста вырашыў памяняць тактыку. Будаваў адносіны паступова, стрымана, і днём «Х» выбраў свой дзень народзінаў. Калі ўсе разышліся, і яны ў пакоі засталіся адны, хлопец прызнаўся ў каханні. Яны пачалі цалавацца, рукі хлопца імгненна аказаліся пад кофтачкай, дакрануліся да пругкіх дзявочых грудзей. Вера адхілілася ад яго. «Давай не сёння, я не гатова!» — папрасіла яна. «Сёння! Менавіта сёння!» — настойваў хлопец. У ім нібы пасяліўся д'ябал. Ён паваліў дзяўчыну на ложак, за што атрымаў між ног і застаўся курчыцца пасярод пакоя.

Паступіўшы ва ўніверсітэт, Вера закахалася па-сапраўднаму. Да гэтага былі адно падлеткавыя захапленні. Ёй было з ім хораша, але хутка казка скончылася. Нешта трэснула, з'явіліся непаразуменні, сваркі, якія прынеслі з сабой адлегласць. Ён скончыў універсітэт і пераехаў у іншы горад, а яна толькі перайшла на другі курс. Сустрэчы зрабіліся рэдкімі, поўнымі недагаворак, страхаў, маўчання. А ў верасні ён даслаў SMS: «Выбачай, нам трэба развітацца».

Далей сітуацыя ў нечым нагадвала маю: безвыніковы пошук кахання, п'янае забыццё ў чыіхсьці абдымках і маўклівая адзінота. І толькі дзень закаханых паяднаў нашы пачуцці, наш сум, наша жаданне кахаць.

Кожны вечар я бавіў за камп'ютарам, размаўляючы з Верай. Пра што мы маглі так доўга гаманіць? Гэтае пытанне мне задавалі шматлікія сябры, нават тыя, хто большую частку свайго вольнага часу праводзілі ў чатах і на форумах. Не ведаю ці, дакладней, зараз не магу сказаць. Пра ўсё! У кожнай тэме мы знаходзілі агульнае. Часам і спрачаліся, чаго ўтойваць. Напрыклад, ёй не падабаліся каты. Яна казала, што сабакі — больш надзейныя сябры чалавека. Я аспрэчваў.

Нам было лёгка. Вера родам з Беларусі і сваё дзяцінства правяла ў горадзе Ліда,

за трыццаць кіламетраў ад вёсачкі, дзе я пражыў сямнаццаць год да паступлення ва ўніверсітэт. Гэты факт уразіў нас абоіх. Здалося, што мы маглі быць адначасова ў адным месцы. Проста я памятаў, як адзначаў свае шэсць год у дзядзькі ў Лідзе. Мне тады падаравалі камп'ютар-прыстаўку «Сябар», і ўсім сямействам мы хадзілі да крэпасці, глядзець на рыцарскія баі, на яе штурм. Вера ж казала, што адным з самых яркіх уражанняў дзяцінства таксама быў штурм крэпасці. Ёй тады споўнілася чатыры гады. Зараз ёй дваццаць, а мне амаль дваццаць два. Няўжо сапраўды мы былі ў адным і тым жа месцы адначасова? Можа, нават стаялі побач? Факты накшталт гэтага вельмі збліжалі.

Я заўсёды быў заўзятым праціўнікам інтэрнэт-кахання, казаў, што гэта немагчыма, але калі аднойчы яна запытала: «У мяне такое ўраджане, што я цябе кахаю. А ты мяне?» Я не задумваючыся адказаў: «Узаемна!»

Яшчэ адзін з магчымых пунктаў для пачатку аповесці, для пачатку новага жыцця. Мы маглі з часам проста разбегчыся, забыць адзін аднаго, страціць кантакты, але лёс вырашыў інакш. У нас з'явілася новая тэма для размовы: інтэрнэт-каханне. Мы разважалі, дыскусіравалі, часам крыху сварыліся, абмяркоўваючы гэту тэму.

Я верыў у каханне, верыў у шчырасць, у тое, што з нашых віртуальных зносін нешта атрымацца. Хаця і бачыў толькі яе фотаздымак.

Я доўга вагаўся, але ў рэшце рэшт вырашыў, што калі гэта лёс, то значыць нам суджана сустрэцца. Менавіта праз 16 год, у дзень майго нараджэння. І вось я еду ў цягніку № 85 «Мінск—Кіеў» да Чарнігава, дзе мяне чакае Вера.

Згадзіціся — дзіўнавата: проста ўзяць ды паехаць за сваёй марай, за сваім каханнем. Я, канечне, не ведаю, што мяне чакае за мяжой інтэрнэт-размоў. А раптам на пероне будзе стаяць страшная прышчаватая асоба, якая прафесійна валодае фоташопам? Раптам наша ідылія разваліцца пры першай сустрэчы позіркаў?

Гэтыя думкі прымусілі ўсміхнуцца. Я глядзеў у акно то на цемру, то на сваё адлюстраванне ў шыбе і думаў: навошта? Што падштурхнула мяне да гэтага падарожжа?

Вера.

Я памятаю, як з дзяцінства мяне вучылі верыць. Напачатку — сваім бацькам, пасля — у Бога. Мяне вучылі давяраць людзям, выбачаць іх і дапамагаць у цяжкую хвіліну. Мяне паспелі навучыць асноўнаму перад тым, як адправіць у дарослае жыццё.

Мяне разбудзіла правадніца, сказаўшы, што пад'язджаем да Чарнігава. Я сабраў пасцель, памыўся і ўтаропіўся ў акно.

Цягнік спыніўся. Я выйшаў на платформу, азірнуўся, выглядаючы ў натоўпе знаёмы па фотаздымку твар дзяўчыны. Спачатку я шукаў чырвоную куртку, у якую, як было напісана ў апошнім паведамленні, будзе апранута Вера.

Людзі разыходзіліся. Адных сустракалі, іншыя самі цягнулі свае чамаданы, адзін я, як дурань, стаяў пасярод платформы, азіраючыся па баках. Няма Веры! Я адзін пасярод пустой платформы расчараваны і разгублены, але чамусьці шчаслівы. Няведама, праўда, чаго. Такое ўражанне, нібы спазнаў нешта вельмі важнае. Каб гэта асэнсаваць застаецца ўсяго два крокі, адзін крок...

Нехта крануў за плячо. Азірнуўся. Перада мною стаяла бялявая дзяўчына з пранізлівымі блакітнымі вачыма, апранутая ў чырвоную куртку, і вінавата ўсміхалася.

— Антось? — запытала яна. — Выбачай, я ў пробцы затрымалася.

Глядзеў на Веру і мне рабілася лёгка, нібыта птушцы. Я засмяяўся. Напачатку ціха, а праз імгненне ўсё гучней. Дзяўчына таксама ўсміхнулася. І вось мы ўдзвух весела рагаталі на ўвесь Чарнігаўскі вакзал. Я прыйшоў да простай высновы, якая заўсёды ляжала на паверхні: каханне — гэта ВЕРА адзін у аднаго. Проста ёй далі такое велічнае імя — КАХАННЕ!

Ганад ЧАРКАЗЯН

# І НЕ ТРЭБА ЛЕПШАЕ ПАРЫ...



*Ганад Чарказян нарадзіўся ў 1946 годзе ў Арменіі. Скончыў Ерэванскі індустрыяльна-педагагічны тэхнікум і будаўніча-педагагічны факультэт Беларускага політэхнічнага інстытута. Працаваў у прафесійна-тэхнічным вучылішчы, інжынерам-тэхнолагам, у выдавецтве «Мастацкая літаратура». Піша на курдскай і армянскай мовах. Выдаў шмат паэтычных кніг у перакладзе на рускую і беларускую мовы.*

**Усходнія вытокі песні Ганада Чарказяна трэба шукаць у гарах Арменіі, дзе надзвычай звонкае рэха, чыстыя і бруістыя крыніцы, але сёння яго паэтычнае слова жывяць сокі беларускай зямлі, дзе разам з песняю назаўсёды прапісалася і сэрца.**

**Філасофская заглыбленасць, важкасць і нечаканасць думкі, афарыстычнасць — усё гэта характэрна паэтычным радкам Г. Чарказяна.**

**Асаблівае месца ў творчасці паэта займаюць чаргаві, што ў перакладзе з курдскай азначае «чатыры крокі». Гэтыя чатырохрадкоўі часта здзіўляюць сваёй шчырасцю і мудрасцю, добрым філасофскім падтэкстам.**

**А наогул у творчасці Ганада Чарказяна — два крылы. Другое — празаічнае. Ён сцвердзіў сябе як выдатны навеліст. У творчым актыве яго — і аповесці, і раманы. У добрай творчай форме сустракае Г. Чарказян сваё 65-годдзе. Цёпла і пранікнёна гучаць радкі яго вершаў, якія прапануюцца вашай увазе.**

***Казімір КАМЕЙША***

**НАШЫ ДНІ**

Разумным няма тут ніякай загадкі:
У чым яна, сутнасць жыцця матылька?
Прачнешся — і ўсё пачынаеш спачатку:
Работа, нястача, то сум, то аглядка.
Усё той жа млын, і ўсё тая ж мука.

Пра мёртвых благога не кажуць ніколі:
Пайшлі і грахі ўсе забралі свае,
А доля нашчадка — такая ўжо доля:
Сваіх і чужых нам памылак стае.

Яны, як агонь, нашы дні спапяляюць.
За боль учарашні і сёння баліць.
О, дзе тыя словы, што ў сэрца цаляюць,
Што з вуснаў злятаюць, нібыта з байніц?

Лепш кожнаму жыць не з чужое падказкі,
А з чыстага толькі радка і ліста.
Хай будзе свой сум, свая песня і краска
І толькі свая, хоць з трывогай, вярста.

**МРОІ**

Думкамі імчымся
Ад зямлі да зор.
Кожны — паасобку,
Дню наперакор...
Гэтак мы
Ад смерці
Хочам
Уцячы,
Ад усякай
Рознай
Не-ма-чы...
Так усё і знікне —
Думкі,
Дзеі,

Сон...
Ды гані ты мроі
Гэтакія
Вон.
Бо душа жадае
Іншага зусім,
Што сам дзень прыдумаў,
Вечар папрасіў.
Міргатлівых зорак
І... Маладзіка...
Бегчы на спатканне
І... Спаткаць.

## У ПОЛЬШЧЫ

Што ж, душа вандроўкі любіць,
Не стрымаць яе.
Ціхі шлях Варшава—Люблін
Шынамі пяе.

Лёгкі ветрык асвяжае,
Трэцца ля акна.
І бяжыць зямля чужая
Проста ў сэрцы нам.

Аблачынкаю прыхмурыць
Вочы далягляд...
— Добры дзень, мой сябра Юра!
— Добры дзень, Ганад!..

Што ў дарогу зборы тыя,
Я сустрэчы рад.
— У цябе бацькі святыя...
— Гэтак жа, Ганад...

Замкі, вулачкі і плошчы
Скачуць у вачах...
— Да сустрэчы новай, Польшча!
Каб у добры час!..

## УВАГА

Мы да гэтага прызвычаены:
Сыпле дожджык, гудзе цеплавоз,
Птушкі нейкія незвычайныя
І пяюць,
І даводзяць да слёз.
І, чырвоныя ад бяссонніцы,
Ліхтары,
Ліхтары,
Нібы вочы ў людзей.
Штось забылася,
Нешта помніцца,
Нешта ноч забярэ,
Нешта — дзень.

Калі ўсё вакол нас
Ды не наша ўсё,
Значыць мы з вамі,
Родныя, спім.
Можа, мець трэба
Вочы інакшыя,
Але дзе іх узяць сляпым?

## БЕЛАРУСЬ

Часамі грозная, марозная,
Вясной жа ўся — як дзіўны сад.
Дзе ёсць яшчэ такія яблыкі,
Са смакам, што не апісаць?!

І груша, лепей ад заморскае,
Тут свой, тут райскі толькі смак.
А кажуць, лета тут халоднае.
Хай кажуць. Гэта ўсё не так.

Бярозы тут, як зімы, белыя,
І дзіўна белая раса.
Што перад ёй краса паўднёвая?!
Свая тут, райская краса.

Зямля, што богам не пакрыўджана,
Ляжыць святочна, як абрус.
Ты белая, а значыць, чыстая,
Як ясны ранак, Беларусь!

## РОДНЫ КУТОК

Недзе бяжыць, заплывае аблокамі
Ціхі мой кут.
Сценамі скрозь і платамі высокімі
Адгарадзіўся мой люд.

Весніцы цёмныя, дзверы жалезныя,
Што ababіты жудой.
Толькі папера мая незалежная,
Толькі аловак пры ёй.

Думкі не згаснуць разам з надзеямі,
Не з палахлівых сумленне усё ж.
Час не падзеліць, яно непадзельнае...
З намі яно... А няўжо ж...

**ЛЁСАНОСНАЕ**

Цяжка трываць, калі цябе б'юць,
А сам ты не крыўдзіў нікога.
Хто падстаўляў другую шчаку,
Каб не пакрыўдзіць Бога?

Калі табе ў вочы глупства плятуць
І праўду хаваюць наўмысна,
Цяжка думаць і цяжка стрываць,
Каб кулакі не сціснуць...

Калі апошняе забяруць
І не пакінуць нічога.
Сумна стаяць на каленях, прасіць,
Каб не пакрыўдзіць Бога...

Стала забойства камусь рамяством,
Камусьці хлусня-дарадца,
А людзі насустрач бягуць міражам,
Рады старацца...

**БУДЗЕ ЧАС**

Вось будзе час,
Я ўкленчу ля бярозы
І, пэўна, гэтым некага здзіўлю,
Заплачу — хай усе пабачаць слёзы —
І абдыму любімую зямлю,
Халодную, ды родную, як маці,
Якая расквітнее па вясне.
Я раскажу, як маладосць растраціў,
І як радзіма страціла мяне.
І раскажу, што не памёр яшчэ я,
Што я жывей ад тых чужых, глухіх...
І, можа, мне адразу палягчэе,
А грэшныя хай плацяць за грахі.
Так, я спяваў заўсёды аб радзіме
І мовы сваёй роднай не забыў.
Я быў галодным, але быў людзімым,
Я ёсць свабодны і няўсёцярпімы...
Я ёсць,
І не кажыце толькі... «быў»!

**ЗАЛАТАЯ ПАРА**

Чым далей дарога аддаляецца,
Тым бліжэе шлях мой да цябе.
Сумнае расстанне забываецца,
Я жыву сустрэчаю цяпер.

Золатам гарыць сцяжынка даўняя —
Залатая восень на двары...
Сумная пара, але жаданая.
І не трэба лепшае пары...

**БУДЗЁННАСЦЬ**

Зямлі ўсё мала, на зямлі
І для кахання месца мала.
Куміраў болей, чым грыбоў,
Павыплывала.
Каго кахаеш — і кахай,
Няма на свеце іншай платы.
А страціш (сам або не сам),
Твае тут страты.
Усіх дажджоў часовы сум.
Чакай і сонца, і вясёлкі.
Ідзе вясна.
Растопіць снег,
І сум рассыпле, як асколкі.

**СЛОВА НА ДАРОГУ**

Доўгая наша дарога.
Наплечнік сабраў ды ідзі.
І слухайся толькі Бога:
— Не наслядзі!

У сэнсе — хай след будзе мірны,
Без стрэлаў, кап'я і мяча.
А шлях да свабоды верны,
Як стрэлка, што піша час.

**ТОЛЬКІ ЗАКАХАНЫМ**

Пайсці з бяды і не вярнуцца,
Забыць пра свой няўдалы дзень,
Не дазвалялася нікому
І не ўдавалася нідзе.

І толькі часам закаханых,
Калі задумае вясна,
Сама адразу адшукае —
І злучыць згодаю яна...

І сэрцаў двух несупадзенні
Заўсёды згладжвае надзея...

**НОЧ**

Ноч, раем стань для закаханых,
І хай да схочу п'юць яны
Настой з усіх чароўных шклянак,
Бальзамаў райскіх, незямных.

І хай пануе раўнавага,
Не спатыкнецца аніхто,
Хоць як бы не змушала смага,
Не вабіў райскі той настой.

Ноч смутак дзённы з новай сілай,
Як чорны вэлюм, прыўзняла.
Яна хітрыла, варажыла
І ледзьве ў зман не завяла...

**ШЧАСЦЕ**

Калі б усё шчасце,
Якога чакаем,
Залежала ад усмешкі
Залежала ад выразу твару,
Залежала ад паходкі і голасу,
Залежала ад пяшчотнасці рук,
Ад цеплыні вачэй і вуснаў,
Ад трапяткога прызнання ў каханні,
Ад непаўторнага першага пацалунка
І ад чакання перад спатканнем...
І толькі ад гэтага ад усяго
Самым шчаслівым усё ж чалавекам
Быў бы не я і не ты,
А толькі той чалавек адзіны,
Хто анічога пра гэта не чуў...

**СНЯЦЦА ГОРЫ**

Сняцца мне горы, начамі не спіцца
Гэтак далёка яны ад мяне.
Можа, каня асядлаць і пусціцца
Ў шлях, бо званочак такі празвінеў.

Вось бы прачнуцца і ўбачыць, як грыва
Светла па твары, па небе сячэ,
Але калені дрыжаць палахліва...
Слухай, куды ад сябе ты ўцячэш?

Сумна галінкам у садзе хістацца,
Збег твой цягнік невядома куды.
Стаць бы лісточкам, ды ветру аддацца.
І разам з ім адляцець назаўжды...

**МОЖА, ЗАЎТРА...**

Заўтра, можа, дзень інакшы будзе,
Трэба мне да заўтра пачакаць.
Заўтра, можа, сябра патурбуе...
Ці чакае ён майго званка?

Можа, заўтра збудзецца надзея,
На зямлі дабавіцца цяпла,
І народ мой шчыры зразумее,
Што вясна сапраўдная прыйшла...

Можа, заўтра будзе больш даверу
І пабачу ўсё, бы ўпершыню...
Можа, заўтра расчыню ўсе дзверы,
Нават сэрца насцеж расчыню.

*Пераклаў з курдскай*
***Казімір КАМЕЙША***

Валерый ГАПЕЕЎ

# ТРАФІК ДЛЯ ПАЭТА

*Аповесць*



*Валерый Гапееў нарадзіўся ў 1963 годзе ў в. Восава на Рагачоўшчыне. Пасля заканчэння Мінскага электратэхнікума сувязі працаваў майстрам у вучылішчы (Казахстан), рабочым на заводзе «Інтэграл» у Мінску. Цяпер адказны сакратар раённай газеты «Івацэвіцкі веснік». Друкаваўся ў рэспубліканскай перыёдыцы. Аўтар некалькіх кніжак.*

**Тлумачэнне некаторых тэрмінаў:**

**Трафік (траф)** — колькасць прынятай ці перададзенай інфармацыі ў інтэрнэце. Таксама колькасць наведвальнікаў (юзераў) таго ці іншага рэсурсу (сайта).

**Адалт** — усё, што звязана з «дарослымі» тэмамі ў інтэрнэце: эротыка, секс, парнаграфія.

**Канвертаваць** — накіроўваць частку карыстальнікаў са свайго рэсурсу на той, дзе юзер патраціць свае грошы, а гэта прынясе табе нейкі прыбытак у выглядзе працэнтаў ад патрачанага.

**IP (ай-пі)** — спецыяльны нумар (індэкс), які прысвойваецца кожнаму камп'ютару пры выхадзе ў сеціва. Можа быць дынамічны, г. зн. кожны раз новы пры заходзе-выхадзе; статычны — пастаянна прысвоены пры асаблівых падключэннях да сеціва. Па IP звычайна можна вызначыць прыналежнасць камп'ютара да рэгіёна, горада...

**Банер** — рэкламны малюнак, з дапамогай якога канвертуюць юзераў.

**Партнёрка** — рэсурс, які дапамагае канвертаваць трафік і зарабляць грошы.

## 1

600 долараў. Каб у яго кішэні былі сёння 600 долараў — кніжка была б. Так яму сказалі ў прыватным выдавецтве. Але ёсць толькі 100 — што дарылі на дні нараджэнняў, што назбіраў сам з кішэнных грошай, з продажу калекцыі гульняў...

...Усяго 76 старонак. Віктар сапсаваў мо паўтары сотні лістоў паперы (а колькі тонеру ў прынтэры!), пакуль раздрукаваў іх так, каб можна было перагнуць і выйшла нешта накшталт кніжкі.

Трымаў гэтую «кніжку» ў руках, і было прыкра ад расчаравання: «кніжка» яго — нязграбная, як просты тоўсты вучнёўскі сшытак. Хіба такі будзе нехта захоўваць? Хіба такі прыемна некаму атрымаць у падарунак? Самвыдат... Ніякага гонару ад такога самвыдату. А яшчэ ж вокладка...

Віктар шпурнуў са злосцю «кніжку» ў куток. Нясчэпленыя старонкі разляцеліся белымі птушкамі з пужлівым кароткім шалясценнем.

А можа, на халеру яму гэта? Каму ён трэба з яго вершамі? Праз гады ніхто і не ўспомніць, што ён пісаў, і што ўвогуле пісаў. А гэтыя эпіграмы на кожнага свайго аднакласніка, над якімі столькі карпеў, каб атрымаліся вострыя, дасціпныя, але не зласлівыя, можна проста пачытаць на выпускным вечары.

Але ж каб была кніжачка... Невялікая, каб у кішэню схаваць. Хоць бы 30 штук...

О, як цікава было б! Вось бы здзівіліся ўсе... І потым, гадоў праз дзясяць, на нейкай традыцыйнай сустрэчы выпускнікоў, ён бы і сам прынёс сваю «школьную» кніжку вершаў. Глядзіш, да гэтага б часу выдаў і другую...

Віктар верыў у свае здольнасці. Не толькі таму, што яго вершы часта гучалі ў школе, друкаваліся ў школьнай насценнай газеце. Тоўсты часопіс у гэтым годзе змясціў невялічкую падборку. У яго ёсць талент, пра гэта яму казалі. Так, вядома, мо і ранавата яшчэ пра кніжку думаць, але ж падарунак аднакласнікам — задума такая добрая...

Гэтай задумай Віктар жыве ўжо некалькі месяцаў.

На працу ўладкавацца на лета не атрымаецца — у горадзе і так скарачэнні. Ездзіць некуды ў падсобную гаспадарку на часовыя работы — буракі палоць ці яшчэ якую трасцу — тое не выйсце. Спрабавалі ў мінулым годзе хлопцы. Што зараблялі, тое па вечарах ішло на піва.

Кніжка, кніжка... Віктар да дробязяў уяўляў яе: светла-шэрая вокладка, малюнак чорным алоўкам іх школы — такі чарнавы, смелы накід. І назва: «Чаромхавы вырай». Уверсе прысвячэнне: «Маім аднакласнікам. Маім настаўнікам. Маёй школе». Вокладку зробіць мастак — Алег. Выдатныя шаржы малюе, амаль на ўсіх у класе зрабіў. Гэтыя ягоныя шаржы разам з эпіграмамі — о, як бы шыкоўна глядзелася...

Грошы, грошы, грошы...

Нідзе бясплатна ў выдавецтве кніжку не выдаць — там такіх паэтаў, як Віктар, бы каравячых бліноў на вуліцы бабулінай вёскі ранкам — толькі зіркай пад ногі.

— Мам, дай грошы? — неяк спытаў у маці.

— Колькі? — адгукнулася спакойна яна, нават за кашалёк узялася — толькі прыйшла з крамы.

— Долараў 600, — быццам дробязі папрасіў Віктар.

— А-а-а, ну, тады трошкі пачакай, — усміхнулася маці. — У нас тысяч шэсцьдзясят засталося. На што табе? — ужо сур'ёзна перапытала.

— Хачу кніжку выдаць, — прызнаўся Віктар аб сваёй мары.

— Што, раней паэтам ганарары за кніжкі плацілі, а цяпер свае трэба траціць, каб кніжка выйшла? — маці глядзела на яго з недаверам.

— А каму я патрэбен са сваімі вершамі? — крыва ўсміхнуўся ў адказ Віктар. — Вось ты сама купіла кніжку вершаў хоць адну, хоць калі?

— Ну, тваю б купіла.

— Вось бачыш... Сёння не вершы, а серыялы на першым плане...

— Дык нашто тады табе кніга?

— Ну, вось ты купіш, а я ў класе раздам.

— Раздасі?

— Ці прадам каму. Дарыць буду. Я там на кожнага эпіграм панапісваў...

— Хто ж гэта захоча пра сябе непрыемнае чытаць, ды яшчэ грошы за гэта плаціць?

— Ды не... эпіграмы добрыя, на ўспамін, во, паслухай:

*Чым камп'ютары лепшыя, тым адносіны мёртвыя:*
*Форум, аська, «Вкантакце» замест словаў жывых...*
*А пашлём-ка мы Гуглю і Яндэкс да чорта —*
*Нам іх Юрый Хаванскі заменіць дваіх...*

Віктар закончыў з сумам, уздыхнуў:

— У рэдакцыях кажуць — вершы добрыя. У выдавецтве спытаўся, адказваюць: забяспечыш тыраж продажам — надрукуем.

— Во як? Ты і пішы, за свае грошы выдай ды яшчэ і прадай... Не, сын, на вершах не разбагацееш. Кідай гэта.

— Я і не збіраюся, — рэзка адказаў Віктар. — Вось ты чула пра той адронны калайдар у Швейцарыі?

— Чула... — паціснула плячыма маці, — то ж навука.

— Навука, — чмыхнуў Віктар. — Ну, няхай даведаюцца, што ёсць на самай справе такая часцінка Бога. Вунь сказалі, што сусвет трымае нейкая цёмная матэрыя. І што змянілася?

— Нічога не змянілася, — згодна кіўнула маці, — Дык мо потым зменіцца...

— Калі? Калі што зменіцца? — загарачыўся Віктар. — Што можа даць чалавецтву веданне таго, як утварыўся сусвет?

— Што ты да мяне прычапіўся? — занервавалася маці. — Ад вершаў да сусвету...

— Я не чапляюся, патлумачыць хачу, — паспакайнеў Віктар, калі маці прысела, сам прысеў.

— Дык вось, гэта завецца фундаментальнай навукай. Толку практычнага ад яе сёння нуль і праз сто гадоў — нуль. Але вось што цікава: калі ў краіне няма фундаментальнай навукі, уся навука хутка памірае. Гэта факт.

— Ну няхай факт, — змушана ўсміхнулася маці. — А вершы?

— А вершы, паэзія для грамадства — тое, што фундаментальная навука для навукі! Без паэзіі ўсё мярцвее!

— Можа, і так...

— Ды не можа, а так! Я чытаў: калі недзе перастае развівацца паэзія, там і душы заплываюць тлушчам! Там сэрцы — аўтаматы штучныя, мазгі — працэсар.

— Ды няма ў нас такіх грошай, Віця, — вінавата адказала маці. — Ты ж ведаеш...

— Ведаю, — зморшчыўся Віктар. — Гэта я так сказаць табе хацеў, што буду летам шукаць работу.

— Не знойдзеш, — сумна ўздыхнула маці. — У бацькі на заводзе скарачэнне, прыватныя фірмы зачыняюцца... Тэлескоп свой прадай — гэтульки грошай аддалі...

Сапраўды, у пятым класе Віктар захапіўся зорным небам. Бацькі ашчаджалі грошы месяцы тры і купілі яму невялікі сапраўдны тэлескоп. О, колькі тады вечароў мёрз Віктар на балконе, на плоскім даху дома! Два гады актыўна перапісваўся з такімі ж аматарамі. А калі камета пралятала! Уга, яе і так бачна было, а калі Віктар свой тэлескоп вынес на вуліцу — чарга стаяла некалькі гадзін. На камету і так глядзелі з незразумелым халадком у душы, а ў тэлескопе яна ўвогуле выклікала сапраўдны страх, адчуванне сваёй бездапаможнасці перад таямнічым сусветам....

— Не купяць тэлескоп, — мусіў прызнацца Віктар. — Час той мінуў, даваў я аб'яву... Фотаапарат не прадам...

У мінулым годзе змог уладкавацца кур'ерам у адну рэдакцыю, разносіў газеты падпісчыкам прама на дом. І купіў сваю мару — добры лічбавы фотаапарат. Яшчэ прасіў грошы ў бацькі — каб на заводзе па чарцяжах (бацька іх распрацоўваў сам) зрабілі неабходныя дэталі — злучыць фотаапарат з тэлескопам. Эх, якія здымкі прыгожыя атрымліваліся!

Але такімі сёння нікога не здзівіш. У сеціве вунь амерыканцы з Хабла (касмічнага тэлескопа) выклалі здымкі... Дух займае....

Што яшчэ каштоўнага ў доме? Нічога. Камп'ютар добры... Але то з бацькам папалам — той там свае інжынерныя разлікі робіць, канструктар ён.

Карацей, трэба недзе шукаць...

## 2

«Неафіцыйна» адзначыць заканчэнне 10-га вырашылі за горадам, далекавата. Слава пра гэтае месца ішла не самая светлая — казалі, што тут бавяць час бандыты розныя. Але ж то начамі... Днём тут было спакойна і не страшна. А прыгажосць якая! Дарога ідзе лесам, густым, потым нечакана вырываецца на прастор — шыра-

чэзная паляна! Рака робіць круты паварот, шырока разліваецца, бераг плыткі, пясочак... Сапраўдны пляж метраў на трыста. Крыху далей ад берага кусты, быццам стагі, дзеляць пляж на асобныя зацішныя закуточкі.

Цішыня, лес, сонца, вада...

Што яшчэ трэба?

— Для поўнай гармоніі неабходна вогнішча. І смажанае мяса, — заключыў Юрыс, кінуўшы напакаваны рукзак пад куст. — Ах, браткі, я хачу стаць дзікім!

— У цябе і так, па ўсім відаць, хвост толькі ўчора адваліўся, — незласліва падкалоў Сяргей.

Палілі вогнішча, смажылі шашлыкі, купаліся (хоць вада была халаднаватай і палезлі ў яе не ўсе. Дзяўчаты адно ў купальніках ногі намачылі). Загаралі, танчылі, дурэлі.

Воля!

Першы раз усім класам — і адны: ні класнай, ні бацькоў. Збіраліся крадком: ведалі — класная будзе крыўдаваць, а нехта з бацькоў можа і не адпусціць: усё ж далекавата ад горада і месца з «душком». Кацярына, стараста, за ўсё адказвала. Катэгарычна выступіла супраць піва.

— А прэзерватываў па колькі на чалавека? — сур’ёзна так спытаў Антон.

— Хто па колькі захоча, — адмахнулася Кацярына, а Юрыс дадаў:

— Табе, Антон, не трэба.

— Гэта чаму? —Антон адчуў падрыхтаваную падколку і рыхтаваўся адказаць.

— Як — чаму? — быццам бы здзівіўся Юрыс. — Ты ж спытаў — «на чалавека». Да гэтага тыпу ты не адносішся.

— Сам ты прымат! — агрызнуўся Антон.

...Віктар стаміўся танчыць — амаль 10 хвілін без перапынку ён і Мэры выдавалі клас «рок-н-рола». Гэта не нейкі там шэйк! Пот градам, і ногі падкошваюцца. Адзін Віктар утрымаўся да канца.

Піць хацелася нясцерпна, а мінералку ўсю павыпівалі. Убачыў трохі воддаль пад кустом Юрыса, Сяргея і Лёшку. З травы ля іх ног вытырквалася быццам бы бутэлька мінералкі.

Хлопцы палілі, паўляжалі кружком. У цэнтры на пластыкавай талерцы ляжалі гуркі, каўбаса, хлеб. І мінералка была.

— Дайце глынуць, памру, — Віктар схапіў мінералку.

— Э, не жлукці ўсю, — папярэдзіў Юрыс.

Віктар зрабіў два глыткі, паставіў бутэльку.

— От жа. Зараз здам Кацьцы, яна вас, як кацянят у рэчцы, патопіць. Прыхаваліся тут...

— Я табе здам, — агрызнуўся Юрыс. — Мы тут дзень нараджэння адзначаем.

— Чый гэта?

— Мой, — коратка адказаў Сяргей.

— Ну, з днём нараджэння, — павіншаваў Віктар, папіў мінералкі. — Але твой дзень нараджэння зімой.

— Я і сам не ведаў, — адказаў Сяргей. — У мяне два дні нараджэння. Другі — сёння. П’яны бацька забіць мяне хацеў. Добрым такім калом замахнуўся быў. Бабуля выратавала — сябе падставіла...

— Ну, ён у цябе і дурны.

— Усё, забыліся, — загадаў Сяргей.

— Эх, яшчэ год — і школе канец, — ні да каго не звяртаючыся, па-філасофску зазначыў Юрыс. — Здавалася, столькі часу наперадзе...

— То факт, — згадзіўся Сяргей і закурыў новую цыгарэту. — Я вось месяц ужо ў бабулі — быццам учора на парог ступіў.

— Не збіраешся вяртацца? — спытаўся Юрыс.

— Не. Пасля таго, што бабка распавяла... Я маці з братам да сябе забяру. Ён мне не бацька. Грошы знайду, рамонт зробім — і ішоў бы ён з той кватэрай...

— Дзе ты грошы шукаць думаеш? — тут жа пацікавіўся Віктар. — Мне таксама баксаў пад тысячу трэба. У бацькоў пытацца няма сэнсу — выпускны клас, на ўсякія зборы-касцюмы-тэсты-экзамены тысяча пойдзе.

— На што табе столькі? — здзівіўся Юрыс.

— Трэба... Дык дзе, Сяргей?

— Пакуль не ведаю. Мінулым летам бабулін сваяк памочнікам камбайнёра ўзяў на тыдзень. Няблага, хоць вымотваўся, без задніх ног валіўся спаць. Але цяпер наўрад ці пашчасціць — канкурэнцыя. На жніве добрыя грошы паднімаюць... У калгасе дзе ўладкавацца можна...

— Ну яго, калгас твой, — чмыхнуў Віктар. — Буракі палоць за літр піва.

— Як на буракі, то адразу і на піва, — згадзіўся Сяргей. — У майстэрню паспрабую. Оп-па, Кацька намі зацікавілася...

Кацярына ў гэты момант падышла да хлопцаў. Прысела побач.

— Што гэта вы, як загаворшчыкі?

— Мы тут курым, Каць, — адказаў Сяргей. — Схаваліся, каб не паказваць дурны прыклад выхаваным хлопчыкам і дзяўчынкам.

— Позна там прыклады паказваць, — адмахнулася Кацярына. — Для поўнага суладдзя засталося мне закурыць і Лёшку. Ці ты, Лёшка, ужо паліш?

— Не, — адказаў крыху разгублена Лёшка.

— Ай, Каць, не будзь занудай, — сказаў Віктар. — Не дзеці, кожны сам за сябе адказвае. Вунь Хаванскі не курыць, слоў брыдкіх не кажа — і што, варона ён тут белая? Усё, давай лепш ты нам, як дзяўчына сур'ёзная, параду дасі: дзе грошы ўзяць?

— Знайшоў у каго пытаць, — горка ўсміхнулася Кацярына. — Колькі сябе памятаю, столькі ў нашай хаце стаяла гэтае пытанне: дзе ўзяць грошы? Многа трэба? Зарабі!

— Столькі за лета не зараблю, — цяжка ўздыхнуў Віктар. — Красці не хочацца, а то бамбанулі б які кіёск з Сяргеем.

— Ага, і потым мне вам перадачы насіць?

— Вось і баімся: калі ты пачнёш перадачы насіць — памром з голаду, — убіўся ў гутарку Юрыс.

— Памыляешся, — пакрыўдзілася Кацярына. — За мной якраз і не памрэш з голаду.

— Ат, я так, — скрывіўся Юрыс, зразумеўшы, што жарт не атрымаўся.

— Дык дзе грошай узяць, Каць? — не адставаў Віктар.

— Многа трэба?

— Баксаў 600...

— Ого! Праблемы?

— Ён сам сабе праблемы ставарае, — зноў уставіў Юрыс. — Не можа без іх.

— Юрыс, памаўчы, га? — перабіла Кацярына. — Дык навошта, калі не сакрэт, Віктар?

— Пакуль сакрэт... Але так і быць, вам скажу, толькі асабліва не разносьце. Вершы свае хачу кніжкай выдаць. Ну, і на выпускным усім уручыць... Там невялікія эпіграмы на кожнага, шаржы Алег намаляваў, яшчэ падмалюе. А пра той наш «урок бяспечнага сексу» ў Чарэмшані цэлая паэма...

— Ух ты, крута! — вырвалася ў Юрыса.

— Класная задумка, — згадзіўся і Сяргей. — Ну, тут грошай можна і пазычыць, а кніжкі потым не дарыць, а прадаваць.

— Не хачу прадаваць, — пакруціў галавой Віктар.

— Значыць, будзем шукаць спонсараў, — спакойна вырашыла Кацярына, быццам гэта было як грыбы ў лесе знаходзіць.

— Ага, пашукай...

— Калі не шукаў, то не кажы... У Лёшкі папытаемся, ён умее.

— Што ў мяне пытаць? — адгукнуўся нехаця Лёшка

— Як многа грошыкаў за лета накасіць?

— У інтэрнэце, — коратка адказаў Лёшка.

— І як? — ажывіўся Віктар.

— Проста... Ствараем порнасайт. У нас ёсць відэакамера добрая. Увесь клас — артысты. Пара чалавек з крэатыўным мысленнем прыдумваюць сцэны, пара апаратараў, два адміны на сайт — і рубім бабло.

На момант усе разгубіліся. Юрыс першы не стрываў:

— Ты што — сур'ёзна?

— Я — не ты, жартаваць не ўмею, — пакрыўджана адазваўся Лёшка. — У адалце мільённыя абароты. Тысячы долараў паднімаюць толькі на партнёрках.

— На якім адалце?

— На парнусе. Французкае «адзюльтэр» ведаеш? Вось... Але ведай, што гэта ніяк не стасуецца з Крымінальным кодэксам.

— Купім пракурора за права першага бясплатнага прагляду, — знайшоўся Юрыс. — Каць, а Каць, пойдзеш у нашу кінастудыю?

— Пайду, — згадзілася Кацярына. — Намеснікам дырэктара. Бо калі артысткай — ваш праект праваліцца ад адной сцэны са мной.

— Дык ён і са мной праваліцца, — рагатнуў Юрыс. — Вопыту — нуль. Каць, пайшлі — якраз і першы вопыт будзе, га?

— Не спяшайся, хопіць, — перапыніў яго Віктар. — А што такое партнёрка, Лёш? Гэта ж не сама кінастудыя, як я зразумеў?

— Не, не сама, — неахвотна пачаў тлумачыць Лёшка. — Гэта любы сайт, на якім стаіць рэклама гэтага порнарэсурсу. Наведвальнік ідзе на гэты сайт, потым па рэкламе — на порнарэсурс...

— І так дзясяткі тысяч паднімаюць? — не паверыў Сяргей.

— Паднімаюць... Калі сайт раскручаны...

— За месяц?

— За месяц...

— Нічога сабе! — Віктар выказаў агульнае пачуццё. — Так проста? З нічога — такія грошы?

— Вось гумарысты... З нічога... — усміхнуўся Лёшка. — Ты ствары спачатку рэсурс, каб быў цікавы для аўдыторыі, якая пойдзе потым на порнасайт. Раскруці сайт, прасунь яго на першыя месцы ў пошукавых сістэмах. Потым падтрымлівай. А гэта — грошы. Каб атрымаць, трэба напачатку не адну тысячу ўкласці. І працаваць не адзін месяц. Як мінімум — чатыры. Вось так. Плюс, не забывай, гэта крымінал. Забаронена.

— Цю... — Віктар быў расчараваны. — Што ж ты адразу не сказаў, што каб зарабіць шмат, трэба напачатку ўкласці многа? Ды яшчэ крымінал, забаронена... А ты як зарабляеш?

— Можна і не ўкладаць... Калі табе цікава, ёсць і без адалту спосабы заробку. Заўтра прыходзь, пакажу рэсурсы. Нармалёвыя, без парнаграфіі. Але там дзеля 40 баксаў трэба карпець днямі... Зрэшты, зарабіць можна. Было б жаданне.

— І Кацьцы не трэба будзе артысткай рабіцца? — расчаравана працягнуў Юрыс. — Я ўжо спадзявацца пачаў, што мы проста вось тут, на гэтым беражку пару эпізодаў для нашага рэсурсу здымем. І Каця, глядзі, якая расчараваная...

— Вось жа! — Кацярына пляснула Юрыса ў плечы, устала: — Пайшлі, а то там без вас засумавалі.

— Зараз ідзём, Кацюш, — за ўсіх адказаў Сяргей, прытушыў недапалак. — Няхай гэты бераг народзіць у тваёй галаве, Віктар, добры верш і яшчэ лепшую ідэю, каб гэты верш быў надрукаваны ў тваёй кнізе!

— І каб узняла гэта ідэя славу нашага паэта на вышыню вунь той сасны... Не, вунь той вышкі! — Юрыс кіўнуў галавой далёка ў лес.

— А што там за вышка? — спытаў Віктар, азірнуўшыся, — недзе з паўкіламетра ад іх узвышаўся над лесам верх драўлянай вышкі.

— Пажарная, — адказаў Сяргей. — Я на такой быў. Леснікі ў сухую пару залазяць, аглядаюць: ці не дыміць дзе. Азімут засякаюць. З другой вышкі таксама бяруць азімут — кропку на карце вызначаюць.

— От бы туды залезці, зірнуць на гэты беражок, — памарыў услых Віктар.

— Ага, — сплюнуў Сяргей. — Вунь бачыш, аўто чорнае каля тых кустоў? — ён кіўнуў далёка наперад па беразе ракі. — Адтуль бы дакладна пабачыў, які начальнічак прывёз на гэты беражок сваю сакратарку. І які даклад будзе дыктаваць...

— Адкуль ты ведаеш? — заўпарціўся Віктар. — Можа, муж з жонкай...

— Цялё ты, Віктар, без крыўды, — адказаў Сяргей. — Глянь колькі часу — хутка шэсць. Якраз пасля работы. І хто жонку павязе без дзяцей? І чаго мужу і жонцы перціся ў такі час, ды яшчэ ў тыя кусты, дзе і пляжа няма? Пайшлі, Кацька кліча...

## 3

Назаўтра Віктар сазваніўся з Лёшкам. Той з гадзіну паказваў яму розныя рэсурсы, дзе можна зарабіць, тлумачыў. Няхай і невялікія грошы, але з дому не выходзячы.

— Артыкулы на сайты пісаць — справа няўдзячная, — расказваў Лёшка. — Але як для цябе, то і падыдзе. Плацяць цяпер мала, бо канікулы пачаліся — усе школьнікі імкнуцца зарабіць так.

— Слухай, Лёш, — падумаўшы, спытаўся Віктар, — Я не разумею: адкуль грошы бяруць тыя, хто заказвае гэтыя артыкулы?

— Ну, сайт можа прыносіць даход.

— Як гэта? А, партнёрка...

— Партнёрка — толькі адзін з відаў даходу, — цярпліва тлумачыў Лёшка. — Ёсць інтэрнэт-магазіны, і іх многа. Можна стварыць сайт з высокім ТІЦам і ПР, гандляваць спасылкамі, размяшчаць артыкулы за грошы з тымі ж кантэкстнымі спасылкамі...

— Стой-стой, — энергічна пашкроб галаву Віктар, — Лёшка, ты думаеш я хоць слова зразумеў? Што за тыц? Што за піэр? Кантэкстныя спасылкі?

— ТІЦ — тыпавы індэкс цытавання ў пошукавай сістэме Яндэкса. Чым вышэйшы гэты індэкс, тым, значыць, больш іншых сайтаў спасылаюцца на яго. Калі ж з гэтага сайта на другі ідзе спасылка, то той, другі, паднімецца ў ранжыраванні, зойме ў серпе першыя месцы...

— А-а-а, я лох, — застагнаў Віктар. — Нічога не разумею... Божачка, першы раз такое адчуванне... Ранжыраванне, серп... Злітуйся. Прасцей можна?

— Нельга прасцей, — усміхнуўся Лёшка. — Будаўнік не зможа табе свае прафесійныя сакрэты расказаць на тваёй мове. І я замучуся тлумачыць кожнае слова.

— Добра, ты мне скажы: сайт зрабіць складана?

— Ну, сатэліт які зляпіць сінамайзерам з гатовым кантэнтам...

— Лёшка, гад, не рабі з мяне ідыёта!

— Добра... Гледзячы які сайт. Просценькі такі, некалькі старонак, некалькі артыкулаў, якія не будуць узнаўляцца, з бесталковым зместам — за паўгадзіны, маючы спецыяльную праграму — сінамайзер для генерыравання тых самых артыкулаў з аднаго: праграма аўтаматычна падстаўляе сінонімы, перастаўляе словы месцамі. Напрыклад, маем сказ: дзяўчына была прыгожая. Сінамайзер выдасць сам: дзяўчына ёсць цудоўная, захапляльная дзяўчына была, маладая жанчына ёсць ладная...

— Навошта такія сайты?

— Слухай, ты мяне дастанеш... Але я і сам такі быў... — Лёшка задумаўся на момант. — Каб нейкі адзін сайт зрабіць вельмі значным, каб на яго было шмат спасылак, робіцца шмат такіх вось пустых, не патрэбных нармальным людзям сайтаў. Завуць іх сатэлітамі — ад англійскага — спадарожнік. Ён выконвае толькі адну ролю — спасылаецца на той патрэбны сайт. Гэтыя сатэліты — як куча смецця, на версе якой той патрэбны сайт. Хамяк для сябе зрабіць крыху складаней...

— Што за хамяк?

— Ат... Слухай, вельмі многа слоў тут звязана з англійскім. Хамяк — ад англійскага хоўм пэйдж — «дамашняя старонка». Такі невялікі сайт, дзе гаспадар расказвае пра сябе. Дарэчы, давай табе зробім такі — выкладзеш свае вершы..

— І колькі атрымаю?

Лёшка толькі ўсміхнуўся.

— Віць, я табе, як сябру, скажу: каб зарабіць сваім сайтам у інтэрнэце, трэба праца. І грошы. Праз месяц ты зможаш атрымліваць... Ну, адзін долар у дзень. Але ўкласці прыйдзецца не менш як сто. Ці — неверагодная ідэя. Новая! Смелая! Але і пры ёй трэба грошы: хостынг, дамен, дызайн...

— От, зноў ты са сваімі слоўцамі... Што там за ідэя?

— Ідэя, якая не рэалізавана. Вось, напрыклад, ідэя «аднакласнікаў». Самы папулярны рэсурс, як і «Укантакце». Сацыяльныя сеткі. Іх не было — яны з’явіліся і маюць грошы. Але... там вялікія кампаніі грошы ўклалі. Вельмі дарагія гэта праекты. Карацей, нешта трэба такое, чаго няма. Крэатыў.

— А чаго няма? — Віктар напружыўся, быццам Лёшка вось цяпер выдасць яму сакрэтны рэцэпт багацця.

Лёшка засмяяўся, пабачыўшы такую ўвагу.

— Дзівак ты, Віцька! Думаеш, распрацоўваў бы я тут скрыпты за капейкі, каб у мяне была ідэя? Карацей, вось так зробім. Даю табе спасылку на адзін добры рэсурс: там збіраюцца людзі, якія выкачваюць грошы з інтэрнэту. Чытай, чытай і чытай. Незразумелае слова — лезь у пошук, шукай адказы. Не рэгіструйся, нармальнае пытанне не задасі, пакуль хоць крышку мазгі не прачысціш, не пачнеш адрозніваць апдэйт ад апгрэйда. Потым прыходзь, мо што і падкажу.

— А як сайты рабіць? — зноў спытаў Віктар.

— Ну, ты дастанеш, — пакруціў галавой Лёшка. — Вось дыск, тут ёсць праграма... Тут жа і самавучыцель. Пасядзі тыдзень — прайдзі ўсе крокі... Што незразумела — патлумачу. Але пытайся нешта дзельнае, разжоўваць не збіраюся. Асіліш — пойдзеш далей. Не — едзь буракі палоць.

— Ну, вось гэта ўжо нешта, — задаволена адказаў Віктар, беручы дыск. — Усё, Лёшка, дзякуй! Я пайшоў, — Віцька паспяшаўся да дзвярэй. — Ух, зараз як засяду!..

— Давай, шчасліва, — усміхнуўся на развітанне Лёшка.

Віктар сапраўды спяшаўся дамоў так, быццам дастаткова яму навучыцца рабіць усё тое, што ёсць на дыску — і грошы самі з'явяцца ў кішэні. Калі разабрацца: два ці тры папярэднія месяцы Віктар толькі думаў... Ды не, больш таго — марыў: якой будзе яго кніжка. А цяпер ён зрабіў першы крок да сапраўднай рэалізацыі мары. Нават другі крок — першы адолеў на той лясной паляне, на беразе ракі. Гэта хвалявала. Бо пачалося дзеянне, сапраўднае, цяпер ад яго асабістых намаганняў залежыць будучае.

Ёсць мэта. І паколькі яна стала рэальнай, з'явіліся і першыя сродкі. Вось ён — дыск з самавучыцелем. Вучыся, Віктар!

Ён у думках падганяў сябе.

З гэтым дыскам прасядзеў за камп'ютарам, хлешчучы каву, амаль чатырнаццаць гадзін — ад чатырох дня да шасці наступнага ранку. Талерку з вячэрай маці мусіла несці ў пакой. Добра, што бацька ў камандзіроўцы і не спаганяе дзве свае вячэрнія гадзіны...

Віктар адкрываў для сябе невядомае. Гэта было незвычайна і хвалююча: пакрысе, старонка за старонкай радкі самавучыцеля прыадчынялі яму загадкавы свет інтэрнэту. Ён прымусіў сябе не спяшацца, выконваць усе заданні, якія былі ў самавучыцелі, нават дробязныя. Галава яго поўнілася інфармацыяй, новымі тэрмінамі, слоўцамі, якія раней выклікалі толькі пацісканне плячыма, а цяпер набылі сэнс і вагу. Віктар быў уражаны нават не тым, пра што даведаўся, а тым, наколькі шмат ён зрабіў за вечар і ноч і, галоўнае, як усё гэта ўмясцілася ў яго галаве. Пад раніцу хлопец зусім ачмурэў — кожнае новае прачытанае слова здавалася пустым гукам, і ён зразумеў, што трэба адпачыць.

Клаўся спаць, заплюшчваў вочы, а ў галаве стаялі старонкі самавучыцеля, узніmaліся аднекуль з глыбіні, узляталі і апускаліся, як сняжынкі ў віхуру, блыталіся новыя словы ў яго моўным запасе: тэгі, сервер, хостынг, скрыпт, фрэйм, дамен — і даўно вядомыя, якія набывалі іншы сэнс: шапка, старонка, стылі...

Наступныя дні поўніліся радасцю адкрывальніка: ад простага да складанага вёў самавучыцель. Тая рэчка, у якую ступіў Віктар і ў якой, здавалася, лёгка будзе плаваць, пашыралася і паглыблялася, рабіла рэзкія павароты, ад яе адгаліноўваліся рукавы, у яе ўпадалі яшчэ ручаі і рачулкі.

Не, ні да аднаго ўрока так не рыхтаваўся Віктар, ні да аднаго іспыту — тут адчувалася сапраўдная, нейкая вар'яцкая асалода ад ведаў. І галоўнае: Віктар зразумеў, што гэтыя веды якраз і служаць для таго, каб вось так, седзячы дома за сталом, зарабляць грошы. Ён пабываў ужо на тым форуме, адрас якога даў яму Лёшка. І ўразіўся яшчэ больш. Найперш тым, што яго здабытыя з самавучыцеля веды, якія падаліся напачатку важнымі і грунтоўнымі, на самай справе — толькі выток, спакойная вада, а наперадзе — парогі і вадаспады... Але гэта ўжо не палохала, а толькі прываблівала.

І галоўнае: тут столькі маладых хлопцаў, якія па-дзелавому размаўлялі аб зробленых сотнях долараў, аб куплі-продажы таго, што рабілі самі, за зусім не маленькія грошы.

Патэлефанавала Мэры:

— Віць, ты мяне кінуў?

Віктар на нейкае імгненне разгубіўся:

— Ой, Мэры, выбачай... З чаго ты ўзяла?

— Як — з чаго? — пакрыўджана пачала Мэры. — Ні адной СМС-кі за тыдзень, ні аднаго званка. У аську не выходзіш, на форуме цябе няма... Сяджу, як манашка, дома. Ты скажы...

— Што сказаць?
— Я табе не дурнічка!
— А хто сказаў, што я цябе за дурнічку трымаю? — ласкава пачаў Віктар. — Мэры, давай... заўтра сустрэнемся — я табе пра ўсё раскажу, хочаш?
— А што здарылася? — крыўда ў голасе дзяўчыны знікла, загучалі ноткі цікавасці і нават занепакоенасці.
— Ды нічога такога... Заняты я вельмі, — ухіліўся ад прамога адказу Віктар. — Дык заўтра?
— Не магу заўтра. Сямейная паездка на Нарач на цэлы тыдзень. Ты дачакаўся, — капрызліва адказала Мэры. — Мог сам патэлефанаваць.
— Ну, я ж папрасіў прабачэння! — пачаў тлумачыць Віктар. — Тут... карацей, я як п'яны цэлы тыдзень. З-за камп'ютара вылажу толькі паспаць і ў прыбіральню. Нават ем за ім.
— Чаго?
— Ну, праўда, потым скажу.
— Цяпер кажы.
— Не магу я цяпер, — папрасіўся Віктар. — Давай потым...
Віктар ствараў свой першы сайт. Зарэгістраваўся на бясплатным хостынгу, прыдумаў імя свайму дамену і нават першы надпіс зрабіў. Гэта было неверагоднае пачуццё: набраць у радку адраса viktarv.ukoz.ru — і пабачыць там свае напісаныя словы! «Гэты сайт робіць Віктар Валадкоў». Эх, як гэта патлумачыш дзяўчыне! Што будзе на гэтым сайце, Віктар пакуль не ўяўляў — ён проста спрабаваў. Але вось Мэры патэлефанавала, і нейкая ідэя зайграла, завабіла сваёй неакрэсленасцю.
— Не крыўдуй, — сур'ёзна прадоўжыў Віктар. — Прыедзеш, будзе табе самая поўная справаздача і — абяцаю — сюрпрыз. Прыемны сюрпрыз, — паспяшаўся дадаць.
— Ну, глядзі, — супакоілася Мэры. — Прыеду, кіну СМС-ку. Калі будзе, як сёння...
— Не будзе, — не стаў чакаць Віктар апісання таго, што адбудзецца праз тыдзень, калі ён не адорыць увагай Мэры. — Абяцаю табе каву, сюрпрыз і іншае.
— Глядзі, — папярэдзіла Мэры гулліва. — Калі ты «Укантакце» з кім віртуальнічаеш...
— Не да віртуалкі мне, — цяжка ўздыхнуў Віктар. — Праўда...
Мэры паверыла, бо ўздыхнуў Віктар без аніякага прытворства, дзяўчына гэта адчула.
— Ну добра, тады — пакуль. Займайся. Але, каб сюрпрыз атрымаўся талковым!
— Будзе, — паабяцаў Віктар, як падміргнуў.
Пад канец размовы ў Віктара склаўся дакладны план яго сайта — ён зробіць старонку пад назвай «Мая дзяўчына». А што? Прыкольна! У яго захаваліся фотаздымкі ці не з садка. Усе гэтыя гады ён быў разам з Мэры: у садку ў адной групе, потым у адным класе. Сябруюць яны толькі апошні год. У сэнсе — разам, пара яны... Зараз вось адсканіруе здымкі, папрацуе ў фоташопе, дзе фон заменіць, а дзе і сябе побач паставіць... Мэры будзе прыемна!
Сканера Віктар не меў. Патэлефанаваў Лёшку.
— Здароў! Слухай, трэба сустрэцца, я нешта паказаць хачу.
— Што, ёсць поспехі? — спытаўся Лёшка.
— Потым раскажу.
— Прыходзь, я дома. Адпачну хоць, а то сёння нешта не атрымліваецца. Развеяцца трэба.

— А сканер у цябе ёсць?

— Ёсць. Купіў нядаўна. Што сканіць будзеш? Голых цётак?

— Пайшоў ты...

Гадзіну патраціў на тое, каб са шматлікіх альбомаў выбраць дзясяткі тры фотаздымкаў. Чаго не хопіць — дадасць са свайго фотаархіва — там Мэры трапляецца часта.

Прыехаў да Лёшкі, прысеў да камп'ютара.

— Вось, глядзі! — набраў адрас у радку браўзера, павярнуўся са зззяючымі вачыма, калі на экране ўспыхнула яго старонка: блакітны экран і белыя літары на ім: «Гэты сайт робіць Віктар Валадкоў»

— О, малайчына, — пахваліў Лёшка. — Сам да Юкоза дайшоў... Але на такім сайце 600 баксаў не заробіш. Спасылкі з яго не прадасі, партнёркі хіба, але хто сюды пойдзе, акрамя тых, хто цябе ведае і каго ты запросіш? Блог — справа цяжкая. На раскрутку яго трэба паўгода мінімум і грошы. Даменнае імя другога ўзроўню...

— Ды я ўжо ведаю, — уздыхнуў Віктар. — Пачытаў, па форуме палазіў... І зразумеў, што так проста грошы не зарабляюцца.

— Я ж табе пра тое і казаў, — пацiснуў плячыма Лёшка. — Толькі грошы робяць грошы. Ці ідэя. У адваротным выпадку — праца, праца і праца. Да пасінення... Што тут зрабіць думаеш?

— Ды нічога... Так, паспрабаваў. Хачу здымкаў колькі паставіць, Мэры... Пафаташоплю, нейкая практыка будзе.

— Ну, выдатна... А зарабляць спрабуй капірайтынгам.

— Ерунда атрымліваецца, — расчаравана адмахнуўся Віктар. — Рэрайт капейкі каштуе. А канкурэнцыя якая... Тэму запасціў — праз пяць гадзін яна ўжо на другой старонцы. А злыя там усе: напішы ім прыклад. Напісаў... Наляцелі, вучыць пачалі. Напішы за водгук... Напісаў — і больш ніхто не пытае...

— Лета, я ж казаў — студэнты-гуманітарыі ды і тэхнары, хто пісаць умее, таксама хочуць зарабіць... Кашалёк сабе зрабіў?

— Ага, зрабіў... Пусты...

— Некалі зазвініць кіпер. Скaніраваць цяпер будзеш?

— Давай... У мяне мазгі распухлі за гэты тыдзень. Думаў — узарвецца галава, столькі туды ўсяго патрапіла за кароткі час.

— Не ўзарвецца, — усміхнуўся Лёшка. — Я таксама думаў, што там абмежавана... Ну, скануй сваю Мэры...

Вечарам Віктар вярнуўся з файламі адсканіраваных здымкаў. Прасядзелі яны з Лёшкам даволі доўга. Цяпер ужо Віктар распытваў пра заробкі ў інтэрнэце з веданнем справы і толькі зрэдку прасіў патлумачыць слова альбо ўдакладніць яго значэнне.

Чамусьці было сумна, не хацелася садзіцца за комп і працягваць работу над сайтам. Веды ёсць, але самі па сабе яны не могуць даць грошы... Трэба ідэя, як кажа Лёшка. Крэатыў.

А ідэі няма.

Віктар зайшоў на знаёмы форум: можа, там народзіцца хоць якая думка, калі пачытае, як робяць іншыя...

А што такое ідэя? Ды яшчэ ідэя ў сеціве? Зразумела, сайт — месца з нечым цікавым, карысным, забаўляльным, прываблівым, патрэбным... Віктар чытаў раздзел «Для навічкоў» і ніколькі ўжо не здзіўляўся таму, што так цяжка прыдумаць нешта новае — вунь колькі жадаючых вынайсці веласіпед!

Тое, пра што раней казаў Лёшка, пацвярджалася: для добрага праекта трэба вялікія грошы. Не сотні, а тысячы долараў.

Хлопец раззлаваўся: сам на сябе, што не можа нічога прыдумаць, і на тых, хто прыдумаў раней за яго сайт прыколаў розных, цікавых фотаздымкаў, відэаролікаў. Злосць падштурхнула заняцца апрацоўкай фотаздымкаў, хоць цяпер Віктар не разумеў — навошта гэта рабіць? Хіба што паказаць самой Мэры. Выкласці сюды свае вершы, расказаць усім у класе ў верасні: чытайце! І што? Ну, прачытаюць... А хто больш сюды пойдзе? Каб хоць які рэкламны банер прыносіў капейку, трэба не менш як 300—400 наведвальнікаў...

**4**

Работа ў фоташопе пакрысе супакоіла. Мяняў фон на здымках: была маленькая Мэры ў садку разам з усімі, а стала сярод калон нейкага замка — падобных малюнкаў і здымкаў у Віктара хапала.

Некалькі фотаздымкаў вырашыў зрабіць на фоне зорнага неба, што некалі сам здымаў праз тэлескоп. Зрабіў першы — цікава атрымалася. А галоўнае — тут і яго праца ёсць, неяк сімвалічна атрымліваецца.

Адзін здымак хваляваў асабліва: у мінулым годзе ўдалося схапіць на возеры: Мэры здымае праз галаву лёгкую сукенку, застаючыся ў купальніку. Тут і фон іншы не падбярэш, а было б цікава здзівіць Мэры...

Выйшаў на балкон — падыхаць свежым паветрам, развеяцца. Можа, якая думка ў галаву прыйдзе. Стаяў, углядваючыся ў горад, на які пакрысе апускалася ноч — запальваліся ўжо агні ў вокнах, ліхтары на вуліцах, змаўкалі галасы дзятвы. У блізкім ад дома Віктара акне кухні рухалася постаць, здаецца, жаночая.

«Кухні яны не занавешваюць, — хмыкнуў у думках Віктар. — Хай бы спальні не занавешвалі».

І раптоўна ўявілася: той самы здымак Мэры, дзе яна скідае сукенку, трэба паставіць у такім вось акне, дзе гарыць святло! Пакінуць ад Мэры толькі яе сілуэт, нібыта святло падае на яе са спіны.

Пакуль добра сцямнела, зрабіў сабе каву, падрыхтаваў фотаапарат. Прымерыўся — нічога, павелічэння хапае, хоць без штатыва наўрад ці атрымаецца зняць, каб не змазаўся здымак. Штатыў узяў ад тэлескопа. Хутка зрабіў некалькі здымкаў, перакінуў на камп'ютар. Паўгадзіны працы — так выдатна атрымалася! Быццам і праўда ён зняў Мэры з вуліцы, калі яна распранаецца, стоячы перад акном... Чорт, аж усхваляваў мантаж, так і сыходзіла са здымка пачуццёвасць.

Бацькі прыйшлі — недзе былі разам у гасцях.

— Галодны зноў? — спытала маці.

— А што, пара есці? — аджартаваўся Віктар.

— Я так і ведала, — данеслася з кухні, дзе маці праводзіла рэвізію халадзільніка. — Бяры і сам разагравай, я хачу кіно пагглядзець.

— Добра, добра, — Віктар пайшоў на кухню.

Бацька на кухні глядзеў навіны — тут таксама стаяў невялікі тэлевізар.

Віктар уставіў у мікрахвалевую печ макароны з катлетамі, разагрэў, прысеў есці.

— Слухай, а чаму жанчыны такія ахвочыя да серыялаў, га? — спытаўся ён у бацькі, калі навіны перабіліся рэкламай. — Як бы вы з маці жылі, калі б адзін тэлевізар быў? Пабіліся б, мабыць...

Бацька хмыкнуў, але адказаў сур'ёзна:

— Некаторыя б'юцца. І канфлікты ўзнікаюць вялікія.

— Але чаму? — перастаў есці Віктар. — Бясконцыя інтрыгі, цягучка, прымітыў...

— Тут даволі проста, — тлумачыў бацька. — Па-першае, той самы прымітыў. Сур’ёзны фільм патрабуе дзейнасці мозга, думак, разважанняў, унутранай працы на духоўным узроўні. Сапраўднае мастацтва ўздзейнічае на чалавека, праз убачанае чалавек усведамляе сам сябе, свой унутраны свет, чорныя і светлыя бакі. А хто хоча пабачыць самога сябе ў нявыгадным святле?

— Не ведаю... — адказаў Віктар. — А што яшчэ?

— Далей — зноў той жа прымітыў. З першай серыі ўсё зразумела: тут бандыт, тут герой. Тут ілгун, а тут святы. Усё вядома, застаецца толькі чакаць, як там далей абставіны складуцца, што новага злодзеі прыдумаюць і як добрыя выкруцяцца. Пры гэтым усе ведаюць, што канец будзе шчаслівы. Такім чынам, рэжысёры прапаноўваюць гледачам гульню: угадаюць яны наступны ход, наступны паварот сюжэта ці не.

— Так, — згадзіўся Віктар. — Толькі і размоў у маці з сяброўкамі пасля чарговай серыі — а што далей будзе...

— Ну і трэцяе, — прадоўжыў бацька. — Гэты самы прымітыў, асабліва ў першай яго частцы, дзе мы казалі аб тым, што гледачы хоць і суперажываюць, але застаюцца ўсё адно староннімі назіральнікамі, дазваляе казаць аб эфекце замочнай шчыліны. Глядзець серыял — быццам падглядваць за жыццём чужых табе людзей праз замочную шчыліну. Галоўнае пачуццё адно — цікавасць. Што будзе далей? Эмоцыі існуюць у момант назірання. Адышоўся ад шчыліны — забыўся.

— Ну, цікава ж падглядваць за чужым жыццём...

— Так, падглядванне — самы любімы занятак тых, хто імкнецца захаваць свой уласны свет ад уздзеяння з любога напрамку. Назіранне не мяняе цябе і не можа змяніць.

— Цікава... Гэтыя законы адкрылі тады, калі пачалі мыльныя оперы штампаваць, ці спачатку адкрылі, а потым штампаваць пачалі?

— Хто ведае... Але такі прымітыў стваралі даўно.

— Вас ніхто не прымушае глядзець гэтыя фільмы!

Бацька з сынам аж здрыгануліся — на парозе кухні стаяла маці. Яна, мабыць, чула частку размовы. Твар яе пачырванеў ад крыўды.

— Прымітыў вам, а мне — жыццё! Што я тут бачу? Работа, кухня, пральная машына, спальня. А там — жыццё сапраўднае, пачуцці, там хоць нешта, пра што кожная жанчына марыць. Кіснеш цэлымі гадамі, а як хоць нейкая прасветліна з’явілася для душы, дык я для вас адразу прымітыўная стала, — маці закончыла на павышаных нотках, у якіх былі і выклік, і дакор.

Гэтак жа імкліва выйшла з кухні, як і з’явілася.

Бацька прамаўчаў. Віктар памыў талерку, выйшаў на балкон... Вось чаму такім цікавым і хвалюючым падаецца здымак Мэры, калі яе сілуэт ён уманціраваў на фоне асветленага акна... Падглядванне!

Хм-м... З аднаго боку, падглядваць — як быццам і сорамна. А з другога — так цікава... Вунь далёка адсюль асветленае акно новага, нядаўна здадзена дома. Яшчэ нічым не занавешанае акно, нейкія цені там рухаюцца... Што яны робяць?

Віктар перавёў позірк на штатыў тэлескопа, з якога рабіў здымак асветленага акна для мантажу, і хутка выцягнуў са шкафкі, якая стаяла тут жа, на балконе, свой тэлескоп, хутка сабраў. З нечаканым хваляваннем (хоць колькі разоў раней рабіў!..) навёў на далёкае не занавешанае нічым акно, адрэгуляваў павелічэнне.

...Мабыць, у той кватэры іграла музыка, бо маладая жанчына ў кароткім халаціку, узяўшы доўгую палоску шпалераў з рук мужчыны, стоячы на збітым з нейкіх

дошак стале, рытмічна ківала галавой і, здаецца, прытанцоўвала. Прыклала шпалеры, мужчына прытрымліваў палоску знізу... Энергічна расправіла, потым прыкатала ролікам. Нешта сказала ўніз, павярнулася ад сцяны, нахілілася. Мужчына працягнуў ёй рукі, яна плаўна скокнула. Мужчына нейкі час трымаў яе, абхапіўшы за талію, прыціснуўшы да сябе. Кароценькі халацік высока агаліў ногі жанчыны... Яны павольна кружыліся на адным месцы і цалаваліся...

Віктар адарваўся ад акуляра. Было крыху сорамна. Ён падглядваў за чужым шчасцем: сям'я пабудавала кватэру, цяпер яны самі, з такім задавальненнем, такія радасныя, у такім сугуччы душ клеяць выбраныя імі ж самімі шпалеры...

І не ведаюць, што за імі толькі што назіраў нехта збоку... Такі кароткі эпізод — вось гэтыя колькі хвілін — і іншы паглядзеў бы з цікавасцю...

Чо-о-орт!

«Адтуль бы дакладна пабачыў, які начальнічак прывёз на гэты беражок сваю сакратарку. І які даклад будзе дыктаваць...»

Гэтыя словы Сяргея прыгадаліся раптоўна. Замочная шчыліна... Мэры быццам бы распранаецца за акном...

Гэта ж цікава! Гэта ж ідэя!

І нават калі такая ёсць — пляваць: яна будзе цікавая для жыхароў іх рэгіёна!

Фатаграфаваць такія сюжэты... Не! — здымаць відэа!

Чорт, чорт, чорт! Якім попытам карыстаюцца падобныя сюжэты, з рэальнага жыцця, не зрэжысіраваныя!

А калі пазнаюць героі самі сябе? Ну і няхай! Хто на яго, Віктара, падумае? Паспрабуй дакажы...

Тая вышка высокая ў лесе, з якой добра будзе праглядвацца бераг ракі — о, гэта цуд! Заўтра, заўтра ж туды!

Потым... Потым трэба зайсці на форум і аб усім дакладна распытаць: як зрабіць такі сайт, каб выкладваць відэа, як і дзе зарэгістраваць дамен. А раптам атрымаецца зняць эратычную сцэнку? Ага, тут трэба падумаць, каб не вылічылі і не выйшлі на яго. Колькі пытанняў адразу...

Хутка разабраў і склаў тэлескоп — нельга, каб нават бацькі пабачылі, што ён зноў зацікавіўся ім. Раптам па горадзе пойдуць пагалоскі — бацька разумны, у адзін момант звяжа ўсё ў вузельчык.

Так, цяпер лета. Значыць, ёсць усе магчымасці для таго, каб назбіраць такіх сюжэтаў. Шмат сюжэтаў, сотню! І не спяшацца цяпер, не выкладваць на сайт, і сайт пакуль зрабіць бяскрыўдны, наганяць яму паказчыкі. Ах ты чорт, трэба столькі зрабіць... грошы трэба. Ну, сотня долараў у яго ёсць, назбіраў. Дызайн, хостынг, рэгістрацыя... Прагоны па каталогах... А яшчэ? Эх, знайсці б каго вопытнага на тым форуме, каб хоць за грошы падказаў: як канкрэтна раскручваць такі вось сайт...

Але потым гэта, па вечарах, потым... Цяпер — шукаць сюжэты. Калі ў яго будзе база сюжэтаў, якіх хопіць на пачатак, — выдатна! Ён будзе сядзець дома, ставіць іх спакойна на сайт. Няхай шукаюць, каму цікава: хто там за імі падглядвае, — калі ён носа з тэлескопам не высуне ні з кватэры, ні з балкона...

Ух ты, якая ідэя: «Жыццё рэальнае. Цікавыя і прыкольныя відэасюжэты. Жыццё праз замочную шчыліну. Ніякай рэжысуры! Жывое кіно».

Віктар яшчэ колькі часу стаяў на балконе. Нарэшце хваляванне пакрысе ўлеглося. Ён паглядваў на тое самае далёкае акно, за якім пабачыў маладую сям'ю. «Чаго мне палохацца? Ха, вунь і месячык якраз у тым баку... Раптам сюжэт добры атрымаецца. Ды і паспрабаваць можна, як і што. Трэба ж паглядзець, як відэаролікі апрацоўваць...»

Віктар хутка зноў сабраў тэлескоп, прынёс з пакоя фотаапарат, прыладзіў яго да тэлескопа, навёў і адрэгуляваў.

...У пустым, без мэблі, пакоі маладыя мужчына і жанчына заканчвалі клеіць шпалеры. Цяпер жанчына стаяла перад акном, а мужчына падносіў ёй невялікія кавалкі шпалераў. Твару жанчыны не відаць — толькі яе доўгія, прыгожыя ногі, прыкрытыя кароткім халацікам з замком-маланкай пасярэдзіне. Калі жанчына цягнулася ўверх, тканіна халаціка яшчэ больш адкрывала яе ногі, аж да сцёгнаў. Гэта было настолькі хвалююча для Віктара, што ён націскаў на кнопку спуску фотаапарата, амаль не дыхаючы, і гэтак жа, стаіўшы дыханне, наноў рэгуляваў настройкі тэлескопа — нават ад лёгкага дакранання адлюстраванне выйшла з фокуса, «паплыло».

Глядзеў, стаіўшыся, на павернуты да сябе ЖК-манітор фотаапарата. Ішоў запіс. Вось жанчына, здаецца, закончыла работу, нахілілася, працягнула рукі мужчыне. Той працягнуў рукі насустрач — і зноў яна апынулася ў яго абдымках. Мужчына не спяшаўся апускаць жанчыну на падлогу, кружыў з ёю. Нарэшце яна вызвалілася з абдымкаў, нешта прамовіла яму і паказала на акно — па ўсім, жанчына выгаворвала мужчыне: хоць іх дом стаяў далёка ад іншых і акно на шостым паверсе, тым не менш жанчына непакоілася з-за адсутнасці занавесак на акне. Мабыць, адчувала безабароннасць свайго шчасця перад чужымі зайздроснымі позіркамі...

Віктар спыніў запіс. З унутраным напружаннем, якое перадалося і рукам, няўклюдна разабраў тэлескоп. Адразу ж перапампаваў запіс на камп'ютар. Зрабіў копію, загрузіў праграму апрацоўкі відэафайлаў...

Недзе з паўгадзіны ён самастойна імкнуўся разабрацца з работай праграмы. Нічога складанага не было, вось толькі хацелася б у адным месцы закрыць твар жанчыны — яна павярнулася да акна, яе можна было пазнаць. А твар трэба закрыць — лёгкае пачуццё сораму ад падглядвання за чужымі хвілінамі пяшчоты і любові ўсё ж не праходзіла. Віктар супакойваў сябе: нічога страшнага, гэта ж светлы і чысты момант з жыцця шчаслівых людзей, што тут такога, калі яго пабачаць іншыя людзі? Аднак нешта ўсё ж пратэставала, злёгку азмрочвала такі ўдалы пачатак. Віктар адмахваўся ад налёту прыкрасці і вінаватасці, глушыў яго думкамі аб удалым пачатку. Нарэшце, знайшоў кампраміс: невядома, што яшчэ будзе, знойдзе ён больш удалую праграму, створыць той сайт ці не... А пакуль вось навучыцца абрабляць відэафайлы...

Зайшоў на форум, папытаўся пра патрэбны рэдактар. Спасылак накідалі хутка — там заўсёды збіраюцца больш як тысяча наведвальнікаў.

Паставіў на скачванне праграму відэарэдактара, пайшоў гатаваць сабе каву. Маці з бацькам разам сядзелі ў зале, глядзелі тэлевізар.

«Памірыліся... Ну і добра», — падумаў Віктар. Ён не любіў, калі ў хаце сварыліся. У маці капрызлівы характар. Яе можна зразумець: была выдатніцай у школе, хацела вучыцца ва ўніверсітэце, на матэматычным факультэце. Але не паступіла. Пайшла ў вучылішча, бо думала, што пасля яго лягчэй паступіць. Але напрыканцы вучобы сустрэла бацьку, пажаніліся. Потым з'явілася дачка — сястра Віктара, цяпер яна ўжо працуе пасля заканчэння інстытута ў суседнім горадзе. Потым Віктар нарадзіўся... Усё адкладвала маці з завочнай вучобай. І вось цяпер — повар у рабочай сталоўцы. Паправілася крыху... У сваім сённяшнім жыцці яна вінаваціць бацьку. Неяк, падчас адной сваркі, так і выгукнула: «Я табе ўсё аддала, я пусты хлеб ела, але табе дала магчымасць закончыць інстытут! Ты сёння сярод людзей, а я — сярод катлоў!»

Прыкра такое чуць... Бацька ж хіба ў чым вінаваты? Але мабыць, ён бачыць у нечым сваю віну: ніколі не пярэчыў маці ў яе пакупках у кватэру ці ў адзенні.

Апранаецца яна добра, сочыць за сабой: розныя крэмы купляе, маскі на твар робіць, каб не выглядаць старой...

Праграма спампавалася. Віктар сеў разбірацца — нічога складанага як быццам. Загрузіў свой першы фільм, які ўмоўна назваў «Шпалеры». Некуды падзелася і прыкрасць, і пачуццё віны: колькі там часу прайшло, а для Віктара гэтыя мужчына і жанчына сталі проста кадрамі фільма. Ён праглядваў раз, другі, ужо назіраючы за ім, нібыта з боку прафесіянала: ці змогуць гэтыя кадры некага зацікавіць? Надта ж тут усё цнатліва... Хоць і па-сапраўднаму. Эх, пацалунак бы яшчэ сюды... Няхай бы ён гэты халацік расшпіліў...

Закрыў твар жанчыны ў патрэбных кадрах размытай плямкай. Прагледзеў і расчараваўся — зусім іншае ўражанне. Чорт... Не трэба гэтай плямкі. А што тут такога? Не крадуць жа яны, не сексам займаюцца... Проста клеяць шпалеры. Падумаеш, загалілася попка, дык жа трусікі на ёй...

Ат, пару кадраў абрэзаць ад пачатку, каб дынамікі больш было. О, музыку падабраць, бо пры поўнай цішыні неяк не глядзіцца...

Яшчэ гадзіны з паўтары Віктар прасядзеў, падбіраючы музычны кавалак пад сюжэт. Калі падабраў і збіраўся паставіць, маці прычыніла дзверы:

— Спаць кладзіся. Я стамілася сёння, хачу адпачыць, выключай святло.

Віктар ахвотна згадзіўся — яшчэ помнілася крыўда маці на кухні.

— Усё, кладуся, мам...

## 5

Доўга не мог заснуць. Думаў пра заўтрашні дзень: як вярнуцца з таго лесу з сумкай і тэлескопам так, каб бацькі нічога не заўважылі? Самы ж час для назірання менавіта 18.00—19.00 гадзін вечара... Мабыць, трэба зноў да Лёшкі тэлефанаваць — пакіне ў яго сумку. Лёшка чалавек надзейны, хоць і цялепкаваты.

А больш Віктару і разлічваць няма на каго. На Юрыса, з якім сядзяць разам за партай ужо некалькі гадоў? Не, у таго сваё жыццё. У кватэру не пусціць проста так, запатрабуе пра ўсё расказаць. Не такі ён чалавек. Столькі разам прасядзелі, а не блізкія сябры. Быццам і ёсць ім аб чым пагаварыць, быццам і думкі супадаюць у многім, але пасля школы не было, каб разам куды падаліся. У Юрыса заўсёды свае справы. Вось здымкі з тэлескопа яго цікавілі. І на камету ён прыходзіў глядзець штодзень, аж пакуль яна не знікла. Дарэчы, камета іх зблізіла да той мяжы, якая дазволіла сесці за парту ў наступным годзе...

А Лёшка — просты і зразумелы. Цікава, вось ёсць для эпіграмы ўсё неабходнае: і характар яго рахманы, і захапленне праграмаваннем, а не атрымліваецца пакуль эпіграма. Хочацца, каб была яна не проста дасціпная, а цёплая, каб характар Лёшкаў паказаць, яго надзейнасць...

Ат, напішуцца яшчэ эпіграмы. Вось будзе дзяжурыць на той вышцы — панапісвае вершаў...

...Прачнуўся позна. Паеў, што прыгатавала маці, сабраў у сумку ўсё начынне: тэлескоп, штатыў, фотаапарат, запасную карту памяці, яшчэ адзін камплект акумулятараў, колькі катлет і хлеба ў мяшэчку, бутэльку з вадой. Патэлефанаваў маці, што будзе ў сяброў, мо пойдуць на вадасховішча ля горада, каб не перажывалі, калі яго дома не застане. Зрэшты, няхай тэлефануе, як будзе хвалявацца...

От жа, з аднаго боку, мабільнік — рэч добрая, проста выдатная. Цяжка ўявіць, як раней абыходзіліся без яго. З другога боку — здраднік сапраўдны. У любы момант цябе адшукаюць. А як не адказваеш ці адключышся, так адразу і думаюць, што нечым непатрэбным займаешся...

Дабраўся спачатку да таго самага берага рэчкі, дзе класам адзначылі заканчэнне навучальнага года, потым напрамкі, праз лес, пайшоў да вышкі. Доўга ішоў наўзгад, бо з-за дрэў яе не было відаць. Імкнуўся арыентавацца выбраным накірункам, каб не мінуць. Ішоў і ішоў, ужо здалося, што вышка засталася недзе за спінай ці ў баку, але яна нечакана вытыркнулася наперадзе: зробленая з тоўстых бярвенняў трохпавярховая піраміда з абсечаным верхам, з прамежкавымі паверхамі.

Падышоў да яе асновы, агледзеў. Вышка была старая, але не трухлявая. Нідзе паблізу не бачылася ні сцежкі, ні прыкамечанай травы, значыць, сюды даўно ніхто не прыходзіў. І не дзіўна — месяц дажджлівы. Ці, можа, леснікі скарыстоўваюць іншую.

Віктар пабачыў, дзе пачынаецца лесвіца, і расчаравана вылаяўся — бліжэйшая да зямлі тоўстая перакладзіна, ад якой лесвіца шыбавала ўверх на другую перакладзіну, пачыналася метры за тры ад зямлі.

А можа, непатрэбна яму гэтая вышка? Навошта той сайт, тыя долары ды тая кніга? Пасядзіць яшчэ крыху над сваім «самвыдатам», папросіць Мэры — хай на дапамогу бацьку пакліча, той жа ў рэдакцыі працуе. А там спецыяльныя праграмы ёсць для падрыхтоўкі выданняў... Ці сам патрэбную праграму паставіць, за месяцы тры, не спяшаючыся, навучыцца, надрукуе тры дзясяткі асобнікаў!

Віктар прысеў бездапаможна ля вышкі, абапёрся спінай на адну з трох яе ног. Чорт, лесвіцы няма... Быццам знак які — не чапляйся ты за гэты сайт! Жывыя людзі, гэта ж не кошак з сабакамі ў праграме «Сам сабе рэжысёр» здымаць... Пазнае хтонебудзь сябе, яшчэ пачнуць шукаць аўтара... Усплыве аднойчы...

Віктар падняўся, пакінуўшы сумку на зямлі, стаў абыходзіць вышку па перыметры — больш для таго, каб упэўніцца, што ён не вінаваты ў сваім адступленні, што так скла́ліся абставіны...

У некалькіх кроках ад другога слупа трохкутніка ў густой траве пад кустом віднеліся дзве жэрдкі з папярэчынамі. Лесвіца!

Усё правільна, леснікі яе адцягнулі, каб выпадковыя тут не лазілі!

Усе сумненні раптоўна зніклі, як і не было. Прыцягнуў лесвіцу, пасоп, пакуль паставіў — жэрдкі намоклі і лесвіца была цяжкой. На яе канцы мацавалася вяроўчына. Так і ёсць, гэта спецыяльна для таго, каб узлезшы, лесвіцу за сабой падняць. Мала хто міма будзе праходзіць, яшчэ паваліць ці знясе, а ты скачы з вышыні...

І ўвогуле, выдатна, калі лесвіца будзе на другім «паверсе» — так куды спакайней, ніхто не заспее знянацку...

Вышыні Віктар не баяўся, аднак чым далей узнімаўся, тым больш, здавалася, раскачвалася ўся вышка. Хто ведае, мо яна ў аварыйным стане, таму яе і закінулі... Але вабіў далягляд, які пачынаў пакрысе адкрывацца і з кожным крокам наверх рабіўся ўсё шырэйшым і захапляльным.

І нарэшце — вось яна, апошняя невялікая пляцоўка, мо паўтара на паўтара метра. Парыпваюць бярвенні. Трэба асцярожней... Дастаў штатыў, не спяшаючыся, стаў складваць. Выпрашыў у поўны рост не ўставаць — хто ведае, раптам нехта блізка пройдзе, навошта свяціцца...

А рака і той бераг — як на далоні, быццам прама перад табой. Вось група хлопцаў і дзяўчат загараюць, у карты гуляюць... Далей крышку, між кустамі, быццам у асобнай кабінцы, дзве дзяўчыны загараюць. Топлес! Цяпер толькі пачакаць, пакуль якая паднімецца... Хоць ты каменьчыкам кінь. Але ж не даляціць каменьчык...

Радаснае ўзбуджэнне авалодала Віктарам. Хацелася засмяяцца ўголас — так проста ўсё атрымалася, так цікава зверху назіраць...

Вось аўто дарагое, кампанія колцам ля разасланага на траве абруса. О, багаты стол...

Чужое баляванне абудзіла апетыт. Навёў павелічэнне так, каб бачыць амаль увесь бераг на маніторы фотаапарата, асцярожна пакратаў рукой папярэчыну за спінай — моцная, вытрымае... Абапёрся, ногі выцягнуў, дастаў з сумкі харчы.

Эх, як жа тут здорава! Ветрык лёгкі, па баках глядзіш — не нагледзішся. Мо б напісаць што?

Віктар выцягнуў нататнік, ручку, але не было ніводнай думкі! Толькі банальныя словы захаплення, якія няма ніякага сэнсу запісваць. Вось жа: распірае ад пачуццяў, а нічога не пішацца. Ну і няхай... Лепш паназіраць...

Ага, ля дзяўчат нейкі рух. Запіс! Яны ўжо збіраюцца... Адна яшчэ пайшла ў ваду. Ты глядзі, не саромеецца ніколькі, што ў адных трусіках... І тыя хлопцы недалёка... Ці адтуль нічога не відаць?

Дзяўчына праплыла колькі, выйшла з вады і скіравала да сяброўкі. Віктар падкручваў настройкі і рукі ўздрыгнулі — другая дзяўчына ў гэты час пераапраналася. І гэтая, што выйшла з вады, скінула з сябе ўсё, узяла стракаты ручнік і энергічна выціралася...

У Віктара сціснула горла — першы раз ён бачыў, як вольна сябе пачувае дзяўчына, калі за ёй ніхто не назірае. Першы раз у жыцці ён бачыў аголенае жаночае цела не на экране. Нязмушанае, спакойнае. Прыгожае. Бачыў усё да драбніц...

Дзяўчаты апрануліся.

Віктар выключыў запіс. Яго распірала. Хвалюючае відовішча аголеных целаў адышло на задні план — цяпер Віктара салодка тлуміла радасць першай удачы. Які сюжэт! Няхай і просты зусім, але ж галоўнае — натуральны! О, такі захочацца пραглядзець не адзін раз...

Дзяўчаты сабраліся і пайшлі. Віктар аглядваў бераг, але нічога, вартага ўвагі, не знаходзіў. Простыя людзі, звычныя паводзіны. Ужо хацеў збірацца — не цярпелася скінуць запіс на капмр'ютар і апрацаваць, падабраць музыку. Але стрымліваўся: а раптам вось цяпер ды нешта пачнецца, як толькі ён зазбіраецца? Яшчэ ж далёка не цёмна.

Назіраў яшчэ з гадзіну. І не дарэмна! Якраз на тое ўтульнае, зацішнае месца, дзе загаралі дзяўчаты, пад'ехаў аўтамабіль. Мужчына паўнацелы, важны такі і жанчына — проста тоўстая! Па ўсім, муж з жонкай... Жанчына схадзіла да вады, нешта задаволена сказала мужчыне — той якраз распранаўся. На ім былі смешныя доўгія трусы. Жывот вялікі, скура белая. Жанчына таксама адышла бліжэй пад куст і пачала распранацца. Віктар уключыў запіс — а раптам нешта цікавае?

Не цікава атрымалася — амаль агідна. З сумкі жанчына дастала купальнік.

Яе скура падалася выбеленай, нейкай несапраўднай.

Усё было непрыгожа. Вельмі. І рухі жанчыны... І цела яе, азызлае, вялікае.

Мужчына падышоў, клапатліва паправіў купальнік на спіне жанчыны. Потым прыабняў таўстуху, і яны пайшлі да вады.

Брыдота, пасміхаўся Віктар. Але няхай будзе. Не ўсе ж на мадэльных прыгажунь вылупліваюць вочы.

...Няўжо такую жанчыну можна кахаць? Некалі мо і яна была зграбнейшая...

Але недзе там, за гэтай уяўнай брыдотай цеплілася і іншае, вельмі блізкае да таго, калі маладыя муж і жонка клеілі шпалеры ў кватэры. І тую сцэну са шпалерамі, і гэтых мужа і жонку збліжала між сабой светлае пачуццё ўвагі і павагі адзін да аднаго...

Нечаканая думка прымусіла замерці: а яго маці хіба мадэль? Віктар адагнаў думку, але яна вярнулася, і ён зразумеў — не схавацца ад яе. Так, былі ў мінулым годзе на рэчцы разам, то і ў маці жывот не вельмі каб... Пісягі на ім... Маці толькі ўсміхнулася, калі прыкмеціла кароткі сарамлівы позірк Віктара:

— Што? Расцягнуў мой жывот, пакуль сядзеў там, а цяпер дзівішся? — засмяялася так шчасліва, быццам галоўнай мэтай жыцця было нарадзіць, а што жывот расцягнуўся, што пісягі на скуры — то як ордэнскія планкі.

І Віктару стала вельмі ўтульна. Тады ён упершыню паглядзеў на маці як на жанчыну, а на бацьку — як на мужчыну. І ўпершыню пабачыў праяўленне іх пачуццяў — праз кароткія дотыкі, погляды, праз іх дураслівасць у вадзе...

Калі б маці распранулася цалкам — хіба яна была б прыгожай?

Не, Віктар не ўяўляў маці аголенай, не мог... Іншае ўяўленне да халоднага ліпкага поту працяла свядомасць: вось так, як Віктар назірае за гэтай невядомай яму парай сталых людзей, нехта недзе назірае за яго маці...

Не, гэта немагчыма. Чаго ён так разнерваваўся? Маці ніколі не паедзе сюды — ён чуў, як яна казала пра гэта месца — «публічны бераг». Па-другое, яна ніколі не стане пераапранацца вось так. І па-трэцяе, у каго ў горадзе яшчэ ёсць тэлескоп? Хто яшчэ мог дадумацца да такой ідэі? Няма ў сеціве падобнага сайта. А адначасова двум у адным месцы не магла прыйсці такая ідэя... Дарэмна ён распсіхаваўся. Але хопіць на сёння! Два выдатныя відэаролікі. Толькі фон музычны падабраць. Ды адзін ролік побач з другім паставіць! Назваць, напрыклад, «Кантрасты». Цікава будзе...

Удаўся дзень! Першы раз — і адразу два такія сюжэты. За месяц можна пад сотню замалёвак зрабіць. І пра балкон не забывацца...

Тэлескоп Віктар, як і планаваў, пакінуў у Лёшкі. Той і пытацца не стаў нічога. Вось дзе надзейны чалавек.

**6**

Дзіўна, але ўсе хваляванні зніклі, калі сеў за камп'ютар. Зноў тыя самыя жывыя людзі на беразе сталі звычайнымі кадрамі, з якімі трэба працаваць: нейкія выразаць, каб не зацягваць, нешта і месцамі памяняць... Працаваў гадзіны дзве, запусціў праграму перазапісу фармату — яна доўга працуе, пайшоў на кухню.

Бацька глядзеў баявік — Сцівен Сігал у галоўнай ролі. Віктар любіў гэтага акцёра і яго фільмы. Гэткі твар непранікальны, мужны. А позірк... Ды і фільмы цікавыя. Прысеў і сам на канапу, хоць фільм гэты ўжо глядзеў.

— Ідзі ў маці папытайся, мо яна гарбату будзе, — сказаў бацька.

Маці ад гарбаты не адмовілася — яна глядзела свой чарговы серыял. Віктар зрабіў, паклікаў. Якраз пад рэкламу маці прыйшла на кухню.

— От, вам толькі б баявікі глядзець! Забіваюць, рэжуць, душаць, — скрывіла яна вусны.

— У сённяшніх серыялах крыві не меней, — спакойна заўважыў бацька.

— Ну, ты не глядзіш, то не кажы. Тут во адзін за другім... Божачка мой...

— Тут жа гульня, — усміхнуўся бацька. — Лепш такі баявік паглядзець, чым адзін выпуск «Надзвычайных здарэнняў».

— Што ты раўняеш? Там — жыццё. І ў серыялах — жыццё.

— У тым і справа, — бацька рэзка сеў (ён паўляжаў на канапе), узяў кубак з гарбатай. — Вось гэты баявік ад пачатку — кіно. Тут усё па законах жанру: гінуць толькі дрэнныя ды другасныя. Галоўныя героі — добрыя і заўсёды ў апошні момант перамагаюць. Тут — шчаслівы канец. Галоўная думка: дабро перамагае зло...

— І ў серыялах так! — запярэчыла маці.

— Трошкі не так, — адказаў бацька. — Там забіваюць, гвалцяць, труцяць — і хочуць, каб мы верылі, што так бывае сапраўды. Што сапраўды ў жыцці не бывае

без бандытаў, без падману, без здрадніцтва сяброў і каханых. І дабро далёка не заўсёды перамагае...

— Мне лепш так глядзець, чым бясконцую страляніну.

— Ну, няхай і лепш... Вунь сёння паўгадзіны таму паказвалі, як аўтобус насмерць збіў жанчыну.

— Я бачыла.

— Вось... Добра гэта?

— Паказалі, ды і ўсё, — паціснула плячыма маці, але адчувалася, што яна гатова прызнаць, што бацька ўсё ж слушна кажа. — Я не глядзела надта.

— А гэты выпадак тры разы на дзень паказвалі, — разгарачыўся бацька. — І гэта страшна! Страшна, што смерць чалавека, сапраўдную смерць — паказваюць як відовішча! Застаўся адзін крок: паказваць смяротную кару па тэлевізары, як у сярэднявеччы!

— Ды не крычы, я разумею...

— Ды я не крычу, — пацішэў бацька. — Што людзі хочуць бачыць, тое ім і паказваюць...

— Няўжо, людзям цікава бачыць чыюсьці смерць? — запытаўся зацікаўлена Віктар. — Чаму даўней прыходзілі глядзець смяротную кару на плошчу?

— Смерць заўсёды была адной з самых загадкавых таямніц для чалавека. Момант пераходу ад жыцця да смерці хваляваў і будзе хваляваць... Адна справа, калі памірае чалавек хворы, і зусім іншая, калі вось ён быў жывы і здаровы, а ўпала гільяціна — пакацілася галава...

— Уй, ты пачнеш зараз, — чмыхнула маці. — Дай спакойна папіць.

— Добра, не буду, — паабяцаў бацька, але дадаў для Віктара: — Думаю, што людзі ўсялякія жудасці таму прагнуць глядзець, што самі знаходзяцца па гэты бок, у бяспецы. Гэта і супакойвае, і дае адчуванне асабістай упэўненасці: вось, там такая бяда, а я ў фатэлі...

— Дык што дрэннага ў гэтым? — паціснуў плячыма Віктар.

— Блага тое, што ад сузірання знікае суперажыванне. Ты прывыкаеш да чужой бяды. Яна робіцца фактам, але фактам экранным, відовішчным. З другога боку, гэта кшталту наркотыка: калі ў цябе нешта дрэнна ў жыцці — паглядзі «Надзвычайныя здарэнні» — адразу лягчэй стане. Атрымліваецца замкнёнае кола...

— Ат, ты ўжо нагаварыў сем бочак, — скрывілася маці. — Вунь даўно даказана, што дзеці становяцца злачынцамі, калі такіх баявікоў наглядзяцца.

Бацька сумна ўсміхнуўся ў адказ:

— А іх матулі ў гэты час глядзелі «санта-барбары»...

— Ты хочаш мне настрой сапсаваць? — са злосцю спытала маці, адставіла кубак. — Ад таго, што я адну гадзіну ўдзень пагляджу тэлевізар, мой сын вырасце бандытам? Ты гэта хочаш сказаць?

— Гэта ты ўжо завярнула, — стаў бараніцца бацька. — Я толькі...

— Усё, ведаю я тваё «толькі», як пачнеш, дык не спыніць.

Маці пайшла з кухні, за ёй пасунуўся ў свой пакой і Віктар.

Відэаролікі атрымаліся!

Адзін — крыху эратычны, але ў нечым і цнатлівы, просты. А другі, дзе старыя, — дык проста смешны! Захацелася вось цяпер, адразу выкласці іх у сеціва — няхай бы хто хоць які камент пакінуў!

Але куды выкладаць? Сайта ж няма. Дамен трэба...

Што ж, сёння хопіць практыкі — час брацца за тэорыю. Тут ужо трэба пытацца...

Віктар зайшоў на той самы форум, пра які яму распавёў Лёшка. У раздзеле «Самае living» запасціў тэму: «Ёсць ідэя. Як рэалізаваць?» «Поўны прафан, прызнаюся шчыра. Сякія-такія веды ёсць, агульныя. Але маецца ідэя. Хачу зрабіць сайт і зарабіць крыху. Грошы надта трэба. Хто дапаможа? Аддзячу...»

Адказы пачалі з'яўляцца адразу ж.

«Што за ідэя? Як табе дапамагаць, калі невядома нічога?»

«Хлопец, не ўздумай паліць ідэю, калі яна сапраўдная».

«Чым аддзячыш? Калі ідэя добрая, магу дапамагчы, як возьмеш у долю».

Віктар задумаўся: што расказаць і каму... Потым адказаў у тэме:

«Ідэя... Ідэя не такая і новая. Скажам, зборнік цікавых відэаролікаў. Але сайт будзе для дарослых, так што тут складанасці».

«Адалт? Так і кажы, знайшоў ідэю. Складанасці ёсць. Дамен, хостынг асаблівыя трэба. Грошы...»

«Парнухі не будзе. Хіба крыху эротыкі. Грошай трохі ёсць. Дзе і як рэгістраваць дамен? Хостынг?»

Перагрузіў браузер і пабачыў, што ў асобцы чакаюць два паведамленні. У адным: «Гатовы дапамагчы. Ёсць ужо дамен зарэгістраваны, хостынг ёсць. Дамен праіндэксаваны. Дорага не вазьму».

А вось другое абрадавала вельмі: «Зямляк, я з твайго горада. Слухай уважліва: калі на самай справе збіраешся рабіць нешта падобнае, не свяціся. Наш Крымінальны кодэкс ніхто не адмяняў. Ты думаеш, тут толькі юзеры сядзяць, а нікога з органаў не бывае? Другое: ні з кім у долю не думай уступаць. Толькі сам, лепш пазыч (магу і я), але ў долю не бяры. Будуць пытанні — задавай! Алік».

Віктар перачытаў яшчэ і яшчэ раз. Радасць ад таго, што знайшоўся зямляк на такім форуме, які гатовы дапамагчы, пастунова дапоўнілася асэнсаваннем неабходнасці мер перасцярогі, пра якія казаў Алік. Віктар глянуў профіль свайго земляка: зарэгістраваны два гады таму, высокая рэпутацыя, мноства пастоў. Віктар задумаўся. Найменш яму хацелася некаму адкрываць сваю ідэю. Аднак... Як самому разабрацца? Які і галоўнае — дзе — рэгістраваць дамен? Дзе браць надзейны хостынг? Не на Юкозе ж...

Адказаў Аліку праз асобку: «Калі дапаможаш — буду вельмі ўдзячны. Пра рэгістрацыю дамена нічога не ведаю...»

*Алік*: «Магу зарэгістраваць, ёсць пэўныя кантакты. Дорага не будзе. На год хопіць? Веб-мані ёсць?»

*Віктар*: «Не, кашалёк пусты. Але магу пакласці, картку куплю...»

*Алік*: «Які сэнс, калі мы ў адным горадзе? У мяне ёсць ВМЗ, магу зарэгістраваць дамен, хостынг аплачу, аддасі па курсе».

*Віктар*: «У мяне сотня долараў ёсць, на такую суму можна разлічваць».

*Алік*: «Ну, сотня — гэта не грошы. А дызайн — абы наляпаць? Калі хочаш зрабіць рэч, рабі адразу нармальна. Самы просценькі дыз і вёрстка — баксаў 50. КэМээСку выбраў?»

*Віктар*: «Не ведаю... Мне б простую якую. А можа, ролікі на Ютуб запіхваць?»

*Алік*: «Рассмяшыў! Які сэнс у тваім сайце, калі ролікі на Ютубе будуць? Іх сабе хто захоча скапіруе і паставіць... Трэба DLE ставіць, і не ламаную».

*Віктар*: «Гэта якую?»

*Алік*: «У, ты школьнік зусім...»

*Віктар*: «Школьнік. Грошы трэба».

*Алік*: «Хоць прызнаўся... Я ўнівер нядаўна закончыў, такім вось, як і ты, пачынаў. Карацей, давай сустрэнемся, пакуль я ў горадзе, — абгаворым. Згодзен?»

Віктар павагаўся адно імгненне — цяпер ён відавочна адчуваў, што без староннняй дапамогі яму не справіцца, а вось пытацца больш няма ў каго — хіба што ў Лёшкі. Лёшку нельга ведаць, што там будзе за сайт у Віктара. Нікому нельга ведаць. А гэты Алік — ён чужы, хутка з’едзе (як піша). Ну, няхай ён і небескарысліва дапаможа, няхай возьме колькі грошай. Мо ён сам і ёсць той дызайнер, то хай заробіць...

*Віктар*: «О’кей, давай заўтра сустрэнемся».

*Алік*: «Заўтра дык заўтра. Прыходзь у інтэрнэт-кафе, што на вакзале, я там буду да поўдня, комп № 10».

Віктар нейкі час сядзеў крыху разгублены. Справа яго ўвачавідкі зрушылася з месца. Тая гара жаданняў, мар і магчымасцей, быццам куча самага разнастайнага металалому, цяпер яскрава набыла форму спраўнага механізма — маштабаў якога Віктар яшчэ не мог уявіць цалкам. Ён быў ініцыятарам абуджэння гэтай гары, удыхнуў у яе жыццё — і цяпер было па-сапраўднаму страшна: а ці справіцца ён?

Гэтыя яго падглядванні з тэлескопам — дзіцячая забаўка. Дастаткова ўсяго двух шчаўчкоў мышкай, каб і следу іх не засталося на кампю’тары. І не ведае ніхто, і Віктару хутка падасца, што вышка тая яму прыснілася... А вось цяпер гэтыя відэаролікі могуць пачаць самастойнае жыццё... Ат, фігня якая! Чаго ён разнерваваўся? Урэшце, якая розніца, дзе будуць тыя ролікі? Ён жа ўсё адно ў любы момант можа іх усе, адным махам, выдаліць, сайт свой закрыць і сцерці, як яго і не было! Наступае важны момант: цяпер трэба аддаваць грошы. Вось дзе сабака закапаны. Але што тут думаць — гэтых яго 100 долараў ці ёсць, ці няма. Калі і не атрымаецца нічога, калі прападуць — невялікая бяда, не такія і грошы. З другога боку — грошы робяць грошы. Хочаш мець — спачатку патраць. Хопіць ерундой займацца...

Назаўтра Віктар сустрэўся з Алікам. То быў хлопец гадоў 25-ці, з рудаватай рэдкай бародкай. Высокі — вышэй за Віктара мо на галаву, хударлявы. У акулярах.

— Аляксандр, — працягнуў руку Віктару і, калі той назваў сваё імя, падкаціў свабодны стул да стала, за якім сядзеў з уключаным камп’ютарам.

— Так, Віктар, давай па-сур’ёзнаму, — загаварыў Аляксандр. — Мне тваіх грошай не шкада, але хачу перасцерагчы, як мяне некалі вопытныя людзі перасцерагалі. Адалт у нашай краіне — забаронены. Сайты знаёмстваў — забаронены. Ты разумееш, чым усё можа скончыцца? — Аляксандр гаварыў ціха, сур’ёзна, але без ценю павучання. — Таму ты пяць разоў падумай...

— Ну, тут не адалт, — усміхнуўся Віктар. — Трэба рэсурс з добрым наведваннем і зарабіць на партнёрках.

— На адалце ж усё роўна, так?

— Так, трэба адалт-трафік.

— Няма розніцы — порна-банеры на сайце...

— Ды я разумею. Таму вось і пытаюся — як і што...

— Разумееш, тады бярыся... Дарэчы, сотні паўтары баксаў укласці трэба адразу. Ты думаеш, адаб’еш сваім сайтам грошы?

— Думаю, адаб’ю, — упэўнена ўсміхнуўся Віктар. — У рэгіёне такога няма, а цікавасць будзе.

— Вось як? — крыху здзівіўся Аляксандр. — Тэму не прашу паліць, але ж у нашым горадзе толькі штук пяць форумаў розных...

— То не форум...

— Добра. Твая справа. Калі мы тут, то давай адразу дамен зарэгіструем. Імя прыдумаў? — Аляксандр хутка набраў адрас патрэбнага рэсурсу ў браўзеры, адкрылася старонка з англамоўным тэкстам.

— Якое імя? — ніякавата перапытаў Віктар.

— Каб на цябе... Адрас, па якім на твой сайт заходзіць будуць, — крыху раздражнёна адказаў Аляксандр.

— А, гэта... Прыдумаў: рэал кропка ру.

Аляксандр здзіўлена з-пад ілба паглядзеў на Віктара.

— Віктар, ты дзіця... Такія імёны даўно заняты. Другое: у зоне «ру» ніякага адалту. Порна толькі ў зоне «орг» магчыма — гэта зона для ўсялякага смецця. Але імя — real.org — будзе занята. Думай давай што мудрэйшае...

— Не ведаю тады... — Віктар павагаўся і дастаў з сумкі фотаапарат, знайшоў той відэазапіс з дзяўчатамі на беразе: — Вось, глядзі: прыкладна такія ролікі будуць.

Аляксандр з цікавасцю ўтаропіўся ў дысплей фотаапарата. Прыцмокнуў языком, вочы яго свяціліся цікавасцю і захапленнем.

— От жа маеш... Малаток! Як ты зняў? — ён вярнуў фотаапарат. — Але — не мая справа. Значыць, твае ролікі — падглядванні?

— Так, з вялікай адлегласці...

Тут Віктар нечакана спалохаўся: чаго ён так раскрываецца перад гэтам Алікам? І вырашыў хоць крыху схітрыць: — Як і што здымаюць — не ведаю. Мая справа — сайт і апрацоўка ролікаў.

— Ды я зразумеў, — працягнуў з загадкавай усмешкай Аляксандр. — Умееш з відэа працаваць. Пахне далёка не прыемным, а з другога боку — чаму гэтаму не быць? Падобнага многа... Цяжка будзе раскруціць, надта ж канкурэнцыя высокая. А вось як па рэгіёне разляціцца пагалоска, то трафік будзе. Давай у дамене наш горад наперадзе паставім і далей — рэал кропка орг.

— Давай, — узрадавана адказаў Віктар: яму было радасна не толькі ад ідэі імя дамена, але і ад таго, як Аляксандр ацаніў яго ролік і саму ідэю сайта.

— Ну, глядзі, каб потым не казаў, што я цябе кінуў, — усміхнуўся Аляксандр. — Тут заказваем адразу і дамен, і хостынг на 50 гігоў. Пакуль хостынг на паўгода... Пароль запішы цяпер і логін таксама. Зараз скрынку паштовую аформім... Тыя ж логін і пароль... Дома зойдзеш і зменіш пароль на свой... Усё. Суму бачыш? 44 ВМЗ. Я выставіў сабе рахунак, вярнуся дахаты — аплачу. Англійскую ведаеш крыху — то з панеллю кіравання даменам разбярэшся. Панель хостынга таксама не складаная. Пытанні?

— Ды процьма ў мяне пытанняў, — заспяшаўся Віктар, бо яму падалося, што Аляксандр, з якім ён адчуваў упэўненасць у справе, зараз возьме ды пойдзе, знікне назусім. — Ну, ты ж казаў, што дызайн, вёрстка... І потым сама КэМээСка... Як настроіць яе? А потым раскрутка...

— Так, хлопча... Я шчыра скажу: у грунтоўным дапамагчы — я дапамог. А далей, выбачай, — то ўжо грошы. Можаш заказаць дызайн на форуме, там і вёрстка...

— А ты ж казаў, што ёсць у цябе знаёмы дызайнер?

— Я і сам дызайню. І вёрстку раблю. Калі хочаш, давай так: выбіраю табе КэМээСку, раблю дыз, вёрстку, настройваю... Здаю табе цалкам гатовае — застанецца толькі садзіцца і заліваць ролікі. Дарэчы, каб добра індэксаваліся старонкі, ды можна было без цяжкасці аптымізаваць — трэба невялікі кантэнт пад кожны ролік, а ролікі разбіваць на раздзелы, тыя дзяліць на больш дробныя... Трэба кантэнт пад раздзелы.

Віктар прысвіснуў.

— Ого, я і не падазраваў напачатку, наколькі ўсё гэта...

— Што? Цяжка?

— Ды не... Неяк... сур'ёзна.

— А ты думаў! — Аляксандр паблажліва ўсміхнуўся. — Інтэрнэт — такое ж месца працы, як і ўсюды. І справу ў сеціве рабіць — той жа падыход трэба: грунтоўны, удумлівы... Як я зразумеў, структуры сайта ў цябе пакуль няма?

— Якой структуры? А... раздзелаў?

— Ды не толькі раздзелаў! Будуць каменціцца ролікі? Будзе нейкая геста? Чат? Магчымасць скачваць ролікі? Магчымасць юзеру заліць свой ролік?

— Так... Мне трэба падумаць над усім, — крыху разгубіўся Віктар.

— Давай, думай. Я распрацую пакуль канцэпцыю дызайну, пастаўлю КМС на сайт, няхай індэксуецца. Так, пра грошы... За ўсё пра ўсё — сотня баксаў. Каціць?

— Пакаціць, — адказаў Віктар, адначасова рашаючы задачу: дзе знайсці яшчэ 50 долараў? — У мяне з сабой сотня. Гэта на хостынг і палова табе за работу цяпер. Пакуль закончым — будуць астатнія. Так нармальна?

— Нармальна, — махнуў галавой Аляксандр, усміхнуўся з разуменнем: — Што, цяжка вось так выкласці ўсе свае грошы першаму сустрэчнаму? — хлопец відавочна бачыў ваганні Віктара. — Я табе скажу, што ў сеціве ўсё трымаецца на партнёрстве і даверы. Ніякіх кантрактаў-дамоў. Так, здараюцца і кідкі. У фрылансе ўсё магчыма. Але інакш нельга зрабіць усё хутка і максімальна танна.

— Ды я ведаю, здагадваўся... — адказаў Віктар. — Я ж быў на форуме аптымізатараў. Нават спрабаваў капірайтарам падзарабіць.

— Значыць ты ў тэме.

— У тэме. Вось, — Віктар выцягнуў з кішэні соценную паперку. — Трымай.

— Ты не перажывай, — усміхнуўся Аляксандр. — Мой жа нік на форуме ведаеш? А на тым форуме — мая работа. Хто захоча сабе непрыемнасцей, калі збіраецца зарабляць грошы? Дастаткова аднаго паста з абвінавачваннем, як твая рэпутацыя паляціць к чорту. Я тры гады там працую, у мяне кліенты ёсць пастаянныя. А дагаворы здараюцца на 300 і больш долараў. І што — мне кінуць цябе на 50 баксаў і згубіць сваё месца?

— Ды я веру, — ужо спакойна адказаў Віктар. Аляксандр яго пераканаў у правільнасці свайго падыходу да справы. — Значыць, я займуся структурай сайта... Як цябе знайсці?

— Можаш праз форум. З сямі вечара я там да гадзін трох ночы. Штодня.

— Ну, тады я пайшоў, — узняўся Віктар.

— Давай, — Аляксандр працягнуў яму руку, пацісну. — Ды не спяшайся, бо перарабляць куды складаней, чым адразу зрабіць усё.

— Зразумела, — кіўнуў Віктар.

## 7

Віктар вяртаўся да сябе, і галава цалкам была занята сайтам. Трэба наперад падумаць над сістэматыкай, каб юзеру было зручна карыстацца, хутка знаходзіць патрэбнае... Вось ёсць у яго тры ролікі — іх ужо можна разнесці па трох раздзелах. Скажам, «Дзяўчаты на пляжы», «Жыццё ў вокнах» і... як жа пра тых старых прыдумаць? Няхай напачатку «Прыколы»? Не, які тут прыкол? «Розныя людзі»? Ат, не трэба зацыклівацца, вось займее ён ролікаў 10... Стоп, трэба сказаць Аліку, каб была магчымасць дадаваць розныя катэгорыі, мяняць, пры неабходнасці назвы... А цяпер... Цяпер пара браць тэлескоп — і наперад, да вышкі. Там і над структурай сайта падумае як след. Заадно кантэнт пад тыя тры ролікі напіша. Колькі ж работы! Трэба адразу над ролікамі да канца працаваць, не зацягваць, а то потым давядзецца сядзець...

Сённяшняя дарога Віктара да вышкі была падобна на шлях чалавека да свайго месца работы — Віктар ішоў упэўнены, спакойны, без ценю хвалявання. Адно, што перад самай вышкай разгарэўся сапраўдны азарт, быццам у якога грыбніка перад узлескам ці ў рыбака перад невядомай затокай: што сёння? Пашанцуе ці не?

За некалькі гадзін на хісткай вышыні Віктару пашанцавала тройчы. Куды цікавейшы за ўчарашні ролік пра дзяўчат. Сёння ў іншым месцы загарала ажно трое, усе — топлес. Разгульвалі па беражку без аніякіх азіранняў па баках. І ўсе — як на падбор: адна хударлявая, грудзі маленькія, невялікага росту, другая — мажная, клубы і грудзі ёмкія, усё такое дзябёлае, здаровае. А трэцяя — што мадэль: нібы з часопіснага фотаздымка. І быццам прадчувала, ведала, што за ёй сочаць. Віктара аж бянтэжылі яе паводзіны: гэтак яна карцінна выгіналася, аголеная, так пацягвалася, рукі да неба выпроствала, ды яшчэ паварочвалася тварам пастаянна да вышкі...

За гэтымі трыма ўдалымі ролікамі было больш за тры гадзіны здымак. Колькі кадраў, якія і пачыналіся цікава, а заканчваліся літаральна нічым. Адзін кадр Віктар ледзь не прапусціў. Напачатку сачыў за кампаніяй хлопцаў гадоў па 18—20, іх было сямёра. І сярод іх — адна дзяўчына прыкладна такога ж узросту. Твар яе Віктару не спадабаўся — яна амаль увесь час крывілася ва ўсмешцы, відавочна, была нападпітку. Калі пачаў назіраць за гэтай кампаніяй, баяўся, што вось распачнецца агіднае: хлопцы падап'юць і потым усе сямёра накінуцца на адну. Але, што дзіўна, дзяўчыны нават ніхто не кранаўся, наадварот, дагаджалі, запальнічку падносілі прыпаліць тонкую цыгарэту, піва прапаноўвалі. І яна сядзела сабе, папівала піва з бутэлькі, паліла адну за адной цыгарэткі.

А вось у хлопцаў узнік нейкі канфлікт: адзін даў другому па шыі. У гэты момант Віктар і пачаў запіс. Але канфлікт як быццам патух... Віктар хацеў выключыць запіс, як на палянку нібы віхор наляцеў: падскочылі ці не ўсе адразу. І пачалося сапраўднае «мачылава»: рукамі, босымі нагамі, усё па-сапраўднаму. О, такі ролік хоць бяры і агучвай, як індыйскае кіно з дапамогай кавалка мяса: плясь ды плясь. Хто супраць каго — не разабраць. Адзін супраць усіх, ці ўсе супраць аднаго. Праз пару хвілін трое апынуліся на зямлі з тварамі, залітымі крывёю. На карачках папаўзлі да берага, да вады. Нарэшце, толькі двое засталіся на нагах, спыніліся... абняліся і таксама пайшлі да вады. Там была ці не ідылічная карціна: усе мыліся побач, і ніхто ні на каго не зіркаў варожа. Мала таго — абмыўшы твары, хлопцы паселі на разасланае на траве стракатае пакрывала з горкай сушанай рыбы ў цэнтры і бутэлькамі піва па краях. І смактанне піва працягвалася! Мірна і спакойна, з гаманой і смехам... Але што найбольш уразіла, дык гэта паводзіны дзяўчыны: за ўвесь час кароткай бойкі яна нават з месца не кранулася, не паварушылася, быццам нічога абсалютна не адбывалася, — пасмоктвала піва ды паліла... Бы тая каралева на турніры ў яе гонар.

Віктар хоць і радаваўся ўдачы, аднак радаваўся чыста прафесійна, ці што. Цяпер, не толькі здымаючы, а спрабуючы адразу класіфікаваць знятае ды яшчэ рабіць накід нейкага тэкставага анонса, ён па-сапраўднаму разумеў усю складанасць работы. Вось прыдумай назву для роліка, каб зацікавіць юзера? Напішы кароткі анонс, але такі, каб прабег хто вачыма і абавязкова шчоўкнуў, паглядзеў... Назва як быццам падабралася — «На выбарах караля для каралевы». А што? Тут адна красуня сядзела, хлопцаў сямёра, вырашылі яны выбраць аднаго, самага моцнага, адважнага, спрытнага. Тут што галоўнае? Не быць надта сур'ёзным, сцёбу паболей, гумару, крэатыву...

Хоць, па праўдзе, як гумарыць і сцябацца, праглядваючы трэці адзняты за сёння ролік, Віктар не ведаў.

...Без асаблівай надзеі ён навёў тэлескоп на чарговае аўто, што прытармазіла між двух стагоў-кустоў. Ужо колькі такіх «сустракаў» — нічога цікавага. А тут выйшаў мажны дзядзька ў гальштуку, а з ім — ну зусім яшчэ дзяўчо. Спадніца кароткая, блузка расшпілена нізка. Праз хвіліну была накрыта «паляна»: прысмакі і каньяк — Віктар гэта добра разгледзеў.

«Начальнік нейкі», — вырашыў для сябе хлопец. Бо які смяротны можа піць, ведаючы, што яму праз гадзіну-дзве садзіцца за руль аўто?

«Паляна» гэтай пары мясцілася амаль пад кустом, які быў бліжэй да Віктара, і таму ўсіх падрабязнасцей ён не бачыў — іх хавала рэдкая лістота.

Мужчына пасля першай жа выпітай чаркі палез да дзяўчыны. Умомант з яе твару знікла ўсмешка. Яна пачала супраціўляцца, памкнулася адсунуцца далей. «Дурніца, што ж ты на такі беражок з гэтым кабаном едзеш, а цяпер супраціўляешся... Кабан не дарue, ён жа прывык...»

І той быццам пачуў думку Віктара — заляпіў аплявуху дзяўчыне так, што яна паляцела потарч. За лістотай не было відаць выразу яе твару. А гэты кабан нешта крычаў, уладна паказваючы рукой...

Гідлівасць душыла. І яшчэ — ніколі раней не зведаная прага помсты. «Сволач, пачакай, ты яшчэ пашкадуеш, ты яшчэ паскачаш!» — Віктар круціў калёсікі настройкі, наводзячы плаўна тэлескоп з аўто на нумар... О, якім салодкім было гэта пачуццё — адчуванне магчымасці пакараць гэтага бажка зямнога, паказаць яму, што ёсць і над ім нейкая сіла, яму непадуладная. І галоўнае — тайная сіла. От будзе ж гэтай сволачы цудоўны вечарочак, калі яму нехта дасць спасылку на гэты ролік!

Так, неабходна зрабіць магчымасць для юзераў, каб яны пакідалі каменты — нехта абавязкова пазнае і начальніка, і аўто. От будзе сапраўднае кіно! «Пазнай гэту скаціну!» — такой будзе назва раздзела!

Трэці ролік стаў для самога Віктара адкрыццём. Змяніў яго ролю простага назіральніка і паляўнічага за пікантнымі ды цікавымі кадрамі. Віктар адчуў сябе таямнічай сілай, сілай справядлівасці, абаронцам пакрыўджаных. Не, ён не дзіўнаваты Дон Кіхот, а невядомы нікому, загадкавы Зора... Быў такі наіўны фільм пра мсціўца ў чорнай масцы, абаронцу слабых і пакрыўджаных, які пакідаў пасля сябе загадкавы знак «Z». Вось, між іншым, неблагі знак і для самога сайта: «Фільмы аператара Z». Няблага...

Віктар вяртаўся дадому з тэлескопам, упэўнены ў тым, што задуманы сайт — проста неабходны. Што ён робіць правільна, вырашыўшы такім чынам зарабіць сабе грошай. Што ён мае поўнае права атрымаць нейкае матэрыяльнае ўзнагароджанне за яго барацьбу з гэтай распустай, брыдотай...

Брыдоту, самую сапраўдную, ад якой хацелася збегчы, якую не хацелася бачыць, праз два дні Віктар здымаў, проста навёўшы тэлескоп, і толькі ў першыя хвіліны назіраў, больш для факусіроўкі ды рэгуліроўкі павелічэння. То быў поўны трэш...

Рака сіняй стужкай вілася між зялёных кустоў, міма паплавоў у жоўтых кветках лотаці, шумеў жыццесцвярджальна лес вакол, светлай радасцю свяціўся высокі блакіт неба і сонца грэла зямлю... Зямлю, на якой рабілася ў гэты час чужое для жыцця, вычварнае — двое п'янаватых маладых мужчын і зусім п'яная жанчына, куды старэйшая за іх, з бляклым, пакамечаным тварам ладзілі сваё гульбішча. Абодва мужчыны былі каротка падстрыжаны, у аднаго грудзі і плечы — ў сініх наколках. «Зэкі, мабыць, толькі вызваліліся», — падумаў Віктар пра іх.

Жанчына ж выглядала бязвольнай, як лялька зануч, абцягнутая скурай. Бледны твар, выцвілыя вочы без аніякага агеньчыка пачуцця...

Дома, апрацоўваючы ролік, які атрымаўся самым доўгім, Віктар не мог пазбавіцца ад пачуцця гідлівасці і ненатуральнасці таго, што адбывалася ў фільме. Дапамагала толькі адчуванне магчымасці неяк паўплываць, няхай і пазней крыху, на гэтую брыдоту, выкрыць яе, паказаць усім ганебнасць і агіду, якая можа існаваць, хаваючыся, маскіруючыся пад маскай прыстойнасці і паўсядзённай гульні ў нармальнасць.

Сайт цалкам захапіў Віктара — увесь вольны час ён аддаваў яму. А паколькі ніякіх іншых абавязкаў у гэтую пару ён не меў, то, лічы, усе 24 гадзіны ў суткі Віктар жыў ідэяй, яна не адпускала яго і ноччу: яму снілася яго назіральная вышка, стужка ракі, вокны дамоў, у якіх сварыліся, кахаліся, распраналіся, апраналіся, вячэралі, пілі, балявалі — адным словам, жылі людзі.

Віктар згубіў лік дням, адно памятаў пра пятніцу, суботу і нядзелю — у гэтыя дні шмат народу збіралася на беразе ракі, шмат чаго цікавага можна было пабачыць у вокнах дамоў. Колькасць адзнятых ролікаў расла, да позняй ночы Віктар сядзеў над іх апрацоўкай, складаннем тэкстовак.

Наступны тыдзень прынёс для Віктара яшчэ адну знаходку. Недалёка ад іх дома на пустцы ўзводзілі шматпавярховы дом. Ужо выраслі восем паверхаў. Пазіраючы на яго, Віктар раптам падумаў пра тое, што з гэтага дома адкрываецца ўвесь іх «спальны» раён. У той жа надвячорак ён схадзіў на разведку — будка ахоўніка будоўлі знаходзілася далёка, ля закладзенага падмурка чарговай шматпавярхоўкі. Без асаблівай цяжкасці Віктар па лесвіцы без парэнчаў узняўся на апошні паверх. І застыў, уражаны малюнкам, які адкрыўся перад ім. Промні заходзячага сонца адбіваліся ў вокнах жылых дамоў, і складвалася ўражанне, што тыя свяціліся жывым і трапяткім святлом.

«Цудоўна, проста цудоўна», — Віктар быў у захапленні ад перспектывы. Столькі акон! І за кожным штовечар ідзе сваё жыццё, за кожным нешта адбываецца: вясёлае ці драматычнае...

Калі згусцілася цемра, хлопец ужо дзяжурыў на сваім «назіральным пункце». Устанавіў тэлескоп так, каб нельга было заўважыць знізу, — глыбей у памяшканні. На шырокую лоджыю вырашыў не выходзіць. Пару доўгіх гадзін далі мала плёну: толькі два больш-менш цікавыя ролікі, але ўжо на надакучлівую тэму пераапранання. Але Віктар, займеўшы ўжо вопыт на вышцы ў лесе, не адчайваўся: і адзін добры ролік за дзень — удача.

І гэтая ўдача яму ўсміхнулася назаўтра менавіта тут, на гэтым недабудаваным паверсе. Хоць пашанцавала ў гэты дзень і на вышцы ў лесе — зняў сцэну кахання. Не пошлага сексу, а менавіта цнатлівага і кранальнага пяшчотнага кахання. Сумняваўся напачатку, ці выкладаць гэты ролік у сеціва, вырашыў, што трэба: няхай вучацца не толькі як не рабіць, але і як рабіць. А твары закаханых ён прыкрые ў праграме...

А тут у адным акне зняў сямейныя разборкі. Было б сумна ад сваркі і бойкі, каб потым ён і яна (не маладыя ўжо) не selі за стол, на якім з’явілася пляшка віна. Яны выпілі раз і другі, а потым абняліся, суладнаківалі галовамі і пахістваліся з боку ў бок. Спявалі! От жа людзі: сварацца, аплявухі адвешваюць, а праз імгненне спяваюць разам. Вось якое яно, жыццё сямейнае...

На вокны свайго дома Віктар тэлескоп не наводзіў ні разу. І на вокны суседзяў таксама.

Калі ўжо збіраў тэлескоп (хопіць і аднаго роліка), адчуў вібразванок мабільніка. Глянуў — прыйшла СМС-ка ад Мэры. «Я дома». Спускаўся ўніз з тэлескопам і думаў, як хутка праляцеў тыдзень. Ды не ж, цэлых дзевяць дзён прайшло, як ён апошні раз размаўляў з Мэры. Ух ты, колькі ж ён паспеў зрабіць! А колькі яшчэ не паспеў... Патэлефанаваў Мэры:

— Прывітанне! Расказвай, як адпачывалася?

— Цудоўна, але сумна.

— Што, не было каму забавіць такую прыгажуню?

— Ат, адны дзеці саплівыя. А ты што парабляў?

— Ой, не пытайся... Я заняты так, што не ведаю, які сёння дзень.

— Ого, і чым жа заняты? Паэму пішаш?

— Так... Лічы, паэму... Незвычайную, — адказаў Віктар, у думках падзякаваўшы дзяўчыне — не трэба будзе асабліва тлумачыць сваю занятасць.

— Ты мне абяцаў нешта паказаць і ўсё расказаць, — гулліва нагадала Мэры. — Чым гатовы здзівіць?

— Не гатовы пакуль, — з напускным жалем адказаў Віктар. — Ёсць толькі накід.

— Што, не пакажаш?

— Пакажу і раскажу, — паабяцаў Віктар. — Давай сустрэнемся каля нашага інтэрнэт-кафэ. Праз колькі цябе чакаць?

— Давай праз гадзіну.

— Выдатна, я буду...

Невялікая непрыемнасць чакала Віктара на парозе ўласнай кватэры — у пярэдняй яго сустрэла маці.

— Дзе гэта ты з тэлескопам прападаеш?

— Так, назіраю, — стараючыся быць абыякавым, адказаў Віктар.

— І за чым назіраеш? Ці мо за кім?

— За Марсам я назіраю! — незадаволена адказаў Віктар.

— Дык чаму не са свайго балкона? — не адставала маці.

— А што, мне нельга з іншага месца паглядзець?

— Можна, вядома... Толькі ж які сэнс...

— А сэнс у тым, — разгарачыўся Віктар, — што з нашага балкона Марс не відзён. Потым: вельмі многа святла на зямлі, яно збівае малюнак. Ты гэта ведаеш, чаго чапляешся да мяне?

— Божа, чаго ты крычыш? — здзівілася маці. — Чаму гэта я чапляюся? Я, як маці, пытаюся, дзе бавіць час мой сын. Я маю на гэта права?

— Вядома, маеш, — спакайней адказаў Віктар. — А я маю права на ўласныя справы, згадзіся. І я не ў пясочніцы ўжо гуляюся, каб пра кожны свой крок табе расказваць. Ці не так?

— Так, вядома, — з крыўдай у голасе адказала маці. — Толькі вельмі ж ты нервовы стаў.

— У мяне ўсё добра! Вельмі добра. Проста я рэальна заняты.

— Дык чым жа? Ці гэта такі сакрэт, што і родным ведаць нельга? — спытала маці.

— Зарабляю грошы.

— І як, можна даведацца?

— Як-як... Так і зарабляю. Адзін чалавек робіць сайт пра зоркі, планеты. Я раблю яму здымкі. Акрамя здымкаў пішу вершы. Вось, бачыш? — Віктар паказаў маці свой рабочы сшытак з чарнавікамі тэкстовак.

— Ну і чаго тады псіхаваць, калі маці папыталася?

— Ды я не псіхую, — адказаў Віктар з палёгкай. — Стаміўся проста. Ёсць што вячэраць? Мэры прыехала, мы з ёй сёння сустрэнемся.

— На пліце вячэра, — ужо лагодна прамовіла маці. — Ідзі, еш...

Віктар вячэраў на кухні адзін, у цішыні. Еў і разважаў пра сябе: сёння ілгаў маці так проста, без усякай падрыхтоўкі. «Экспромты заўсёды атрымліваюцца лепей за спланаваныя рэчы», — білася міжволі думка. Было трохі прыкра, але не расказваць жа праўду пра сайт? А так выдатна ўсё прыдумалася і пра сузор'і, і пра заробкі... Ніякіх пытанняў больш не будзе. А калі днём з тэлескопам... Дробязь — птушак у лесе высочваць... Толькі трэба наскачваць розных фотаздымкаў, каб, калі пацікавіцца, паказаць...

## 8

Мэры ўжо чакала яго: загарэлая, вясёлая, узрушаная. Лёгка чмокнула ў шчаку, зазірнула ў вочы:

— Я так сумавала, праўда...

Віктар хацеў адказаць такімі ж словамі, але зразумеў, што не атрымаецца шчыра. А Мэры адчуе нават кроплю фальшу ў яго голасе і настроі — у гэтым ён упэўніваўся не адзін раз. І дакладна ведаў, што Мэры не пераносіць няшчырасці.

— А мне сумаваць не было калі, — з уздыхам адказаў ён. — Вось ішоў з табой на сустрэчу — і першы раз галава свабодна ад думак. Ты мне нібы акенца са свежым паветрам адчыніла.

— Выдатна, — усміхнулася Мэры, было відаць, што яна задаволена адказам Віктара. — Дзякуй, што не стаў несці лухту пра свой сум. А заўтра я табе адчыню цалкам дзверы: едзем на цэлы дзень на возера. Хачу, каб ты ацаніў мой загар і новы купальнік.

— Скажы лепш — цябе ў новым купальніку.

— Няхай і так, — Мэры шчоўкнула яго па ілбе. — Не трэба дагаворваць за жанчынай услых тое, што яна схавала між радкоў! Дарэчы, мы яшчэ на Новы год з табой дамовіліся аб паездцы: каб толькі ўдваіх і на ўвесь дзень. Я, як сапраўдная гаспадыня, буду збіраць розныя прысмакі, а ты, як гаспадар, пацягнеш сумку... Так?

— Так, — без асаблівага энтузіязму кіўнуў Віктар, павярнуўся сам і пацягнуў за руку Мэры. — Пайшлі, пакажу, што я навучыўся рабіць...

Віктар і не чакаў надта вялікіх эмоцый Мэры ад свайго сайта на Юкозе, дзе змясціў фотаздымак Мэры, апрацаваны ў фоташопе. Але і яе абыякавасці таксама не чакаў. Мэры ж засталася не проста абыякавай — яна пакрывілася, як ад кіслага.

— Віць, я сама ў фоташопе не горш за цябе ўмею, бацька яшчэ год таму навучыў. Я думала, ты свой сайт зрабіў, калі сюды паклікаў...

— Дык жа зрабіў... — Віктар амаль што пакрыўдзіўся. — Між іншым, я тыдзень сядзеў, разбіраўся ў сайтах, як яны робяцца. Нават HTML зараз ведаю. Галава апухла, мазгі праз вушы капалі...

— Я пра другое... — пачала апраўдвацца Мэры. — Даўно хацела табе прапанаваць зрабіць свой сайт. Я нават дыз першай старонкі накідала.

— І што толку з таго хамяка? — паморшчыўся Віктар. — Зойдзе 30 чалавек па разу, і ўсё.

— Што толку, што толку... Гэта ж як кніжка.

— Мне сапраўдная кніжка трэба, — цвёрда адказаў Віктар.

— Дык давай зоймемся! У мяне ж ёсць праграма вёрсткі, нясі свае вершы! Слухай, гэта ж цікава будзе! Бацьку папрашу, раздрукуюць там у рэдакцыі на лазерніку 30 экземпляраў, ім дробязь. Цікава будзе! — У вачах Мэры загарэліся іскрынкі азарту.

— Лухта гэта, а не кніга, — асек Віктар. — Я спрабаваў... Трэба вокладка, адмысловая прашыўка, абрэзка па фармаце...

— Слухай, усё зрабіць рэальна і магчыма! Варта толькі пачаць!

— Пайшлі на вуліцу... — Віктар узняўся з-за камп'ютара. — Я пачаў... Але я хачу выдаць кнігу. Сапраўдную. У сапраўднай друкарні.

— Гэта ж дорага! Дзе ты столькі грошай возьмеш? — аж спалохалася Мэры.

— Я знайшоў заробак.

— Во як? І дзе?

— У інтэрнэце. Не пытайся толькі, які, — папярэдзіў з усмешкай.

— Чаму ты вырашыў ад мяне гэта схаваць? Нешта не зусім прыстойнае? — Мэры збіралася пакрыўдзіцца.

— Не крыўдуй, але не магу сказаць, — цвёрда прамовіў Віктар.

— Але чаму? — у голасе Мэры ўсё ж пачулася крыўда. — Што я, чужы табе чалавек?

— Не чужы, але гэта мая справа, разумееш? І маёй застанецца.

— Ну... няхай твая. Але не разумею, чаму мне нельга пра яе расказаць. Другое: навошта вешаеш лапшу пра гэтую справу? Нейкая дзіцячая гульня атрымліваецца: я нештачка ведаю, а табе не скажу!

— Слухай, ты можаш крыўдаваць, а можаш зразумець мяне.

— Выбачай, але не магу! Што гэта за работа такая, што яе ад мяне хаваць неабходна? Якой работы ты можаш саромецца? Ды хоць прыбіральні мыць ці грошы на ўваходзе збіраць — абы чэсны заробак. А так думай цяпер, чым такім займаешся, што аж сказаць нельга...

— Лічы, дзяржаўны сакрэт. Тайная работа, — паспрабаваў аджартавацца Віктар.

— Здзекуешся?

Віктар адчуў, што да канфлікту застаўся літаральна крок. Ён не хацеў сваркі. Ніяк не хацеў. У гэтыя дні ўсё адышло на задні план. Найгалоўнейшым стаў сайт. Сайту трэба прысвячаць час. І гэты ж час трэба ахвяраваць для Мэры. Ён змог бы дамовіцца з Мэры пра сустрэчы не штовечар, а праз дзень. Але і нейкі дзень ці два трэба таксама аддаць ёй. А кожны дзень — гэта два ці тры ролікі. Кожны вечар — яшчэ ролік ці два, апрацаваныя ролікі, напісаныя тэкстоўкі. Гэта крок да яго мары. А Мэры запавольвае гэты рух. Калі падпарадкавацца яе капрызам — нічога ўвогуле не атрымаецца. Толькі заікнешся аб тым, што яму няма калі тупа гуляць па вечарах, хадзіць на танцулькі, марнаваць час на возеры, — яна запсіхуе. Не зразумее, што такое згублены час. Яна не ведае, што час — гэта грошы! І што ў Віктара яшчэ няма 50 долараў, якія павінен аддаць Аліку. Ад яго якраз прыйшоў ліст. Алік напісаў, што гатовы паказаць зробленае, што сам не чакаў, як стыльна атрымалася. Дзіва, але ідэя пра літару «Z» і Аліку прыйшла ў галаву! Тэлепатыя... Але Алік запэўніў, што сама ідэя сайта падштурхоўвае да гэтай загадкавай літары, якая дэманструе сабой асаблівасць пераварочвання свету: гэту літару можна перавярнуць на 180 градусаў — і ніхто не заўважыць падмены. То яго ідэя — паказаць той самы перакулены бок свету...

Мэры не зразумець гэтага! Ёй не зразумець і саму ідэю сайта! Паказаць ёй пару ролікаў — яна абвінаваціць Віктара ў... Ды ў чым заўгодна! У безгустоўнасці, у подласці, у сволачнасці... Як быццам яе бацька, рэдактар гарадской газеты, не займаецца фактычна тым жа! Хіба на старонках гарадской газеты не бывае фотаздымкаў, ад якіх потым асобным людзям сорамна? Але Мэры не дакажаш...

— Я не здзекуюся, — адказаў Віктар холадна. — Але ў нейкі момант ты павінна зразумець і лічыцца з маімі жаданнямі ды справамі. Я сказаў, што не магу расказаць, — значыць, такія ўмовы. Што ты дапытваешся, бы маці ў сына-падлетка? Я працую кожны дзень. Кожная гадзіна — гэта крок да маёй кніжкі. А табе на гэта напляваць, танцулькі ў галаве ды плёханне ў возеры. Зразумей: танцы будуць, возера не высахне. А для мяне час — гэта грошы. Лета скончыцца — магчымасці працаваць не будзе. Усё!

— Вось як... — Мэры прыкусіла вусны, прыжмурылася. — Ніколі не думала, што пачну табе замінаць у нечым. Думала, якраз дапамагу. Ну, калі замінаю, то калі ласка, не буду турбаваць. Пакуль!

Мэры імкліва збегла ўніз па прыступках (пакуль яны размаўлялі, стаялі на прыступках інтэрнэт-кафэ) і шпарка пайшла па вуліцы, высока ўзняўшы галаву.

Віктар пашкадаваў яе. У нейкае імгненне варухнулася жаданне дагнаць, павініцца. Патлумачыць яшчэ нешта. Мо яна і зразумела б, дала неабходны час, не назаляла б з сустрэчамі і загараднымі паездкамі... Але — не. Атрымалася дык атрымалася. Памірыцца яны заўсёды паспеюць. І раней не раз сварыліся, па тыдні не размаўлялі. Месяц хутка пройдзе. За месяц Віктар наздымае ролікаў столькі, колькі неабходна для старту праекта... А Мэры зусім не абавязкова ведаць пра гэты праект. Нікому не трэба ведаць. Нікому... У таго Зора быў толькі адзін памочнік — яго служка. І ў Віктара ёсць памочнік. Гэтага хопіць.

50 долараў Віктар папрасіў у бацькі.

— Я прашу ў цябе ў доўг, ты зразумей, — трохі саромеючыся, казаў ён бацьку на кухні. — У маці я ў доўг не папрашу. Дакладна ведаю, што вярну. Проста справа ў мяне такая: каб зарабіць грошы, трэба напачатку ўкласці. Сам ведаеш...

— Ведаю, — сур'ёзна адказаў бацька. — Сёння без першапачатковага капіталу не зрушыш з месца ні адну справу. Нават каб месці вуліцы, трэба напачатку купіць мятлу, спецадзенне. Твая справа... Яна, спадзяюся, годная і вартая часу, сродкаў і высілкаў?

— Дакладна. Толькі не пытайся, якая. У інтэрнэце гэта.

— Я і не пытаюся, што канкрэтна.

— Так, справа вартая таго, каб ёй заняцца.

— Тады ў доўг даю без праблем. І нават без працэнтаў, — усміхнуўся бацька. — Глядзі толькі: грошы — гэта сродак, разумееш. Сродак для дасягнення мэты. Але ніколі яны не павінны стаць мэтай.

— Не перажывай, — адказаў Віктар. — Мая мэта — кніжка. Вось на яе трэба сродкі — грошы. Іх я і хачу зарабіць.

— Тады выдатна...

Віктар спадзяваўся менавіта на такі вынік размовы. Ды як было не спадзявацца — з бацькам яны даўно паразумеліся.

Радасць чакала Віктара пры сустрэчы з Алікам. Сам Алік не хаваў свайго задавальнення ад зробленага.

— Шанцуе табе, хлопча — у мяне такі настрой быў, што за 14 гадзін зрабіў увесь дыз і нават не стаміўся. Ідэя спадабалася. Глядзі...

Віктар ахнуў: перад ім была старонка нейкай прафесійнай студыі. Гэтак усё адмыслова, сур'ёзна і стыльна... «Студыя "Z" Тое, што мы хаваем. Нябачная камера ў нашым горадзе. Пазнай сябе!»

— Крута! — у захапленні вымавіў Віктар.

— А то... — усміхнуўся Алік. — Цяпер глядзі функцыянал: уваход у адмінку — тут дабаўляем, рэдагуем, сціраем, сочым за каментамі. Каменты пад кожным ролікам можна дазваляць ці не дазваляць. Каменты таксама можна паставіць на прамадэрацыю...

— Гэта як?

— Ну, камент чалавек пакіне, але ён не з'явіцца, пакуль ты яго не пачытаеш і не дасі дазвол на публікацыю. Ролік кідаеш, выбіраеш любы раздзел. Назвы раздзелаў можна мяняць у любы час. Тут вось пакінута месца пад банеры. Карацей, пароль табе вядомы, садзіся за комп і разбірайся. Не забудзь змяніць паролі на ўсё, каб толькі ты быў гаспадаром. Мне іх ведаць больш не трэба.

— Выдатна, проста выдатна... Вось твае 50 баксаў, дзякуй. Пайду круціць...

— Чакай! — спыніў Віктара Алік. — Я ж табе казаў: з дому не працуй. Па IP праб'юць, калі нехта зоймецца пошукамі ўладальніка.

— Дык у мяне IP дынамічны...

— А, ну гэта іншая справа. Але ўсё адно, я раю закачваць ролікі адсюль. І танней, і хутчэй, і бяспечней. І адмініць будзеш — лепш старайся тут. Сайт ужо ў сетцы, няхай індэксуецца. Але ж рэкламаваць пакуль няма чаго...

— У мяне паўтара дзясятка ролікаў ужо гатовых з тэкстоўкамі, — падзяліўся поспехам Віктар. — І даволі цікавыя.

— Малаток, не сядзеў, — пакруціў галавой у захапленні Алік. — Значыць, пойдзе ў цябе справа.

— Што б я без цябе рабіў, — шчыра прамовіў Віктар. — Наўрад ці што ў самога атрымалася. Прапаў бы мой заробак.

— Ну, усе мы адзін аднаму дапамагаем. Самі і вучымся, — адмахнуўся паблажліва Алік. — Некалі і ты мне дапаможаш.

— Я? Ты столькі ведаеш...

— А што ты? Вось раскруціцца сайт, стане папулярным. Вырасце ТІЦ за сотню, а PR — да чатырох-пяці — адна спасылка з галоўнай на месяц пацягне паўсотні баксаў, а скразняк — на паўтары. То ты па сяброўску, глядзіш, і размесціш спасылку на які мой рэсурс, га?

— Без праблем! — радасна паабяцаў Віктар, узбуджаны ад яшчэ і такой перспектывы.

Дома ён з нецярпеннем уключыў камп'ютар, хутка набраў адрас у браўзеры. Як прыгожа! Як хвацка! І гэта — яго сайт! Ах, як цягнула вось зараз жа пачаць працаваць, стварыць раздзелы-катэгорыі, заліць колькі ролікаў... Не, трэба пачакаць. Старт павінен быць выбуховым! Каб ніхто не змог перахапіць ідэю. Потым, потым ён зарэгіструецца на ўсіх гарадскіх форумах і сайтах, раскідае спасылкі на свой сайт. І яшчэ была рэкламная ідэя: самыя элементарныя аб'яўкі на слупах, на прыпынках аўтатранспарту, ля крамаў. Няхай і сарвуць потым, але ж будзе толк!

Не сядзелася без справы. Але ісці сёння ў лес на вышку Віктар не збіраўся. Са свайго балкона надта не паназіраеш — дзень, на будоўлі праца ідзе. Хіба на дах залезці? А што? І пазагарае заадно...

...Што падказала Віктару навесці тэлескоп на дзяцей у суседнім двары ў той момант — хто ведае. Хутчэй, прафесійная інтуіцыя. Звярнуў увагу на пясочніцу. Пяску там засталося мала, дзеці выграблі. Зрэшты, і дзяцей было мала, толькі двое малых займаліся нечым незразумелым. Віктар прыгледзіўся — і ахнуў.

Дзеці гулялі ў секс! На самай справе: дзяўчынка і хлопчык гадоў па чатыры-пяць імітавалі ў пясочніцы ўсе тыя рухі, якія могуць быць толькі пры адным занятку. Гэта было дзіка бачыць, але ўражвала іншае: міма праходзілі людзі, на лавачцы сядзелі жанчыны, мо і іх маці-бабулі... Віктар здагадаўся: дарослыя з-за высокіх борцікаў пясочніцы не бачаць «гульні» дзяцей. «А божачка», — цэлая гама пачуццяў сплялася ў душы ў адзін клубок. Тут і агіда, і смех, і адчай незразумелы...

Але ж недзе яны гэта бачылі! А што тут дзіўнага — у фільмах такіх сцэн хапае. Вось гэта выхаванне... Што ж, цудоўная назва: «Дарослыя гульні ў пясочніцы». Вось, яшчэ адзін раздзел атрымаўся: «Дзеці». Значыць, трэба шукаць яшчэ...

Хутка ад лаўкі адразу дзве жанчыны сарваліся з месца. «Секс у пясочніцы» закончыўся...

Гадзіны чатыры, аж пакуль не пачало шарэць, Віктар «паляваў» за дзецьмі. І недарэмна! Зняў дзяўчынак. Зусім яшчэ малыя, а забіліся за вугал будоўлі, паселі на будаўнічых блоках і курылі. А потым аднекуль з'явілася бутэлька віна. Сухога — тое Віктар разгледзеў пры вялікім павелічэнні.

Яшчэ адзін ролік: бойка хлопчыкаў гадоў па 10—12. І так жорстка... Хлопцы капіравалі бойку з тэлеэкранаў: імкнуліся біцца нагамі, пляжылі ляжачага...

Непрыемны халадок у жываце нагадаў Віктару пра тое, наколькі ён сам баіцца боек. Так склалася, што Віктар увогуле ніколі не біўся. Ад сваіх аднагодкаў, ад сяброў у двары ён знаходзіўся крыху ўбаку, імкнуўся з самага малога ўзросту пазбягаць канфліктаў. Калі адчуваў, што можа ўспыхнуць бойка, — уцякаў. Яго ніколі не білі ні маці, ні бацька. Калі казаць шчыра, то Віктар зведаў толькі адзін фізічны боль — зубны... Біўся ён хіба што на маніторы, у час гульні. Толькі там яго збівалі з ног, білі, нават і забівалі... Але ж там не баліць.

У прыцемках удалося зняць яшчэ «кіно». Добра, што галоўныя героі былі ў святле вялікага ліхтара, што на доме. Здымаў прама фотаапаратам, бо надта блізка адбывалася дзея. Жонка сустракала п’янага мужа ля пад’езда. Ух, як лаялася жанчына! Далёка-далёка разносіліся яе слоўцы, ад якіх, пэўна, і сцены чырванелі... Прыкольны ролік атрымаўся. І добра, што завяршыўся дзень хоць з такім гумарам. Ад іншага — адна прыкрасць...

Назаўтра зранку патэлефанаваў Юрыс.

— Слухай, ты дзе прапаў? Разы тры набіраў, тэлефон адключыў ці што? Паехалі на возера! Кампанія падабралася, усе нашы, шашлык замуцім. Піва Антон прастаўляе за свой дзень нараджэння. Будзе крута.

— Не магу, справы ў мяне, — паморшчыўся Віктар. От жа людзі, калі самім няма чаго рабіць, то ўпэўнены, што ва ўсіх так... Дадаў нецярпліва: — Калі справа якая — пытай, бо мне няма калі.

— Ні фіга сабе, ты там запрацаваўся! Мільянерам хочаш стаць?

— Юрыс, хопіць трапацца. Я сказаў, што заняты. Можаце ўявіць, што я з’ехаў з горада, мяне няма, я захварэў, памёр урэшце?

— Ну ты і дурны! — адрэзаў Юрыс. — Нашто плявузгаеш на сябе? Мне вунь бабка казала...

— Мяне не калышуць расповеды тваёй бабкі, — зазлаваў Віктар. — Усё, мяне няма ў горадзе!

— Ага, ясна, — сумна адказаў Юрыс. — Не турбаваць, не кантаваць, пры пажары выносіць першым... Без цябе ж кампанія не тая...

— Абыдзецеся!

Віктар адключыў тэлефон. Так і ёсць: Мэры сказала Юрысу, што яны пасварыліся. Знайшоўся міратворца! Сам разбярэцца, прыйдзе час. Усё няважнае — потым, сёння ўсё другаснае, акрамя аднаго: сайта...

З дзецьмі няблага атрымалася, трэба цікаваць і цікаваць. З аднаго боку, сюжэты бяскрыўдныя, бяспечна такія ставіць. Ніхто не заззлуецца. Шкада, на іх возеры няма паблізу нічога такога, адкуль можна было б назіраць. На возеры людзей куды больш... Але ж і такіх пікантных момантаў не асабліва знойдзеш. Ды што ён пра возера думае? Захацелася адным вокам пабачыць, як тусуюцца аднакласнікі? Ды ну іх... Сваіх здымаць не будзем...

## 9

Тыдзень выдаўся як ніколі «гарачы»: з ранку Віктар спяшаўся ў лес, вечарам гадзіны тры праседжваў на будоўлі. Тут ён узняўся з дапамогай будаўнікоў яшчэ на два паверхі — агляднасць павялічылася, яшчэ колькі далёкіх акон адкрывалі сваё вячэрняе жыццё аб’ектыву тэлескопа. Часу апрацоўваць ролікі амаль не засталося, і Віктар адклаў гэты занятак на потым. Бо маці і так пачала неяк занадта падазрона глядзець на яго сядзенне за кампам да трэціх пеўняў.

З сярэдзіны тыдня задажджыла. Віктар усеўся за апрацоўку ролікаў, перапісванне чарнавых накідаў тэкстовак. Калі распагоджвалася, лез на дах — сачыў за дварамі ў пошуках цікавых эпізодаў з дзецьмі ці жыхарамі.

У літары Z і праўда аказалася дзіўная ўласцівасць. Гэтыя самыя эпізоды з жыцця асобных людзей, эпізоды, якія яны хаваюць ад чужых вачэй, складваліся ў той самы перакулены свет. І ў гэтым свеце было так мала смеху, так мала радасці і шчасця... Вось такіх ролікаў, як першы адзняты, дзе маладыя муж і жонка клеілі разам шпалеры, было зусім мала. Віктар стварыў асобны раздзел «Чужое шчасце», але за ўвесь час назіранняў-падглядванняў набралася толькі шэсць эпізодаў, ад праглядвання якіх святлела на душы. Што ж, на тое ён і ёсць — перакулены свет. У гэтым свеце — шчасце і радасць, прыстойнасць і маральнасць (сапраўдныя ці паказушныя), а ў тым свеце ўладараць расцугляныя пачуцці, вычварнае і чорнае, мярзотнае і брыдкае лезе наверх...

Віктар і ўявіць сабе не мог, што за вокнамі дамоў хаваецца столькі брыдоты. І амаль заўсёды — п’янай брыдоты. Яму ўжо надакучыла здымаць п’яныя скандалы, бойкі, разбэшчанасць і раз’юшанасць. Штовечар, абводзячы аб’ектывам тэлескопа вокны далёкіх дамоў, Віктар натыкаўся на такія сцэны. І гэта брыдота, здаецца, мела фантастычную асаблівасць перадавацца праз тэлескоп у душу: не мог ужо Віктар спакойна глядзець і здымаць сямейныя лаянкі і сваркі ў п’яным ачмурэнні. Ды яшчэ калі п’янымі былі абодва: муж і жонка... Балазе, хоць гук не перадаецца праз такую адлегласць. Адзінае ратавала: Віктар засяроджваўся ў такіх выпадках на сваёй «прафесійнасці», імкнуўся глядзець на дысплей фотаапарата як на маленькі кінаэкран, а на людзей — як на акцёраў. І ўсё ж ён адчуваў, што бачанае нібыта атручвае яго. Ужо і днём ён пазіраў на людзей з думкай пра тое, што іх цяперашнія паводзіны — удаваныя, што на самай справе бальшыня гэтых выхаваных, добрых людзей зусім-зусім іншая. І што акно кухні ці спальні — і ёсць мяжа, лінія перавароту літары Z. Акно — не проста акно, гэта праход у іншы свет, у свет тайных чалавечых жаданняў, чалавечай слабасці. Гэта адкрыццё палохала: што ж тады сапраўднае і дзе: там, за вокнамі, ці тут, па гэты бок шкла?

Такія думкі біліся ў ім, бы матылі, што зарана прачнуліся ў памяшканні ад веснавога сонца і цяпер трапечуцца перад брудным шклом. Віктар ведаў, што гэта верш просіцца на паперу, ужо ўрыўкамі складваліся асобныя радкі, але як толькі спрабаваў запісаць нешта — думкі знікалі. Ён увогуле нічога не зарыфмаваў за гэты час. Спадзяваўся, што падчас назіранняў на вышцы, ці на даху дома зможа напісаць некалькі пасвячэнняў-эпіграм сваім аднакласнікам, паправіць напісанае, але не атрымлівалася аніяк. Адзінае, што мог — пісаць тэкстоўкі для ролікаў, устаўляць самыя ключавыя словы: «прыкольнае відэа», «відэапрыкол», «прыколы», «эратычнае відэа»... Гэтая механічная праца нібыта высушвала мазгі і там не заставалася месца для нармальных вершаў. Напачатку Віктар псіхаваў і палохаўся: а раптам ён «спісаўся», раптам усё, што мог, ужо стварыў і закончыўся як паэт? Але потым страх прайшоў, Віктар зразумеў, што чым бы ён ні займаўся, над чым бы ні думаў — яго ролікі, сайт быў заўсёды ў свядомасці...

Ён дакладна выканаў пажаданне Аліка: у яго было пяць раздзелаў, у кожным мінімум па пяць ролікаў. Усяго больш як сорак... З пачаткам заняткаў з’явіцца і новая тэма: вучні на перапынках. Ён ведаў, у якое патаемнае месца бягуць дзяўчаты і хлопцы, каб пакурыць крадком... Будуць школьныя дыскатэкі і піва за вуглом школы, пацалункі-абдыманкі. Шкада толькі, што не заўсёды здымеш — не хопіць святла...

Мінуў яшчэ тыдзень. Віктар праверыў сайт — той быў ужо праіндэксіраваны. Што ж, выдатна. Пара пачынаць. Бо немагчыма ўжо толькі бегаць з тэлескопам, збі-

раць, апрацоўваць — і не бачыць выніку. У суботу Віктар пайшоў у інтэрнэт-кафэ, папярэдне скінуўшы на флэшку выбраныя ролікі і тэкстоўкі да іх. Пачакаў, калі вызваліцца самае ўтульнае месца — там манітор стаяў так, што выпадкова не зазірнеш. Прасядзеў каля дзвюх гадзін, заліваючы ролікі па раздзелах, суправаджаючы іх тэкстам.

Усё аказалася на дзіва проста. Высокая хуткасць інтэрнэту не прымушала чакаць. Вельмі зручная адмінка.

Доўга думаў: ставіць прамадэрацыю на каменты ці не? Потым вырашыў, што пакуль не трэба. Сайт толькі з'явіўся, і адразу нейкія абмежаванні для юзераў? Не, няхай пачуваюць сябе вольна...

Так, цяпер трэба чакаць. Тыдзень-другі, пакуль Яндэкс ды іншыя пошукавыя сістэмы не «праглынуць» старонкі.

І на гэты тыдзень Віктар адклаў усе справы ўбок. Адбылося неверагоднае: у яго знікла ўсялякая цікава да сайта, да ўсяго! Не хацелася нікуды ісці, нічога рабіць. Больш таго: яму раптам падалося, што яго ідэя з сайтам — лухта, дзіцячая гульня, што гэтыя ролікі нікога не зацікавяць, што ніхто не будзе заходзіць. Дзіўна, але такія песімістычныя думкі ніколькі не хвалявалі, бо і сама ідэя кніжкі зрабілася дробязнай і няважнай. Увогуле, усё зрабілася няважным. Усё — лухта...

Было не тое што страшна, а нават нецікава назаўтра глядзець статыстыку наведванняў. Адклаў убок і плануемы спамерскі флуд на іншых рэсурсах. Ну яго, потым...

Можа выпадкова, а можа бацька прыкмеціў настрой Віктара і на другі вечар звярнуўся да яго з нечаканай прапановай: у іх на фірме намецілася вялікая рэканструкцыя, патрэбны падсобныя рабочыя.

— От, якраз заробіш доўг аддаць, — падміргнуў бацька.

Віктар і сам не чакаў, што прапанова выклікае такую радасць — яго даймала хандра без справы, было невыносна тупа глядзець тэлевізар, а камп'ютар выклікаў амаль агіду. Больш ніякіх заняткаў для сябе хлопец знайсці не мог. Чытаць? То не занятак на дзень, тое робіцца познім вечарам, перад сном. Ды і пішацца таксама позняй парой.

Работа была не цяжкай, лічы — рукі накачваць: разбівалі старыя сцены нейкага цэха, грузілі друз. Аднак дванаццаць гадзін працы (так працавалі з-за тэрміновасці і жадання больш зарабіць) так стамлялі, што, прыходзячы дамоў, пасля душа і вячэры Віктар проста падаў на канапу.

Тры дні працы неяк непрыкметна аддалілі яго ад сайта і будучай кнігі. Усё, што зрабіў за папярэдні месяц, цяпер успрымалася амаль несапраўдным, быццам прыснілася ці што... Магчыма, Віктар згадзіўся б з тым, што той месяц яму прысніўся, але каляндар няўмольна паказваў на праўду...

Тыдзень праляцеў хутка. Апошнія яго дні ўжо не так стамлялі. У пятніцу Віктар патэлефанаваў Юрысу. Дамовіліся сустрэцца ў парку. Юрыс сказаў, што тусоўка збярэцца, дзяўчаты прыдуць. Так і адбылося. Было весела і проста. Віктар нечакана для сябе пашкадаваў, што столькі часу патраціў на свой «праект», адгарадзіў сябе ад усяго. І яшчэ адно засмучала: Мэры не прыйшла.

— Ды я тэлефанаваў ёй, яна абяцала быць абавязкова, — разгублена тлумачыў Юрыс.

— А казаў, што я прыйду? — спытаўся асцярожна Віктар, бо непрыемнае прадчуванне пазбавіла яго смеласці.

— Сказаў... у канцы размовы, — вінавата прызнаўся Юрыс. — Я думаў, так лепей.

— Індык таксама думаў, — без злосці адказаў Віктар, бо разумеў, што Юрыс зрабіў лагічна. — Усё нармуль, я разбяруся.

— Званіў?

— Не... Баюся, — шчыра адказаў Віктар. — Не ведаю, як пачаць. Не думаў яшчэ.

— Мо мне слоўца закінуць? — прапанаваў Юрыс. — Скажу, перажывае, тапіцца сабраўся.

— Лепш вешацца, — паправіў Віктар.

— Ні фіга! — Запярэчыў Юрыс. — Ведаю я іх: тут жа прапануе мыла і вяроўку.

— А так прапануе студню вясковую.

— Не, не прапануе, — падумаўшы, адказаў Юрыс. — Яна пра людзей клапоціцца. А калі ты ў студні ўтопішся, хто ж адтуль ваду браць будзе? О, давай спытаем?

— Ды ну цябе... Сур'ёзна, не трэба. Не прыме яна такіх жартачак.

— Што, ты так намуціў?

— Намуціў, — прызнаўся Віктар. — Нічога, заўтра патэлефаную...

Але назаўтра Віктар не патэлефанаваў.

Прычынай стаў сайт. Віктар уключыў камп'ютар без асаблівых хваляванняў, спакойна зайшоў у сеціва і прысвіснуў: амаль пад кожным ролікам былі каменты. Шмат каментаў!

Тут жа глянуў статыстыку: за ўчарашні дзень больш як 200 наведвальнікаў! Без ніякай раскруткі!

Здагадаўся, у чым справа, праверыў. Так і ёсць: на сайт наткнуўся нехта з іх горада. Вось на адным гарадскім форуме якраз тэма пра яго сайт. Уга, больш як 100 пастоў. Гэта і завецца вірусным маркетынгам: пакажы нешта такое цікавае, чым кожны захоча падзяліцца з сябрам...

Віктар пачаў чытаць каменты. Спачатку ў сябе на сайце, потым на гарадскім форуме. Найбольш цікавілі абмеркаванні не ролікаў, а самой ідэі сайта. Зрэшты, большасць каментаў былі менавіта такія.

*У мінулым годзе такія вось напалі на дзяўчыну з пад'езда, распранулі яе і на відэа гэта здымалі. Потым на Ютуб выклалі відэа. Дзяўчына вены сабе парэзала, добра, што ўратавалі. Уроды...*

*Нармалёвыя відэа, прыкольныя. Чаго чапляецеся? Ха, быццам самі такія белыя і пушыстыя. Правільна пацан робіць: паказаў, які хто ёсць на самай справе!*

*Не сказаў бы, што тут пацан працуе. Сайт зроблены прафесійна, дзвіжок ліцэнзійны. Відэа знята адмыслова. Думаю, нейкая кантора робіць сабе рэкламу. Пабачыце, хутка тут будзе спасылка на тэму нябачнага назірання за некім па вашым жаданні. Ужо круты бізнес у Расіі.*

*Каб гэты аператар-сволач пабачыў вось такой сваю дзяўчыну. Ці маці. Хоць, думаю, там сумленне атрафіравана.*

*Хопіць гнаць! Самі на парнуху лазіце, што тут такога? Сумленныя раптам сталі...*

*Парнуха — гэта кіно, зразумела для дэбілаў ці не? Там артысты, якім да лямпачкі ўсё, яны грошы зарабляюць. А тут — жыццё. Паглядзеў бы я на цябе, каб ты тут пазнаў сваю дзяўчыну ці сябе.*

*Ёпэрэсэтэ, пацаны, я ведаю гэту кампанію! Зараз кіну каму з іх спасылку. А, патсталом...*

*Згодзен, што аўтар сайта — урод маральны. Не на ўсякіх тэмах можна рубіць бабло.*

*Хех, адміны! Вы хоць ведаеце, што Крымінальны кодэкс па вас плача? Гэта ўмяшанне ў асабістае жыццё...*

*Вы, маралісты, маўчыце, га? Ціпа тут нешта прыдумалі. Тут — рэальнасць! А на НТБ забойствы ў прамым эфіры? Злосць вас бярэ, што пацаны такі сайт замуцілі. Амерыкосы вунь Садама пад пятлю паставілі, і нехта зрубіў бабла, зняўшы ўсё гэта на відэа. Калі ты такі ідэйны — ідзі бокам, а то ўсе ролікі пaглядзеў, а цяпер паказвае, што ванітуе яго. Клёвы сайт, зараз самы папулярны рэсурс будзе. Такі трафік канвертануць — бабло гарантавана.*

*Людзі любяць падглядваць. Вунь як «Вокны» папулярны. Усё нармальна. Рэалізацыя на практыцы прынцыпу «попыт нараджае прапанову».*

*Быў выпадак на практыцы: у адной дзяўчыны з яе тэлефона фотку спёрлі і на форум кінулі. А бацька дзяўчыны быў з крутых. Таго аўтара топіка знайшлі — ён і цяпер свайго ценю баіцца. Так што аўтараў сайта будуць біць. Магчыма, і нагамі. А знайсці — знойдуць. Пытанне часу. Засвецяцца.*

*Не знойдуць. Я пaглядзеў — дамен зарэгістраваны разумна, хостынг падстаўны, IP дынамічны, хоць і нашага рэгіёна. Ну, толькі заказаць хакерам узлом, але дзвіжок нармалёвы, узнавіць будзе не праблема, калі база бэкапіцца. Але пацаны рызыкуюць...*

*Адмін сайта — адстаўны КДБэшнік, факт. Знайшлі ж недзе такія кропкі здымкаў...*

*От па гэтым кропкам і выпасуць. І ўхайдохаюць.*

*Гэта яшчэ калі яны пойдуць на тыя кропкі. Не дурныя ж свяціцца, калі з гэтых кропак ролікі выклалі*

*Прыкольна, кажаце? Ну-ну...*
*Вось вам развіццё прыколаў:*
*— А я ўчора жуку саломінку ў брушка ўставіў. Ён лятаў, як самалёт: толькі прама і ўсё вышэй, і вышэй!*
*— Гы, прыкольна...*

*— Пайшлі лягушку зловім!*
*— На халеру?*
*— Ну, ты тормаз! Яе ж надзьмуць можна! Яна тады плавае паверху, а нырнуць не можа. Ныраe і не можа. Ныраe — і не можа!*
*— Прыкольна як!*

*— Ты ведаеш, навошта кошцы хвост?*

*— Ну?*

*— Яна заўсёды на лапы падае, калі хвост ёсць.*

*— Тачняк?*

*— Ну, чаго мне гнаць? Учора праверылі: кідалі Моціка маёй сястры Анькі з трэцяга паверха — на лапы заўсёды! А я потым яму хвост сякеркай адсек — ён на спіну гэпнуўся!*

*— Ух ты, крута! А кот жывы?*

*— А што яму? У катоў па дзевяць жыццяў.*

*— А Анька што?*

*— Сказаў, што гэта нейкія гопнікі Моціку хвост адрэзалі, забіць хацелі, я выратаваў, адабраў. Мне Анька сваё марожанае аддала.*

*— Прыкольна!*

*— На будоўлі ўчора былі, прыкалваліся.*

*— А чо тама?*

*— Бамжара нейкі начаваць збіраўся. Мы ў будзільнік гулялі.*

*— Гэта як?*

*— Ну, кавалкі цаглін на яго з другога паверха кідалі.*

*— А калі па галаве?*

*— Не, мы спецыяльна ў ногі цэлілі. Прыкінь, ён падхапіўся, як дурны, на чатыры касці ўпаў і як дасць бы той сабака! Во ржалі!*

*— Прыкольна, блін ...*

*Ну, тут перабор яўны. Нармальна пацан ці пацаны здымаюць. Чаму ты вырашыў, што яны ці ён эвалюцыяніраваць будуць па тваім сцэнарыі?*

*А дзе кропка прыпынку? Вось іншы сцэнарый: сёння ён падглядвае і выкладае ролікі, так зарабляе. З'явяцца грошы — ён ужо найме за шакаладку адных дзяцей, каб пабілі другіх. За піва — гопнікаў, каб збілі якога мужыка. Далей за грошы — каб паздзекаваліся з дзяўчыны... Грошы даюць магчымасць зрабіць больш і з меншымі затратамі. І зрабіць новыя грошы. Такі сцэнарый не разглядаецца?*

*Маеш рацыю. Дарэчы, тут адна сцэна так і выглядае як зараней спланаваная і аплочаная. І не толькі адна.*

Віктар чытаў, перачытваў, вяртаўся назад... Пачуцці душылі яго. Яму хацелася крычаць, каб пачулі адразу ўсе: «Вы нічога не ведаеце! Я нікога не падкупляў! Я не збіраюся нікога купляць! Я паказваю вам адваротны бок вашага ж жыцця! Грошы мне трэба не на піва! На кнігу! Кнігу вершаў у падарунак сябрам на выпускным вечары!»

Суцяшала тое, што асобныя каменты апраўдвалі сайт і ідэю. Пайшоў, прыгатаваў сабе кавы, крыху супакоіўся. Перачытаў яшчэ тыя каменты, якія былі за яго. «Ды зайздросцяць, проста зайздросцяць. Такі сайт не стварыць за тыдзень! І ідэя ўжо рэалізавана, месца забіта. Вось і бесіць некага. Пайшлі вон, маралісты. Самі прыкідваюцца, хочуць, каб усе верылі ў гэтае прыкідванне. Ага, як жа! Пакінь такога маралiста без адзінага сведкі — пабачым, што ты вырабляць будзеш, як з цябе тваё чорнае праз усе дзіркі папрэ! Вы яшчэ не бачылі той "клубнічкі", што я не выкладваў!

Брашыце, брашыце, пужайце! Не такі Віктар дурань, каб цяпер здымаць з тых кропак, з якіх здымаў. Вунь колькі будоўляў ідзе, колькі дахаў і паддашкаў у жылых дамах... А тэлескоп невялікі, добра прыхаваць можна...»

Увесь дзень і вечар Віктар прасядзеў за камп'ютарам. Ён устанаўліваў на сваім сайце банеры, рэгістраваўся ў партнёрках, на форумах, у блогах. Спаміў-рэкламаваў свой сайт.

Ужо к вечару колькасць наведвальнікаў дасягнула пяцісот юзераў. Віктар стаміўся, але ўзбуджанасць доўга не давала заснуць. Палова яго мары здзейснена: адбыліся першыя пераходы з яго сайта на патрэбныя рэсурсы — ён атрымаў той самы неабходны для выдання кніжкі адалт-трафік.

**10**

Зранку патэлефанаваў Юрыс. Узбуджаны не на жарт, проста спалоханы:

— Віцька, ты бачыў?

— Што бачыў? — знарок ляніва адказаў Віктар, хоць здагадаўся, пачуццё падказала: Юрыс пытаецца пра сайт. Калі гэтульки размоў на форумах, а Юрыс жа начуе ў інтэрнэце...

— Сайт нейкі новы! Пра наш горад. Здымкі нябачнай камерай.

— Ну і што? — Віктар прымусіў сябе супакоіцца, не хваляваўся анікольки: калі што, калі хоць якія падазрэнні — ён будзе ўсё адмаўляць. Юрысу ні слова.

— Ты памятаеш, мы на рэчцы дурэлі? І яшчэ пра вышку ў лесе казалі? Дык вось, здымкі рабілі з той самай вышкі! — гарачыўся Юрыс.

— Ну і што? Не разумею...

— Ну, пакуль да цябе дойдзе! — зазлаваў Юрыс. — Там нейкіх хлопцаў знялі, бойка была не слабая...

— І што?

— Божа, ну вы тупагаловыя! — Юрыс згубіў цярпенне. — Сяргей — «ну і што», ты — «ну і што», Лёшка — «мяне не цікавіць». А калі нас знялі?

— Нас? — Віктар на момант разгубіўся: што адказаць?

— Нас! Уяўляеш, калі нехта маёй мамцы пакажа, як я там гуляў? Яна мяне з хаты не выпусціць.

— Ну, не толькі цябе...

— О, дайшло нарэшце. Што рабіць?

— А што ты прапануеш?

— Трэба пасвіць ля той вышкі кіношнікаў.

Віктар хмыкнуў у адказ:

— Быццам яны форум не чытаюць... Яны мо і першыя запасцілі на гэтую тэму, каб рэсурс праспаміць. Наздымалі яны з той вышкі, колькі трэба і больш туды не пойдуць. А нас ставіць... Што там цікавага? Дай-ка мне адрас, зайду і я гляну...

— Ну, халера іх ведае... Мы і праўда нічога цікавага не рабілі. Там, шчыра кажучы, ролікі прыкольныя. Ты зайдзі, зірні! І абяцаюць кожны дзень новае кіно! Прадчуваю, што самыя смачныя кадры яшчэ наперадзе...

— Ну во, а ты распсіхаваўся, — Віктар сам уздыхнуў з палёгкай. — Кажы адрас...

Юрыс назваў адрас Віктаравага сайта. Па літарах прадыктаваў.

Віктар не спяшаючыся ўключыў камп'ютар. Пакуль ішла загрузка, зрабіў каву. Праверыў статыстыку: няблага, узровень у 500 юзераў за суткі трымаецца. Глянуў колькасць пераходаў на порнасайты. О, вось гэта канвертацыя — больш як 15 пра-

цэнтаў! Значыць, правільная тэма для сайта! Шкада, што юзеры гарадскія не надта багатыя — толькі дзясятая частка нешта купіла. Але ж нешта за ноч на яго, Віктараў, рахунак назбіралася! Давайце, давайце!

Знаёмы сверб прыкаваў Віктара да камп'ютара. Зноў шукаў у Сеціве розныя форумы, блогі, рэгістраваўся, рэкламаваў свой сайт. Іншыя пасты яго выдаляліся адразу, як звычайны спам, але Віктар не перажываў. Ён і каментаў больш надта не чытаў, праглядваў проста, каб там не было непатрэбшчыны з мацюкамі.

Працаваў гадзіны тры. Няблага — наведвальнікаў перавалiла за тысячу. Ну, палова больш і не зойдзе ніколі, але ж нехта падзеліцца спасылкай. Глядзіш, пастаянная аўдыторыя пакрысе збярэцца. Заўтра ён падагрэе цікавасць — выкладзе той ролік, дзе два мужчыны маладыя і жанчына «балююць». Гэта будзе маленькая бомбачка. А яшчэ ж начальнічак у запасе і яшчэ адна пара... Хех, такім чынам да пачатку заняткаў накапае ў кіпер! І потым... Потым Віктар спакойна закрые сайт. Сатрэ базу. Як нічога і не было. Няхай шукае, каму нечага рабіць, ветру ў полі. У яго ўжо будзе патрэбная сума грошай на кніжку.

Праверыў пошту — і замёр ад нечаканасці: прыйшоў ліст ад Аліка.

«Вітаю! У, крутыя ролікі! Я так зразумеў, што яшчэ круцей будуць? Малаток, дарма што школьнік, ёсць хватка. На каменты маралізатараў увагі не звяртай — гэта зайздрасць. Кожны марыць нешта такое зрабіць, каб пра яго казалі і трафік ішоў. Як канверт? Ідуць па банерах? Занадта ты іх наляпіў, сайт стракаты стаў, стыльнасць згубілася. Падбяры лепшыя банеры, каб суадносіліся з дызам. Я тут таксама запашчу ў пары месцаў пра твой сайт — лішняя спасылка не зашкодзіць і траф узнімецца. Поспехаў».

Усё як быццам добра... Усё добра... Але чаму, адкуль узнік гэты непрыемны халадок у жываце? Алік... Ён дапамог, зрабіў, атрымаў грошы... Спакойна, паролі ўсе даўно зменены. Нічога Алік яму не зробіць. Канешне, можа, ён і хацеў бы ў долю ўвайсці, але ж сказаў: толькі сам рабі. Яго школа...

Зайшоў зноў на свой сайт — дабавілася каментаў. Цікава, што шмат каментаў пісалі пад ролікам, дзе старыя купаюцца — тая таўстуха-жанчына і мужчына ў смешных трусах.

Каменты простыя: «Ржу ні магу», «Патсталом», «Аффтар, здымай ісчо», — звычайныя для такіх прыколаў. Апошні каментарый быў нечакана вялізным, і зноў той самы халадок крануў жывот усярэдзіне. «Што за чорт, адкуль... Не было ж нядаўна», — амаль са страхам падумаў Віктар, бо позірк ужо схапіў першы радок, які разануў свядомасць сваёй нечакана дакладнай скіраванасцю: «Дзень добры, малады чалавек!..»

*Дзень добры, малады чалавек! Не спрачайцеся, я дакладна ведаю, што Вы — малады, хутчэй за ўсё — выпускнік школы ці студэнт. Гэта няцяжка зразумець і простаму чалавеку, калі прааналізаваць Вашы запісы, а ў мяне ёсць неблагая тэарэтычная база і немалы жыццёвы вопыт. Як ніяк, я прафесар, доктар псіхалагічных навук. Я не стану пісаць Вам пра свае эмоцыі і перажыванні. Я пішу для Вас і дзеля Вас.*

*Дык вось, Вы — яшчэ малады і далёка не вопытны ў жыцці. Вам вядома пачуццё прыгожага — Вы добра і тонка пракаментавалі сцэнку ў акне чужой кватэры, у Вашым сцёбе адчуваецца захапленне сапраўдным пачуццём. Вы працуеце адзін, хоць сайт Вам рабілі па замове — не Ваш стыль. Ваш стыль крыху іншы: Вы — нядаўні рамантык, і, магчыма, Вы некалі выпрасілі ў бацькоў грошы на тэлескоп, каб глядзець у зорнае неба і пісаць вершы. Цяпер Ваш тэлескоп у неба не глядзіць.*

*Не магу ведаць, па якой прычыне Вы ўзяліся за гэтую справу. Напачатку падалося, што гэта — просты вуаерызм. Патлумачу: гэта такое псіхічнае захворванне,*

*калі чалавек імкнецца падглядваць: за жанчынамі, мужчынамі, зразумела, у час інтыму і падобнага. У такім выпадку Вам пагражала б цалкам псіхічнае захворванне, Вы б дайшлі да злачынства (90 на 100), скончылі б жыццё адмарозкам. Але Вы не псіхічна хворы. Вы падглядваеце за людзьмі з іншай мэтай, і мне гэта стала зразумела сёння, калі я пабачыў порнабанеры.*

*Так, з гэтым не паспрачаешся: парнаграфія сёння — індустрыя з мільярднымі абаротамі. А адхапіць хоць колькі ад гэтых абаротаў заклікаюць многіх. І многія ідуць на гэты кліч і, мушу прызнаць, «паднімаюць добрыя бабкі». Вы толькі судакрануліся з гэтай індустрыяй. Вы зарабілі першыя грошы, праўда? Вы задумваліся над тым, што між Вамі і тымі, хто ў мінулым стагоддзі гандляваў з-пад палы парнаграфічнымі картамі, часопісамі, няма ніякай розніцы? Вы — адалтшчык. Вы зарабляеце на адным з самых брудных чалавечых прадуктаў. Мне вядомыя такія людзі. Усе яны пачыналі з аднаго сайта, аднаго банера і аднаго долара ў суткі. А потым — развіваліся. Так, яны раслі. І стваралі цэлыя сеткі падобных сайтаў. Далей — скуплялі, дзе прыйдзецца, парнаграфічныя ролікі і самі станавіліся ўладальнікамі порнарэсурсаў. Потым самі, ужо за свае грошы, стваралі студыі. Мажліва, Вы не станеце на гэты шлях. Але шлях удасканальвання ў Вас адзін — шлях адалтшчыка. Вы будзеце ўдасканальваць свае тэксты, Вы навучыцеся новым хітрасцям (а іх — многа). Толькі той, кім Вы станеце, — не вяршыцель лёсаў. Зразумейце гэта. Вы не станеце тым, хто будзе ўплываць на свядомасць людзей, скажам, сваімі вершамі, не. Вы станеце прафесійным асенізатарам, залатаром, Вы будзеце вазіць і вазіць чалавечае дзярмо...*

*Вы знялі некалькі ролікаў... Гэта яшчэ толькі псіхічнае адхіленне. Вы выклалі іх у сеціва — і пераступілі ўсякія нормы чалавечай маралі і этыкі. Вы самі сябе загналі за той бок, дзе ніякія нормы не існуюць. Вы апусціліся на самае дно чалавечых здольнасцей падзення. І цяпер кожны, хто не з Вамі, — чысцейшы і лепшы за Вас. Пакуль Вы яшчэ не асэнсоўваеце гэтага. Але прыйдзе час — і Вы станеце шукаць тых, хто яшчэ ніжэй за Вас, каб грэбаваць імі ў помсце за тое, што, Вы гэта адчуеце, грэбуе Вамі.*

*Грошы не пахнуць, не смярдзяць, нават калі яны зароблены продажам чалавечага сумлення, нормаў маралі. Але смярдзіць іншае — наша памяць. Нават адзін раз ступіўшы ў яміну з дзярмом, нельга застацца чыстым. І вы ступілі. І памяць Ваша будзе смярдзець. Вы зменіце некалі і месца жыхарства, і сяброў, і каханых. Вы зможаце збегчы адтуль, дзе Вы пачыналі сваё падзенне. Але Вам не збегчы ад сваёй памяці. Яна будзе смярдзець заўсёды — і нічым яе не змыць, ніякім дэзадарантам не запырскаць...*

*Я нарадзіўся ў Вашым горадзе. Там я вырас і ведаю гэту рэчку з дзяцінства. Ведаю тую вышку, з якой Вы здымалі, бо не адзін раз я сам лазіў на яе. Няцяжка было здагадацца... Сюды мы часта прыязджаем з маёй любай жонкай. Яна ўсё сваё жыццё адпрацавала настаўніцай пачатковых класаў. Уяўляеце, колькі ў яе вучняў? Яна вельмі любіць дзяцей — і ёй плацяць павагай і памяццю. Дык вось, малады чалавек, на гэтым знятым Вамі ролiку — я, яшчэ пакуль выкладчык універсітэта, і мая жонка, пенсіянерка, былая настаўніца пачатковых класаў, якая навучыла грамаце больш як 500 чалавек.*

Віктар застыў перад маніторам. Бухкала ў скронях, быццам сэрца перамясцілася ў галаву. У нейкі момант падалося, што ён прачытаў і сваё прозвішча там, і што гэта вось прачытанае не ў каментах на яго сайце напісана, а ў гарадской газеце. «Што я нарабіў... Што я нарабіў... Што цяпер рабіць?»

Першы раз за жыццё Віктар адчуў, што такое панічны страх — страх, які паралізуе мысленне, здольнасць нешта рабіць свядома і разумна. Гэты невядомы стары так проста вылічыў яго! Дзе, у чым Віктар спаліўся? Няўжо толькі па тых дурных тэкстах можна зрабіць нейкі вывад? А калі гэты каментар ужо прачытаў хто з яго аднакласнікаў, той жа Юрыс? Тут жа не трэба вялікага розуму, каб гэты каментар звязаць з іх гулянкай тады... Ці Лёшка прачытае — у адзін момант здагадаецца.

Ад простага і знаёмага гуку мелодыі званка свайго мабільніка Віктар уздрыгнуў усім целам так, быццам у цішыні пакоя раздаўся стрэл. Гэта была «агульная» мелодыя, значыць, не бацька, не маці, не нехта з сяброў... Не адказваць!

Што ж рабіць?... Адчай захліснуў Віктара, трэсліся рукі. «Каментар... Каментар...» Калі размешчаны каментар?

Віктар утаропіўся ў манітор, літары скакалі і расплываліся. Сёння размешчаны, літаральна гадзіну назад... Так, спакойна, спакойна. Адмінка... Хутчэй, няважна, што з дому...

Вось жа ідыёт, га! Ну, хай бы паставіў прамадэрацыю адразу! Не, спяшаўся, юзерам дагаджаў... Божачка, нават абмежаванне на велічыню каментарыяў не паставіў... Вось дурань, дурань...

Віктар таропка выдаліў каментарый старога, паставіў прамадэрацыю на каментарыі ўсіх раздзелаў. Праверыў каментарыі, павыдаляў тыя, дзе ў яго бок сыпаліся абвінавачванні ў бессаромнасці і подласці.

Усё, сайт чысты... Цяпер пачысціць сам браўзер, выдаліць гісторыю наведванняў, абнуліць кэш... Ух ты, лягчэй як...

Ты глядзі, стары пазнаў сам сябе... Не дзіўна, твараў ім Віктар не закрываў... «А калі б гэта была настаўніца з нашага горада?» — думка непрыемна разанула сорамам. Між волі ўявілася, як гэтая таўстуха прыдзе да іх у клас — як на яе глядзець? Добра, што не прыдзе...

Тэлефон зазваніў зноў, Віктар асцярожна ўзяў мабільнік — і зноў у грудзях сціснулася ад незразумелага страху — на экране тэлефона высвеціліся незнаёмыя лічбы. Не адказваць? Але які сэнс... Зноў жа патэлефануюць, раз ведаюць нумар...

— Алё? — прамовіў Віктар сіплым голасам.

— Віцька? Гэта Сашка, старшы ваш.

— Які Сашка?

— З якім ты сцены біў і цэглу цягаў на фірме, — нагадаў незнаёмец і Віктар толькі цяпер пазнаў голас самага маўклівага, цягавітага хлопца гадоў дваццаці, які быў іх старшым на той часовай рабоце. — Тут перайгралі трохі, разлік будзе пазней праз касу на фірме.

— А колькі я там зарабіў? — з палёгкай выдыхнуў Віктар.

Яго адпусціла. Прыйшло разуменне таго, што ў свеце ёсць яшчэ нешта і нехта акрамя сайта, яго самога і тых дурняў, якія пруцца шукаць у сеціве парнуху.

— Як і ўсе, — адказаў Сашка. — Крыху больш за сотню.

— Чаго сотню? — не зразумеў Віктар.

— Долараў. Але атрымаем па курсе.

— Ого! — прысвіснуў Віктар. — За шэсць дзён...

— Не за шэсць дзён, — паправіў яго Сашка. — Па 12 гадзін пахалі, не забывай.

— Ды помню... Слухай, а больш такой работы няма?

— Не, пакуль няма. ...

100 долараў... За мінусам доўга бацьку — 50. Эх, во каб знайсці такую працу! Якраз бы да пачатку заняткаў назбіралася патрэбная сума! А так... Залатар, асенізатар, адалтшчык... А гэты стары псіхолаг падказаў месца, дзе можна зарабіць

нармальна грошы? Мяжу пераступіў, закон, па той бок маралі апынуўся... Дык жа часова гэта, няўжо даўмець нельга? Не збіраецца Віктар порнастудыі адкрываць! Паўтара месяца, усяго паўтара месяца, ён упэўнены — і ў яго будзе патрэбная сума. І ўсё потым знікне, сатрэцца, забудзецца. Грошы не будуць пахнуць, бо іх Віктар увогуле атрымлівае віртуальна... Нічога, мала пацярпець засталося. Яшчэ во ролікаў 10 здыме і хопіць...

Але ж гэты стары так проста мог намаляваць для сябе яго, Віктара, ды яшчэ сказаў, што іншаму каму зрабіць тое ж будзе няцяжка... А калі бацька зойдзе на такі сайт? А што, у яго свой ЖЖ ёсць, хоць піша рэдка, па рабоце больш, але во пайшла пагалоска па горадзе — і зойдзе. Ён жа ведае, што ў Віктара ёсць тэлескоп...

А ролікі на камп'ютары!

Ідыёт! Яны проста так да гэтай пары ляжаць у яго папцы! Тое праўда, бацька ніколі па яго папках не лазіў (у Віктара свой дыск, у бацькі свой), але ж можа пацікавіцца!

Ну, ідыёт... Іх увогуле нельга тут трымаць...

За паўгадзіны Віктар сабраў усе гатовыя ролікі, чарнавыя варыянты, арыгіналы і запісаў у адну папку, папку заархівіраваў з паролем, а потым перапісаў на дыск. Усё, што мела адносіны да сайта, выдаліў з камп'ютара. Пачысціў, прыбраўся... Дыск схаваў у некалі купленым за немалыя грошы «Зорным даведніку» — гэта кніга нікога не цікавіць сёння. Нейкі момант уладарыла думка, што дыск трэба зламаць адным націскам рукі — навошта гэтыя ролікі, калі яны ўжо стаяць на сайце? Дзеля чаго арыгіналы здымак? Але... было шкада. Сваёй працы шкада, ці што... Няхай паляжаць...

Сеў на канапе, аглядаючы пакой, нібыта злачынца на месцы злачынства: ці не пакінуў дзе яшчэ слядоў?

«Цяпер ролік скінуць, апрацаваць і адразу на флэшку. Астатняе сцерці... І бацька, і маці ведаюць, што я так доўга сяджу за компам. Ну, сказаў, што пішу тэксты... Не, не адбрэшашся, як прыцісну́ць. Трэба зрабіць той хамяк на Юкозе!»

Падскочыў, хутка ўвайшоў у сеціва. Падабраў больш-менш стыльны шаблон пад свой дамашні сайт. Стварыў некалькі раздзелаў, хутка закінуў у іх свае вершы. Не заўважыў, як праца захапіла яго — пакрысе прыйшла цікавасць: прыемна было ствараць сваю кніжку, няхай і электронную. А тут яшчэ ёсць магчымасць падмаляваць-падправіць шаблон... Успомніў, што шаржы да яго эпіграм ужо маюцца ў электронным выглядзе, паставіў некалькі — атрымалася прыгожа... За вокладку засеў: узяў здымак школы, папрацаваў з фільтрамі фоташопа — і атрымаўся той самы малюнак на шэрым фоне чорным фламастарам. Ну, амаль такі атрымаўся, а лепш і не трэба пакуль...

Мінала гадзіна за гадзінай, а Віктар ужо з сапраўдным захапленнем працаваў над сваім хамяком: падправіў шаблон, намаляваў новую «шапку». Зрабіў раздзел з фотаздымкамі і стаў запаўняць яго, пачынаючы яшчэ з першага класа і садка. Добра, што тады адсканіраваў у Лёшкі столькі многа. І Мэры... Няхай з ім будзе тут Мэры, як ва ўсе ранейшыя гады...

Прыйшла маці з працы.

— Зноў не вылазіш цэлы дзень? Ты еў што?

— Так, перакусваў, — адказаў Віктар. — Не хачу пакуль.

— Тады пачакаем бацьку...

Патэлефанаваў Юрыс, паклікаў патусавацца вечарам. Віктар згадзіўся — якраз праз гадзіны дзве закончыць...

Бацька прыйшоў. І адразу зазірнуў у пакой.

— Здароў, сын. Што парабляеш?

Знаёмы халадок варухнуўся ў жываце Віктара. «Спакойна, спакойна, падумаў ён. — Вельмі добра, што я цяпер хамяк раблю. Ой, добра, што вырашыў зрабіць...»

— Раблю свой сайт! — са смяшлівым гонарам адказаў Віктар бацьку, адкінуўся на стуле, ад'ехаў ад стала. — О, глядзі!

Бацька з цікавасцю зазірнуў у манітор, пазіраў, бы вывучаў...

— Няблага, няблага... Толькі экспазіцыя неўраўнаважана, па колерах няма спалучэння поўнага. Але гэтыя тонкасці вывучаць трэба... Спасылкі ўжо працуюць?

— Ага, усё рабочае ўжо. Што ж я, дарма столькі часу ўбіў? Фотаальбом набіваю, каменты пішу...

Бацька пашчоўкаў па старонках, крыху пачытаў.

— Прыйшоў час электронных кніг, — не сказаў, а канстатаваў.

— А што рабіць, калі звычайныя нікому не трэба, — Віктар выказаўся са шчырым сумам.

— Ну, час такі... А кнігі людзям трэба.

— Ага, трэба... — чмыхнуў Віктар. — Даўно нешта цябе не бачыў з раманам. А я яшчэ вершы пішу...

— Вершы тым больш трэба, — бацька прысеў на канапу насупраць. — Між іншым, такая вось кніга ў сеціве — добрая рэч. А сапраўдная... Не перадумаў яшчэ?

— Што не перадумаў? А, маці расказала... Ведаеш, вось закончыў сайт, і неяк не так ужо гарыць...

Самае дзіўнае было ў тым, што ў гэты момант Віктар казаў шчыра. Сапраўды — не гарэла. Паляванні за цікавымі сюжэтамі і асабліва падзеі апошніх дзён так узвінцілі яго, што сама кніжка пакрысе адышла на задні план. Урэшце, так і павінна быць: што пра яе надта думаць цяпер, калі няма грошай на выданне? Вось з'явяцца грошы — тады можна падумаць. А можа, у нейкі момант кніжка і сайт памяняліся месцамі: калі кніжка напачатку была мэтай, а сайт — сродкам, то цяпер сайт стаў галоўнай справай, а кніжка — прыкрыццём?

Не, гэта перабор ужо. Віктар адмахнуўся ад імклівых думак — усё нармальна, ён заробіць на выданне кніжкі і сайту прыйдзе канец. Так і павінна быць, а тое вострае жаданне, якім жыў апошнія месяцы, прытупілася, ці што. Усё нармальна — ад эмоцый перайшоў да справы, а дзе справа сапраўдная, там розум вырашае, а не жаданні.

Але Віктар мусіў прызнацца, што жаданне патрымаць у руках уласную кніжку зменшала яшчэ больш, аслабела, сцерлася. За сённяшні дзень ён стварыў гэтую кніжку ў інтэрнэце. Сам сабе не мог прызнацца ў гэтым, а бацьку сказаў. Калі ёсць такая кніжка ў сеціве, якую ў любы момант кожны адкрые і пачытае, то мо і не трэба яна на паперы? Няхай будзе такой...

— Ну, што не так ужо і гарыць, мо і лепш, — задумліва прагаварыў бацька. — Яркае полымя хутка згасае. Колькі зарабіў на фірме?

— Сотню баксаў. Табе 50 аддаць ёсць.

— Я пачакаю... А ў сеціве колькі заробіш?

Віктар пахаладзеў. Пра што гэта бацька? А, ён жа казаў, што яму трэба для справы ў сеціве...

— Не ведаю пакуль... Я дамен сапраўдны купляю, хостынг платны. Свой сайт туды перанясу. Раскручу трохі, паказчыкі падніму. Праз месяц можна будзе спасылкі прадаваць. За месяц долараў 15—20, як будзе ўсё о'кей, займею.

— Ну вось, бачыш, як добра. Пакуль той выпускны і назбіраецца. Мы з маці дапаможам... Дарэчы, ты не чуў пра нейкі там сайт? На рабоце толькі і гаворкі пра

яго: нехта нябачнай камерай здымае людзей у горадзе і выкладвае ў інет. Прычым, у розных пікантных сітуацыях.

«Вось яно! Прыкідваўся, цікавая яму мая кніжка... Праверыць вырашыў. Правярай, камп чысты. А калі б я не здагадаўся ўсё выдаліць, браузер не пачысціў?» — думаў Віктар, ліхаманкава стараючыся адшукаць адказ, якому б бацька паверыў. Успомніў пра ранішні званок Юрыса і амаль радасна выдыхнуў:

— Чуў, Юрыс сёння званіў. Казаў, нейкіх хлопцаў на тым беразе, дзе і мы адпачывалі, знялі. Як яны там біліся. Я заходзіў, глядзеў. Ну і іншыя ролікі.

— І як табе тая брыдота? — прыжмурыўся бацька.

— Брыдота як брыдота. Па тэлевізары тое ж паказваюць. Ці амаль тое ж... — адказаў Віктар спакойна, а ўжо другая думка салодка тлуміла галаву: пра яго сайт загаварылі ў горадзе! Вось так вось...

— Розніца ёсць. Хаця тут ты маеш рацыю...

— Пра што гэта вы? — спытала маці, зазірнуўшы ў пакой.

— Ды пра рознае, — адказаў бацька. — Вунь, глядзі, якую сын сабе кнігу зрабіў.

— Дзе зрабіў? — недаверліва спытала маці. — Якую кнігу?

— Электронную, сайт, — адказаў за бацьку Віктар. — У інтэрнэце можна кожнаму пачытаць.

— Во як, хіба і кніжкі ў інтэрнэце ёсць?

— Ёсць і кніжкі. І куды больш, чым у бібліятэцы.

— І чытаюць?

— Чытаюць... Каму хочацца...

— А я думала, што тут толькі брыдота адна ды чаты вашыя...

— І брыдоты хапае, — уздыхнуў бацька. — Прама з нашага горада.

— А, чула, — ці не радасна ўсміхнулася маці. — Суседка нашай работніцы сваю дачку пабачыла, як тая курыць і віно п’е.

— І гэта добра? — прыжмурыўся бацька.

— Вядома, добра! — упэўнена, з выклікам адказала маці. — Ты от зараз пачнеш выкладваць свае тэорыі, а тут практыка: маці давярала дачушцы, а тая вось што вырабляла.

— Па-твойму, усю дрэнь трэба цягнуць на ўсеагульны паказ?

— Трэба! Бо гэта — жыццё. І не варта яго ружовым маляваць. Хай пабачаць сябе, якія ёсць на самай справе. Казалі на працы, там гэтулькі п’яных скандалаў ды боек — аж жудасна робіцца. От жыццё якое...

— І што зменіцца? Што можа змяніцца, калі ўсё гэта паказваць? — занерваваўся бацька.

— А ты прапануеш усё хаваць, казаць, што ўсё ў нас добра, дзеці выхаваныя, мужыкі цвярозыя, адпачываем мы ўсе культурна? Годзе, праходзілі ўжо, камунізм будавалі...

— Я ні ў якім разе не прапаноўваю выдаваць чорнае за белае. Але няўжо вы верыце, што калі п’яніцу сказаць, што ён п’яніца, той перастане піць? Няўжо страх быць злоўленай стрымае дзяўчыну ад курыва і віна, калі яна хоча гэтага і лічыць магчымым, абы толькі бацькі не бачылі? Ты як думаеш, сын? — бацька павярнуўся да Віктара, і ў вачах яго хлопец пабачыў чаканне, не — нават просьбу.

— Не ведаю, — шчыра прызнаўся Віктар. — А чаго хаваць тое, што ёсць? Можа, некаму сорамна стане...

— А можа, у такім разе рабіць шкляныя сцены ў дамах? Камеры назірання за

кожным метрам плошчы горада? Спецыяльныя бранзалеты з перадатчыкамі на рукі ці шыю кожнаму?

— Што ты накінуўся на хлопца? — устрала маці. — Рэчы трэба называць сваімі імёнамі і паказваць, як ёсць.

— І што? Што зменіцца ад гэтага? — выгукнуў бацька з адчаем.

— А што, па-твойму, рабіць? — пайшла ў наступ маці. Чаго ты на нас напаў?

— Што рабіць, што рабіць? — бацька азірнуўся па баках, быццам у пошуках нечага. — Ат, доўга гаварыць, і так зразумееце. Значыць, у жыцці нашым ёсць чорнае, ёсць і белае...

— Чорнага больш, — уставіла маці.

— Няхай так, — лёгка згадзіўся бацька. — Дык вось, наша жыццё — шэры ліст. Згодзен, сын? Ты згодна? — павярнуўся бацька да маці.

— Згодзен, — адказаў Віктар.

Маці толькі кіўнула.

— Дык вось, — працягваў бацька. — На нашым шэрым лісце з'явілася чорная пляма, яшчэ адна. Нейкая мярзота. Мы ведаем пра гэты факт. Але вось гэтую мярзоту паказваюць па тэлевізары, вось яна на першых старонках газет і часопісаў, вось яна ў інтэрнэце на тысячах сайтаў. Мы расплюшчылі вочы некаму? Не, сябры мае: мы памножылі гэтую мярзоту шматкроць. І на нашым шэрым полі яна разраслася ва ўсе бакі. Наша жыццё зрабілася не шэрым ужо, а цёмна-шэрым. Што асвятліць шэрую фарбу? — хутка спытаў Віктара.

— Светлая фарба, — разгублена адказаў хлопец. — Што яшчэ?

— Правільна! — уздыхнуў з палёгкай бацька, быццам Віктар падказаў яму выратавальны адказ. — Нельга сцерці чорнае, памнажаючы яго. Трэба рабіць белыя плямы на шэрым! Ствараць нешта светлае, добрае.

— Каб жа было так проста, — хмыкнула маці.

— Вядома, не проста! Вядома, не за раз! — зноў пагадзіўся бацька. — Але ж шлях вось такі — выкрываць, шукаць, нішчыць — шлях рэвалюцыйны, значыць — з кроўю, дыктатурай, з контррэвалюцыямі. А ствараць белае, цягнуць людзей да свету, а не тыкаць іх у свой жа бруд — шлях эвалюцыйны. Гэта значыць — шлях паступовы і незваротны. Культура развівалася такім накірункам, культура і мастацтва выводзілі людзей з іх звярынага аблічча.

— Надта ты ўжо высока ўзяў...

— Нічога не высока, — пераканана адказаў бацька. — Вось сайт, што з'явіўся ў горадзе, — гэта множанне чорнага. А сайт сына з яго вершамі — маленькая кропля светлага. Ты, сын, гэта разумееш?

— Разумею, — усміхнуўся Віктар. — Значыць, буду цягнуць эвалюцыйны воз, з гонарам за сябе.

— Ты не смейся, — крыху пакрыўдзіўся бацька. — Кожны чалавек мяняе свет і сусвет. У залежнасці ад таго, колькі даў яму Бог таленту. Табе далі больш — з цябе больш і спытаецца...

— Хто з яго пытаць будзе? — аж спалохалася маці. — Што ты пужаеш хлопца?

— Адзін у нас суддзя ва ўсіх, — ціха адказаў бацька. — Сумленне.

— Пайшлі есці, прастыла ўжо ўсё, — схамянулася маці. — Чорнае, белае... Шэрым сярод шэрага жыць прасцей і лягчэй...

## 11

Не змог утрымацца — зайшоў адразу на сайт, паглядзеў статыстыку наведванняў: 500 юзераў за суткі. І ўжо з лёгка падрыгваючымі ад хвалявання рукамі, паглядзеў статыстыку на сваіх трох партнёрскіх праграмах. І ёкнула ўсярэдзіне ад бухнуўшай з манітора радасці: за суткі — 11 долараў!

Нават не стаў гатаваць сняданку, адразу пайшоў далей спаміць па форумах, дзе яшчэ не быў. Зарэгістраваўся ў «Аднакласніках», «Укантакце», хоць раней грэбаваў гэтымі сацыяльнымі сеткамі — адно дзеці ды настальгуючыя развядзёнкі...

І толькі потым, з пачуццём выкананай місіі, зрабіў сабе гарбату і бутэрброд.

Усё добра. Так далей пойдзе — за тры месяцы збярэцца добрая сума. І тую самую чорную пляму, пра якую казаў бацька, можна выдаляць... Падумаў, чым будзе займацца сёння. Ну, па-першае, трэба схадзіць у інтэрнэт-кафэ, але цяпер ужо — не вакзальнае, там закінуць з флэшкі новы ролік і тэкстоўку да яго. Падагрэць цікавасць... Заадно паглядзець, дзе яшчэ ёсць сярод спальных раёнаў зручныя месцы для назірання. Бо з даху свайго дома здымаць больш нельга. І ўвогуле, у сваім раёне ніякіх здымак. Іначай яго вылічаць...

Паставіў той самы ролік з жанчынай і двума зэкамі. Няхай пабачаць, як збоку выглядае. Гэта не фільм, дзе ўсё прыгожа, прадумана...

Добраму настрою перашкаджаў страх. Так, самы звычайны страх. Калі да гэтага часу не было практычна на яго сайце ролікаў, за якія б яго нехта люта ўзненавідзеў і пачаў шукаць, то цяпер Віктар баяўся. Гэтыя «героі» наўрад ці хацелі той вядомасці, якую ім падрыхтаваў хлопец. Ён і збіраўся спачатку пасядзець яшчэ гадзіны дзве дома, перарабіць, закрыць твары, але потым адмахнуўся. Мужчыны, відавочна, былыя зэкі. Значыць, ім не да інтэрнэту. А жанчына дык і ўвогуле нейкая п'яніца. Па твары яе ўзрост і ўзрост маці аднолькавы. Глядзі, як жыццё па-свойму распараджаецца: маці і вось гэтая... Віктара аж перасмыкнула. У маці ёсць муж, сям'я, дзеці дарослыя. А ў гэтай...

Віктар спыніўся. Думка, такая звычайная і адначасова неверагодная аглушыла сваёй жыццёвай будзённасцю: у гэтай жанчыны могуць таксама быць дзеці. Напрыклад, такі ж сын, як і Віктар. Ён заходзіць у інтэрнэт. Яму сказалі пра гэты сайт. І вось ён бачыць ролік, дзе з яго п'янай маці здзекуюцца па-жывёльнаму два зэкі. Яна, магчыма, і не ўсведамляла: што з ёй і хто з ёй. А раптам яна не п'яніца? Раптам яе сустрэў былы аднакласнік, сябар дзяцінства, а цяпер — зэк, які толькі што вызваліўся? Яна згадзілася пасядзець у ба́ры, бо сябар жа... Выпіць крыху. А ёй маглі падсыпаць што заўгодна. Ды і проста напаіць. Іх жа было двое. Ці запалохаць. Прыгразіць... Раптам яна пайшла на ўсё, толькі каб захаваць нейкую страшную таямніцу з мінулага свайго, адно каб цяпер гэтая таямніца не пагражала яе сям'і?

Уяўленне малявала і малявала карціны ў галаве Віктара. Ад адной ён адмахваўся, гнаў са свядомасці — ад той, дзе сын гэтай жанчыны заходзіць на сайт і глядзіць ролік. І пазнае сваю маці... Што ён зробіць?

«Ат, трызню, усё прыдумаў! Навошта сябе накручваць? Самая звычайная п'яніца яна, у яе і дома свайго няма. Калі на самай справе не так, калі ёсць у яе дзеці — значыць з'явіцца камент. Будзе нешта там — тады і здыму ролік. Закрыю твары...» — урэшце зацугляў Віктар свае фантазіі.

На другой ускраіне горада вялося прыватнае будаўніцтва. Але, што было выгадна, гэты ўчастак высока ўзнімаўся над астатнім горадам. Віктар пахадзіў сярод гатовых дамоў і вуліц, сярод асобных дамоў, якія яшчэ і вуліцу не маглі акрэсліць. На нейкіх будоўлях кіпела праца, іншыя цагляныя каробкі стаялі з забітымі дошка-

мі вокнамі... Хто як можа — так і будуецца. Ля аднаго недабудаванага дома ў два з паловай паверхі раскашаваў бур'ян. Такім жа зарослым быў і вялікі ўчастак, што вызначалі даўно закапаныя, цяпер пахіленыя ў розныя бакі, іржавыя слупы з абрэзкаў тоўстай трубы.

Перад Віктарам была чужая бяда — вось, узяліся людзі будаваць, размахнуліся на вялікі, дыхтоўны дом. І хутка справа пайшла. Марыў гаспадар ужо ўвесну ўзараць агарод, каб радавалі яго вока роўныя барозны бульбы, цешылі дзяцей градкі з трускалкамі і гарохам. Але здарылася нешта. Можа, як паехаў у Расію за грашыма, так і згінуў там. Прападаюць жа без вестак не адзінкі з тых, хто шукае заробкаў за мяжой. А можа, захварэў, у аварыю трапіў. А можа, і няма ўжо сям'і — з-за нечага пасварыліся муж з жонкай ды развяліся. Не з-за дробязяў, вядома: ці ён пакахаў іншую, ці яна знайшла каханка... Хавалі доўга, ды ўрэшце адкрылася...

Віктар азірнуўся па баках — нікога паблізу не было, за ім ніхто не цікаваў, і ён хутка, але асцярожна зайшоў праз некалі забіты дошкамі, а цяпер адкрыты праём дзвярэй у дом.

Тут было пуста і сыра. Падлога не пасцелена. Толькі сцены, перакрыцці, дах. На другі паверх вёў збіты з дошак насціл, такі ж ляжаў на паддашку, дзе планавалася яшчэ мо два ці больш пакояў...

Віктар узняўся наверх, агледзеўся. Пыл ды рэшткі будаўнічага смецця, галубіны памёт пад бэлькай... Так, даўно тут не з'яўляюцца гаспадары.

А з невялікага праёма акна адкрываўся від на горад. Тое, што трэба... Адно дрэнна — няма на чым пасядзець, хоць ты бяры ды падмятай — не прысесці. Віктар пахадзіў па доме, адшукаў усё ж тры цагліны. От і добра...

Сядзеў доўга без выніку — нічога цікавага. Здаецца, і пачынаецца эпізод добра, а потым даводзілася сціраць, каб хапіла памяці на нешта сапраўды вартае. Адно пад вечар, калі стаў ужо нервавацца (не хацелася трапляць маці і тым больш бацьку на вочы з тэлескопам у сумцы), удалося зняць больш-менш цікавы ролік: п'яны мужчына вяртаўся дахаты з горада сюды, у прыватны сектар напрасткі, па ўтаптанай сцяжынцы праз поле. Недзе пасярэдзіне шляху сцяжынка забягала ў невялікі зараснік кустоў і вольхаў, што шырокім клінам стаяў папярок сцяжынкі, далей пераходзячы ў невялікі лясок з густым падлескам. Акурат у зарасніку было невялікае паглыбленне — старая канава з пакатымі берагамі. Мужчына ішоў, добра хістаючыся. Нейкі час ён задуменна стаяў перад канавай, пасля адважна спусціўся і паспрабаваў гэтак жа адважна і хутка выбрацца наверх. Канава была глыбінёй не больш за паўтара метра, сухая. Але ўсе спробы мужчыны выйсці наверх, заканчваліся тым, што ён, рэзка хіснуўшыся назад, паварочваўся і збягаў уніз. Яго ўпартасць смяшыла. Здавалася, мужык перад сабой паставіў мэту: ні ў якім разе не нагінацца да зямлі, узысці прама. І не мог!

Віктар пасмейваўся са спроб мужчыны, думаючы над тым, што калі павыразаць лішняе, то ролік атрымаецца дынамічным і пацешным. Самае цікавае было ў тым, што мужчына ўсё ж узышоў наверх не згінаючыся! «Вось дзе ўпартасць! Вось вытрымка! Чвэрць гадзіны згубіў, але ж не сагнуўся, не стаў выпаўзаць на карачках з той ямiны», — думаў Віктар, зачахляючы тэлескоп. Было ў гэтым роліку нешта павучальнае...

Вечарам хутка паглядзеў каменты на сайце. Большую палову дазволіў. Да роліка з п'янай жанчынай каменты былі аднастайныя: «Жэсць», «Поўны трэш!» і падобнае. «Ну вось, як і думаў: самая сапраўдная п'янь, калі і ёсць у яе дзеці, то даўно ў дзіцячых дамах забыліся, што мелі некалі маці. І маладзей яна... Гэта спіты твар так старыць...»

Дзень удаўся. Заўтра трэба пашукаць іншую кропку — з гэтага недабудаванага дома не трапляецца нічога асабліва вартага. А мо, занадта спяшаецца ён? Некалі адзін ролік за дзень быў удачай, а цяпер ужо хочацца пяць за раз? Так, хочацца. Бо карціць хутчэй закончыць свае паляванні. Ну яго... Калі верыць каментам, на яго самога ў любы момант нехта невядомы можа пачаць паляванне. Шкада, з аднаго боку, што выклаў ролікі, знятыя з той вышкі, — больш туды не сунешся. У любы момант нехта сапраўды можа яго там чакаць. Але і тых хопіць! Трафік ёсць, хутка зазвоніць кіпер!

Пазней Віктар выйшаў на вуліцу — не было асаблівых спраў ды і не варта заседжвацца ў сеціве. Ведае ж бацька, што сайт ён зрабіў. Трэба будзе частку грошай патраціць на тое, каб зрабіць сабе сайт на асобным дамене — сказаў жа бацьку.

Пакуль тусіліся ў парку, потым проста на вуліцы, Віктара не адпускала адна трывожная думка, што засела нябачнай стрэмкай у мазгах. Не мог зразумець: што канкрэтна яго хвалюе? Нешта, звязанае з грашыма, з яго заробкам. Але што? І толькі калі клаўся спаць, аж падкінула яго: а што ён скажа бацьку і маці, калі яны спытаюць, дзе ўзяў грошы? Чым апраўдаць такія хуткія яго заробкі на адалце? На партнёрках ужо збіраецца сума... Вось дзе пытанне дык пытанне... Трэба думаць... Бацька — не маці, яго казкамі пра продаж спасылак не абдурыш. Трэба, мабыць, распавесці пра капірайтынг. Сказаць, што піша тэксты. А раптам пашанцавала і натрапіў на добрага заказчыка? Усяк жа здараецца...

Заснуў, але спакою і ўпэўненасці не было. Хлусня множылася вакол яго ў геаметрычнай прагрэсіі: для тлумачэння аднаго эпізоду трэба прыдумваць другі, для таго — трэці... Віктар адчуваў, што адзін бок яго жыцця зрабіўся цалкам закрыты для ўсіх... І нікому не скажаш. Ужо — нікому...

Назаўтра зранку апрацаваў зняты ролік пра п'янага мужыка і канаву. Насамрэч, атрымалася смешна. Падабраў музычны фон. Хоць цяпер яго пастаў — такі бяскрыўдны, забаўляльны ролік... Але Віктар стрымаў сябе: заўтра ці пазней. Усё ж той дом недабудаваны — добрае месца. Нельга яго «свяціць».

Ён не пашкадаваў пра сваё рашэнне. Праўда, тое, што ўдалося зняць, ніяк не ўкладвалася ў свядомасць ірэальнасцю сцэны. Гэта было не кіно, не хроніка «Надзвычайных здарэнняў».

Гэта было рэальнае рабаўніцтва, якое адбывалася ў кіламетры ад Віктара. На маленькім дысплеі фотаапарата Віктара дзяўчына ў бязгучнай роспачы адкрывала рот, а яе трымалі ў той самай канаўцы два дзецюкі.

Што было рабіць? Крычаць адсюль? Няма сэнсу. Бегчы? Але што ён можа адзін супраць дваіх? Яны ж дарослыя ды і мацнейшыя за Віктара.

...Дзецюкі выскачылі перад дзяўчынай з зарасніку. Адзін адразу ўхапіў яе за рукі, закруціў іх назад і трымаў. Другі, нахабна ўсміхаючыся, вырваў з рук сумачку. Дастаў адтуль кашалёк, потым вытрас усё астатняе на зямлю. Пацягнуўся рукой да грудзей дзяўчыны. Тая ірванулася назад, але дзе там... Рука рабаўніка шмарганула блузку дзяўчыны, дацягнулася да залатога, мабыць, ланцужка на шыі. Сарвала... Потым той, што трымаў дзяўчыну за рукі, перахапіў яе за шыю, і сама дзяўчына дрыжачымі рукамі зняла адну за другой завушніцы, потым два пярсцёнкі з рук...

«Сволачы, гопнікі праклятыя... Пачакайце, вы сябе пабачыце...», — адчайныя думкі біліся ў галаве Віктара, ад дрыжання рук раз-пораз збівалася настройка тэлескопа. Потым Віктар пабачыў, як замільгалі дзве постаці ў зарасніку — дзецюкі ўцякалі. Асцярожна павёў тэлескопам за імі. І тут пабачыў, як з кустоў на сцяжынку гэтыя двое выкацілі матацыкл, спяшаючыся, завялі і рванулі. Віктар не быў упэўнены, што нумар матацыкла патрапіў у кадр...

Павёў аб'ектывам назад. У гэты момант дзяўчына, чапляючыся рукамі за траву, выбіралася з канавы. Устала, пайшла хістаючыся, прытрымліваючы разарваную блузку адной рукой. Застылы страх у заплаканых вачах, грымаса болю скрывіла твар, ператварыла яго ў маску адчаю.

Віктар выключыў запіс. Сеў на цагліны. Рукі дробна трэсліся. Ён зразумеў, што зрабіўся сведкам сапраўднага злачынства. Што на яго вачах адбылося страшнае. Без думак сядзеў колькі хвілін, потым зняў з тэлескопа фотаапарат — успомніў, што не пабачыў дакладна, ці патрапіў у кадр нумар матацыкла.

Пракручваў ролік на маленькім экране, і ў другі раз яго праняла ад выразу твару дзяўчыны, калі яна нема раскрывала рот. Яна клікала на дапамогу... Колькі адчаю, колькі малення, колькі страху ў вачах...

Звераватыя, драпежныя выразы твараў дзецюкоў. «П'яныя, сволачы», — адзначыў Віктар ужо з ціхім задавальненнем, ад таго, што буйны план у гэтым месцы атрымаўся — твары рабаўнікоў добра відаць.

Нумар матацыкла толькі мільгануў у кадры, не разгледзець, але гэта не страшна — можна ўключыць пакадравую прагонку, прыпыніць у гэтым месцы.

Выглянуў — дзяўчыны ўжо не было. Сабраў тэлескоп, склаў усё, спусціўся хутка ўніз і пайшоў. Але не па той сцяжынцы, кругом, выйшаў на прыпынак аўтобуса. Едучы, праводзіў позіркам і той далёкі адсюль, з дарогі, дом, і тую страшную канаву з пачуццём упэўненасці, што ніколі сюды больш не прыйдзе.

Не было аніякага жадання садзіцца за кампю'тар і перакачваць ролік, апрацоўваць яго. Нешта стрымлівала. Калі шчыра, дык Віктар яшчэ і не вырашыў, што рабіць са знятым эпізодам. Гэта ж не пераапрананні на беражку. Было тут нешта надзвычай сур'ёзнае для яго самога. Нават думаць пакуль не хацелася над лёсам роліка. Бо адчуваў, што тое, як паступіць ён у дадзеным выпадку, ***можа*** не проста змяніць ягоны сайт, а ўзарваць літаральна горад. Калі пачуюць пра такі ролік, на сайт рынецца глядзець плойма народу! Тых падонкаў цяпер спакойна вылічыць і знойдзе міліцыя. Гэта можа змяніць не толькі жыццё самога Віктара, калі раптам (гэта амаль немагчыма, але ж...) падонкі стануць помсціць і знойдуць Віктара. Гэта ўсё важна. Але куды больш важна іншае. Віктар адчуваў, што гэты ролік можа змяніць яго самога. Як, якім чынам — незразумела. Таму і страшна.

Вечар Віктар правёў у кампаніі з Юрысам і астатнімі хлопцамі. Мэры не пабачыў. Вельмі хацелася патэлефанаваць ёй. Каб сустрэцца, пагаварыць. Аб нічым і аб усім. Можа, стала б куды лягчэй, бо цяжар уласнай таямніцы пачынаў гнесці. Вядома, ён бы не стаў расказваць Мэры аб усім. Але можна б было неяк ускосна абмаляваць эпізод... Мэры разумная дзяўчына, яна дапамагла б. У хлопцаў пра такое не спытаеш — Юрыс адразу пра ўсё здагадаецца... Эх, каб быў нехта нейтральны, чужы, але разумны, чулы, талковы: папытацца ў яго, параіцца, і каб ён знік потым недзе, растварыўся, больш не ўмешваўся, не пытаўся, нікому-нікому іншаму не расказаў. Кажуць, Бог ёсць... Хай бы з ім нейкая сувязь мелася: патэлефанаваў яму па мабільніку, расказаў усё чэсна, шчыра — а ён табе добрую параду, разумную, талковую. Шкада, няма такой сувязі з Богам...

**12**

Прачнуўся позна. Ляжаў, не паднімаўся — пракручваў у галаве ўчарашні дзень і той страшны эпізод. Сёння было лягчэй. Недарэмна маці кажа, што з кожнай бядой трэба пераначаваць: куды прасцейшым усё становіцца ранкам.

А ранак быў светлым і ясным. Хоць які тут ранак — ужо каля 11 гадзін. Учора

прыйшоў позна, а потым ніяк заснуць не мог, узяўся чытаць. Чытаў тое, што траплялася пад руку: вершы, апошні нумар «Маладосці»...

Памыўся, паснедаў. Думаў, чым бы заняцца, бо на сённяшні дзень нічога не планаваў. Гэта здавалася ўжо неверагодным, прызвычаіўся кожны дзень распісваць...

Зазвінеў мабільнік. Віктар уздрыгнуў і вылаяўся — ён ніяк не мог дараваць сабе, што пачаў баяцца «чужых» званкоў. Учора, калі вячэралі, затрэнькаў званок дамафона — Віктар ледзь гарбату не праліў — так затрэсліся рукі. А прычын жа аніякіх...

Але зірнуў на нумар — імгненна абдало хваляй супакоенасці: званіў той самы Сашка, з якім працавалі на фірме грузчыкамі.

— Алё!

— Прывітанне! Віктар? Давай пасля трох падыходзь на фірму, сёння грошы атрымаем.

— О, дзякуй за такую прыемную навіну. Прыйду.

Віктар выключыў мабільнік. От і ёсць сотня долараў. Каб тыя не патраціў, было б 200. З бацькавымі — ужо 250. І навошта сайт?

Цьфу, куды панесла! Сайт ужо дае грошы! А колькі яшчэ дасць — да Новага года будзе на дзве кнігі. Зараз уключым, паглядзім, колькі там на партнёрках сабралася... Віктар уключыў камп'ютар, увайшоў у сетку і запусціў кіпер — успомніў, што дзве з партнёрак абяцалі свае выплаты якраз на сёння. І аж здрыгануўся, калі з калонак раздаўся сапраўдны звон манет, якія сыплюць у драўляны куфэрак. Прыйшлі першыя выплаты! Вось так! Ёсць грошы, ёсць!

Хутка паглядзеў статыстыку наведванняў на сайце. Трафік упаў. Катастрафічна! Добра, тут усё зразумела, паглядзелі ролікі, цяпер новага нічога, вось і чакаюць, пакуль нехта кіне спасылку... Ну, добра, з гэтым пасля.

Што будзем рабіць? Найперш, трэба каменты прагледзець... Нармальныя каменты, хіба што адзін нейкі дзіўны.

*Я абяцаю. Не, я клянуся!*

І што ты мне абяцаеш? Солі на хвост насыпаць? Ну, давай...

Настрой цалкам рабочы, то самы час узяцца за той ролік... Жыццё ёсць жыццё — у ім чорнага не менш, чым ружовага. Віктар супакойваў сам сябе, хоць асаблівага хвалявання ў ім сёння не было. Зноў скачваў ролік, апрацоўваў яго без асаблівых эмоцый. Не задумваўся над тым, закрываць твары ці не. У гэтым роліку, канешне, закрываць.

«Нецікавы стаў вам мой сайт? Зараз паправім становішча, зараз я вас павяселю, — ледзь не прыгаворваў Віктар. — Зараз пабачыце такое, ад чаго мурашкі па скуры пабягуць... Ніякіх каментаў не трэба, усё зразумела. Выразаць нічога не буду, хоць зацягнута, затое нідзе не перарвецца...»

Нумар на матацыкле Віктар вырашыў таксама закрыць. У іншым выпадку атрымаецца, што ён даносчык. А быць суддзёй яму нешта перахацелася.

Таго ўчарашняга настрою, той прагі помсты, спачування да дзяўчыны амаль не засталося.

Віктар перазапісаў ролік у рэдактары, прагледзеў гатовы варыянт. Нармалёва, тут музыкі ніякай не трэба. Няхай у маўчанні ідзе...

Загрузіў ролік тут жа, хоць збіраўся пайсці ў інтэрнэт-кафэ.

Выйшаў з сеткі, стаў чысціць за сабой камп'ютар, выдаляючы запісаныя файлы, кэш браўзера. Вырашыў гадзіну пачакаць і потым паглядзець. Быў упэўнены: гэты ролік незаўважаным не застанецца. А значыць, можна разлічваць на цудоўны трафік...

Гучны сігнал аб тым, што прышоў электроны ліст, заспеў яго на кухні — якраз рабіў каву. «О, першыя каменты пайшлі», — падумаў задаволена, бо цяпер настроіў сайт так, каб усе каментары скідваліся на пошту. «Давайце, давайце...»

З кубкам кавы падышоў да камп'ютара. Але то быў не камент — ліст прыслаў Алік.

«Тэрмінова! Здымі апошні ролік. Тэрмінова!!! Стукні ў аську. Важна!»

«Што такое?..» — трывога ахапіла Віктара, але надта ён не баяўся. Слухаць гэтага Аліка ці не? Алік жа ведае, што Віктар як быццам толькі распрацоўвае сайт, што не ён адзін у праекце, што галоўным тут нехта іншы... Адказаць? Тады Алік зразумее, што Віктар усім запраўляе... Чорт з ім, здымем пакуль, нікуды ролік не дзенецца, проста забаронім паказ... Ну, і што ў асьцы Алік скажа?

*Віктар*: — Я тут

*Алік*: — Ты там з глузду з'ехаў?

*Віктар*: — Што за наезд? І я тут пры чым?

*Алік*: — Не ведаю, хто там кіруе... Апошні ролік — гэта крымінал.

*Віктар*: — Крымінал. А што?

*Алік*: — Доўбня! Крымінал у адносінах не да тых пацаноў, а да цябе!

*Віктар*: — Што ты палохаеш?

*Алік*: — Дзіцячы сад... Ты быў сведкам злачынства?

*Віктар*: — Я працую над сайтам. Пакуль.

*Алік*: — Ну, школьнікі! Ты быў сведкам злачынства, але не паведаміў пра яго міліцыі. А гэта — крымінальная адказнасць, ясна табе?

Віктар маўчаў. Яго бы абдало кіпнем.

*Алік*: — Ты тут? Чаго маўчыш?

*Віктар*: — Тут.

*Алік*: — Зразумела табе?

*Віктар*: — А што, я абавязаны? Каму якая справа?

*Алік*: — Абавязаны. Павінен. Ёсць такі артыкул: «неданясенне аб злачынстве». Ты можаш сесці.

*Віктар*: — А я тут пры чым!?

*Алік*: — Мне няма розніцы, хто сядзе. Ты, ставячы ролік, таксама стаў сведкам. Вось табе спасылка, пачытай... Я папярэджваў, што трэба сур'ёзна ставіцца да Крымінальнага кодэкса.

*Віктар*: — Добра, ролік я зняў. Што яшчэ?

*Алік*: — О, дайшло... Цяпер пра справу: я ведаю аднаго з тых хлопцаў.

*Віктар*: — Ну...

*Алік*: — Значыць, можна зняць добрыя бабкі.

*Віктар*: — Якія бабкі?

*Алік*: — У маладзёна не гуляй. Грошы. Зараз кідаеш мне ролік на пошту. Я кідаю яму.

*Віктар*: — І што?

*Алік*: — Не касі пад дурня! Ён зразумее, што спаліўся. І выкладзе патрэбную суму. Дзелім папалам. Тры штукі на дваіх. Многа для яго не будзе.

*Віктар*: — Гэта як?

*Алік*: — Ты там не абкурыўся? Чаго мямліш? Тры тысячы долараў ён пералічвае на кашалёк — і ты адпраўляеш яму арыгінал, дзе яго твар не закрыты. Вядома, ролік знішчаеш. Ясна табе?

*Віктар*: — А калі не?

*Алік*: — Не зразумеў?

*Віктар*: — Не хачу я...

*Алік*: — Позна, хачунчык пераспеў. Рабі, як я сказаў. Зараз зарэгіструю яшчэ скрыню, скіну адрас. Адправіш з інтэрнэт-кафэ. Ясна?

*Віктар*: — Я нічога не рашаю.

*Алік*: — Дык рашайце! Я цябе ведаю, помні. Вашай крыві прагне не адзін чалавек у горадзе, помні і пра гэта.

*Віктар*: — Добра... я перадам. Вечарам адкажу.

*Алік*: — Цяпер.

*Віктар*: — Няма ў горадзе галоўнага.

*Алік*: — Добра, пачакаю. Да 22 гадзін. Каб быў у асьцы.

Віктар выключыў аську, потым падключэнне да інтэрнэту, потым і сам камп'ютар. У кватэры стала ціха-ціха.

Думак не было. Не мелася нават адчаю, прыкрасці — нічога не было. Пустата. І адзін Віктар сярод гэтай пустаты.

Зазвінеў мабільнік. Юрыс — пазнаў па мелодыі Віктар.

— Віцька, здароў! Слухай, збірайся давай — пасля абеду ірвем на тую самую рэчку! Антон дамовіўся з маці, нам бусік даюць. Такая кампанія сабралася. Давай!

— У мяне... не атрымаецца, — адказаў Віктар і сам не пазнаў свайго голасу.

— Э, ты там грамчэй кажы... Не захварэў?

— Не, — адкашляўся Віктар. — Мне трэба... па справах, праўда. На фірму, грошы атрымаць.

— Ты што там, дзень прабудзеш? Мы цябе пачакаем.

— Не, не трэба...

— Мэры будзе... — выклаў апошні козыр Юрыс.

— Не.

Віктар адключыў мабільнік.

«Добра Юрысу... Як добра Юрысу! У яго няма чаго хаваць ад іншых, ён не жыве двайным жыццём, у яго ўсе клопаты — такія простыя і ясныя. Няўжо некалі так было ў яго, Віктара? Добра ім зараз: весела на душы — смейся, сумна — плач. Прыкідвацца не трэба, хавацца не трэба, не трэба хлусіць, вочы адводзіць... Няўжо вялікія грошы заўсёды вымагаюць падману?

Што ж рабіць? Што рабіць, чорт забяры гэтага Аліка! Вось жа гад... Бач, ідэя яму спадабалася... Значыць, пасвіў увесь час сайт, глядзеў, як напаўняецца. Не, нездарма тады ўзнікла нядобрае прадчуванне...

Разагнаўся... Грошы хоча задарма такія атрымаць. Ты здымі сам, а потым гандлюй сваімі ролікамі! Сволач...

Можа, выкінуць гэты чортаў ролік і паслаць Аліка падалей? Няма, ды і ўсё. Адчэпіцца...

Ролік выкінуць проста. Адным шчаўчком мышы. А колькі б гэты ролік трафіка Віктару прынёс! Трэба прайсціся па спасылцы, глянуць, што там за артыкул такі...»

Віктар недзе з гадзіну чытаў Крымінальны кодэкс, які адкрыў па спасылцы Аліка. Упэўніўся: Алік не схлусіў. Але з другога боку, узбуджэнне справы аб рабаванні адбываецца па заяве пацярпелай ці асобы, якая прадстаўляе яе правы. А калі дзяўчына тая не панесла заяву? Яшчэ нічога невядома...

Віктар павесялеў. Упэўненасць пакрысе вярталася да яго.

«Да вечара нешта прыдумаю», — вырашыў хлопец. Цяпер ламаць галаву не было часу — трэба ехаць на фірму, атрымліваць зробленыя цяганнем і пагрузкай друзу грошы. Туды шлях не блізкі — на ўскрайку горада.

Да касы стаяла чарга, хай і невялікая, але рухалася яна вельмі марудна. Віктар

нерваваўся — даўно не стаяў у чэргах. Ды і ўвогуле, ці стаяў? Калі трэба нешта набыць, а чарга больш як пяць чалавек, ён проста адыходзіў — не праблема тое ж прыдбаць у іншым месцы.

— Апошні? — пачуў Віктар за спінай пытанне з цяжкім прыдыханнем.

— Ага, — адказаў Віктар, павярнуўся.

За ім стаяла жанчына з расчырванелым тварам, вялікім, пляскатым, у дробных кропельках поту. Не тоўстая, але грудзі такія вялікія, што быццам стаялі ў чарзе асобна ад жанчыны. «От каб такую зняць на відэа, было б на што зірнуць», — прыйшла ў галаў недарэчная, пошлая думка, ад якой Віктару зрабілася сорамна. Ты глядзі, ужо прызвычаіўся пазіраць на людзей, як праз аб’ектыў. А зрэшты: што тут такога — прафесіянальны погляд...

Віктар злаваў, яму хацелася павярнуцца, так злосна зіркнуць на гэтую цётку, каб зразумела ўсё без слоў і адышлася. Але цярпеў.

Праз хвілін сорак дачакаўся сваёй чаргі, падаў пашпарт, атрымаў ведамасць і распісаўся. Забраў грошы.

Як жа прыемна было трымаць іх у руках!

Грошы ў кішэні надалі настрою, зусім па-іншаму глядзеліся ў святле купюр усе ўчарашнія і сённяшнія праблемы. Калі спакойна разабрацца, то якія тут праблемы? Не спяшаючыся трэба думаць, без панікі. Віктар і думаў цяпер спакойна, чакаючы аўтобуса, потым седзячы ў салоне. Адно што перашкаджала, дык гэта тая цётка, якая апынулася з ім у адным аўтобусе. «Зараза, прыляпілася... Вось пагляджу, дзе жывеш, вазьму тэлескоп — будзеш ведаць...» — думаў Віктар, але без асаблівай злосці.

Дык што там прапаноўваў Алік? Хех, хітры ён... Вядома, той дзяцюк, якога ён пазнаў, заплаціць патрэбную суму, нікуды не дзенецца. І няхай плаціць, скаціна. За ўсё трэба адказваць. З другога боку, чым рызыкуе Віктар? Ды нічым! Што яму: перадасць Аліку ролік, а той няхай сам усё рашае. Атрымаецца нешта ў яго — будуць у Віктара грошы...

А сума якая! Больш як тысяча долараў! Неверагодна проста. Не заўсёды такі шанец выпадае...

Добра, пачакаем яшчэ вечара. Можа, прыдумаецца што лепшае...

Але, па сутнасці, Віктар проста не хацеў прызнавацца самому сабе, што рашэнне ім прынята. І дапамаглі тыя грошы, што ляжалі ў кішэні. Яны быццам падахвочвалі атрымаць яшчэ больш, быццам клікалі іншыя грошы да сябе і самі да іх цягнуліся.

«Грошы вялікія цягнуцца да яшчэ большых, — думаў Віктар над некалі раней прачытаным. — Так і зарабляюцца мільёны і мільярды...»

І куды больш зразумелым стаў выраз «грошы не пахнуць». Словы напоўніліся новым зместам і сэнсам, сталі аб’ёмнымі, выпуклымі. Грошы не пахнуць — гэта значыць, што дзеля добрай мэты можна пайсці на пэўныя ўмоўнасці адносна агульнапрынятай маралі.

Адзін прыпынак Віктар вырашыў не даязджаць, сысці раней і прагуляцца да свайго дома праз будоўлю новага мікрараёна. Разам з ім з аўтобуса выйшла і цётка з вялікімі грудзьмі. «От жа, шанцуе!», — раздражнёна падумаў Віктар і пайшоў па адзінай ад прыпынку сцяжынцы ў бок жылога масіву. Яго абагналі двое хлопцаў, ад якіх рэзка запахла півам. Віктар пайшоў шпарка — вельмі хацелася хоць ужо тут, на волі, адысціся падалей ад людзей...

Калі Віктар параўняўся з нейкай будынінай, на якой не вялося ніякай работы, за спінай пачуліся хуткія крокі. Саступіў са сцежкі ўбок — нехта спяшаецца, трэба даць дарогу.

Хлопец, мо на год ці два старэйшы за Віктара, у насунутай на самыя вочы кепцы нечакана схапіў Віктара за грудзі і папхнуў наперад і ўбок — за вугал будынка, і яшчэ далей, за наступны вугал.

У Віктара ад неспадзёўкі перахапіла дыханне. Ён тузануўся што сілы:

— Ты што?!

І амаль ужо вырваўся, як хлопец моцна піхнуў яго. Віктар не ўтрымаўся б на нагах, упаў, але раптоўна адчуў на сваіх плячах нечыя рукі, якія ўтрымалі яго. Ён хацеў павярнуцца да таго, хто быў ззаду, як рэзкі пякучы боль ніжэй грудзіны прымусіў імгненна скласціся ці не папалам. Паветра ў лёгкіх не стала, не было як дыхнуць і Віктар толькі адкрываў бязгучна рот, але не мог глытнуць, а без паветра боль разрываў усё ўнутры. Нарэшце ледзь-ледзь атрымалася, стала крышачку лягчэй. Віктар, аглушаны болем, ніяк не мог зразумець, што адбываецца.

Кволая выратавальная думка аб тым, што ўсё гэта — няўдалы жарт яго сяброўаднакласнікаў, цеплілася яшчэ імгненне, пакуль незнаёмы сіпаты голас не загадаў:

— Стань, чмо... Да сцяны...

Віктар дрэнна бачыў, што адбываецца. Постаці, якія стаялі насупраць сонца, расплываліся. Яго таўханулі да сцяны, у цень, і ён пазнаў тых двух, што перагналі яго на сцяжынцы.

— Грошы давай... Хутка... — пачуў ён загад.

— Няма... — з адчаем выціснуў праз боль Віктар.

— Гы, а хто ў чарзе па бабкі стаяў? — пачуў Віктар, і адразу ж галава яго матлянулася ад удару.

Боль апёк скулу, у вачах мільганулі іскры, калі патыліцай ён выцяўся аб цагляную сцяну.

— Грошы! Хутка!

Віктара апанаваў жах. Першы раз у жыцці яго ўдарылі па твары. Яго ўвогуле ўдарылі па-сапраўднаму першы раз. Боль... Гэта было невыносна. Недзе далёка знікла ўсё: ён, Віктар, сын сваіх бацькоў, вядомы ў школе паэт, які мае сяброў, якога паважаюць, зніклі яго сябры, Мэры, мары пра кнігу, нумар часопіса з яго вершамі — усё знікла, стала далёкім і нерэальным. Раптоўна ён быў пазбаўлены ўсяго, ён стаў нікім і нічым. Яго білі гопнікі, іх цікавіла толькі адно — ягоныя грошы. Улада чужой, варожай сілы над сабой была аглушальнай, яна раструшчыла Віктара, пазбавіла здольнасці да супраціўлення, хоць да маленькага дзеяння. Страх новага фізічнага болю жалезнымі пальцамі сціскаў мозг: «Толькі б не білі больш... толькі б не білі...»

— Зараз... зараз... — пралепятаў Віктар, сунуў руку ў цесную заднюю кішэню джынсаў, а яна ніяк не лезла, і страх яшчэ мацней сціскаў халоднымі абцугамі — зараз ударацъ, у жывот ударацъ...

— Што вы там робіця, га?! — раздаўся нечаканы голас аднекуль збоку.

— Ідзі, баба, у нас свае справы, — ляніва кінуў нехта з рабаўнікоў.

— Якія ў вас справы тамака? А ну пусціце мне суседа! — нечакана залямантавала жанчына. — Сашка, чаго яны да цябе чапляюцца? Што ж гэта робіцца такое, сярод белага дня праходу няма! Гэй, мужчыны, хутчэй сюды! — павярнулася яна назад да сцяжынкі. — Міліцыю паклічце, вунь жа машына толькі ад прыпынку адышла, няхай сюды едзе! Хутчэй, хутчэй!

І нечакана ўся тройка кінулася бегчы ўглыб будоўлі, дзе стаялі розныя хлеўчукі, каробкі будучых будынкаў і высіліся гурбы зямлі.

Жанчына паспешліва падышла да Віктара. Ён пазнаў яе — тая самая...

— Што, грошы адабралі? Выклікай міліцыю, не ўцякуць! Выклікай, па мабільніку!

— Не паспелі адняць, — цераз сілу ўсміхнуўся Віктар. — Дык жа выклікалі міліцыю...

— Хто яе выклікаў? Няма ж нікога, — паціснула плячыма цётка. — От жа сволачы, я так і падумала, яшчэ ля фірмы прыкмеціла, што цікуюць... Моцна пабілі?

— Не, не моцна, — адказаў Віктар і апусціўся, прысеў — не мог больш стаяць на нагах.

Страх адпусціў — і слёзы нечакана прыснулі з яго вачэй. Яму не было сорамна перад гэтай незнаёмай жанчынай. Ён не ведаў прычыны сваіх слёз: былі то слёзы болю, ці слёзы сораму, а мо слёзы нянавісці і жальбы да сябе.

«Сволачы... сволачы... сволачы...», — праз усхліпы білася думка ў галаве, яго калаціла і трэсла.

Жанчына стаяла побач, хутка дастала насоўку з сумачкі, уклала яе ў руку Віктара. Не казала ні слова.

Нарэшце ён супакоіўся. Выцер твар, не ведаючы, што далей рабіць з насоўкай — яна была мокрая.

— Трымайся, хлопец, трымайся, — кранула яго жанчына за руку. — Пайшлі, зараз лягчэй будзе... От, няма халоднага нічога, твар прыпухне...

Стала лягчэй. Яны ішлі адны па сцяжынцы, нікога не было бачна ні спераду, ні ззаду.

— То ж і мне страшна было, — казала жанчына. — Ды баяцца баішся, а нешта ж трэба рабіць. Я адразу здагадалася, як цябе піхнулі за вугал. Бегла хутчэй... З гэтымі свалачамі трэба смялей быць, яны ж бы тыя сабакі, толькі зграяй моцныя. Як ты адзін, а іх многа...

— Дзякуй вам, — выціснуў нарэшце з сябе Віктар. — Толькі я не Сашка, не ваш сусед.

— Дык жа людзі мы. А як мы знаёмыя, дык разам. А яны баяцца нападаць на тых, хто разам, — патлумачыла жанчына і загаварыла пра сваё: — У мяне вунь дачка падрастае, 13 гадкоў. Так баюся за яе... Развялося гэтай швалі, няма і днём управы. Адпусціш — і сэрца не на месцы, пакуль у хату не прыйдзе...

Ужо заходзячы ў ванны пакой, Віктар ведаў, што твар распух, бо адно вока ў яго прыжмурылася. Глядзеў на сябе ў люстэрка і было балюча невыносна. Не ад пабітага твару. Ад таго, што быў такім слабым. Што яго раздушылі літаральна адным ударам. У яго ж і думкі не было супраціўляцца, ён баяўся, страшэнна баяўся, што яго зноў ударыць. Болю баяўся... Як сорамна... Які ж ён чарвяк... Цётка, жанчына, а пайшла яму на дапамогу. Не ведала, што там адбываецца, можа, з нажамі тыя гопнікі... А ён ці б пайшоў, каб быў на яе месцы? Калі б яна першая ішла і яе вось так запіхнулі за вугал? Пайшоў бы? І ўспыхнуў у вачах той зняты эпізод рабавання.

«Сука я! — адчайна вылаяў сябе Віктар. — Тая дзяўчына клікала, а я здымаў кіно... Калі б выскачыў, калі б пабег з крыкам — яны б нічога ёй не зрабілі, уцяклі б!..»

Віктар у знямозе сеў на край ванны, падставіў галаву пад струмень вады. Халодная вада апякла скуру, але потым зрабілася лягчэй, адчай прайшоў, роспач мінула. І думкі сталі такімі ж халоднымі, дакладнымі, быццам нехта іншы ў галаве Віктара прамаўляў яму ўсё па-праўдзе, не чакаючы апраўданняў.

«Цябе ж толькі адзін раз ударылі, а што ты адчуў? Момант адзін толькі — а ты захлынуўся пачуццём страху, стаў нікчэмнасцю. Што твой боль? Што твой сіняк пад вокам? Яны пройдуць. Боль ужо прайшоў. А ў той дзяўчыны як! З яе здзекаваліся, яе растапталі як чалавека, як асобу, як жанчыну. А табе — кіно. Табе трафік трэба, каб розныя ўроды пёрліся пасля такога роліка на порнасайты. А калі дзяўчына пабачыць сябе ў гэтым кіно? Калі знаёмыя пабачаць? Калі маці яе пабачыць? Чуеш, якая ты сволач?!»

«Чую, — адказаў сам сабе Віктар, і слёзы зноў закапалі з вачэй. — Чую...» Ён раптоўна ўявіў, што на сайце ягоным з'явіўся чарговы ролік — як б'юць ужо ЯГО САМОГА тыя гопнікі, як ЁН курчыцца ў страху, як дрыжачымі рукамі паслужліва працягвае сваім рабаўнікам грошы. Як бы маці глядзела такое «кіно»?

А мацяркі ж глядзяць... Вунь адна пазнала сваю дачку... Мо была і тая, што пазнала свайго сына, якога збіваюць нагамі хаўруснікі? І той камент незразумелы: «Я абяцаю. Не, я клянуся!» — гэта ж сын той жанчыны пакінуў, з якой зэкі здзекуюцца. А можа, вучань той старой настаўніцы... Ці дачка таго п'янага мужыка, што ўсчыніў дэбош у сваёй кватэры...

Віктар быццам збоку глядзеў на самога сябе, глядзеў чужымі вачыма — мо вачыма таго чалавека, якога шукаў нядаўна ў думках, каб параіцца, пагаварыць... А быў жа такі чалавек!

Адно вока амаль заплыло, правая частка твару распухла. Віктар выцерся акуратна, бо было балюча, пайшоў у свой пакой і ўключыў камп'ютар.

Спакойна, без аніякага хвалявання, з неверагодным адчуваннем лёгкасці ад ўпэўненасці ў тым, што робіць адзіна правільнае, ён зайшоў у адмінку свайго сайта. Выдзеліў усе разам і сцёр ролікі. Абнуліў базу і выдаліў бэкапы. Праверыў — сайт пусты. Потым праз адмінку хостынга выдаліў усе файлы і папкі ўвогуле. Зноў праверыў — браўзер паказаў, што на сайце адсутнічае галоўны файл. Яшчэ раз усё пераправерыў — нічога не засталося.

Дастаў дыск з кнігі і паламаў яго на некалькі кавалкаў.

Зайшоў у аську, адправіў тэкст Аліку: «Пайшоў вон!»

Выдаліў з кантактаў Аліка. Выдаліў пошту, якую заказваў праз дамен порнасайта.

Усё. Нічога няма. Стоп, грошы... Засталіся грошы на кіперы...

Выдаліў кіпер. Сцёр ключы ад кіпера. У настройках браўзера сцёр усе запісаныя паролі. Ведаў, цяпер узнавіць правы на кашалёк практычна немагчыма.

Ну вось, усё. Больш нідзе ні аднаго знаку.

Цяпер можна ісці ў ванную, напоўніць яе і добра памыцца.

Зусім нечакана ўсплылі перад вачыма, успыхнулі вялікімі чорнымі літарамі словы:

*...Але Вам не збегчы ад сваёй памяці. Яна будзе смярдзець заўсёды — і нічым яе не змыць, ніякім дэзадарантам не запырскаць...*

Паліваў сябе гарачай, потым халоднай вадой, але вада ўсё адно заставалася для яго аднолькава цёплай. І толькі калі дрыжыкі пайшлі па ўсім целе, зразумеў — вада напраўду халодная.

Раптам нібыта стрэліла ў галаве, так, як лопаецца паветраны шарык недзе збоку, знянацку: аглушальна, аж да змярцвення.

«Ну і што?» — выстраліла пытанне. «Абяліўся? А дзяўчына?»

Паспяшаўся за камп'ютар, раскрыў сваю заархіваваную папку з паролем.

Потым зайшоў на сайт абласнога упраўлення ўнутраных спраў, запісаў адрас электроннай пошты. Уключыў паштавік, занёс адрас упраўлення.

У «Тэме» пісьма напісаў: «Рабаванне дзяўчыны ў горадзе... Дзень таму. Арыгінал».

У самім пісьме дадаў: «Пры пакадравым праглядзе нумар матацыкла чытаецца добра».

І спакойна, з упэўненай лёгкасцю чалавека, які нарэшце знайшоў самы галоўны кавалак неверагодна складанага пазлу, націснуў «Адправіць». Пісьмо было вялікае, відэа усё ж. Піў каву, назіраў за адпраўкай. Калі перадача завяршылася, праверыў. Так, дайшло...

*Ян РАДВАН*

# РАДЗІВІЛІЯДА,*

## або ПРА ЖЫЦЦЁ І ДЗЕІ, СЛАЎНЫЯ ПОДЗВІГІ БЕССМЯРОТНАЙ ПАМЯЦІ НАЙСВЯТЛЕЙШАГА ПАНА Мікалая Радзівіла, князя ў Дубінках і Біржы Віленскага княства, а таксама наймацнейшага ваяводы войскаў Вялікага Княства Літоўскага

### *Кніга другая*

Быццам прыгожы табун скакуноў непаўторных пярсідскіх,
Пасвіцца конніца іх — з пяцьдзясят, можа, тысяч, не меней, —
Поўнячы ржаннем густым недасяжныя землі Каўказа.
Гэткае мноства харугваў сабралі для бітвы маскоўцы:
Там разнастайнасць гаворак ды зброі вайсковай шматфарбнасць.
Разам з абодвух бакоў павярнулі сцягі на ліцвінаў:[1]
Бераг Крапіўнай ля Оршы Сярэбраны з войскам займае,
З ім — мусульмане-саюзнікі, побач — атрады казанцаў,
Гэтым далучаным войскам кіруе Мурат непахісны;
З іншага боку павёў трыццаць тысяч пяхоты і конных
Шуйскі на Полацк, у землі Іванска[2]; быў Шуйскі адметны
Колерам цёмна-рудым ды яшчэ залатою аздобай
Зброі магутнай сваёй, адмысловай яе акаймоўкай.
Толькі не здолеў адбіць ён удару ліцвінскае дзіды:
Змогся, калі надышла незваротнага лёсу часіна.
Мноства чужынскіх аблічаў навокал, лунаюць харугвы,
Пурпурам цёмна-чырвоным яны зіхацяць, адліваюць
Бурай злавеснай крывёй, жаўцізною смяротнаю Ксанта...
Што за відовішча там, на шырокіх палях: атачыўшы
Пушчай навокал сябе, непрыступнымі сталі маскоўцы;
Згубу, пагібель, агонь на ліцвінскія землі кіруюць.
Мудры ваяр Радзівіл, на армаду зірнуўшы, убачыў
Зарыва новай вайны, люты жах і агонь на палетках...
Моцна ўстрывожыўся ён, засмуціўся няшчасцем Айчыны,
Рупіцца ноччу і днём, ды шчыруе па розных напрамках,
Сам жа не знае спачыну ў цяжкіх ды нястомных турботах.
Вузкае кола магнатаў збірае нараду: дзяржаву
Трэба, маўляў, ратаваць. Радзівіл выступае наперад:
«Тут — а не дзесьці! — для нас — найважнейшая справа, вы самі
Бачыце добра, каго пераследуе князь апантаны
З войскам шалёным сваім. Грамадзяне! Нам трэба змагацца

---

* *Працяг. Пачатак Кнігі другой у № 6, 7, 8, 9, 2011 г.*

[1] Глоса: «Правадыры маскоўскіх войскаў, Сярэбраны і Пётр Шуйскі».

[2] Іванск — сёння пасёлак у Чашніцкім раёне Віцебскай вобласці.

З дзікім народам: у іх ні законаў, ні веры, ні згоды —
Гвалт невымерны ды прага крыві чалавечай... Не дайце ж
Роднага краю і дзетак сваіх на загубу маскоўцам,
Гонар вялікай Літвы бараніце цяпер, заклінаю
Горам Айчыны, слязьмі, заняпадам яе... Не дазвольце
Знішчыць дзяржаву, хутчэй адвядзіце пачварную ганьбу!»[1]
Згода — агульная. Што ж: красамоўства на тое і трэба.
Выйшла вайсковая моладзь, а з імі — і Марсавы слугі,
Лікам няшмат іх, аднак дабрачынныя, з сэрцам адважным,
Здольныя войска сабраць і змагацца жалезнаю зброяй,
Светач ліцвінскіх мужоў... Пераліві́ста трубы зайгралі,
Шчыльна ідуць юнакі, падганяюць няўмольнага Марса.
Жаль абуджае мужоў на ганебнага ворага ўзняцца:
Зноў уздымаюць мячы, панаўляюць бацькоўскую зброю.[2]
Гэты бярэцца за лук, дэманструючы спрыт і майстэрства,
Іншы ад даўняй іржы ачышчае свой меч, паліруе
Шчыт велізарны, а шлем аздабляе распушаным пер'ем;
Хтосьці на камні яшчэ навастрае лятучыя стрэлы,
Іншы ўдыхае нутром едкі шчолак ствала баявога.
Чысцяць ваеўнікі латы, адметныя мноствам аздобаў
З золата й срэбра, ды месцы разломаў мацуюць надзейна.
Хтосьці муштруе каня, што ляціць болей шпаркі за вецер,
Шыю крутую нясе, ды агнём ажно чмыхае з ноздраў, —
Каб не шарахаўся ў галасе бітвы, гучаў капытамі.
Вершнікі целы свае падкідаюць на конскія спіны,
Рвуцца імкліва на бой... Ды яшчэ не пара... Але ўрэшце
Сіплыя гукі чуваць; тое трубнае гранне, што сціхла,
Зноў загучала ўдвая — заспявала вайсковая справа.
Спешна тады прыбылі да шатра камандзіра вайскоўцы —
Крочаць, нібы праплываюць, пафыркваюць коні пад імі.
Шэрагі шчыльна ідуць — так сыходзіцца грознае войска:
Грывамі коні трасуць, ззяе золатам ратная зброя.[3]
Першы крылаты атрад Радзівіла цяпер заклікае:
«О правадыру Літвы, ты збавіцель, з табою адчаю
Не паддамося — ані! — ты для нас апякун, ды найлепшы.
Стань на чале — і з табой мы пакрочым на ўсход і на поўдзень,
Нават да тых дзікуноў, у краіну без Бога й закона.[4]
Глей афрыканскай зямлі, з маўрытанскаю змешаны соллю,
Мы заваюем з табой, нават з дакаў двухмоўных спагонім
Сцятыя імі харугвы. Вядзі ж нас, куды пажадаеш.
Шанец ваенны цябе ахінае сваімі крыламі.[5]
Хто гэткі ж спрытны, як ты, у рамёствах суровага Марса?

---

[1] Глоса: «Прадбачлівасць Радзівіла — на ўспамогу Айчыне».

[2] Глоса: «Невялікае, але магутнае войска ліцвінаў супраць маскоўцаў у 1564 г.».

[3] Глоса: «Войска палякаў і ліцвінаў аздоблена надзвычайна».

[4] Глоса: «Аўтарытэт Радзівіла».

[5] Глоса: «Фартуна і шанец Радзівіла».

Слава твая паляціць, панясецца на крылах нястомных
З гэтага месца, а лаўр вечны гонар надасць па заслугах.
Сцяг уздымаць загадай, карыстайся са зручных абставін.[1]
Прагнем з табою і мы шляхам доблесці цяжкім да славы
Разам прайсці — праз агонь, праз варожую зброю, праз цяжар.

## *Кніга трэцяя*

Ёсць і запал, і нагода спяваць гучным голасам сёння.
Воды сівой Гіянтэі[2]! Карміцелькі слаўных аонаў[3]!
Маеце пэўную моц над жахліваю безданню пекла!
О кіраўнік карагода, дэльфійскі вяшчун валадарны![4]
О Каліопа, чый досвед узрос між багінь срэбраногіх!
Сонмы святых жыхароў тых славутых узвышшаў[5], прашу вас:
Гучныя словы мае абвясціце, спяваючы ўзнёсла.
Разам са мною цяпер прадстаўляйце сыноў ваяўнічых
Мужнай Літвы — тых мужоў, што праславілі край свой айчынны,
Годных герояў, што выйшлі на жорсткую лютую бітву.
Іх апішыце, о Музы, што помніце кіравы дзеі:
Толькі праз вас — ухваленне мужам, у булат закаваным.
Вось два браты ў авангардзе — Хадкевічы, з добрага роду:
Іх вылучаюць адразу выдатная зброя і слава.[6]
Той і другі — для ліцвінаў надзея, аздоба Айчыны,
Дзве найяснейшыя зоркі ў вялікім, магутным народзе.
Зззяючы дзідай спічастай, вядуць маналітнай харугвай
Ратнікаў шчыльна самкнутых, падобныя самі да войска,
Быццам бы двое народжаных хмарамі — Рэт разам з Фолам[7] —
Мчацца з гары: расступаецца лес ды згінаюцца вербы.
Першы — Грыгорый, які на чале ўсяго войска выходзіць,
Смела кіруецца ў бой, непрыяцеляў сам атакуе;
Сэрца адвагай гарыць, грудзі дыхаюць сілай вялікай,
Моладзь вайсковая з ім. А другі — гэта Ян непахісны,
Вельмі гарачы ў душы, прагне бітвы ўсім сэрцам. Ён смела
Меддзю склікае на бой навабранцаў адважных і статных.[8]
Плечы акрыты ў яго леапардавай шкурай. Гарматы
Спрытна шыкуе, і сам пехацінцаў кіруе на бітву.
Тыя ж, на звычай спартанцаў, чырвонае мелі адзенне,

---

[1] Глоса: «Веданне вайсковай справы».

[2] *Воды сівой Гіянтэі* — Кастальская крыніца, якая знаходзілася на гары Парнас; сімвал паэтычнага натхнення.

[3] *Аоны* — старажытнае племя ў Беотыі. «Сёстрамі з Аоніі» называлі Муз.

[4] *Дэльфійскі вяшчун* — Апалон.

[5] Горны ланцуг Гелікона і гара Парнас у антычнай міфалогіі традыцыйна ўяўляліся месцам жыхарства Муз.

[6] Глоса: «Пералік вышэйшых правадыроў войска, якія сабраліся на Іванскую бітву». Азначэнне «Іванская» звязана, хутчэй за ўсё, з назваю мястэчка Іванск (гл. заўвагу да 787 радка).

[7] *Рэт і Фол* — браты-кентаўры.

[8] Глоса: «Ян Хадкевіч, граф на Мышы і ў Шклове, кашталян Віленскі, кіраваў літоўскай пяхотай».

Неслі сагнутую шаблю, а з ёй — для забойства рыштунак,
Той, што плюецца свінцом і крылатую смерць выпускае.[1]
Ян аддае ім загады, Аборскі ж, яго памагаты,
Воклічам гучным сваім падганяе шырокія флангі.
Следам за імі — змагар, найвялікшы вайсковец Зяновіч,[2]
Волат, магутны душой, зіхаціць баявым узбраеннем,
Меднадаспешны, суровы, нясе ён вялізную дзіду,
Збройных вядзе малайцоў, прызвычаеных змалку да бітваў;
Тая харугва якраз узбраеннем адметная ў войску.
Вершнікі ў медных даспехах ды з дзідамі следам нясуцца:
Волмінскі ў іх на чале, улюбёнец імклівага Марса,[3]
Здольны да войнаў ліхіх, правадыр знакаміты, выдатны.
Потым — славуты Сангушка (цябе не пакіну без згадкі!),
Мужнасцю роўны другім, адмысловаю зброяй адметны, —
Пострах маскоўцаў усіх, пераможца бязлітасных скіфаў.
З першых літоўскіх князёў, з Гедыміна старога паходзіць
Твой радавод, о герой! Узнаўляеш хвалу сваіх продкаў
З Марсам суровым цяпер, непахісны і грозны вайсковец,
Спрытна кіруеш атрадамі калчананоснага люду.
Доўгія шаты яны апранаюць, па звычаю продкаў,
Гнуткага лука свайго ды лятучай стралы не саступяць
Гэтыя спрытныя хлопцы з выдатнага племя валынцаў.
Осцікаў род старажытны літоўскі сабой прэзентуе
Мужны Георгій.[4] А вось, рысака асядлаўшы, Карэцкі
Скача бадзёра. Далей выступае Багдан непахісны
З роду высокага — Саламярэцкіх, і вораг заўсёды
Бачыць яго толькі ў твар, а спіны шчэ не бачыў ніколі.
Шпорыць каня ён, імкліва ляціць ды парадкуе войска.
Чашнікі ў полі сваім і цябе, Мікалая Сапегу,
Бачылі: ты кіраваў кавалерыяй хуткай на флангах,
Хмараю пыл уздымаў, абуджаючы грознага Марса.
Кміта Філон — невысокага росту, аднак жа адвагай
Ён да нябёсаў узрос, стаў найпершым у марсавых справах.[5]
Мчышся віхурай, Філон, з лёгкаўзброеным войскам наперад;
Трапныя стрэлы ў вайскоўцаў, і ворагам лепш іх баяцца!
Тут жа — магутныя Бакі з закручаным пер’ем на шлеме,[6]
Войска кіруюць у бой, абуджаюць да бітвы атрады.
Ты, як Тышкевічы ўсе, — палымяны і мужны, Георгій,
Гэткі ж славуты ваяр у крывавай вайне! Ты кіруеш
Конніцу хуткую ў бой, сам да подзвігаў велічных здатны!
Выйшаў на бой Баркалаб з роду Корсакаў, маючы мэтай
Войска варожае ўшчэнт расцярушыць па чашніцкіх землях.
Годна над шлемам яго лебядзіныя пер’і ўзняліся.

---

[1] Глоса: «Склапета». Склапета — род перанасной агнястрэльнай зброі.
[2] Глоса: «Георгій Зяновіч, кашталян смаленскі».
[3] Глоса: «Ян Волмінскі, ваявода смаленскі».
[4] Глоса: «Георгій Осцік, ваявода мсціслаўскі».
[5] Глоса: «Філон Кміта, вельмі вопытны ў ваеннай справе».
[6] Глоса: «Браты Бакі».

Што ж, перамога ці смерць, — на адно й на другое гатовы.
Мужны Свяйкоўскі вядзе юнакоў непахісных харугву,
Ён тылавыя атрады спяшаецца ўзяць пад каманду.
Дзе ж там, на карках чыіх гнуткі лук і калчаны спяваюць?
Гэта казацкая раць услаўляе цябе, Радзівіле!
Сам Радзівіл — сярод іх, скача ў цэнтры вялікага войска,
Ён — правадыр у вайне, кіраўнік найвышэйшы; вайскоўцам
Дух уздымае й настрой сваёй гучнай камандай. Няхай жа
Бог добры лёс яму дасць, ды спрыяе шматвопытнасць Марса.
Статны фракіец пад ім, конь-араб знакамітай пароды,
Цуглі зласліва грызе ды аброць залатую кусае.
Вось набліжаецца гетман, Фартуна лунае навокал.
Шлем на высокім чале прамяніцца і ззяе на сонцы —
Яснасцю чыстай сваёй ён спрачаецца з зоркамі ў небе.
Шчыт — у лявіцы яго, а на ім у святле пазалоты —
Шэраг шматлікіх падзей разгарнуўся на жоўтым метале.
Там — перамогі дзядоў, старажытныя дзеі ліцвінаў.
Вунь праз балтыйскі прастор караблі праплываюць Лібона[1]:
Выйшлі ў затоку Платэлы, абмытай і злева, і справа,[2]
Воляю Бога прыбыўшы да новых зямель, каб нарэшце,
Воды і землі прайшоўшы ды шмат вандраваўшы па моры,
Мужны Лібон адшукаў сабе бераг для новай айчыны.
Пушча ўздымалася там з разнастайнасцю дзікага звера;
Выйшаў на бераг атрад італійцаў, сцінаючы дружна
Тураў, імклівых аленяў ды дзікіх зуброў. І нарэшце
Новага Рыма муры, старажытнаму Рыму замену,
Там збудавалі яны ў гожым вусці блакітнай Дубісы.[3]
Гэтак свяшчэнны паўстаў радавод каралёў-валадарцаў:
Знак іх — загнуты ражок; свае скіпетры моцна трымалі.
Першы ліцвінаў кароль на высокім чале меў дванаццаць
Промняў, магутны Міндоўг, атрымаў ён святую карону
З самага Рыма; а вось Эрдзівіл дзве стралы дасылае —
Платы жахлівае знак — уладарніку грознаму скіфаў.
Побач яшчэ, паглядзі, целы скіфскіх легатаў забітых:
Гэткі суровы адказ быў Скірмунт перадаў Балаклаю;
Так распачаў ён вайну, так узрушыўся раптам на бітву,
Койданаўскія палі сфарбаваўшы чырвонай крывёю.
Віценя ўбачыш, як ён, атрымаўшы паразу ад Лешка,
Потым здабыў перамогу, адолеўшы ляхаў у бітве:
Кожны літоўскі ваяр, спачування не маючы ў сэрцы,
Вёў аж па дваццаць палякаў — хлапцоў маладых — у няволю.
Танцы і спевы звіняць, пераможцы да Леды гукаюць,
Быццам бы чуеш «Ура!» — пераможны і радасны вокліч.

---

[1] Глоса: «Ліцвіны несумненна вядуць пачатак ад італійца П[ублія] Лібона, якога іншыя называюць Палямонам».

[2] Маецца на ўвазе востраў у возеры Платэла, на якім у даўнія часы быў замак. Па звестках С. Нарбутаса, у XVI ст. раён Платэлы распасціраўся да Балтыйскага мора.

[3] Глоса: «Новы Рым на берагах Жамойці і Літвы будуецца італійскімі прыхаднямі, цяпер Наўрома (у арыгінале — Nowromo)». Гэты горад узгадваецца і ў «Хроніцы» Мацея Стрыйкоўскага.

Потым па ўскрайках шчыта ты заўважыш гару ды пачуеш
Там завыванне ваўка; спрытны майстра аздобіў ваўчару
Меднымі скрэпамі скрозь, бо хацеў яго, пэўна, прадставіць
Сімвалам вечна жывым, а з улоння вялізнага звера
Выюць аж сотні ваўкоў; так Ліздзейка-вяшчун тут убачыў
Горад славуты — дык вось праз яго прадказанне ўзняслíся
Вільні высокай муры. О карміцелька розных народаў,
Моцная Вільня — даўней кпілі з хатак яе невялічкіх,
Сёння ж — ліцвінам аплот, з гарадамі вялікімі роўны.
Ці ж не з табой, Казімір, прыгажуню-ліцвінку Альдону
Шлюб паяднаў? Вось яе знакамітыя старцы-ліцвіны,
Родам заможныя, дужыя, годна вядуць да сужэнца.[1]
Стрэлы пагрозныя ў іх, а на плечы накінуты шкуры
Полацкіх бурых мядзведзіц, зуброў велізарных грывастых;
Поруч багаты пасаг дастаўляюць шматлікія ляхі,[2]
Скрозь абраслі валасамі, ды, аднак жа, усцешаны вельмі:
Волю яны атрымалі, пазбыліся путаў палону.
Лёс незваротны тады аб'яднаў дзве краіны законна:
Вольна ўладарыць маглі раўнапраўна, неабмежавана.
З гэтага часу, як бач, з пагадненнямі шлюбнымі разам
Мір расквітнеў навякі, і багам гэты мір даспадобы.
Хай жа ліцвіны жывуць з вечнай славай і з іх маястатам,
Хай жа квітнее ў вяках годны тытул Вялікага Князя!
Разам народы няхай аднаго валадарцу шануюць,
Разам бароняць свой край і ўздымаюцца славай да неба!
Вось брандэнбургскія землі пустошыць ды ворага нішчыць
Князь Гедымін — чорны дым над пабоішчам густа клубіцца, —
Прусаў і скіфаў ліхіх упакорвае моцнай дзясніцай,
Ворагаў аж за Танáіс, сцінаючы іх, выганяе.
З прускага боку, аднак, пашыраецца зноў навальніца
Аж да літоўскіх зямель[3]: Дузумер у ваенную сечу
Прусію дзёрзка ўцягнуў; з ім багемскі кароль і панонскі
Разам пайшлі на вайну, бо абодва каронамі ззялі;
Галаў, маравáў ды залатакудрых брытанцаў, а з імі
Лютых датчан узняла на вайну ўся Германія разам
Супраць літоўскага племя, і Рэйн аб'яднаў іх трохрогі.
Кейстут з Альгердам, аднак, іх адольваюць смела й рашуча —
Нават не сілай сваёй, а развážнай ды хітрай задумай;
Прускія землі цяпер ад нястачы ды голаду церпяць,
Попелам сталіся скрозь разам з імі й лівонскія зáмкі.
Глянь на падобных да іх, як злуюцца яны ды ад злосці
Проста шалеюць — пасля ж па забітых сваіх лямантуюць...

---

[1] Глоса: «Пачатак і як бы знак аб'яднання палякаў з ліцвінамі».

[2] Глоса: «Пасаг літоўскай княгіні 20 000 палонных палякаў, шчодра адпушчаных ліцвінамі».

[3] Глоса: «Людовік, кароль Венгрыі, Ян, [кароль] Багеміі, Карл, [кароль] Маравіі, Мархіён, які пазней быў названы імператарам Карлам IV, князь Саксоніі, князь Памераніі Мархіён Брадэнбургскі, з дапамогай галаў і англічан напалі на Літву з вайною; Папа [сваімі] буламі і крыжатамі паклікаў усіх на свяшчэнную вайну. Альгерд і Кейстут адваявалі разрабаваную Літву і апошніх ворагаў замардавалі голадам.

О неразумны магістр! Ты ў адказе за гэтыя смерці!
З іншага боку Альгерд дасылае маскоўцам у труце
Грозны нязгасны агонь (ён, здаецца, й дагэтуль дыміцца),
Хутка ідзе на Маскву і маскоўцу зняважліва кажа:
«Хто ж так заўчасна, скажы, уздымаецца ў бітву? О Божа!
Злітуйся ж Ты з неразумных!» — і кідае дзідай у вежу.
Вось гадаванцы свабоды — сарматы, — а з імі й ліцвіны
Разам з магутным Ягайлам руйнуюць германскія войскі.
Сыплюцца стрэлы, як дождж... Люты вораг тады нечакана,
Лепей скажу я, ганебна, наўцёкі падаўся. І мноства
Ворагаў згінула там ад магутнага войска сарматаў.
Грунвальд заліўся крывёй, на зямлю паваліўся магістр,
Выпусціў дух і сканаў, стаўся трупам бяскроўным і бледным.[1]
Вунь храбры Вітаўт ідзе, каб разбіць Тамерланава войска;
Што ж, нават гэты намер заслугоўвае вечнае славы.
Вось жа ў Луцкай зямлі адбываецца пір знакаміты,
Вельмі шыкоўны прытым: тут прысутнічаў сам імператар,
Тры каралі ды абодва магістры, і князь быў маскоўскі,
Мноства высокіх вяльмож туды прыбылі на бяседу.
Гучна гамоняць мужы, галасы то шумяць, то сціхаюць
(Зрокам той сход ахапіць немагчыма); вунь цёплай крывёю
Быдла і дзікіх звяроў паліваецца глеба бясконца;
Шмат разнастайных народаў на тую пачостку сышліся.[2]
Побач яшчэ, паглядзі: ваяўнічая Вольга, якая
Здолела горад здабыць з дапамогаю трох верабейкаў.
Вось Святаслаў — што за лёс! — нападаў ён спачатку на грэкаў,
Потым быў сцяты магутнай правіцай ліцвіна Курэта:
З чэрапа князя сабе адмысловы ён вырабіў келіх,
Выбіўшы надпіс на ім: «Ты чужога шукаў — і загінуў».
З іншага боку ляціць мноства палак да сцен Завіхоста[3],
Побач успыхнуў агонь, асвятляючы шчыт адмысловы.
Рэчка Крапіўна — у цэнтры шчыта — замарудзіла бег свой:
Трупы забітых маскоўцаў запрудзілі ўсё. Пераможцы
Гоняць баяраў, князёў, закаваўшы іх ногі ў кайданы.[4]
Быццам заранка тады праліла залатое праменне,
Перш чым заззяла святлом калясніца агністага сонца,
Ясным аблічам сваім асвятліўшы палі ды пагоркі,
Нават лагчыны і дол апранаючы радасным ззяннем.
Гэткім цудоўным шчытом Радзівіл прыкрываў сваё цела.

---

[1] Глоса: «У 1331 г. былі разбіты 50 000 германцаў».

[2] Глоса: «Для пачосткі Вітаўта ў Луцку Валынскім на працягу сямі дзён штодня забіваліся 700 быкоў, 1 400 авечак, 100 зуброў, столькі ж аленяў, ласёў, дзікоў і інш.; штодня выпівалі 1 400 збаноў мёду, а таксама 100 бочак віна і іншых хмяльных напояў».

[3] У «Хроніцы» Мацея Стрыйкоўскага апісваецца выправа Ягайлы з літоўскім і жамойцкім войскам у Мазовію. Пры аблозе замка Завіхост (у Стрыйкоўскага — Завіхвост) адзін шляхціч, якога звалі Радзівіл, уласным смелым прыкладам паказаў іншым спосаб пераправы праз Віслу, а потым на яго параду да сцен Завіхоста былі сцягнуты драўляныя палкі і ашчэпы, з дапамогай якіх замак быў падпалены і такім чынам узяты.

[4] Глоса: «Каля ракі Крапіўнай у 1514 г. было разбіта 80 000 маскоўцаў: адны з іх загінулі, другіх прагналі». Маецца на ўвазе перамога пад Оршай 8 верасня 1514 г.

*Андрэй ЖВАЛЕЎСКІ,*
*Яўгенія ПАСТАРНАК*

# ГІМНАЗІЯ № 13*

***Раман-казка***

ЧАСТКА 2

## ЧОРНА-БЕЛАЯ БЛЫТАНІНА

Глава 20

### ДУБ ДОБРА, А ДВА ЛЕПЕЙ

* * *

…Яны стаялі пад дубам, задраўшы галовы, і маўчалі.

Нарэшце Лёля з непазбыўнай тугою прамовіла:

— Такі вялікі дуб… Ну чаму яны не могуць яго падзяліць?

— Таму што, — пачаў Сеўка, — дуб — гэта дрэва сусвету, цэнтр светабудовы, пазначанае рунаю «алатыр»…

— Сева, — ціха, але настойліва перапыніла яго Маша, — ты разумны, так?

Сеўка, адчуваючы падвох, надзьмуўся, але кіўнуў.

— Тады, — яшчэ цішэй сказала Маша, — ты павінен ведаць, што такое рытарычнае пытанне…

Сеўка надзьмуўся яшчэ болей.

— Ды калі б ён быў у два разы вышэйшы і ў чатыры — таўсцейшы, — прабурчаў Мішка, — яны ўсё роўна б з-за яго бадаліся.

Лёля падышла і пагладзіла дуб. Антоха не без рэўнасці адчуў, што старое дрэва адазвалася — не гукам, не шаволеннем, а чымсьці нутраным.

— Адчувае, дрэва, — данеслася аднекуль зверху Васькава мурканне, — чый цяпер час…

Толькі зараз да ўсіх дайшло, што ланцуг разарваны.

— І Русалкі нешта не чутно, — з пагрозай прамармытаў Мішка. — Зараз я некага па мызе паласатай…

— Спакойна, — закудахтала Русалка, але Мішка падскочыў ужо, пацягнуў за галіну…

І перад усеагульным позіркам з'явілася незвычайная карціна: кот, які расцягнуўся на галіне, і паўптушка-паўжанчына, прыхінутая да яго.

— Стукацца трэба, — заявіў кот і пры гэтым ніколькі не збянтэжыўся.

А вось Русалка заірдзелася румянцам дзяўчыны і зрабіла выгляд, што яна тут так сабе, проста пралятала міма і прысела перадыхнуць.

— Вой, — прамовіла Маша, — а мы думалі, ты яе з'еў!

* Працяг. Пачатак у № 1, 2, 3, 4, 5, 6, 7, 8, 9 г. г.

— Збіраўся, — ляніва пацвердзіў Васька, — але тут такія справы… Разам трымацца трэба! Самі разумееце…

— Пачакай, — перапыніў яго Антоха, — ты нешта сказаў пра час! Што дуб разумее, чый зараз час!

— Дык Лёлін жа! — адказала Русалка з такім выглядам, як быццам паведамляе ўсім вядомую рэч. — 22 сакавіка яе час пачынаецца!

А Лёля ўсё стаяла і гладзіла дуб.

— А давайце яго распілуем! — прапанаваў Сеўка. — Палову белым, палову чорным! Усё справядліва!

— Выдатная ідэя! — нечакана бадзёра падтрымаў яго кот. — Чуеш, птушачка мая, колькі яго ўжо пілаваць спрабуюць? Тысячу гадоў?

Паўптушка задумліва зірнула ўверх, як быццам там былі напісаны лічбы, і адказала:

— Тысячу гадоў… і яшчэ сто дваццаць тры гады.

— Пілуй, брат! — урачыста аб'явіў Васька і пачаў вастрыць кіпцюры аб галіну.

Мішка, якому надакучыла трымаць адцягнутую галіну, адпусціў яе. З кроны пачуўся абураны енк — відаць, кату трапіла па носе.

— Калі не пілаваць, — вырашыла падтрымаць думку Сеўкі Маша, — тады можна побач другі пасадзіць! Адны ў старым застануцца, другія ў новы перабяруцца!

Усе задумаліся. Нешта ў гэтай ідэі было.

— Не раўнацэнна, — са шкадаваннем сказаў Антоха. — Хто пагодзіцца памяняць старажытнае дрэва на малады дубок?

— Абодва пагодзяцца! — раптам заявіў Мішка. — Мы два дубкі пасадзім! Каб па справядлівасці!

— А стары? — запытаўся Сеўка.

Мішка пацiснуў плячамі, усім сваім выглядам паказваючы, што не можа ж ён прыдумваць кожную дробязь.

— Будзе нейтральнай тэрыторыяй! — вырашыў Антон. — Месцам для сустрэч і перагавораў. Як думаеш, Лёль?

Але Лёля нічога не адказала. Яна стаяла, прыціснуўшыся да ствала шчакою, і гладзіла яго так, быццам назаўжды развітвалася з дарагім сябрам.

* * *

Калі дзяліліся, хто з кім пойдзе дамаўляцца, неяк само сабою атрымалася, што ўсе схацелі пайсці з Лёляю да Перуна, а да Паляндры — толькі адзін Антон. Ён, у прынцыпе, не пярэчыў, але Сеўка, незадаволена пацерабіўшы акуляры, усё-ткі вырашыў далучыцца да яго. Як ён патлумачыў, «для самавітасці».

Лёля павяла Машу і Мішку наверх, употай чакаючы заспець ужо звычны кавардак, але там аказалася нязвыкла чыста. Прычынаю гэтага была стомленая ветлівая жанчына, якая якраз заканчвала падмятаць дах незвычайным венікам. Ён больш нагадваў букет: адмыслова пераплеценыя дзьмухаўцы, падбел, ландышы і нават чартапалох. Пабачыўшы Лёлю, жанчына збянтэжылася і пачала апраўдвацца:

— Я з раніцы проста не паспела прыбрацца… Ты ўжо даруй, Лёлечка-дзіцятка…

Гэтыя прабачэнні былі перапынены Перуном:

— Лада! Хопіць перад імі спіну гнуць! Не госці прыйшлі, а просьбіты!

Але добрая Лада ўсё-ткі пакланілася і, прамармытаўшы: «Вось і добра, вось і добра…», знікла ў паддашкавым акне.

Пярун выглядаў больш паважна, чым пры ўчарашняй размове, ды і світа сабралася больш пышная: плячысты Ярыла (усё яшчэ ў фіранцы, але ў свежым вянку); задумлівы дзядок, які перабіраў у руцэ, як ружанец, кветкі шыпшыны; смяшлівы мужычок, які зараз жа пачаў Лёлі з Машаю ці-то строіць вочкі, ці-то крывіць морду, і некалькі паўпразрыстых дзяўчат з вялікімі, як у чапляў, крыламі.

Усе яны пазіралі не зласліва, а хутчэй за ўсё лагодна. Нават Пярун надзімаўся, здаецца, больш для формы.

Лёля дазволіла сабе перавесці дух. «Падобна, — падумала яна, — размова будзе не такою ўжо і складанай». Відаць, яна і не была б складанай, калі б ініцыятыву не ўзяў на сябе Мішка.

— Карацей, так, — заявіў ён, выступіўшы на крок перад дзяўчынкамі, — з дуба вы сыходзіце. Сёння ж. Мы вам новы дуб пасадзім — у ім жыць будзеце!

Прамова мела поспех: у Перуна адвіснула сківіца. Ярыла і смяшлівы мужычок схапіліся за зброю, а крылатыя дзяўчаты пачалі гарлапаніць, як чарада галак. Толькі дзядок з ружанцам усміхнуўся:

— А і добра! Новы дубок! Свежанькі… Зялёненькі… Пупышкі… Жалуды…

— Цыц, Сімаргл! — гаркнуў Пярун, які ўжо апамятаўся. — Табе абы з пупышкамі-кветачкамі сваімі важдацца!

Ярыла выставіў перад сабою дзіду. Смяшлівы — які цяпер ператварыўся ў раз’юшанага — пацягнуў з ножнаў цяжкі меч. Мішку гэта не збянтэжыла.

— Калі хто забыўся, — сказаў ён амаль ласкава, — дык я Бер!

Мечаносец кінуў на Ярылу запытальны позірк.

— Ага, Дажбог, — неахвотна прызнаў той. — Бер гэта… Толькі войска яго далёка адсюль!

— А я паклікаць магу! — весела адазваўся Мішка. — Я ж цяпер іх новае імя ведаю!..

На тварах у Перуна, Ярылы і Дажбога з'явілася складаная мешаніна эмоцый. Калі коратка, дык яе можна было б апісаць гэтак: «А раптам не хлусіць? Тады мы ўліпнулі…» Крылатыя спадарожніцы Перуна, якія, мяркуючы па ўсім, не мелі глыбокага розуму, заклекаталі яшчэ больш. Лёля зразумела, што час ратаваць становішча.

— Хвілінку! — яна ўзняла рукі далонямі ўверх. — Нічога страшнага не адбываецца! Мы проста прапануем вам з Чорнымі раз’ехацца! Адзін малады дуб атрымаеце вы, другі — яны! Гэта просьба, разумееце?

Мішка ўсім сваім выглядам паказваў, што не такая ўжо гэта і просьба, але Пярун палічыў за лепшае зрабіць выгляд, што па-ранейшаму тут галоўны. Ён паскроб падбародак пад залатой барадою і вялікасна задумаўся.

* * *

Паляндра прыняла дэлегатаў куды больш гасцінна і, дарэчы, у поўнай адзіноце. Яна была цалкам задаволена сабою і жыццём, рассеўшыся ў крэсле вахцёра (як яно толькі апынулася ў падвале?) і пацягваючы штосьці водарнае з вялікага глінянага кубка. Пасля абмену амаль афіцыйнымі прывітаннямі яна выбачлівым голасам сказала:

— Вам не прапаную, таму што віно… Ці?

Чорная спадарыня кінула на хлопчыкаў дапытлівы позірк, але Антон рашуча заматаў галавой.

— Добра, — кіўнула Паляндра-Кашчэй і спрытна дастала з цёмнага кутка дзве табурэткі. — Прысаджвайцеся. У нагах праўды няма.

Сеўка сеў, насцярожана пазіраючы на Паляндру праз запацелыя чамусьці акуляры. Антон, сядаючы, мімаходзь падумаў, што табурэтачкі свіснуты са сталоўкі.

— Па справе ці пабалбатаць? — правадырка Чорных з відавочнай асалодай сербанула з кубка.

Антоху вельмі хацелася выбраць другі варыянт, але ён перасіліў сябе.

— Па справе.

Пакуль ён, спыняючыся, калі асмялелы Сеўка перабіваў яго, тлумачыў свой план, Кашчэй папівала віно, быццам і не слухаючы. Толькі зрэдку ківала — маўляў, працягвай, я тут, я ўсё чую.

— Цікава, — працягнула яна, — добры план.

* * *

Мішка пачаў ужо страчваць цярплівасць, калі Пярун агучыў свой вердыкт:

— План мы прымаем…

«Няўжо так проста?!» — у думках узрадавалася Лёля.

— …але не цалкам, а напалову!

Усе, нават бліжэйшыя паплечнікі Белага бога, здзіўлена на яго ўтаропіліся.

— Няхай Кашчэіха выбіраецца ў малады дубок, а мы застанемся ў сваім, спрадвечным!

— Але… — пачала Лёля.

— Пярун — бог строгі, але справядлівы! — годна паведаміў Пярун. — Я заўжды гатовы да дыялогу з простымі смяротнымі. Так што, дзяўчынка, калі што надумаеш, прыходзь яшчэ.

Пярун устаў і звярнуўся да сваёй світы:

— Вось! Ужо нават дзеці разумеюць, што Чорныя сілы павінны быць цалкам выкаранены! І маленькі дуб — гэта першы крок да нашай поўнай і безагаворачнай перамогі. Ура!

— Ура!.. — падхапілі паўпразрыстыя дзяўчаты.

— Ура дык ура…— скептычна сказаў Дажбог, — але, па-мойму, яны мелі на ўвазе нешта іншае…

— Усе вольныя! — заявіў Пярун і звярнуўся да візіцёраў. — Прызначаю вас адказнымі за пераезд. Каб да чацвярга духу гэтай чорнай жывёліны ў нашым дубе не было!

— Чаму да чацвярга? — запыталася ашаломленая Лёля, гледзячы як бог са світаю накіроўваецца за комін.

— Чацвер — дзень Перуна, — машынальна адказала Маша. — Толькі як мы вызначым, калі ён настане, час жа спыніўся…

— Ён што, зусім тупы? — абурыўся Мішка.

— Не ведаю, — сказала Лёля, — я ўжо нічога не ведаю.

* * *

— Я — згодна, — прамовіла Паляндра.

— Так проста? — здзівіўся Сеўка.

— А што? Мяне гэты салдафон напышлівы, ведаеш, як дастаў?

Паляндра вытарашчыла вочы і зараўла:

— Я — Вярхоўны бог славян, і я загадваю…

Атрымалася гэтак падобна на Перуна, што хлопчыкі пакаціліся ад смеху.

— Ідзіце, расціце дубы. Я ж буду рыхтавацца да пераезду, — сказала Паляндра і з асалодаю пацягнулася.

Хлопчыкі жвава падскочылі, раскланяліся, але ўжо каля выхаду Сеўка прытармазіў.

— Па-па-ляндра, — запытаўся ён, хвалюючыся, — а можна вам пытанне задаць?

— Вядома, — усміхнулася дзяўчына.

— А чаму ўсе лічаць, што вы — дрэнная, а Пярун — добры?

— Усе? — Паляндра какетліва прыўзняла брыво.

— Не, — паспешліва заявіў Сеўка, — маю на ўвазе мы, канечне ж, не…

Хлопчык збіўся і пачырванеў.

— Добра, добра, не хвалюйся, — засмяялася Паляндра, — лічы, што камплімент залічаны.

— Я чытаў кніжкі. Шмат кніжак, — працягнуў Сеўка адкашляўшыся, — і ўсюды адно і тое ж. Пярун — святло і справядлівасць, а Кашчэй — смерць і злосць. Але вы… Мы вось на вас паглядзелі, бітвы ўсе гэтыя і ўвогуле… Вы ж аднолькавыя!

Паляндра зноў прыўзняла адно брыво. Сеўка зноў засаромеўся.

— Ну… Я хацеў сказаць, што вы нават лепшая, — прашаптаў Сеўка.

— Ды што тут ужо, — махнула рукой Паляндра. — Аднолькавыя мы, ты маеш рацыю… Проста так атрымалася, што апошнюю тысячу гадоў я правяла ў зняволенні…

— Тысячу гадоў? — ахнуў Сеўка.

— У прынцыпе нават больш, — адмахнулася Паляндра, — я някепска захавалася. Дык вось — гісторыю пішуць пераможцы. Пярун на троне, Кашчэй у ланцугах — і ў выніку Пярун добры, а Кашчэй дрэнны. Усё проста.

— А цяпер? — запытаўся Сеўка.

— А цяпер у нас раўнавага, — выскалілася Паляндра, — і варта яе хіснуць у мой бок… Можаш паверыць мне, я адыграюся…

Сеўка паверыў. Антоха коратка кіўнуў, і хлопчыкі пабеглі наверх. Расказаць усім добрыя навіны.

* * *

— Гад ён! — заявіў Мішка. — Трэба даць яму па галаве разок! Бач ты мне, Пярун знайшоўся!

Антон, які задумліва разглядваў адмысловы цень на столі калідора, прамаўчаў. Затое адазваўся Сеўка:

— Ты ўжо аднойчы спрабаваў!

— Я тады не ведаў, што я Бер! — запярэчыў Мішка. — А цяпер як раўну! Мае беры… іначай мядзведзі як збягуцца!..

Дзяўчаткі, якія сядзелі побач на падаконніку, як дзве курачкі на седале, панура пераглянуліся, а Сеўка толькі галавой паматаў.

— Ты не верыш у маіх бераў?! — абурыўся Мішка.

— Ды веру, веру, — уздыхнуў Сеўка. — Толькі яны нават не паварушацца…

Мішка ажно пабарвавеў ад такога нахабнага меркавання, і Сеўка паспяшаўся растлумачыць.

— Проста яны звонку, за межамі школы, у застылым часе яны нас не пачуюць.

Усе ўтаропіліся на Сеўку.

— Чаму ў застылым часе? — запыталася Маша.

— А што? — здзівіўся ён. — Вы самі яшчэ не здагадаліся? Гадзіннікі на мабільніках спыніліся, за вокнамі — бесперапынная ноч… Для ўсіх, акрамя нас, час спыніўся!

Падумаў і, дзеля аб'ектыўнасці, дадаў:

— Магчыма, для нас ён ідзе ў мільёны разоў марудней, чым для астатніх.

Усе засумавалі. Але тут нечакана ажыў Антоха.

— Мішка мае рацыю, — сказаў ён глуха, як быццам усё яшчэ знаходзіўся ў сваім задумлівым стане. — Тут патрэбна грубая сіла.

— Але ж беры… — памкнулася ўмяшацца Маша, аднак Антон яе перапыніў.

— Без іх разбяромся. У нас ёсць Мішка, ёсць я, ёсць Лёля… Сеўка з Машкаю таксама што-небудзь прыдумаць могуць. А галоўнае — дамавікі… у сэнсе — кабінетавікі.

— Яны маленькія, слабыя! — ціха запярэчыла Лёля. — Іх проста затопчуць…

Антоха згадаў свае нядаўнія прывіды, усміхнуўся, але расказаць сябрам пра сапраўдныя здольнасці дамавікоў не паспеў — з цёмнага кутка пачуўся абураны голас дырэктарскага кабінетавіка:

— Мы не слабыя! Мы проста на вочы не лезем. А калі трэба — мы ого-го!

Міні-дырэктар выйшаў у цэнтр калідора і горда стукнуў сябе ў грудзі. Да яго пачалі падцягвацца і астатнія кабінетавікі. Выгляд быў ва ўсіх ваяўнічы і злёгку абражаны.

— Сціплыя мы, — падхапіў Сталавік, — і цярплівыя! Калі можна не ваяваць, дык і не ваюем. Але калі ваюем…

І Сталавік паўтарыў горды жэст таварыша, ляпнуўшы сябе па пышным бюсце.

— А хто людзей спакон веку па лясах хаваў? — далучылася да гутаркі маленькая Ганна Паўлаўна.

— А хто непрыяцелю вочы адводзіў? — зашумелі астатнія. — Хто ежу бежанцам у зямлянкі цягаў? Хто жывёлу ад мору ў лесе зберагаў?

— А хто ворагам сляды блытаў і ў балоты заводзіў? — працягнуў Кладавік. — Наш брат… дакладней, наш стрыечны брат Лесавік!

— Пачакайце! — Сеўка паспрабаваў перапыніць гэты парад абражанай годнасці. — Гэта ж чалавек заводзіў! Іван Сусанін!

— Чалав-е-ек! — насмешліва працягнуў Кладавік.

— Ну вядома! — заступілася за сябра Маша. — Цэлы полк палякаў завёў! Ніхто не выжыў!

— А калі ніхто не выжыў, — хітра прыжмурыўся Кладавік, — адкуль тады вядома пра гэты подзвіг стала?

На гэта ні Маша, ні Сеўка не знайшліся што адказаць.

— Так што, — падвёў выснову дырэктарскі Кабінетавік, — мы ваяваць можам… калі прыцісне!

— А зараз прыціснула? — вырашыла ўдакладніць Лёля.

Кабінетавік адвёў позірк, але хлусіць не стаў.

— Пакуль не… Але калі цяпер Перуна не застрашыць, тут такая бойка пойдзе, што ўсіх прыцісне!

Антоха, слухаючы ўсё гэта, усміхаўся ўсё больш шырока.

— Пытанні ёсць? — запытаўся ён і сам сабе адказаў: — Пытанняў няма. Мішка, строй кабінетавікаў!

Пакуль Мішка з выглядам сапраўднага генерала арганізоўваў кабінетавікаў, Лёля падышла да Антона і кранула яго за рукаў:

— Ты праўда, — з надзеяй запытала яна, — спадзяешся, што Пярун дамавікоў спалохаецца?

— Калі не спалохаецца, — цвёрда адказаў Антоха, — прыпужнём Паляндраю.

Лёля спалохалася.

— Не хвалюйся, — Антон пастараўся надаць голасу як мага больш упэўненасці, — проста прыпужнём. Я таксама не хачу вайны. Абмяжуемся прымушэннем Перуна да міру!

Лёля нясмела ўсміхнулася.

— Гэтыя дамавікі, — сказала яна, — тыповыя беларусы. Не ваююць, пакуль не прыцісне… Ці, наадварот, мы такія, таму што нас такія дамавікі апякуюць?

Антоха паціснуў плячамі і скоса зірнуў на Машку з Сеўкам, якія важдаліся са шпагаю, той самай, што Маша калісьці здабыла з боем.

* * *

Спачатку, калі на дах выбраўся Антон з сябрамі і гучна выкрыкнуў: «Я прыйшоў аб’явіць ультыматум!», Пярун — а за ім і яго світа — разрагаталіся. Але, па меры таго як прастора пачала запаўняцца кабінетавікамі, смех рабіўся ўсё больш няўпэўненым. Надта ж сур’ёзна аказаліся настроены маленькія чалавечкі, якія сціскалі ў руках венікі і швабры, анучы і ўказкі. Адразу было зразумела, што яны прыйшлі сюды выконваць цяжкую, але неабходную працу і пакуль не выканаюць яе, не пойдуць. Нават калі для гэтага давядзецца легчы тут усім да аднаго.

— Ультыматум! — паўтарыў Антоха голасам, які быццам засеў у горле, і пачаў адкашлівацца.

Лёля не вытрымала і выйшла з-за яго спіны.

— Вялікі Пярун! — сказала яна, і гэта гучала хутчэй як абвінавачванне, чым як тытул. — Мы патрабуем, каб ты і тваё войска занялі адзін з маладых дубкоў, якія мы пасадзім у двары школы ў бліжэйшы час! А калі не…

Тут голас здаў ужо ў Лёлі, і Антоха, які паспеў адкашляцца, працягнуў:

— Тады мы цябе загонім туды сілаю! — ён абвёў рукою войска кабінетавікаў.

Мішка глуха рыкнуў. Пярун і яго світа перасталі ўсміхацца.

— Калі спатрэбіцца, — завяршыў Антоха, — мы гатовы для гэтага аб’яднацца з Паляндрай.

На гэты раз Пярун непрыхавана задрыжаў, ды і ўсе астатнія Белыя пачалі спалохана шаптацца.

— Дарэчы, — Лёля паспрабавала хоць неяк змякчыць Антонаву пагрозу, — Паляндра ўжо згодна перабрацца ў свой дуб.

Яны замоўклі, чакаючы адказу. Шэпт у стане Белых сціх. А кабінетавікі з самага пачатку стаялі ў цяжкім маўчанні.

Пярун сабраўся з духам і горда задраў бараду.

— Ніхто не смее загадваць вялікаму Перуну, — грозна прамовіў ён і выставіў уперад руку.

Іскры заскакалі на кончыках яго пальцаў, але ніхто з праціўнікаў Перуна нават не зварухнуўся. Белы правадыр крыва ўсміхнуўся, падняў руку над галавой…

…І маланка, якая сарвалася з далоні грамавержца, нікога не закрануўшы, накіравалася да Сеўкі. Зрэшты, яго яна не закранула таксама, а ўпілася ў вастрыё шпагі, якую ён паспеў ускінуць за хвіліну да жэста Перуна. Сеўка пры гэтым ніяк не пацярпеў.

Ачмурэлы Пярун паслаў яшчэ адну маланку, цяпер ужо прыцэльна ў нахабніка, але той паспеў зграбным рухам шпагі перахапіць агромністую іскру.

— Эканомце энергію, — яхідна сказала Маша, — шпага надзейна заземлена.

Сеўка прадэманстраваў дрот, які спускаўся ад шпагі кудысьці ўніз. Дзяржальна шпагі было шчодра абкручана ізастужкай. Правадыр Белых кінуў бездапаможны позірк цераз плячо. Ярыла ўскінуў дзіду, а Дажбог выхапіў меч…

Дакладней, абодва паспрабавалі выканаць гэтыя дзеянні. На самой справе дзіда зачапілася за бялізнавую вяроўку, якой яшчэ хвіліну назад тут не было, а нага мечаносца паслізнулася на бананавай скурцы, якая немаведама адкуль узялася на даху. Абодва Белыя воіны нязграбна грымнуліся на дах.

— Яно вам трэба, хлопцы? — запытаўся Сталавік, недвухсэнсоўна памахваючы апалонікам.

Пярун панікнуў.

— Ніхто не смее загадваць вялікаму Перуну, — паўтарыў ён амаль жаласліва, — але я гатовы зрабіць жэст добрай волі…

— А яшчэ адпусці Любу! — зароў Мішка.

— Не, давайце па чарзе, — забалабоніў Пярун. — Раніцай дуб — вечарам Люба…

— Тады спачатку Любу! — грозна заявіў Мішка.

— Ну ўжо не! — абурыўся Пярун, які зараз быў вельмі падобны на пакрыўджанага першакласніка. — Я вам Любу, а вы мяне потым ашукаеце разам са сваім Кашчэем! Вось пераедзем у новы дуб, уладкуемся, тады і паразмаўляем! А то, бачыш ты! Такія маладыя, а так і імкнуцца абдурыць! І каб дуб быў добраўпарадкаваны! З усімі выгодамі!

Пярун з кампаніяй спрытна падцягнуліся і амаль бягом панесліся да сябе за комін. Па дарозе Перуну ў патыліцу нехта з дамавікоў запусціў агрызкам. Вялікі бог усіх славян войкнуў, уцягнуў галаву ў плечы і прыбавіў ходу.

— Што будзем рабіць? — запытаўся Антоха, калі на даху засталіся толькі яго каманда і дамавікі.

— Дубы расціць, — сказала Лёля.

Антон уважліва паглядзеў на дзяўчынку.

— А як? — запытаў ён.

— Не ведаю яшчэ, — паціснула плячамі Лёля. — Я думала, ты ведаеш. Чыя была ідэя з дубамі?

— Не памятаю, — адказаў Антоха. — Слухайце, а праўда, дзе мы возьмем два новыя дубы?

— Я ведаю! — адначасова выкрыкнулі Маша і Сеўка.

Выгляд у іх быў такі шчаслівы, што ўсе міжволі засмяяліся.

## Глава 21

## КАНЕЦ ВАЙНЕ

У кабінеце біялогіі Сеўка разглядваў вазоны для кветак.

— Чаго ж яны ў вас такія маленькія? — бурчаў хлопчык.

— Для фасолі хапае, — адказаў кабінетавік з прычоскай Віялеты Мікалаеўны, біёлага старэйшых класаў, — а дубы мы па праграме не прарошчваем.

— Добра, — уздыхнуў Сеўка, — падыдуць і гэтыя, потым перасадзім.

— А што мы ўсё-такі рабіць будзем? — запытаў Антон. — І куды Маша збегла?

Сеўка таямніча ўсміхнуўся:

— За насеннем!

— А! — сцяміла Лёля. — Яна жалуды з дырэктарскага сейфа прынясе!

Сеўка кіўнуў, але па яго выглядзе было зразумела, што ён бы аддаў перавагу больш эфектнаму з'яўленню сваёй напарніцы па шэрам колеры.

— А наша справа, — сказаў ён, — пасадзіць іх…

— …і чакаць тысячу гадоў, пакуль яны стануць тысячагадовымі дубамі, — закончыў за яго Антон.

— Не, — запярэчыў Сеўка, — мы будзем палівацъ іх жывою вадой! І тады яны вырастуць хутка. У казках гэта стандартная тэхналогія!

— І дзе ж мы знойдзем жывую ваду? — запытаўся Мішка.

— Зробім! — паведаміў Сеўка. — Гэта, канечне, антынавукова… Але я тут ужо неяк прызвычаіўся… Карацей, я глядзеў фільм па тэлевізары пра ўласцівасці вады. Шмат там чаго расказвалі, шкада, я слухаў няўважліва, калі вернемся дамоў…

— Як толькі вернемся дамоў, — паправіў Антон.

— Ага, — пагадзіўся Сеўка, — там вось расказвалі, што вада можа ўспрымаць інфармацыю, што ты ёй нагаворыш, такой яна і будзе.

— І? — працягнуў Антон.

— Я думаю, Лёля нам падкажа, што трэба гаварыць, каб вада стала жывою, — сказаў Сеўка.

— Ты ведаеш? — запытаў Антон у Лёлі.

— Здагадваюся, — усміхнулася дзяўчынка, — бабуля заўжды гэтак рабіла. Замаўляла ваду, каб на здароўе… А гарадскую ваду піць не магла, казала — мёртвая вада.

— А што ж казаць трэба? — запытаўся Мішка.

— Якая розніца што. Галоўнае, каб з любоўю… Бабуля гэтак казала, што калі ежу з кепскім настроем гатаваць, дык нястраўнасць будзе, што вада для ежы павінна добрымі пачуццямі насычацца, што нельга сварыцца і словы лаянкавыя за сталом прамаўляць. Ежа адразу як бы атручанай робіцца.

— Нічога сабе! — здзівіўся Мішка. — Я чуў, што грузчыкі вымаўлялі, калі прадукты ў сталоўцы разгружалі! А потым у нас народ катлетамі труціцца!

Тут з'явілася Маша, якая з таемным выглядам нешта трымала за спінаю. Лёля з Антонам ужо гатовы былі зрабіць выгляд, што з'яўленне дырэктарскіх жалудоў стала для іх сюрпрызам, але Мішку не цярпелася як мага хутчэй усё закончыць.

— Давай, не цягні! — загадаў ён. — Гані жалуды!

Момант быў сапсаваны. Маша з расчараваным выглядам дастала з-за спіны два вялізныя жалуды. Мішка схапіў абодва і прыдзірліва разгледзеў.

— Як быццам сапраўдныя… — прамовіў ён. — Толькі літара «П» на іх… Ці прарастуць? Раптам гэта паметка нейкая… Скажам, што яны дрэнныя…

— Вядома, прарастуць! — заявіў Сеўка. — Гэта не літара, а руна! Называецца…

Ён наморшчыў лоб.

— «Пярун»! — успомніла за яго Маша.

Гэта прымусіла ўсіх задумацца.

— Цікава, — агучыла агульныя сумненні Лёля, — пагодзіцца Кашчэй жыць у дубе, які вырасце з Перуновага жолуда?

Антон чамусьці адчуў сябе абражаным.

— Па-першае, — сказаў ён, — яна памяркоўная! Не тое, што некаторыя… вялікія багі! Па-другое, магчыма, гэта ўсё-такі проста «П»! Тады Паляндра цалкам задаволіцца.

— Добра, — вырашыў Мішка, — калі што, будзем пераконваць… па- усялякаму. Давайце садзіць!

Ён прымераў адзін з жалудоў да кветкавага гаршка. Жолуд заняў яго амаль цалкам.

— Вось і пасадзілі… — прамармытаў Сеўка.

— Эх вы, — з горыччу ўздыхнула маленькая Віялета Мікалаеўна, пра якую ў размове неяк і забыліся, — ніякай кемлівасці. Заносьце, хлопцы!

Па гэтай камандзе дамавікі, урачыста пыхкаючы, унеслі ў кабінет дзве вялізныя пластыкавыя сметніцы.

* * *

Зямлю ў «гаршкі» вырашылі набіраць проста каля дуба. Рыдлёўкаю арудаваў толькі Мішка, больш нікому побач з ім было не развярнуцца. Так што астатнія стаялі і глядзелі, як Бер са зграбнасцю і хуткасцю звар'яцелага экскаватара запаўняе ёмістасці.

— Усё, — заявіў ён, адставіўшы рыдлёўку, — можна саджаць!

— Пачакай! — сказала Лёля, нахіляючыся над тазам з вадою. — Спачатку давай ваду замовім. Гэта Сталавік прынёс, сказаў, што вада чыстая. Давайце мы, кожны, скажам над ёю што-небудзь добрае і паглядзім, што будзе.

Лёля падышла да тазіка, заплюшчыла вочы і нешта зашаптала.

— Наступны! — гукнула дзяўчынка.

Нешта нашэптвалі і Маша, і Сеўка, а Антоха стаяў убаку і моцна сумняваўся ў тым, што такім дзіўным чынам можна атрымаць жывую ваду. І тут над тазікам схіліўся Мішка. Ён заплюшчыў вочы, сціснуў кулакі, нешта прамармытаў…

— Давай, Антоха! — заявіў ён, адышоўшы ўбок.

Антон падышоў да вады і адхінуўся. У яе быў агідны зялёны колер і смярдзела ад яе нясцерпна…

— Што гэта? — жахнуўся ён.

— Мішка, ты што назамаўляў? — расхвалявалася Лёля.

— Я? — Мішка пачырванеў. — Я хачу, каб Любу адпусцілі…

— Ну?

— Ну і пажадаў Перуну… Некалькі ласкавых… Але ж я хацеў як лепш, — Мішка зусім засмуціўся.

Пакуль Лёля, заціснуўшы нос, вылівала пад кусты смярдзючую жыжку, пакуль мылі тазік і бегалі за чыстаю вадой, Антон ціхенька падлез да Сеўкі.

— Слухай, — пачаў ён, — і ты верыш, што вось так проста можна жывую ваду атрымаць?

Сеўка хмыкнуў.

— За апошні час мае навуковыя прынцыпы прасунуліся. Я веру ў тое, што бачу. Ты бачыў, якою стала вада пасля Мішкавых пажаданняў? Я бачыў. У мяне больш пытанняў няма.

— Слухай, а раптам у жыцці потым таксама так будзе, — задумаўся Антон, — вылаяўся, і ўсё — суп і кампот можна выкідваць.

— Ага, — усміхнуўся Сеўка, — чалавек, дарэчы, на восемдзясят працэнтаў сам з вады складаецца. Так што вылаяўся — і ўсё… Сябе таксама можна выкідваць.

Антона занудзіла.

Другая спроба прыгатаваць жывую ваду была ўдалай. Усе былі выключна асцярожны, словы падбіралі доўга і прамаўлялі з пачуццём. Вада атрымалася чыстая-чыстая, празрыстая і халаднаватая, быццам крынічная.

«Гаршкі» паставілі недалёка ад старога дуба. Па яго галінах раптам прабег ледзьве ўлоўны шолах, хоць ніводнага лістка на іх пакуль не было. Ці-то стары вітаў сваіх дзяцей, ці-то журыўся аб нечым. Потым ва ўрачыстай цішыні пад уважлівым позіркам некалькіх дзясяткаў вачэй Антоха і Лёля ўзялі па жолуду і пагрузілі іх у рыхлую глебу. Пасля чаго, нарэшце, плюхнулі «жывою вадою» спачатку на Лёлін жолуд, потым на Антонаў.

Нічога не адбылося. Антоха і Лёля, не рухаючыся, гіпнатызавалі «гаршкі». Усе астатнія стаялі, затаіўшы дыханне, і Сеўку раптам здалося, што час спыніўся і тут, унутры школы.

Проста, каб пачуць свой голас, ён прамовіў:

— Можа, жолуды…

І тут з Лёлінага «гаршка», быццам нехта выскачыў.

— Ву-у-у-ух! — пранеслася па двары, і самыя палахлівыя падаліся назад.

Але гэта ўсяго толькі стрэліў уверх тонкі пруток, на макушцы якога з лёгкім воплескам лопнула пупышка, і з яе паказаўся бліскучы ў промнях ліхтарыкаў лісток. Праз імгненне амаль такі ж самы пруток ірвануў уверх з другога «гаршка».

Цяпер усе вохкалі і ахкалі безупынна. Пруткі пачалі разгаліноўвацца, абрастаць лісточкамі, якія тут жа бурэлі, скручваліся і ападалі — каб праз некалькі хвілін саступіць месца новым, больш шматлікім ліскам. Ствалы таўсцелі, як гумавыя шлангі, якія напаўняюцца вадой. Кара, спачатку пяшчотная, амаль нябачная, на вачах грубела і станавілася рэльефнай.

Антон і Лёля працягвалі нерухома глядзець на дубкі, быццам насычалі іх сваёю вераю. А можа, гэтак яно і было? Толькі аднойчы яны скінулі з сябе здранцвенне, калі ім аднaчасова здалося, што рост пачаў замаруджвацца. Антон і Лёля схапілі тазік з «жывою вадой» і вылілі яе ў гаршкі ўсю да рэшты. Ваду пры гэтым яны сумленна падзялілі пароўну.

Калі маладыя дубы спыніліся ў сваім чароўным росце, іхнія карані ўжо распіралі бакі пластыкавых «гаршкоў». Кожнае дрэва вымахала за некалькі хвілін у рост дарослага чалавека. Яны былі падобны, як быццам адлюстраванне ў люстэрку — нават колькасць галін і лісточкаў, здаецца, была аднолькавай.

Толькі пасля гэтага Антоха і Лёля дазволілі сабе выдыхнуць. І выявілі, што апошнія некалькі хвілін трымаюцца за рукі. Яны хутка прынялі іх і схавалі за спіну, чакаючы насмешак, але астатнім было не да таго. Мішка, Сеўка, Маша і дамавікі тоўпіліся вакол дубкоў, цягнуліся да іх, але дакрануцца баяліся. Нарэшце Мішка сабраўся з духам і пагладзіў шурпаты ствол.

— Цёплы! — са здзіўленнем сказаў ён.

Усе тут жа пачалі хапацца за ствол, галіны, лісце і пацвярджаць з радасным здзіўленнем — так, цёплыя дрэвы, як быццам у жнівеньскі поўдзень.

«Трэба было б адагнаць іх, — вяла падумаў Антон, — няма чаго тут цапаць…»

Але сіл не засталося. Мяркуючы па бледным твары і зажмураных вачах Лёлі — у яе таксама. Заўважыўшы гэта, ініцыятыву ў свае рукі ўзяў Мішка.

— А ну! — рыкнуў ён. — Усе адышлі ад дрэў! Не хапала яшчэ, каб вы іх паламалі! І ўвогуле… яны яшчэ маленькія!

Дамавікі спрачацца не сталі, разышліся, азіраючыся на дзіва-дрэвы праз плячо. Сеўка адкрыў было рот, каб пажартаваць на тэму «маленькіх» дрэў, але Маша спыніла яго, даўшы яму штурхаля ўбок. Сеўка паглядзеў на Мішку, які пяшчотна разглядваў кожную галінку дубкоў, і закрыў рот, праглынуўшы жартачкі.

Антон з Лёляю, не згаворваючыся, селі проста на зямлю, прыхінуўшыся спінай да старога дуба. Зараз ім нічога не хацелася — толькі спаць.

— Гэ-эй! — устрывожылася Маша. — Вам дрэнна?

Лёля слаба паварушыла рукою, але што абазначаў гэты жэст, можна было толькі здагадвацца. Сеўка з Машаю, а за імі і Мішка кінуліся да сяброў, пачалі тармасіць іх. Мішка нават асмеліўся на некалькі аплявух — надта ўжо празрыстымі здаваліся твары Антона і Лёлі.

— А ну адступіцеся ўбок! — цыкнула на іх маленькая пародыя на настаўніцу біялогіі. — Вады ім дайце, вунь, у коўшыку! І перасадзіце дубы хутчэй у зямлю, а то гаршкі вашы зараз лопнуць. Яна працягнула дзіўнага выгляду берасцяны коўш з вадою Мішку. Той нязграбна сунуў яго Лёлі, злёгку абліўшы пырскамі. Дзяўчынка адпіла два глыточкі, адарвалася і паказала вачамі на Антоху — той ужо завальваўся набок. Давялося і яму спачатку папырскаць на твар, а ўжо потым паіць. Але і Антон не дазволіў сабе больш як два глыткі, адсунуўшы коўш ад сябе да Лёлі. Гэтак і паілі іх: па чарзе, патрошку.

Калі коўш асушылі, Лёля слабым, але строгім голасам сказала Віялеце Мікалаеўне:

— Гэта ж жывая вада! Яна для дубоў…

— Нічога, — не менш строга адказала міні-настаўніца, — дубам і так хапіла, а вам зараз сілы патрэбны!

— Дарэчы, — схамянуўся Мішка, які на момант адарваўся ад капання ямы для маладога дуба, — час ужо гэтых… чорна-белых гукаць!

— Ды тут мы ўжо! — пачуўся жаночы голас з аднаго кутка школьнага двара.

— Даўно за вамі назіраем! — сварліва адказаў мужчынскі з супрацьлеглага канца.

* * *

Гэта зноўку было падобна на шахматную партыю: чорныя супраць белых. Два воінства зноў стаялі адно супраць другога.

— Ну вось, — прамовіла Паляндра, эфектна выходзячы з ценю, — сімпатычныя дубочкі, свежанькія, я, відаць, у гэты жыць пайду.

Дзяўчына тыцнула пальцам у адно з дрэў.

— Выбірайся хутчэй, — сказаў Пярун.

— Ну ўжо не, — адказала Паляндра, — ты першы! А то я цябе ведаю, я пайду, а ты не. Табе ж верыць нельга, ты ж усіх прадасі, а сяброў у першую чаргу.

— Ты мне не сябра! — заявіў Пярун.

— Ну што ты… — захіхікала Паляндра, — пасля таго, што паміж намі было…

Пярун ляснуў жазлом аб зямлю.

— Вой, якія мы сарамлівыя, — заспявала Паляндра.

У Перуна ўздуліся жылы на ілбе.

— Давайце не будзем сварыцца, — дрыжачым голасам сказала Лёля.

— А мы і не збіраемся, — паведаміла Паляндра. — Няхай выбіраецца ў новы дуб са сваёю зграяй.

— Гэта ў цябе зграя, — закрычаў Пярун, — а ў мяне армія!

— Не смяшы мяне! — зарагатала Паляндра. — Армія ў яго. З кім ты ваяваць збіраешся?

— Вы ж хацелі проста разысціся па дубах! — у адчаі сказаў Антон.

— Проста разысціся? — захіхікала Паляндра. — Хлопчык мой, я тысячу гадоў праседзела ў зняволенні, я маю права сказаць…

— Ты сядзела там, таму што з-за цябе гінулі людзі! — рыкнуў Пярун.

— Вой не магу! — з’едліва заскуголіла Паляндра. — Можна падумаць, цябе цікавяць людзі! Ты проста прыбраў канкурэнта…

— Паляндра, Пярун, — закрычала Лёля, — калі ласка, не сварыцеся! Вы ж абяцалі…

— Адыдзі, дзяўчынка, — раўнуў Пярун.

— А ты яшчэ верыш яго абяцанням? — фыркнула Паляндра.

— А вашым абяцанням можна верыць? — запыталася Лёля.

— Не! — паведаміла Паляндра. — Але я пра гэта сумленна кажу. Я — Кашчэй.

Паляндра ўсміхнулася так злавесна, што Антон на ўсялякі выпадак захінуў Лёлю спінаю.

— Так! — сказала Лёля з каменным тварам. — Калі яны зараз не дамовяцца, я зламаю гэтыя дубы пад корань…

— Так! — паведаміў Мішка. — Калі вы зараз не дамовіцеся, я звярну вам абоім шыі, зразумела?

І Мішка пераламіў агромністую палку аб калена.

Пярун з Паляндраю пераглянуліся.

— Мы выйдзем, каб параіцца, — паведаміў Пярун.

— Адпусціце Любу! — рыкнуў Мішка.

— Спачатку вырашым з дубамі, — сказала Паляндра. — Гэй вы, дамавікі, ану-ка зрабілі нам перагаворны пакой. Хутка!

— Абыдзецеся! — адгукнуўся Сталавік.

— Добра, залічыцца… — працадзіў Пярун, і яны з Паляндраю пайшлі кудысьці ўнутр старога дуба.

* * *

Праз гадзіну дворык гімназіі стаў падобны на вайсковы лагер часоў перамір’я. Два воінствы, паціху перамешваючыся, размяшчаліся на прывал. Нехта еў, нехта спяваў, хтосьці гуляў у карты, а той-сёй спаў. Без сваіх военачальнікаў Белыя і Чорныя паглядвалі адно на аднаго больш міралюбна і задзіраліся, здавалася, болей па абавязку. Толькі аднарог са смешным імем Індрык і змей, якога так і звалі — Змей, увесь час кідаліся ў бойку адзін з адным. Да шчасця, і з таго і з другога боку знаходзіліся добраахвотнікі (усе чамусьці дзяўчаты), якія стрымлівалі забіяк.

Антон і яго каманда строілі з сябе кагосьці накшталт міратворцаў ААН, заняўшы пазіцыю паміж праціўнікамі. Яны спачатку тузаліся з-за кожнага рэзкага гуку, але потым, пабачыўшы, што без каманды ніхто вайну пачынаць не імкнецца, трошкі расслабіліся, уселіся пад дубам і пачалі балбатаць з катом і русалкай пра ўсялякае глупства. Толькі Лёля з Антонам пільна пазіралі па баках.

— Эх, — задумліва пацёр падбародак Антоха, — калі б не асабістыя непаразуменні паміж Перуном і Кашчэем, ніякіх праблем і не было б.

Лёля, пачуўшы гэта, чамусьці пажвавела і гукнула Сеўку.

— Сеўка, — сказала яна таямніча. — Трэба прыдумаць, як разваліць дысцыпліну ў войсках!

Сеўка яшчэ толькі насупліваў лоб, а Мішка, які пачуў просьбу Лёлі, ужо задаволена адгукнуўся:

— Знайшла праблему! Паважаны Сталавік! Можна вас на хвіліначку?..

Сёй-той з воінаў пачаў ужо драмаць, калі на раздзяляльнай паласе з’явілася дэлегацыя кабінетавікаў начале са Сталавіком. Важна пыхкаючы, яны цягнулі паднос са шклянкамі і дзве агромністыя каструлі — проста дзіўна, што на школьнай

кухні знайшліся такія. Каструлі, якія лепш было назваць катламі, былі да краёў запоўнены цягучым духмяным варывам, і заставалася толькі захапляцца майстэрствам дамавікоў, якія не пралілі ні кроплі водарнага напою.

Абедзве арміі, пачуўшы пах, дружна зварухнулі насамі да катлоў, нагадваючы ў гэты момант некалькі дзясяткаў магніцікаў, да якіх паднеслі вялікі магніт.

— Вядома, — горка ўздыхнуў Ярыла, — дзетак пакормяць, а нам…

І выразна паляпаў сябе па жывату.

— Гэта не дзеткам, — буркліва адазваўся Сталавік. — Дзеткам збіцень піць яшчэ рана. Гэта вам, служылыя. Налятай!

«Служылыя» з абодвух бакоў не прымусілі сябе ўпрошваць. Каля катлоў пачалася незласлівая штурханіна, якая паступова перайшла ў акуратную чаргу. Ці-то па нядбайнасці, ці-то па хітраму плану Сталавіка шклянак на ўсіх не хапала, і прагнучым даводзілася аддаваць тару, якая вызвалілася, наступным па чарзе.

Спачатку Чорныя і Белыя строга трымаліся кожны свайго катла, але неяк непрыкметна чэргі перамяшаліся. Вось ужо Дажбог працягвае парожнюю шклянку аднавокаму са стана Кашчэя. Вось Вій, млява прыкрыўшы вочы, поіць з нейчага шлема Індрыка, вось аб'ядналіся ў невялікі гурт дзяўчаты з абедзвюх армій і пра нешта пляткараць, паціху пацягваючы збіцень з адной на ўсіх шклянкі.

Вельмі хутка Антон зразумеў, чаму Сталавік не рэкамендаваў ім ужыванне духмянага варыва — мяркуючы па паводзінах Чорных і Белых, пітво аказалася з даволі вялікім градусам. Дзе-нідзе ўзнікалі брудэршафты, праціўнікі сціскалі адзін аднаго ў моцных абдымках, а Ярыла, які з гарачкі адразу хапануў тры порцыі, сядзеў побач са Змеем, гладзіў яго і праз п'яную слязу паўтараў:

— Ты на Індрыка зуб не трымай, ён, у прынцыпе, добры…

Змей, які таксама паспеў прыкласціся да чароўнага напою, не пярэчыў.

— Здорава! — шчыра прызнаўся Антоха Мішку.

— П'янства, — з веданнем справы адказаў той, — няшчасце арміі. У мяне дзед усё жыццё ў танкавых войсках, шмат расказваў.

— Нядобра гэта, — няўпэўнена запярэчыла Маша.

— Каму нядобра? — здзівіўся Сеўка. — Ім зараз вельмі добра! І яшчэ лепш будзе!

Сеўка падышоў да амаль апарожненых катлоў і замахаў рукамі, прыцягваючы ўсеагульную ўвагу:

— Эгэ-гэй! Народ! У сэнсе… багі, боствы і… і іншыя! Сёння скончыцца ваша вайна!

Бязладны, але ўхвальны гул падтрымаў Сеўку.

— Вы, мажа, больш ніколі адно аднаго не пабачыце…

— Ну і слава Перуну! — з запалам адказаў нехта з Чорных.

Натоўп пахвальна зарагатаў.

— А як бы добра было, калі б засталася нейкая памяць. Тысячу ж гадоў біліся!

— Болей! — падала голас нейкая Белая жанчына, але на яе зашыкалі.

— Нават болей! А на памяць нічога не застанецца…

Сеўка вытрымаў паўзу, каб салдаты ўсвядомілі недарэчнасць сітуацыі.

— А ў нас ёсць традыцыя: пасля якой-небудзь бітвы… напрыклад, пасля футбольнага матча сапернікі мяняюцца адзеннем. На памяць. Як вам ідэя?

— Выдатная ідэя! — радасна закрычаў Ярыла і ўжо збіраўся тут жа памяняцца з кім-небудзь, але заблытаўся ў шторцы, якую да гэтага часу цягаў замест адзення.

Астатнія таксама радасна кінуліся ўвасабляць ідэю ў жыццё. Хутка Чорныя «нячысцікі» фарсілі ў асляпляльна белых плашчах, а Белыя — у адзенні ўсіх адценняў чорнага.

На Змеі красавалася пацёртае сядло Індрыка, а на аднарогу — каралі з лускі Змея.

— Супер! — Дажбог ускінуў угору руку з паўпарожняю шклянкаю. — Гэта апошняя шклянка цудоўнага збіценя, і я хачу падняць яе…

Але тост так і застаўся непрамоўленым — з дуба з'явіліся Пярун і Кашчэй. Па іх раз'юшаным выглядзе было зразумела, што да чагосьці канструктыўнага яны не дамовіліся.

— Адставіць! — раўнуў Пярун.

— Што за вэрхал?! — гаркнула Паляндра.

— Падрыхтавацца да бітвы!

— Прывесці форму адзення ў належны стан!

Чорныя і Белыя старанна замітусіліся, але ні пра які «належны стан» размовы ісці не магло. Салдаты няпэўнай прыналежнасці з плашчамі ў руках гойсалі, сутыкаліся, ліхаманкава спрабавалі зразумець, дзе свае і хто чужыя. Змей з Індрыкам занялі кругавую абарону і раўлі-сыкалі на любога, хто спрабаваў зняць каралі ці сядло.

«Міратворцы» са злараднасцю назіралі, як Пярун з Кашчэем спрабуюць навесці парадак у нецвярозым натоўпе, але не ўмешваліся.

Скончылася тым, чым павінна было скончыцца. Пярун і Паляндра, цяжка дыхаючы, апынуліся каля аднаго з катлоў, кожнаму з іх хтосьці з дамавікоў з таямнічым шэптам: «Заначка!» тыцнуў шклянку, яны сербанулі…

* * *

Гэта было надзвычай дзіўнае відовішча: Пярун, які драмаў на каленях у Кашчэя. Большая частка Чорных і Белых таксама пахрапвала ўбаку. Тыя, хто яшчэ не спалі, стараліся трымацца, як мага далей ад правадыроў. Антоху таксама давялося сабрацца з духам, каб падысці да Паляндры.

— Здзіўлены? — усміхнулася яна і падміргнула.

Відаць, падміргванне задумвалася, як гуллівае, але атрымалася сумным.

— Наогул так, — адказаў Антон, прысаджваючыся насупраць. — Вы… ты ж яго не любіш!

— Якраз наадварот, — Паляндра правяла па залатых валасах Перуна з кранальнай пяшчотай. — І я яго… І ён мяне… Калісьці мы нават вельмі моцна кахалі адно аднаго. Ды і зараз, відаць…

Твар у Антона стаў такім азадачаным, што Кашчэй засмяялася (бадай, залішне моцна).

— Вось так, мой дарагі Вяшчун! Хто каго любіць, той таго і чубіць!

— Я ўсё роўна не разумею! — Лёля, якая прыслухоўвалася да размовы, не вытрымала і села побач з Антонам. — Калі любіце, чаму ж не памірыцеся?

— Любоў — адно, а ўлада — зусім іншае…

І Паляндра раптам расплакалася, ціха і так па-дзявочы, што Антон і Лёля канчаткова разгубіліся.

— Думаеш, лёгка быць богам? — прамовіла Кашчэй праз слёзы. — Думаеш, лёгка ведаць, як лепш, і глядзець, як людзі самі сябе нішчаць? Ён жа не заўжды быў такім, ён быў мілым і добрым. Мне лягчэй — ад мяне даўно не чакаюць нічога добрага, а ад Перуна чакаюць. А калі ён злуецца, яму наўздагон ляцяць праклёны, а ён жа проста хоча як лепш. Раней яго слухаліся, а цяпер ні ў грош не ставяць, вось і стаў ён такім… з часам…

Паляндра спынілася, выцягнула з нагруднай кішэні прыгожую насоўку з чорнага шоўку і высмаркалася.

— А чаму? — са слязамі на вачах запытала Лёля.

— Таму што калісьці людзі працавалі і прасілі за сваю працу добрага ўраджаю. І было так лёгка і проста выканаць гэтае жаданне. А чым далей, тым больш заблытаным усё стала. Людзі пачалі прасіць не «каб ураджай быў добры», а каб «лепш, чым у суседа». Ну і што рабіць? Асабліва, калі сусед просіць, каб ва ўсіх астатніх увогуле ўсё згарэла…

— Навошта? — здзіваваўся Антон.

— А я ведаю? — запытала Паляндра.

— І што, — прашаптала Лёля, — цяпер нічога нельга зрабіць?

— Відаць, можна. Зменяцца людзі — зменяцца і багі…

Пярун забурчаў, сеў і павольна расплюшчыў вочы.

— Нішто сабе гаворачкі тут мне ўстроілі, — прабурчаў ён. — Усё, перадышка скончылася. Бяры, Кашчэішча, сваіх, іваліце да сябе ў дуб, пакуль я добры…

Паляндра, на здзіўленне, не стала спрачацца, свіснула, падняўшы свае войска, але напаслед азірнулася.

— Дзяцей выведзі адсюль, — папрасіла яна.

— Выведу, выведу… — прабурчаў Пярун і грымнуў: — Пайшлі вон!

— Але… — сказаў Антоха.

— Ідзіце, паверце, так трэба, — перапыніла яго Паляндра.

— Што ты зноў іх шкадуеш? Усіх ты шкадуеш! А калі яны ўжо самі навучацца думаць? — закрычаў Пярун.

— Яны ж яшчэ дзеці, — прашаптала Паляндра.

— Ідзіце… — ціха сказаў Пярун і паглядзеў у вочы Антону і яго сябрам.

Яны вытрымалі яго позірк. І нечакана Вярхоўны славянскі бог памякчэў.

— Я не буду вам падказваць, але калі б вы толькі ведалі, як я хачу, каб вы здолелі… Таму што тады ў нас ва ўсіх будзе надзея… Чаго пасталі? — раптам раўнуў ён. — Пайшлі вон!..

Яны пабеглі ў школу і з акна назіралі за тым, як спачатку чорны віхор узняўся і знік у адным з маладых дубоў, а потым і белы віхор сабраўся, пастроіўся, і як толькі яго кончык знік са старога дуба…

Глава 22

## ЗНОЎКУ ВЫБУХ

…У першыя некалькі хвілін ніхто нічога не зразумеў. Штуршок у грудзі, потым пасыпаліся аскепкі… Антон патрос галавой і толькі тады скеміў, што вушы заклала ад вельмі моцнага гуку.

Антоха, як у запаволенай здымцы, бачыў, як грамадзіна дуба за акном, павольна асядаючы, пачала падаць уніз, дабіваючы шкліны вокнаў, выпадкова не выбітыя раней.

— Уцякаем! — крыкнуў Антон і адскочыў да сцяны, — ніхто не паранены?

— Не, — адказаў бязладны хор галасоў.

— Што здарылася? — запытала Маша.

— Дуб паваліўся, — адказаў Антон.

Аднекуль здалёку пачуліся залівістыя гукі міліцэйскага свістка.

— Дамавікі свішчуць? — спалохана запытаў Сеўка.

— Яны ж свісту не церпяць! — згадаў Мішка.

З першага паверху пачуўся тупат ног і цалкам чалавечы крык:

— Ало-о! Міліцыя? Міністэрства надзвычайных сітуацый? У нас тэракт у школе! Тэрмінова! Выбух!

Усе ў ступары ўтаропіліся адно на аднаго.

— 18 гадзін 36 хвілін, — дрыжачым голасам паведаміў Сеўка, зірнуўшы на мабільнік.

— А? — запытаўся Антон, яшчэ не скеміўшы, што здарылася.

— Час пайшоў! — шэптам сказала Маша.

— Мы вярнуліся? — здзівілася Лёля.

— Люба! — выкрыкнуў Мішка.

— У басейн! — скамандаваў Антон і ўжо, калі беглі, дадаў: — Толькі ціха, калі зараз прыедзе МНС…

Прыгінаючыся, асцярожна аббягаючы выбітыя шкліны, гімназісты практычна бясшумна несліся да басейна. Каля дзвярэй прытармазілі.

— Хлопчыкі, пачакайце, не ідзіце на ўсякі выпадак, — задыхаючыся, сказала Лёля, — давайце я.

Яна забегла ўнутр басейна з вялікім спадзяваннем, што Люба, жывая і здаровая, выйдзе да яе з вады.

Але Люба нікуды выходзіць не збіралася. Яна была выключна жывая, зусім здаровая, і гулліва насілася па паверхні вады, весела ўзнімаючы хвалі хвастом.

У Лёлі зайшлося сэрца.

— Люба, — ціха гукнула яна, — Любачка, што ж нам з табою рабіць…

Люба спынілася, адкінула валасы і зрабіла кульбіт, быццам малады дэльфін.

— Здорава, праўда? — радасна паведаміла яна.

— Што ж рабіць? — яшчэ раз бездапаможна запытала Лёля.

— А навошта нешта рабіць? — здзівілася Люба. — Я яшчэ вось гэтак магу, глядзі! — радасна крыкнула Берагіня і зрабіла кулёк назад, выскачыўшы пры гэтым з вады на некалькі метраў.

— Калі зараз сюды прыедзе міліцыя… — спалохалася Лёля.

— Дык яны мяне не пабачаць, — спакойна сказала Люба.

— Але я ж бачу…

— Ты ведаеш, што я тут, а яны не. А ў міліцыі хлопчыкі такія прыгожанькія… — захіхікала русалка. — Можа, і пакажуся ім, — летуценна працягнула яна.

Берагіня знікла ўглыбіні басейна, а Лёля на ватных нагах паплялася ў раздзявальню, дзе яе чакалі астатнія.

— Яна — русалка, — змрочна паведаміла Лёля і закрыла твар рукамі.

— Мы павінны яе ратаваць! — заявіў Антон...

***Заканчэнне ў наступным нумары.***

***Пераклад з рускай мовы***
***Раісы БАРАВІКОВАЙ***



МАЛАДОСЦЬ

10

## Старонка мінулага

* * *

А можа мы
усё гэта прыдумалі,
І не было ні стрэч, ні салаўя?
Іду к табе. Іду к табе і думаю,
Мо гэта ўсё сасніла толькі я?

І гэта я загаварыла вершамі,
І песні распяваю цэлы дзень?!
«Каханне богам дадзена нам першае» —
Бытуе прымаўка сярод людзей.

Цябе ні бог, ні людзі мне не сваталі,
Тут кожная страфа звініць табой!..
Каханне часам пахне горкай мятаю,
Нясе з сабой сустрэч кароткіх боль.

Мы нашы стрэчы, любы, не прыдумалі
Цябе мне не хапае кожны час...
Хай пра мяне, што хочуць, людзі
думаюць,
Няхай, што хочуць,
думаюць пра нас!

*Нэла ТУЛУПАВА*

*«Маладосць» № 10, 1963 г.*

Сяргей ШАБУЦКІ*

# ТРЫВУШЧА

***Анкалогія — самы метафізічны з раздзелаў медыцыны. Давялося спазнаць гэта на ўласнай скуры, пасля месяца шпіталізацыі ў Бараўлянах. У бараўлянскай царкве — чарга на сабараванне. Бараўлянскія санітарачкі па сумяшчальніцтве — шаптухі, якія здымаюць сурок і загаворваюць вяровачку на руцэ (ад ячменю). У пасляаперацыйным блоку хворыя адпойваюць адно аднога вадой пасля наркозу...***

***Пасля досведу Бараўлян было вельмі балюча і адначасова кранальна чытаць паэму Сяргея Шабуцкага «Переносимо», у якой той апісвае скон сваёй маці ад рака ў адной з клінік Падмаскоўя. Магчыма, таму я не магла не перакласці гэты твор на сваю мову.***

***Праблему склала ўжо назва, яна ж — галоўны канцэпт твора. І таму я адважылася на перакладчыцкі наватвор. Слова «Трывушча» можна прачытаць як прыслоўе, а можна як назоўнік — які невыпадкова рыфмуецца з «гушчай». У гушчу перажыванняў лірычнага героя Шабуцкага я запрашаю беларускага чытача — як у Дантавы змрочны лес — подступ да Пекла. Як пераканаўча засведчыў несмяротны Аліг'еры, трэба прайсці Пекла да канца, каб сягнуць Раю.***

Марыя МАРТЫСЕВІЧ

***Пацыентам і персаналу анкалагічнай клінікі № 62,***
***Маскоўская вобласць, Краснагорскі раён***

**УСТУП**

Капае, капае, капае пакі і пакі.
Як вясна — то бяроста на столі, на бяросце — грыбкі.
Я ў кватэры — быццам блыха ў мокрай поўсці сабакі.
Батарэі рыкаюць і паркет устае на дыбкі.

Дзверы вылузваюцца з вушака.
Фарба на сценах лопаецца, бы ад пстрычак.
Марцу належыць доўжыцца да красавіка.
Марац доўжыцца па кастрычнік.

Але нават калі нас адкіне зусім у зіму,
І крыгалом не пачнецца і на Купалу,
Гэта не тое, што было два гады таму,
Калі лета вясной увогуле не наступала.



* **Сяргей Шабуцкі** — паэт, перакладчык. Нарадзіўся ў 1976 годзе ў Маскве. Закончыў філалагічны факультэт Маскоўскага дзяржаўнага ўніверсітэта. Працаваў рэдактарам і карэспандэнтам у «Независимой газете», «Церковном вестнике», «Антенне», цяпер — рэдактар часопіса «Иностранная литература». Вядзе семінар паэтычнага перакладу на штогадовым Форуме маладых пісьменнікаў Расіі. Публікаваўся ў найбуйнейшых расійскіх літаратурных выданнях.

**1**

Ціхая гадзіна
ў анкастацыянары.
Цэрберы інструктаваныя наведнікам даваць разварот.
Да паловы на пятую спяць у спакоі нары.
У мяне закіпае персікавы кампот.

Ёй другі тыдзень не хочацца і халоднага.
Ёй другі тыдзень колюць цыклафасфан.
А цэрберы
Раз —
І пабялелі, як жонкі Лотавы
Салянымі слупамі на сваіх пастах.

Па драўляных, па мураваных па карпусах,
Дзе ў палатах развешаныя пантэлеймоны,
У кропельнічных, у градуснікавых лясах
АЦАЛЕННЕ ходзіць віхорам.
У лабараторыі вэрхал:
Аналізы страляюць даверху.

Брама рухнула раскрышаным хлебам,
Вераб'і наляцелі.
Аблыселыя абраслі — вожыкі апантана цярэбяць.
Тэрмінальныя ўскокваюць са сваіх пасцеляў.

Быццам свойскі тварог
Трымціць на далоні.
Пазнаеце, паненка?
Думалі, не вярнуць?
Вы заплацілі дарага,
Каб працягнуць агонію.
Агонія адмяняецца.
Бярыце, вось ваша грудзь.

Ватныя мае сёстры з хіміятэрапіі.
Бела так на душы ад вашых белых баянаў!
Разлятайцеся
пухам ваты,
Хмаркамі цыклафасфану.
Дасыпайце, што недаспалі.
Даядайце, што недаелі
На вахце.

Вялікі Княжа таракальны,
Абдамінальны
І абедзвюх радыялогій,
Ясны Пане галоўны ўрач, Ваша Мосць!
Стаўце сваё апошняе «cito!»*

---

* cito *(з лац.)* — хутка *(пішацца звычайна на накіраванні на аналіз).*

Казкі кажуць усе без'языкія,
Скокі скочуць усе бязногія…
На будучыню: лепш гаварыце, як яно ёсць
Пра магчымасці медыцыны.
Вось табе, вось! Хоць ты і не вінаватая.
Пер'ю твайму і навалачцы капут!
Твар умыць, торбу ўзяць, нумар згадаць палаты
І па дарозе купіць персікавы кампот.

**2**

Пакой прыймовы. У шпітальнай сіні —
Плакат. Я вывучаю ў цішыні:
«СПАКОЙНА, ХВОРЫ. ХОЦЬ ПА ЎСЁЙ КРАІНЕ

ГАЗЕТЫ СЛАВЯЦЬ ПЕРСАНАЛ БАЛЬНІ-
ГУМОР ВАШ МАЕ ВАЖНАЕ ЗНАЧЭННЕ:
НЕ ВАРТА ВАМ НІ ХВАЛЯВАЦЦА, НІ

З КІМСЬЦІ АБМЯРКОЎВАЦЬ ХОД ЛЯЧЭННЯ,
БО ПАЦЫЕНТ — САЮЗНІК УРАЧА.
ДАРЭЧЫ, ЗНІЗІЦЬ ШКОДНАСЦЬ АПРАМЕНЬВА-

ЧЫРВОНАЕ ВІНО, ЗЯЛЁНЫ ЧАЙ,
АЛЕ ЗА П'ЯНСТВА — ВЫПІСКА, ГУСАРЫ,
А ЧАЙНІКІ Ў ПАЛАТАХ НЕ ЎКЛЮЧАЦЬ.

І ўсё ж не гнаў я цень надзеі шары.

**3**

Падарыў мне Дзед Мароз
Лімфагранулематоз.

Змалку трызніла філфакам,
Але ўсе памкненні — ракам.

Злосць на лёс бярэ мяне —
Буду лысая ў труне.

**4**

Не, дырыжор, гэта табе не чараваць палачкай!
Я ж і сам два гады правучыўся ў кансерве!
Адна рэпетыцыя — паўтары пачкі.
Ты сабе не ўяўляеш, якія там нервы!

Карацей, стала ясна, што гэта не мой памер.
Дый адукацыя — не заплечнік, не Ганна на шыі.
Перавучвацца давялося. Таму цяпер
Загадваю аддзяленнем хіміятэрапіі.

**5**

Захадзіла гэтая, блін, якая
Шавак пры лабараторыі апякае.
У пячонкі засела, мымра пячорная,
Ці не відзеў я сабачкі чорнага.
А мне начхаць, чорнага там ці белага,
Мне глаўны сказаў, каб іх тут болей не бегала.
Драбавік мне што, дзеля понту выдалі?
А яна мяне — казлом і лідарам.

Ён харошы сабачка. Нікога не пакусаў.
Доктар, хутчэй, мы страчваем гэтага пса!
Пяць год хірургіі. Аперабельны рак.
Во, дажыўся. Шыю недабітых сабак.
Сарве пальчаткі і ў сметніцу пусціць —
З такім хрумстам вілок агаляюць капусце.
Усё. Задзяўбло працаваць дарма.
Ў ветлякарню. З людзей навару няма.

У той жа вечар зграя сабак
Хірургу арганізавала каньяк.

**6**

Слухай, Сяргею, ты ж зараз адразу ў горад?
Набяры маіх, скажы, спазмы зняло, ходзіць.
Доўга не размаўляй, яны ж балбатлівыя — гора!
Я бы сама, ды на лініі перашкоды.

Хай пакуль не адведваюць. У нас тут бура была.
Вакол не прайсці — толькі ботамі балота замесяць.

Скажы, не сумуе. Рэжацца з мужыкамі ў казла.

---

Хто ж ведаў, што ёй застаецца месяц?

**7**

Снежная баба таяла
З вечара.
І растала — ліпень. Замітусіліся.
паднялі сястру.
Сястра —
За санітарамі.
Санітары скруцілі куль.
Снягі і прасціны саванам.
5:00.

**8**

І ўсё, што ў палаты неслі насілкі,
І ўсё, што енчыла і галасіла,
Плявала, курчылася перад вачыма,
Стрываць магчыма. За выняткам паху —
Да гэтага паху я нетрывушчы.
Тужлівага, нібы супная гушча,
Бы размазня па другім стале,
Бы імбрык з кампотам, бы хлор на мятле,
Бы кубак з кампотам, бы слоік з кампотам,
Дык вось як ты пахнеш, жыццёвы мой вопыт.
Халаты, палаты, жмуты ізатопаў,
Бялізна брыняе не выпатам — вопытам.
Я спаў з нараджэння і з крыкам прачнуўся,
Пасля двухгадовых паскораных курсаў,
Ад іх ні даведкі, ад іх ні дыплому,
Там вучаць прымаць тое, што ўжо вядома,
Трывушча. Піскае імбрык ціхутка.
Я не ўмею сталець так хутка.

**9**

Я між спадніц у шафе плачу,
У іх зарыўшыся, як змалку.
Так нюхаеш парожні пачак,
Калі дапаліш недапалкі.

**ЭПІЛОГ**

Ты задаволеная, паэма? Бывай жа. Пака-пака.
На століі зноў вапна пеніцца — белы накіп.
У кватэры кастрычнік з высалапленага языка
Капае, капае, капае пакі і пакі.

*Пераклала з рускай мовы*
*Марыя МАРТЫСЕВІЧ*



# «ЧАМУ ГЭТА ЗДАРЫЛАСЯ СА МНОЙ?..»

***Анкалагічныя захворванні — тэма непапулярная і не надта прыемная для абмеркавання. Хоць на самай справе, гэта нагода для сцэнарыяў самых жыццесцвярджальных карцін. Такое разуменне прыходзіць спакваля, калі імкнешся адказаць на пытанні, якія часта ўзнікаюць разам з дыягназам. І вось ты ўжо дакладна ведаеш: «за што?» трэба мяняць на «навошта?» А як адказаць на пытанні: «Чаму гэта здарылася, са мной?», «Што рабіць пасля?» Адказы — у матэрыяле, падрыхтаваным спецыяльна да месяца прафілактыкі рака малочнай залозы, якім ва ўсім свеце з'яўляецца кастрычнік.***



## САФІЯ

У лютым 1993 года Сафія Лабзіна з будучым мужам вярталіся на машыне з Германіі. Пад Бярозай, ужо адолеўшы мяжу і праехаўшы большую частку шляху, трапілі ў аварыю. Было гэта амаль ноччу, недзе а дзявятай вечара, і абодва яны не былі прышпілены, як гэта часта бывае. Ад машыны амаль нічога не засталося.

— Я вылецела ўперад, выбіўшы сабою шкло, яго потым вельмі многа было ў галаве і на твары. Моцна стукнулася грудзьмі аб панель прыбораў. Мяне забралі ў бальніцу ў Бярозе, было падазрэнне на чэрапна-мазгавую траўму, але яно не спраўдзілася, а вось на тое, што я атрымала моцны ўдар у грудзі, ніхто не звярнуў увагі. А недзе праз два месяцы я намацала зацвярдзенне ў малочнай залозе. Якраз тады ў Бараўлянах лячылася мая сваячка, ёй рабіла аперацыю Тамара Сцяпанаўна Козел. І яна асабіста папрасіла свайго доктара паглядзець мяне.

Усё пачыналася стандартна: паслалі рабіць мамаграму, агледзелі, абмацалі. І сказалі, што нічога страшнага няма, бо гэта толькі невялічкая дабраякасная пухліна, з ёю можна і не спяшацца, ва ўсялякім выпадку, дазволіць сабе адпачываць да восені. Лета яшчэ толькі пачыналася, быў канец мая. Сафія збіралася першага чэрвеня адзначыць дзень нараджэння будучага мужа. Потым марылі паехаць адпачываць. У іх былі вялікія планы.

Узяўшы паперку — накірунак у звычайную паліклініку на выдаленне гэтай дабраякаснай пухліны, Сафія ўжо збіралася выходзіць з будынка клінікі, шчаслівая, што ўсё добра. Але Тамара Сцяпанаўна ўбачыла, што да корпуса ідзе Леанід Путырскі, і сказала мне:

— Ведаеш, няхай для спакою яшчэ і ён паглядзіць. Гэта хоць і малады, але надзвычай таленавіты доктар і вельмі добры хірург.

А Путырскі паглядзеў і сказаў: «Мне не падабаецца. Справа асабліва не падабаецца, ды і злева нешта не тое. Давайце выдалім пухліну зараз жа, тут, у Бараўлянах». Я, канечне ж, згаджаюся. Прашу толькі адпусціць мяне адзначыць дзень нараджэння мужа.

Яны адзначылі яго за горадам. А вечарам чацвёртага чэрвеня прыехалі ў Бараўляны.

Кожны чалавек спадзяецца, што ў яго ўсё будзе добра. Сафія была ўпэўнена, што ў яе ўсё ў парадку, што гэта дробная аперацыя: нешта там выдаляць — і дамоў. Зрэшты, ёй так і абяцалі — дадому яна пойдзе ледзь не на наступны дзень. І аперацыю рабілі пад мясцовай анэстэзіяй: яна ўсё чула, усё бачыла.

— Чым добра ў Бараўлянах — яны адразу адпраўляюць матэрыял на аналіз. Хвілін пятнаццаць я, напэўна, ляжала ў чаканні яго выніку. Час цягнуўся доўга, але ўсё роўна

мне здавалася, што ў мяне ніколі нічога «такога» быць не можа. А праз пятнаццаць хвілін Леанід Аляксеевіч падыходзіць і кажа: «Трымайся, трэба рабіць аперацыю далей». І вось ўжо цягнуць да мяне апаратуру, даюць хутчэй наркоз — і далей я ўжо, канечне, нічога не памятаю. А да гэтага ж бачыла, як хадзілі па калідоры жанчыны з нейкімі трубкамі, з бутэлькамі, ды ўсё думала, што гэта не для мяне, што мне гэта не спатрэбіцца…

Там, у Бараўлянах, няма такога, што калі ты хворы на анкалогію, дык гэта нешта вельмі страшнае і абавязкова скончыцца дрэнна. Увесь час у мяне была падтрымка ад кожнага: і ад сяброўак па палаце, і ад медсясцёр, і ад урачоў. Я нідзе больш такога не бачыла. Нідзе і ніколі. Бо трапляеш жа ў бальніцы час ад часу — то апендыцыт, то так нешта забаліць, але паўтаруся: Бараўляны па адносінах да хворых — цудоўнае месца. Гэта трэба было бачыць! У мяне заўтра чарговая аперацыя, а Тамара Сцяпанаўна, яна вечарам дзяжурыла, прыходзіць да мяне ўжо апоўначы і кажа: «Там адна пацыентка з вёскі сала кавалачак прывезла, дык я табе прынесла пакаштаваць». А Путырскі напярэдадні выклікаў мяне, каб параіцца: «Давай паглядзім, як будзем рабіць аперацыю. Можна вось так шво накласці, а можна і так зрабіць, каб дэкальтэ насіць».

Аперацыя, якую зрабілі Сафіі, была на той час унікальная: толькі-толькі пачыналі іх выконваць. Калі яе выпісалі, і яна наведвала паліклінічных хірургаў, усе здзіўляліся.

— Мне вельмі далікатна выдалілі толькі пашкоджаныя долькі малочнай залозы, так што бюст захавалі, і я яшчэ доўга магла сапраўды выглядаць добра, нават з дэкальтэ. Гавару «доўга», бо ў мяне потым нарадзіўся сын, і я яго доўга карміла. Можна сказаць, што мой бюст сапсавала кармленне дзіцяці, чым аперацыя, але тут я ўжо сама выбірала, што мне даражэй.

У Сафіі трохі пацярпела рука. Яна і дагэтуль калі-нікалі баліць, але гэта таму, што трэба было выдаліць лімфатычныя вузлы пад ёю. Аказалася, што рак у Сафіі быў толькі справа, а злева — дабраякасная пухлінка, якую выдалілі, пакінуўшы маленькае шво — на памяць.

— Добра, што паспелі своечасова падхапіць. Трэба сачыць за сабой, гэта я раю кожнай жанчыне.

**МЕРКАВАННЕ ДОКТАРА**



*— Рак добра лечыцца, — гаворыць Леанід Путырскі. — Большасць лакалізацый ракавай пухліны паддаецца выдаленню даволі лёгка. Але гэтую пухліну трэба выявіць своечасова. І тут не варта спадзявацца на адных толькі ўрачоў. І крыўдзіцца на іх за тое, што яны дрэнна лечаць, калі не звярнуліся да іх своечасова, таксама нельга. Трэба самім сачыць за сваім здароўем. Многія трывожныя сімптомы можна ўбачыць самастойна. Мы, урачы, вельмі здзіўляемся, калі людзі, ведаючы пра свае праблемы, да нас не ідуць. Але ж ніхто іх у клініку не прывядзе, пакуль самі яны гэтага не захочуць. Змянілася скура, радзімыя плямы мяняюць форму, колер, памер — звяртайцеся ў медыцынскую ўстанову. А яшчэ я вельмі хачу, каб у свядомасці кожнага гучала такая думка: у нас вельмі добрыя ўрачы. Часцяком на гэта забываюцца. Здараецца і так, што да нас прыходзяць у яўна варожым настроі, з мэтай пасварыцца. Павага да прафесіі ўрача страчана многімі беспадстаўна. Але ж калі да ўрача няма павагі, яму няма і даверу. І значыць, добрага выніку лячэння дасягнуць цяжэй. Хачу яшчэ адзначыць, што ўрачы-анколагі, якім даверыліся, робяцца дарадцамі і анёламі-ахоўнікамі на ўсё жыццё. І працягваецца яно доўга, у шчасці.*

Праз тры гады пасля той аперацыі Сафія, нічога не сказаўшы мужу, літаральна пабегла да свайго доктара дадому. Вельмі важным было пытанне, якое трэба было яму задаць.

— Я пачала неяк дзіўна сябе адчуваць. У мяне тады ўжо была дарослая дачка, 1974 года

нараджэння. Але ж некалі я вельмі хацела яшчэ адно дзіця. Ды ўрачы сказалі, што ў мяне ўжо не можа быць дзяцей, супакоіўшы словамі: «У вас жа адно дзіця ёсць, а ў некага і гэтага няма». Я лячылася бясконцую колькасць разоў, але цяжарнасць не надыходзіла. Потым здарылася так, што першы мой муж памёр, у яго таксама быў рак, і я нейкі час была адна. І канечне, пасля такога дыягназа, ды ў сорак чатыры гады я ніяк не магла падумаць, што магу стаць маці яшчэ раз. І вось даведалася: цяжарная. Прыехала да Леаніда Аляксеевіча спытаць парады: «Што рабіць? Я баюся, каб дзіця не аказалася хворым. Я сама хачу яго, але баюся, як яно застанецца без мяне, калі са мной зноў здарыцца штосьці такое». Леанід Аляксеевіч адказвае: «Што рабіць? Нараджаць! Гэта будзе канчатковае выздараўленне». Я пытаюся: «А як карміць?» «Як усе», — адказвае мне мой доктар. «Ну як жа, у мяне ж парэзана ўсё?» Ён паказвае мне на вазон з зямлёю: «Калі я з яго трохі адсыплю, у ім жа ўсё роўна застанецца зямля».

Гэта мяне пераканала. І я карміла свайго сына. Амаль два гады карміла! А з доктарам Путырскім мы і сёння сябруем. Ён наш добры геній.

## МЕРКАВАННЕ ДОКТАРА

«*Рак усё часцей выбірае жанчын да трыццаці. Пра што гэта гаворыць? Пра тое, што не трэба цягнуць з нараджэннем дзіцяці. Кар'ера — не галоўнае для жанчыны, — упэўнены галоўны мамолаг краіны Леанід Путырскі. — Нарадзіць і выкарміць двух-трох дзетак — у першую чаргу карысна для жаночага здароўя, а не для дзяржавы. Гэта прыродай закладзена, а не праграмай па вырашэнні дэмаграфічнага крызісу*».

## МУЖ

— Я прабыла ў бальніцы ўсё лета. Дзявятага чэрвеня ў мяне была аперацыя, а выпісвалася я ў канцы жніўня. І яшчэ ў мяне быў бальнічны. Здаецца, на чатыры месяцы. А потым трэба было або ісці на групу інваліднасці, або выходзіць на працу. На групу я не згадзілася. Рабіцца інвалідам у сорак з нечым мне не хацелася. Правая рука, праўда, і дагэтуль дрэнна рухаецца, высока яе падняць нельга, таму я не магу, напрыклад, памыць акно зверху. Яна як гумавая, у ёй адчувальнасць зусім не такая, як у здаровай. Дык вось, я ездзіла на працу, а пасля на хіміятэрапію. На кожны ўкол — у Бараўляны, бо ў Мінску такія ін'екцыі не рабілі.

Сафія гаворыць пра гэта без гонару за сябе, без папрокаў у нечы адрас, з добрай усмешкай на твары.

Хіміятэрапія — гэта наўмыснае атручванне арганізма. Звычайна яна суправаджаецца цяжкім станам, які можна параўнаць з глыбокім алкагольным ап'яненнем. Аднак трэба было і гэта перажыць. Сафію і апраменьвалі таксама. А пасля такіх працэдур, як вядома, пачынаюць выпадаць валасы. Калі не ведаеш, што яны адрастаюць потым наноў, ды яшчэ робяцца лепшымі, то для жанчыны гэта сапраўдная трагедыя. Асабліва для жанчыны, у якой рамантычныя адносіны з мужам.

Падчас нашай гаворкі яна называе яго мужам. Ён стаў мужам адразу пасля выпіскі з клінікі. А ўрачы мелі рацыю: валасы адраслі і сапраўды сталі яшчэ прыгажэйшымі. Сафія зноў робіць акцэнт на тым, як своечасова ім, хворым, усё ў Бараўлянах тлумачылася. Людзі там наогул не падаюць духам. Адна жанчына перад паўторнай аперацыяй казала: «Ну вось, выдаляць з другога боку — і хоць будзе парадак, а то несіметрычна».

З мужам яны пазнаёміліся перад пачаткам 1990-га, у снежні. А час яе хваробы стаў сапраўдным выпрабаваннем для іх адносін.

— Я паглядзела, як прыходзяць мужы да сябровак па палаце. Да адной — зрэдку, да другой — раз на тыдзень, а мой да мяне — кожны дзень. Ён стараўся прыехаць у абед або вечарам, пасля працы, і часам так стамляўся, што засынаў, чакаючы мяне то з працэдуры, то з апраменьвання. Ні аднаго дня не было, каб ён не прыехаў, а калі нешта трэба было тэрмінова, дык прыязджаў і па два разы на дзень. Гэта ж сур'ёзная праверка. Пасля такога ўжо многае можна чалавеку дараваць — і непаразуменні, і характар. Калі ў верасні я выпісалася, мы з'ехаліся з ім і больш ужо ніколі не расставаліся. Калі б яшчэ ведаў мой доктар…

Сафія хітравата ўсміхаецца, прыгадваючы гісторыю пра Парыж. Памятаеце знакамітае: «Пабачыць Парыж і памерці»? Гэтымі словамі яна ўспамінае пра сябе васямнаццаць гадоў таму.

— Я, як выпісалася з бальніцы, схадзіла ў сваю паліклініку, адзначылася і сказала, што паеду ў вёску. А сама паехала ў Парыж. Гэта была аўтобусная вандроўка, даволі цяжкая, але ж паездка была запланавана яшчэ да хваробы, і я не захацела ад яе адмаўляцца. У мяне яшчэ і павязкі не былі зняты, нешта яшчэ сачылася з ранак. Муж кажа: «Давай адменім». А я: «Не. Убачыць Парыж — і памерці, няхай будзе так».

## ШТО ДАЛЕЙ?

Сафія добра памятае статыстыку, якую прачытала ў медыцынскім часопісе з ліку тых, што цэлымі стосамі траплялісяна вочы. Па той статыстыцы ракавыя захворванні даюць найбольшы рэцыдыў да трох гадоў, потым верагоднасць памяншаецца — пасля пяці паўторныя захворванні сустракаюцца радзей, а калі дзесяць гадоў пройдзе, то ўжо можна лічыць рэцыдыў малаверагодным. І яна лічыла свае гады, пачынаючы з таго 1993-га. Бо жыццё яе падзялілася на дзве часткі — «да» і «пасля».

Сябе, саракагадовую, якой была тады, васямнаццаць гадоў таму, яна называе «мудрай, нібы чарапаха Тарціла». Бо дачку ўжо выгадавала, ды і ў сорак, здаецца, вучыцца няма чаму, самой можна вучыць. Аказалася, чакала яе новае жыццё — з новым немаўляткам і новымі страхамі.

— Некалі я думала: гэта зраблю калі-небудзь, тое — трошкі пазней, гэта — праз пяць гадоў, а вось тое — праз дзесяць… А цяпер імкнуся так нават не думаць. Усё, што можна зрабіць — цяпер, зараз, асабліва калі гэта тычыцца блізкіх, нечага жаданага, патрэбнага, што можа прынесці радасць не толькі сабе, але і іншым. Адносіны да жыцця і яго якасць змяніліся, усё стала ўспрымацца інакш. Мне здаецца, што гэта было папярэджанне: трэба спыніцца і падумаць. Тры месяцы ў паўтрызненні, калі нельга было нават чытаць, я ўвесь час толькі думала. Вельмі шмат у мяне было думак. Але ніколі не было пытанняў: «Чаму я?» і «За што гэта мне?» Напэўна, гэта нядобра, але я заўсёды лічыла сябе дастаткова справядлівым і даволі неблагім чалавекам. У мяне шмат сяброў, вакол мяне заўсёды шмат людзей, і гэта добрыя людзі, яны ствараюць прыемную ауру. Я працавала ў школе, сярод дзяцей, намеснікам дырэктара па выхаваўчай працы. І паколькі я сама нікому нічога кепскага не рабіла і не жадала, то я і не ўспрымала гэтую хваробу як пакаранне за нешта. Я лічыла, што проста павінна пра нешта ўспомніць, падумаць, штосьці змяніць у жыцці і сваіх адносінах да яго. Бо нясешся ўвесь час, не прыпыняючыся і не задумваючыся. А з хваробай з'явіліся думкі пра вечнае, падумалася, што варта зрабіць нешта добрае. Больш добрага. Для іншых, а не толькі для сябе. Хваробу я прыняла не тое што з падзякай. Калі б мне давялося выбіраць, я не хацела б яе, гэта натуральна. Але яна дала мне яшчэ і магчымасць пазнаёміцца з такімі людзьмі, як Леанід Аляксеевіч Путырскі і Тамара Сцяпанаўна Козел. Гэта ўнікальныя асобы. Увогуле, мяне жыццё задавальняе, яно пражываецца — і недарэмна, добра. Я не шкадую ні пра што. Я думаю, што хвароба — гэта прыпынак у жыцці: значыць, трэба выйсці, падумаць, а потым… потым можна ехаць далей.

«Што ў вас ёсць такога, што дазволіла жыць?» — значылася ў спісе пытанняў да Сафіі. Яна адказала так:

— Ёсць нешта, што мяне вельмі здзівіла, калі я пачала пра гэта ўсё думаць. Я прыйшла да думкі, што паміраць не страшна. Я — не баюся. Мне было страшна, калі ў красавіку 1997 года нарадзіўся мой сын. Вось тады я баялася: калі са мной нешта здарыцца, то як будзе ён? Але я гэтаксама баялася і ў 1974-м, калі нарадзілася дачка. Я прыйшла да высновы, што страху за сябе няма, яго не існуе наогул. Ёсць страх за маленькае, бездапаможнае. І страх гэты сыходзіў з кожным годам, бо я думала: ужо не прападзе, ужо вырасце.

І тады, у бальніцы, замест страху было жаданне пераадолець усё, бо там усе добра разумелі, што легчы і ляжаць — самае простае. Так якраз і можна было б памерці, але вінавата ўжо была б не хвароба, а хворая.

Чалавек сам выбірае, жыць яму пасля пастаноўкі такога дыягназа ці не жыць.



**ПСІХОЛАГ НЭЛІ КСЯНЕВІЧ**

**— Адкуль бярэцца рак, вырашаюць медыкі, а як мяркуюць псіхолагі: што яднае хворых на анкалогію?**

— Псіхолагі сыходзяцца на думцы, што рак — гэта тое, што ўзнікае перш за ўсё ад нерэалізаваных магчымасцей. Чалавека грызе думка, што магло б у яго нешта атрымацца, але ж не, не зрабіў, не дасягнуў. Блізкая да гэтай другая катэгорыя людзей — «самаедаў». Яны сустракаюцца сярод анкалагічных хворых даволі часта. Прычым, гэта асобы вельмі добрыя, павернутыя да свету і людзей, такія, пра якіх у сувязі з хваробай кожны сказаў бы: «Нават дзіўна, што менавіта ён захварэў». Ёсць яшчэ адна катэгорыя — людзі, якія да свету ставяцца агрэсіўна, ацэначна, у якіх ёсць толькі чорнае і белае, добрае і дрэннае, згодна з думкамі якіх павінна быць вось так і не інакш. У першых двух выпадках агрэсія скіравана ўнутр, у трэцім яна знешняя, але ў любым выпадку ракавыя клеткі спараджае менавіта агрэсія. Вось і адказ на пытанне: «чаму?» Па сутнасці, анкалагічнае захворванне — гэта злепак чалавецтва. Пакуль мы думаем толькі пра сябе, зямля прыкладае намаганні, каб ад нас нейкім чынам пазбавіцца ці хаця б перасцерагчы. Ёсць у яе для гэтага механічныя метады — землятрусы і цунамі, а часам яна прымяняе і хіміятэрапію. Мы ўсе разам вельмі нагадваем ракавую пухліну. І таму, калі чалавек схільны да агрэсіі, знешняй ці ўнутранай, да незадаволенасці, злосці, гэта вельмі часта знаходзіць фізічнае выйсце — праз хваробу.

**— Пытанне «што рабіць?» наўрад ці ўзнікае ў ліку першых, а ўсё ж такі — што рабіць?**

— Як толькі дыягназ пастаўлены, трэба імкнуцца хутчэй перабудаваць і лад жыцця, і думкі. Але першая рэакцыя іншая: чалавек пытаецца: «За што? Чаму я?» І хоць гэтая рэакцыя натуральная, пакуль чалавек задае сабе менавіта такія пытанні і шукае на іх адказы, ён губляе час, а разам з ім і рэшткі здароўя. «Чаму нейкі п'яніца ходзіць здаровы, а са мной, харошым, такое здарылася? Дзе справядлівасць?» — задаваць такія пытанні — значыць праяўляць тую ж самую агрэсію, толькі ўжо ў бок лёсу і свету. Чым карацейшы перыяд гэтай рэакцыі, тым для чалавека лепш. Далей трэба карэнным чынам перапрацаваць свае погляды на жыццё. І пачынаць лепш са сваіх адносін да часу. Калі раней было стаўленне кшталту «галоўнае, каб яго было болей, галоўнае — жыць даўжэй», то з хваробай трэба прыняць за галоўнае не працягласць часу, а яго якасць. Трэба ўсвядоміць, што, магчыма, сапраўды табе засталося мала з чалавечага пункта гледжання. «Як я магу пражыць гэты час з найбольшай якасцю?» — вось пытанне, якое трэба задаваць. А як адказ на яго — дарабіць тое, што недароблена, абагрэць таго, хто неабагрэты і, паклапаціўшыся, каб не данімаў боль, смяяцца, жартаваць, радавацца кожнаму імгненню. Такія стасункі з хваробай даюць двайны выйгрыш — чалавек пачынае жыць сапраўды якасна, можа, нават так, як ніколі да хваробы і не жыў, а па-другое, менавіта такі падыход якраз і пакідае надзею на ачуньванне.

**— Калі чалавек пачынае думаць пра свой абмежаваны час, гэта не азначае, што ён мірыцца з тым, што яму сапраўды засталося мала, а наадварот, з'яўляецца шанец на працяг жыцця?**

— Пакора — гэта ў хрысціянскай тэрміналогіі. Я называю гэта прыняццем. Прыняць сітуацыю — першае, што трэба зрабіць. Ёсць абставіны, якія чалавек можа змяніць, ёсць іншыя, змяніць якія сам чалавек не можа. На гэты момант не можа. Трэба разумець, што дыягназ не памяняеш: вось яна, пухліна, ёсць. Існуе. На гэтым этапе яе трэба проста прыняць — як настаўніка жыцця, як знак, што трэба мяняцца, а не з крыўдай і не са стогнамі: «чаму так здарылася?» Бо столькі намаганняў ідзе на супраціўленне хваробе, што на лячэнне іх ужо не застаецца. Гэта ж сілы, якія, па сутнасці, ідуць на адмаўленне таго, што мы ўсе смяротныя. І мы ўсе ведаем пра тое. Але мы ж не жывём з гэтым кожны дзень. А вось калі прагучаў

сігнал, што час сыходу можа настаць хутчэй, і можа быць балючым, то варта прыняць яго і імкнуцца максімальна сябе перабудаваць за самы кароткі тэрмін — вось задача нумар адзін. Урачы-анколагі ўсе як адзін скажуць, што найбольшыя шанцы на папраўку маюць людзі, якія ідуць па жыцці з усмешкай і «пафігісты» — тыя, хто здольны махнуць рукой і сказаць: «Ай, ну і добра, што ж паробіш». А найменшыя шанцы — у тых, хто пачынае корпацца ў прычынах, вініць дактароў, якія нешта прапусцілі, блізкіх, якія нешта не так зрабілі, калег, якія канфліктавалі, сябе — за тое, што паводзіны былі не такія, як трэба. Гэтыя людзі — кандыдаты на хуткі сыход. Таму першае, што трэба зрабіць, — адрэагаваць парадаксальна, зрабіць процілеглае таму, што хочацца. Замест абвінавачванняў — усім падзякаваць, сесці і напісаць у сшытку, за што і каму можна быць удзячным. Перагледзець свае жыццёвыя ўстаноўкі і ў літаральным сэнсе — прапісная ісціна! — пачаць радавацца кожнаму ўздыху, кожнаму руху, здольнасці жыць і ажыццяўляць тое, што хочацца. Дазволіць сабе гэта!

**— Сама хвароба правакуе чалавека на прыступы злосці, незадаволенасці, крыўды?**

— Так, і з гэтым трэба — таксама ў кароткі тэрмін — навучыцца спраўляцца. Чыста тэхнічнымі метадамі. Трэба звярнуцца да псіхолагаў з іх канкрэтнымі тэхнікамі. Дарэчы, пастаяннае суправаджэнне вопытнага псіхолага вельмі карысна. Гэта гарантуе сапраўды якасную перабудову свядомасці. Таму што небяспечны перыяд агрэсіі ў хворага чалавека можа зацягнуцца, гэта агрэсія можа пашырыць свае межы і на тых, хто яго даглядае, і тады людзі, якія робяць часам не зусім прыемныя, але надта неабходныя рэчы, патрапляюць у разрад тых, каго хворы крыўдзіць больш за іншых. Натуральна, што пры ўсім іх розуме і любові яны не змогуць не адрэагаваць на гэтую агрэсію, іх гэта будзе крыўдзіць і засмучаць. Калі чалавек варыцца ў такіх адносінах — ён пакрыўдзіў, яго пакрыўдзілі, — то аўтаматычна прымае бок хваробы. Раней урачы гаварылі: «Ёсць ты, я і твая хвароба. Усё залежыць ад таго, з кім ты будзеш — са мной ці з хваробай». Крыўдуючы, чапляючыся, жадаючы выжыць любой цаной, чалавек прымае бок хваробы. Задаючы сабе пытанне: «А навошта я хачу выжыць, што я дам свету пасля таго, як хваробы не стане, і нават зараз, калі яна ёсць — што я магу даць, які вопыт, якія парады, якія дзеянні рукамі, мазгамі — што?», — ён пакідае сабе шанец на жыццё.

**— Можна сказаць, што ў выглядзе гэтай хваробы лёс задае чалавеку пытанне: «А табе яшчэ ёсць што зрабіць?»**

— Нават па тэрмінах чалавек сам можа вырашаць, колькі яму жыць. Знаёмы анколаг распавёў мне гісторыю пра тое, як жанчына на апошняй стадыі анкалогіі чакала з-за мяжы сына. Яна паставіла сабе за мэту абавязкова дачакацца, убачыцца, пагаварыць. У іх была нявырашаная крыўда, і ёй было вельмі важна сказаць яму, абавязкова ў вочы, што яна даравала. І дажыла. Хаця вопытны ўрач нават і не прагназаваў, што такое ў яе выпадку магчыма. Прыехаў сын, яна з ім пагаварыла і спакойна адышла. Калі б паставіла акрамя гэтай мэты яшчэ адну, то, магчыма, і яшчэ пражыла б. Але, відаць, гэта для яе было найпершым, самым галоўным. Вось яшчэ адзін прыклад. Жанчына, таксама хворая на анкалогію, заўважыла, што ёй дапамагаюць біядабаўкі. Яна стала займацца імі не толькі для сябе, але і для людзей, і цяпер працуе на значнай пасадзе ў фірме, што іх выпускае. Жыве паўнавартасным жыццём, на шостым дзясятку навучылася кіраваць аўтамабілем. Нікуды не падзелася яе пухліна, але яна і не развіваецца. Ужо шмат гадоў яна прыклад таго, як, маючы анкалагічнае захворванне, можна жыць шчаслівай. Прычым, ёй адкрыліся такія дзверы, якіх раней не было відаць, яна зараз дапамагае многім людзям, і гэта надае яе жыццю сэнс.

Шукаць тое, што не было знойдзена раней — вельмі важна. Гэта як выхад на сцэну. Магчыма, апошні, але ў любым выпадку трэба зрабіць яго прыгожым.

**— Як паводзіць сябе блізкім?**

— Першае пытанне, якое паўстае перад урачом: што гаварыць хвораму? Ці мае ён права ведаць рэальны дыягназ? У нас маят-

нік пахіснуўся з адной сітуацыі ў другую. За савецкім часам лічылася, што ні ў якім разе нельга гаварыць чалавеку яго дыягназ, калі гэта рак: трэба, каб ён не баяўся пакут і смерці. А цяпер лічаць, што трэба абавязкова раскрываць яму рэальную карціну. Робіцца гэта часам у жорсткай форме, без думкі пра тое, як чалавек адрэагуе і што будзе потым. Пытанне паўстае і перад сваякамі — гаварыць ці не? Ці спасылацца на нейкі іншы дыягназ, а тым часам працягваць лячэнне? У кожным выпадку рашэнне сваё, асобнае, але праўда тут пасярэдзіне. Трэба, каб рэальная карціна была чалавеку вядомай, але стаць вядомай яна павінна ў максімальна ашчаднай форме, магчыма, не адразу, па частках, порцыямі. І добра б было, каб побач быў спецыяліст, вопытны ў такіх пытаннях псіхолаг, які мог бы падстрахаваць. Назіраючы за такімі хворымі, я хачу сказаць, што тым, хто ведае свой дыягназ дакладна, змагацца з хваробай лягчэй. А пакуль жыве эфемерная надзея на тое, што гэта нейкая іншая хвароба і ўсё не так сур'ёзна, адносіны да лячэння іншыя.

**— Калі нічога зрабіць ужо нельга, калі стадыя тэрмінальная, родныя трапляюць у сузалежнасць. Ім ці не цяжэй, чым хвораму…**

— Свой час яны аддаюць хвораму і яго хваробе, а самі быццам і не жывуць. Тут вельмі важна раздзяляць рэальнасць: вось адна, калі родны даглядае хворага, — тут ён максімальна выкладаецца. А як толькі выйшаў за парог пакоя, дзверы зачыніліся — ён трапіў у другую рэальнасць, у якой пачынаецца яго, толькі яго жыццё. І трэба жыць гэтым жыццём паўнавартасць. Трэба і ўсміхацца, і жартаваць, і рабіць тое, што ён звычайна робіць. Гэта не віна ў адносінах да чалавека, які застаўся ў тым пакоі. Гэта магчымасць рэалізаваць сваё асабістае жыццё. Болей за тое, нарадзіўшыся, умоўна кажучы, у рэальным свеце, лягчэй будзе і вяртацца да хворага — з запасам энергіі, якую гатовы аддаць. А калі даглядаць, клапаціцца ды яшчэ і трымаць гэта ў сабе, то не будзе дзе браць энергію. Выпадкі, калі ў першую чаргу паміраюць тыя, хто даглядае, асабліва калі гэта сталая пара, муж і жонка, сустракаюцца даволі часта. Той, хто, здавалася б, мацнейшы, хутчэй траціць запасы жыццёвай энергіі, бо лічыць, што яму ўсё пад сілу, але гэта не так. І прэтэнзіі да ўрачоў, быццам яны не спачуваюць, бо ім усё роўна, — няслушныя. Добраму ўрачу спачуваць не дазваляльна, яму трэба рабіць сваю справу. Калі ён будзе спачуваць, яму здароўя на працу не хопіць. Вядома, што цяжэй за ўсіх хварэюць якраз урачы.

Вяртаемся да людзей, якія даглядаюць хворага. Калі такая магчымасць ёсць, то пажадана, каб за хворым пастаянны догляд ажыццяўлялі чужыя людзі, а свой чалавек павінен прыходзіць, патрымаць за руку, пагаварыць, пасядзець разам столькі, колькі камфортна на дадзены момант. Таму што ў сітуацыі «даглядаю, ахвярую» міжволі назапашваецца раздражненне супраць хворага. А хворы думае, што яму горш за ўсіх, і як самаабарона ў яго ўзнікае браня: ён здаровы, ён усё вытрымае, няхай церпіць ад мяне і крыўды.

**— Хворы можа крыўдаваць і на тое, што яго даглядае чужы чалавек і, што родныя не сядзіць побач увесь час.**

— Над гэтым трэба прыўзняцца самому хвораму. І тое разуменне павінны данесці да яго блізкія. Гаварыць пра гэта можна і трэба. Чым больш хворы прагаворвае сваю хваробу, тым лягчэй яна праходзіць. Пагаварыць трэба і пра смерць — як пра пераход. Дапамагчы, падтрымаць, пацікавіцца ўяўленнямі чалавека пра тое, што «там», «потым». Гэта вельмі важныя моманты, бо калі так не рабіць, то з падсвядомасці гэта ўсё роўна выйдзе, але ў такой форме, якая нічога добрага не прынясе, толькі ўскладніць сітуацыю. Чым больш шчыра мы прагаворваем сітуацыю, тым лягчэй яна праходзіць для ўсіх.

*Гутарыла Святлана ДЗЯНІСАВА*



Ірына ЛЮБЯНСКАЯ

# ДАКРАНУЦЦА ДУШОЮ

***Няма нічога страшней на зямлі, чым хваробы і смерць дзяцей. Самы жахлівы дыягназ — дзіцячы рак. Аднак гэтую хваробу можна вылечыць. Безумоўна, не заўсёды, але можна. Дзеці вяртаюцца дахаты, жывуць на радасць бацькам, ды яшчэ бяруць удзел у спартыўных спаборніцтвах. Але, пакуль хворыя дзеці стануць здаровымі, яны праводзяць шмат часу ў сценах бараўлянскай анкалагічнай бальніцы.***

## ДАБРО ЧЫНІЦЬ

З мэтай звярнуць увагу да дзяцей, хворых на анкалогію і гематалогію, у 2008 годзе быў арганізаваны дабрачынны Фонд «Прикосновение к жизни». На думку яго старшыні, **Ларысы Івашкевіч**, ёсць толькі адна прычына, якая не дае дапамагчы дзіцёнку ці хаця б трохі аблегчыць ягоныя пакуты — нелюбоў, а адсюль і наступства — абыякавасць. Толькі любоў адчыняе зачыненыя дзверы. Ларыса кажа: «Давайце не будзем шукаць прычыны ў матэрыяльных і эканамічных сітуацыях, а будзем спагадлівымі і чулымі. Зразумеем адну рэч: жыццё толькі тады цудоўнае і выдатнае, калі людзі здатны любіць адзін аднаго і ДАБРО ЧЫНІЦЬ».

«Калі прыехала ў Бараўляны ўпершыню, — дзеліцца ўспамінамі сябра апякунскага савета пры Фондзе, псіхолаг **Таццяна Залуцкая,** — доўга не магла супакоіцца. Не магла зразумець, што нехта жыве паспяхова і шчаслівa, але не звяртае ўвагі на іншых. А тут — маленькія дзеці з мудрымі, поўнымі пакуты вачыма... Гэта несправядліва! І таму, відаць, узнік дэвіз Фонда: “Тут няма «Я», тут ёсць «Мы»”. Мы працуем камандай, пры гэтым забываем пра свае асабістыя праблемы, амбіцыі, эмоцыі, крыўды».

Апроч шматлікіх акцый і мерапрыемстваў, вось ужо чацвёрты год запар 1 чэрвеня Фонд ладзіць дабрачынны канцэрт, прысвечаны *Міжнароднаму дню абароны дзяцей*. Галоўная задача канцэрта — дабрачынная. Звярнуць увагу грамадства на праблемы дзіцячай анкалогіі, інваліднасці і сіроцтва дапамагаюць эстрадныя зоркі Беларусі, Расіі, іншых еўрапейскіх дзяржаў. Усе сабраныя сродкі ідуць на адрасную дапамогу хворым дзецям і сіротам. З просьбай аб дапамозе Фонд звяртаўся ў розныя дзяржаўныя інстанцыі. Супрацоўнікі МУС адразу адгукнуліся, яны забяспечылі ахову, дапамаглі з транспартам.

За час існавання Фонду з’явілася шмат сяброў, аднадумцаў, калег па дабрачыннасці. Актыўна дзейнічае валанцёрскі рух. Мала проста думаць пра добрыя справы, трэба іх рабіць. Штомесяц пяцьдзясят мінчан ладзяць дабрачынныя акцыі ў буйных гіпермаркетах: распаўсюджваюць улёткі і газеты, збіраюць неабходныя рэчы.

Ёсць у цэнтры анкалогіі дзеці-сіроты. Іх няма каму даглядаць. Ёсць і іншыя сітуацыі: дзіцёнак захварэў, яму патрэбна штодзённая дапамога, і бацькі вымушаны звальняцца з працы. Здараюцца і крытычныя выпадкі, калі дзяржава няздольна выканаць аперацыю, неабходную для жыцця. Да прыкладу, у кастрычніку мінулага года была праведзена акцыя па падтрымцы дзвюх хворых дзяўчынак: ім была патрэбна экстранная аперацыя ў Германіі. Не адразу, але неабходную суму сабралі, і дзяўчынкам выратавалі жыццё.

Дзеці заўсёды застаюцца дзецьмі, нават у бальніцы. Часта ім шмат тыдняў, а, бывае, і месяцаў нельга выходзіць на вуліцу, нават у бальнічны калідор. Калі хворыя дзеці праходзяць курс лячэння, ім вельмі важна чымсьці заняцца, каб забыцца на боль і хваробу. Такім дзецям многа не трэба, толькі крышачку шчасця. Калі валанцёры прыязджа-

юць да іх, яны бачаць, што ім не так важна, з чым да іх прыехалі, галоўнае — да іх! У дзіцячых вачах з'яўляецца бляск і надзея!

«Як часта мы шмат чаго не заўважаем і не цэнім, — гаворыць валанцёр Фонду **Вольга Макаўчык**. — Мы жывём звычайным жыццём, са сваімі клопатамі. А яшчэ любім сябе шкадаваць, успрымаць штодзённыя праблемы як бяду. Але пасля наведвання анкалагічнага цэнтра і ягоных пацыентаў я не паддаюся жаласлівым настроям да сябе. Вось там сапраўднае гора і бяда! Нельга прызвычаіцца да смерці дзяцей. Але давялося вучыцца ўспрымаць і гэта... і рабіць тое неабходнае, што я магу зрабіць. У падзяку за ўсё — радасныя ўсмешкі маленькіх пацыентаў пры сустрэчы, абдымкі, просьбы не сыходзіць, шчырая дзіцячая любоў, якую яны дораць чужому чалавеку».

Як утрымаць у сваіх руках тонкую нітку дзіцячага жыцця, лепш за ўсіх ведае дырэктар РУ «Рэспубліканскі навукова-практычны цэнтр дзіцячай анкалогіі і гематалогіі» доктар медыцынскіх навук, прафесар, членкарэспандэнт НАН РБ **Вольга Алейнікава.** Яна пачынала свой прафесійны шлях у дзіцячай анкалогіі ў складаны час, калі ў нашай краіне дзеці з такой паталогіяй былі асуджаны на смерць, хаця ва ўсім свеце ўжо існавалі схемы лячэння і лекі, якія маглі дапамагчы.

«Сёння мы здольны вылечыць большасць маленькіх пацыентаў, — упэўнена Вольга Алейнікава, — і знаходзімся ў адным шэрагу з вядучымі краінамі свету. Але часам здараюцца "гарачыя моманты", калі без дапамогі, без імгненнага прыняцця рашэння аб закупцы неабходных лекаў або рэагенту жыццё дзіцяці можа абарвацца. Мы заклікаем аб'яднаць намаганні нашых спецыялістаў і людзей, якія жадаюць дапамагчы дзецям».

## НАДЗЕЯ ЁСЦЬ ЗАЎЖДЫ

Ідэя аб'яднання дзяцей, якія перанеслі анкалагічныя захворванні, пры дапамозе спорту і фізічнай актыўнасці ўпершыню была рэалізавана ў 2007 годзе ў Польшчы. У Варшаве прайшла першая Міжнародная Анкалагічная алімпіяда, у якой узялі ўдзел каля 200 дзяцей з Польшчы, Украіны, Беларусі і Расіі, што ў чарговы раз даказала — сяброўства і спорт здатны вярнуць гэтым дзецям адчуванне паўнаты і яркасці жыцця, а азарт дадае сіл, смеласці і адвагі. У 2010 годзе надышла чарга Расіі сустрэць гасцей з розных краін на Першых Сусветных дзіцячых «Гульнях Пераможцаў» — спартыўным свяце для дзяцей, якія перахварэлі на анкалогію. 14 чэрвеня ў Маскву з'ехалася 250 дзяцей ва ўзросце ад 7 да 16 гадоў з васьмі краін свету.



*Саша Дружыніна:*
*«Можна, я больш не буду хварэць?»*

І вось мінуў год, і Расія зноў ладзіць «Гульні Пераможцаў—2011». Унікальнае спартыўнае мерапрыемства, арганізаванае дабрачынным Фондам «Падары жыццё», сёлета праходзіла з 4 па 7 жніўня. Больш за 300 удзельнікаў з дзевяці краін свету сабраліся разам, каб паўдзельнічаць у спаборніцтвах, знайсці новых сяброў і паглядзець расійскую сталіцу. Другі раз у гульнях бралі ўдзел зборныя Беларусі, Украіны, Расіі, Польшчы, Латвіі, Венгрыі і Румыніі. Упершыню прыехалі каманды з Чэхіі і Турцыі. Былыя пацыенты анкалагічных

гематалагічных клінік з розных краін свету скаралі спартыўныя п'едысталы і спаборнічалі ў шасці дысцыплінах: шахматы, футбол, лёгкая атлетыка, плаванне, стральба і настольны тэніс. Узровень фізічнай падрыхтоўкі, безумоўна, розны, але ўсе дзеці рыхталіся як да самай сапраўднай Алімпіяды, ніхто не збіраўся здавацца без бою.

Ад беларускай зборнай удзельнічалі Фонд «Прикосновение к жизни» і аб'яднанне «Дзеці ў бядзе» пры падтрымцы Прэзідэнцкага спартыўнага клуба. У каманду ўвайшлі 16 удзельнікаў — дзяўчаты і хлопцы рознага ўзросту, не падобныя адзін да аднаго, але аб'яднаныя бядой і агульнай радасцю: яны пераадолелі цяжкае выпрабаванне лёсу.

## ЗДАРОВЫЯ І ГАТОВЫЯ ДА ПЕРАМОГ

Першы дзень заўсёды запамінаецца. Гульні яшчэ не пачаліся, але дзецям трэба было шмат чаго паспець зрабіць: уладкавацца ва ўтульных пакоях, пазнаёміцца, прымераць форму, а пасля яшчэ і пагуляць па расійскай сталіцы. Гасцям запомніўся Маскоўскі планетарый, які пасля працяглай рэканструкцыі адчыніўся наноў. У Вялікай Зорнай Зале супрацоўнікі планетарыя павіншавалі дзяцей з пачаткам гульняў, зрабілі ім падарункі... Потым з'явіўся магічны апарат — праектар зорнага неба — і прадэманстраваў мігценне больш за 900 зорак.

Пасля вячэры ўсе сабраліся на стадыёне, каб пазнаёміцца. Моўныя перашкоды зніклі, калі ўдзельнікі пачалі спаборнічаць у танцах, пантамімах, мастацкіх экспромтах іх фантазія не ведала межаў. Цудоўная вечарына скончылася вясёлай дыскатэкай пад адкрытым небам. Нястомна працавалі карэспандэнты дзіцячай фотаслужбы. Юныя фотакары, як і ўдзельнікі спаборніцтваў, некалі таксама пераадолелі цяжкую хваробу. Менавіта ў бальніцы шмат хто з іх пачаў займацца фатаграфіяй. Дзякуючы іх прафесійным здымкам, засталіся зафіксаванымі самыя яркія моманты гэтага ўнікальнага мерапрыемства.

Спартыўны настрой першай раніцы спаборніцтваў стварылі спецыялісты фітнэс-клубаў — на вялікім футбольным полі амаль сотня ўдзельнікаў пад кіраўніцтвам дасведчаных інструктараў займалася размінкай. Прыемна было бачыць дзяцей, якія весела скакалі на надзіманых батутах.

**Маша Дзятлава** была адной з удзельніц той вясёлай кампаніі, яе рудая галоўка мільгала па ўсёй паляне. Пра сваю хваробу Маша згадвае спакойна. Паўтары гады таму дзяўчынка апынулася ў рэанімацыі са страшным дыягназам, і выратаваць яе магла толькі перасадка коснага мозга. Але так здарылася, што за дзень да аперацыі донар з Германіі адмовіўся здаваць свае клеткі, а заплаціць за пошукі новага трэба было 20 тысяч еўра. Гэтыя грошы для Машы збіралі людзі з усёй Расіі. Мама дзяўчынкі спачатку баялася, што патрэбную суму не паспеюць сабраць, а потым — што трансплантант не прыжывецца. А Маша горка плакала і да апошняга не пагаджалася галіць валасы... Казаць пра гэта без слёз мама дзяўчынкі не можа нават пасля



*На экскурсіі ў Маскоўскім планетарыі.*

таго, як дачка ачуняла. «І радуюся, і баюся за яе ўвесь час. Яна пастаянна намагаецца некуды бегчы, скакаць, а ёй нельга.» Але Маша сама ўсё ведае і разумее: нельга, дык нельга. Упершыню дзяўчынка прыехала ў Маскву не на абследаванне, а адпачыць.

...Цяпер **Сашы Красік** 16 год. Адораная адкрытая дзяўчынка, добра малюе, марыць пра журналістыку. У 13 гадоў у яе знайшлі пухліну галаўнога мозга. «Усё здарылася нечакана, — распавядае яе мама. — Мне патэлефанавалі і сказалі, што дачка паміpae... Я была зламана, думала, не буду жыць. Я не хадзіла — проста перастаўляла ногі... Дачка ж у мяне адна. А потым усё, дзякуй Богу...» Саша перамагла сваю хваробу: перанесла аперацыю, якая цягнулася адзінаццаць гадзін, і доўгае лячэнне. Сёння гэтая дзяўчынка — Пераможца.

Ганаровая цырымонія адкрыцця Другіх Сусветных дзіцячых «Гульняў Пераможцаў» пачалася апоўдні. Зборная Чэхіі ў фіялетавых футболках нагадвала яркую фіялку, побач — польская чырвоная ружа, латышская валошка, украінскі дзьмухавец, сакаўная зеляніна бязмежных прастораў Беларусі. Фарбы лета, неба, сонца — неверагоднай прыгажосці казачная лугавіна, над якой з гонарам лунaлі сцягі ўсіх краін-удзельніц. Чэмпіён «Гульняў Пераможцаў—2010» па шахматах **Клім Сідараў** узняў над стадыёнам сцяг. Адкрыццё адбылося. Бела-ружовае воблака паветраных шарыкаў запоўніла ўсё поле. Праз колькі хвілін удзельнікі разам выпусцілі іх, і яны яшчэ доўга-доўга ляцелі ўвышыню...

«Галоўная радасць для ўрача — бачыць сваіх былых пацыентаў здаровымі і гатовымі да перамог!» — кажа дырэктар фонду «Падары жыццё», гематолаг і ўрач некаторых Пераможцаў **Міхаіл Масчан**.

## ГЭТЫЯ ДЗЕЦІ НЕ ГУЛЯЮЦЬ У ПАДДАЎКІ

Другая палова дня была прысвечана спаборніцтвам, якія пачаліся з забегу на 60 м. Першапачаткова планавалася ўсіх спартсменаў узнагароджваць медалямі, але атрымалася, што гэтыя дзеці не гуляюць у паддаўкі. Яны патрабавалі ацэньваць іх пасапраўднаму.




*Ягор Анкуда — уладальнік залатога медаля за выдатную гульню ў футбол.*

«Было вельмі кранальна, — узгадвае Таццяна Залуцкая, — калі абвясцілі ўдзельнікаў забегу з падтрымкай, і на старт выйшла двое расійскіх хлопчыкаў на пратэзах, з мыліцамі — у іх ампутаваны ногі... Але яны беглі так хутка і паказалі такую неверагодную сілу волі! Гэта трэба было бачыць! Гледзячы на іх, разумееш, наколькі гэтыя дзеці цэняць кожны момант свайго жыцця. Не ўсялякі здаровы дзіцёнак, дый і дарослы, мае такое жаданне жыць, рухацца да мэты, імкнуцца да перамогі... Адна латышская дзяўчынка таксама ўсіх уразіла: яна перасоўвалася ў інвалідным крэсле і, як Пераможца, праехала сваю дыстанцыю».

За лёгкаатлетамі былі паспяховыя спаборніцтвы па стральбе з пнеўматычнай зброі. Ні яркае сонейка, ні хваляванні не перашкодзілі дзецям паказаць цалкам прафесійныя вынікі. Настольны тэніс — адна з самых любімых дзецьмі дысцыплін. Тут спаборнічалі ўсе ўзросты, а ўсхваляваныя прыхільнікі на трыбунах скандзіравалі словы падтрымкі, размахвалі сцягамі.

Пасля спаборніцтваў удзельнікаў чакаў час адпачынку. Паміж возерам і футбольным полем быў зладжаны своеасаблівы гарадок, дзе кожны мог выбраць сабе занятак па густу. Хочаш — скачы на батуце або катайся на лужку ўсярэдзіне агромністага празрыстага шара. Несупынна ішлі майстар-класы, дзе ўсе жадаючыя вучыліся варыць мыла,




*Узнагарода Пераможцаў.*

рабіць лялькі з абрэзкаў, паштоўкі з лямцу, плесці са скуры ўпрыгожванні.

Вечар завяршыўся дыскатэкай. Важатыя ўжо валіліся з ног, затое дзеці не адчувалі ніякай стомы. Больш за ўсіх на сцэне шчыравала сямігадовая **Саша Дружыніна**, нядаўняя пацыентка аддзялення гематалогіі. Саша літаральна гадавалася ў бальніцы. Упершыню хвароба праявілася ў паўтары гады. Дактары знайшлі ў малой злаякасную пухліну. Пасля некалькіх курсаў хіміятэрапіі, якія дзяўчынка перанесла пакутліва, прыйшла доўгачаканая рэмісія. Але праз паўтары гады здарыўся рэцыдыў, і як вынік — дзяўчынка зноў трапіла на бальнічны ложак, але ўжо з новым дыягназам — лімфабластома. У бальніцы дзяўчынка навучылася маляваць, чытаць, пісаць, знайшла сяброў. Яна радуецца, калі да яе прыходзяць госці, тады яна запарвае гарбатку і з захапленнем вядзе размовы. Пакуль Саша лячылася, яна больш за ўсё на свеце марыла даведацца пра іншае жыццё, так непадобнае да бальнічнага. На кожным абходзе яна з надзеяй зазірала ў вочы медыкаў і ўсхвалявана пыталася: «Можна, я больш не буду хварэць?» І вось увесну 2011 года прыйшоў той шчаслівы дзень — Сашаньку адпусцілі дамоў.

Другі дзень пачаўся з жэраб’ёўкі, якая вызначыла каманды-суперніцы ў спаборніцтвах па футболе. У складзе адной каманды на поле выходзілі не толькі хлопчыкі, але і дзяўчаты. Сёлета яны выступалі не асобнымі зборнымі ад кожнай краіны, а «камандамі свету». У кожнай былі ўдзельнікі з розных краін. Гледачы адразу аддалі свае сімпатыі малодшай футбольнай зборнай, узрост дзяцей у якой быў ад сямі да дзевяці гадоў. Суддзя на іх фоне здаваўся Гуліверам.

А ў басейне тым часам адбываліся спаборніцтвы на дыстанцыях 20 і 40 метраў вольным стылем і 40 метраў на спіне. Асобны заплыў быў арганізаваны для спартсменаў з абмежаванымі магчымасцямі. Хаця іх вынікі маглі дазволіць ім спаборнічаць і перамагаць на агульным старце.

Таццяна Залуцкая ўзгадвае: «Адзін хлапчук бадзёра ўвайшоў у ваду, паплыў, і тут усе зразумелі, што ён можа грэбсці толькі адной рукой, другая — не працуе... Але ён не толькі ўсіх абагнаў, а яшчэ і паказаў найлепшую хуткасць».

## КАМАНДА ПЕРАМОЖЦАЎ

Час мінуў незаўважна. Настаў самы ўрачысты і хвалюючы момант — цырымонія ўзнагароджвання. На стадыёне прысутнічала амаль тысяча чалавек. Абвясцілі імёны пераможцаў. 14 разоў дзяўчаты і хлопчыкі са зборнай Беларусі падніmaліся на п’едэстал пад сцягам нашай краіны. Сем залатых, дзве срэбраныя і пяць бронзавых узнагарод прывезлі дамоў пераможцы!

Вось каманда, дзе няма прайграўшых:

**Кацярына Белагурава** (10 гадоў) — займаецца бегам, плаваннем, танцамі, узмоцнена вывучае мовы.

**Ганна Кандраценка** (12 гадоў) — апроч заняткаў спортам, захапляецца маляваннем, займаецца ў мастацкай школе.

**Зміцер Грук** (13 гадоў) — гуляе ў футбол, захапляецца канструяваннем, у вольны час рыбачыць. Дзякуючы яму, каманда атрымала залаты медаль у футболе і сярэбраны ў стральбе.

**Руслана Бялова** (14 гадоў) — вучыцца ў спецшколе пры МНС, узмоцнена вывучае англійскую мову, танцуе, шмат чытае.

**Ягор Анкуда** (9 гадоў) — вучыцца ў школе з англійскім ухілам, катаецца на скейце, гуляе ў футбол. Ён заваяваў залаты медаль, забіўшы два вырашальных гола.

**Павел Лаўрыновіч** (14 гадоў) — апроч футбола любіць граць на фартэпіяна, канструюе мадэлі аўтамабіляў. Залаты прызёр футбольнага першынства.

**Уладзімір Кротаў** (12 гадоў) — гуляе ў футбол, катаецца на роліках, веласіпедзе, страляе з пнеўматычнай вінтоўкі.

**Сяргей Кулік** (15 гадоў) — плавае, любіць стральбу з пнеўматычнай вінтоўкі, іграе ў настольны тэніс.

**Макарый Цемлякоў** (13 гадоў) — захапляецца шахматамі, плаваннем і футболам, займаецца канструяваннем, вучыцца іграць на гітары.

**Зміцер Пазднякоў** (11 гадоў) — плавае, гуляе ў шашкі і футбол.

**Аляксандр Сурвіла** (14 гадоў) — любіць футбол і веласпорт, заваяваў залаты медаль у футбольным турніры.

**Веніямін Гергуноў** (9 гадоў) — гуляе ў тэніс, страляе з пнеўматычнай вінтоўкі, займаецца лёгкай атлетыкай, танцуе брэйкданс, любіць маляваць.

**Вераніка Камінская** (15 гадоў) — выконвае сучасныя танцы, плавае, страляе з пнеўмавінтоўкі (бронзавы прызёр па стральбе), спявае ў царкоўным хоры.

**Аляксей Арлоўскі** (15 гадоў) — любіць шахматы і футбол, узмоцнена займаецца матэматыкай, удзельнічаў і перамагаў у матэматычных алімпіядах. Заваяваў два залатыя медалі па футболе і шахматах, бронзавы па плаванні.

**Аксана Кнаўс** (14 гадоў) — спартыўная, разнастайна развітая дзяўчына. Уладальніца залатой узнагароды па лёгкай атлетыцы і дзвюх бронзавых па настольным тэнісе і футболе.

**Ігар Каралёў** (13 гадоў) — гуляе ў шахматы, страляе з пнеўматычнай вінтоўкі. Заваяваў серабро і бронзу ў любімых дысцыплінах.

Медалі і граматы пераможцам уручыў шасціразовы чэмпіён Параалімпійскіх гульняў **Сяргей Шылаў**. «На гульнях усе выкладаліся па поўнай, — кажа ён. — Камусьці, безумоўна, з цяжкасцю даюцца спартыўныя дысцыпліны, але вы стараецеся, і ў вас усё атрымліваецца. Хвароба, як і спорт, выпрабоўваюць чалавека на сілу волі і духу».

Пачалася цырымонія закрыцця гульняў. Са сцэны гучалі цёплыя словы многіх вядомых людзей, якія спецыяльна прыехалі павіншаваць дзяцей, выказаць ім сваё павагу і захапленне. «Мне часта даводзілася чуць размовы пра перамогу, але сапраўдных Пераможцаў я сустрэў сёння», — прызнаўся рэжысёр і прадзюсар **Валерый Тадароўскі**.

Пасля ўрачыстасцей, канцэрта любімых артыстаў і спевакоў дзяцей чакалі салодкі стол і цэлая гара падарункаў: шакаладкі, цацкі, наборы для творчасці. Падарункі атрымалі і мамы, якія на працягу спаборніцтваў перажывалі за дзяцей, а пасля перамогі падзялялі з імі незабыўнае пачуццё радасці і гонару. А потым у вячэрнім небе зазіхацеў святочны салют. Кожны ў гэтыя імгненні думаў пра нешта сваю, патаемнае. Магчыма, нехта загадаў запаветнае жаданне, а нехта паверыў у чароўныя казкі і ў тое, што цуды здзяйсняюцца.

## ДА НОВЫХ СУСТРЭЧ!

Удзел у спаборніцтвах дазволіў ім забыць боль і пакуты мінулага, наноў радавацца жыццю, бачыць шчасце другіх дзяцей і падзяляць з імі захапленні.

Не змагла схаваць сваёй радасці і мама беларускага героя Аляксея Арлоўскага: «Усе разляцеліся па сваіх гарадах і краінах, акрыленыя шчасцем. Дзякуй усім, хто прыдумаў і ажыццявіў гэтае свята!»

А дырэктар анкалагічнага цэнтра ў Бараўлянах Вольга Алейнікава лічыць, што хворы дзіцёнак павінен знаходзіцца ў атмасферы пазітыву, тады ён настроены на жыццё і верыць ва ўсё добрае. Так палепшыцца яго эмацыйны стан, з’явіцца надзея, і таму працэс будзе вылечыцца.

Гульні патрэбны не толькі Пераможцам — яны неабходны тым, хто яшчэ толькі сутыкнуўся са страшным дыягназам. Дзеці, якія перажылі хваробу, даюць надзею тым, хто знаходзіцца на самым пачатку нялёгкага шляху.

*Уладзімір КАРАТКЕВІЧ*

# БРАСЛАЎЕ

***Уладзімір Караткевіч пачаў супрацоўнічаць з часопісам «Маладосць» з 1956 года, бо ўжо ў № 1 за 1957 год на яго старонках з'явіўся верш «Ялінка», і гэтая творчая сувязь доўжылася да апошніх гадоў жыцця. Дастаткова сказаць, што ў «Маладосці» было апублікавана апавяданне «У шалашы», аповесці «Дзікае паляванне караля Стаха» і «Чазенія», раман «Чорны замак Альшанскі»... і ўжо пасля смерці пісьменніка — п'еса «Маці ўрагану».***

***Эсэ «Браслаўе», якое прапануецца ўвазе чытачоў «Маладосці», уваходзіць у шэраг твораў, прысвечаных рэгіёнам Беларусі (Палессю — «Званы ў прадоннях азёр», Оршы — «Рша камен...», Рагачову — «З шалёнай вышыні», Віцебску — «Тысячу стагоддзяў табе», Мсціславу — «Дыяментавы горад»). Такім чынам, пісьменнік стварыў своеасаблівае мазаічнае пано, канцэптуальна ўвасобленае ў кампрэсіўнай перыфразе «зямля пад белымі крыламі». Кожнае шкельца тутззяе і пераліваецца ўласнымі фарбамі, выкінь адно — і мазаіка распадзецца.***

***Браслаўе для Уладзіміра Караткевіча мае сіні колер...***

***Пакуль не высветлена, з якой прычыны эсэ не было апублікавана (частка рукапісу і машынапіс захоўваюцца ў аддзеле рэдкіх кніг і рукапісаў Цэнтральнай навуковай бібліятэкі імя Якуба Коласа Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі). Напісаны хутчэй за ўсё блізка да юбілею Браслава, «якому ў 1965 годзе стукнула дзевяцьсот гадоў», твор прасякнуты светлай радасцю і замілаваннем Браслаўскім краем. Усе разнастайныя структурныя элементы эсэ (пейзажныя апісанні, навуковыя гістарычныя звесткі, распавед пра архітэктурныя помнікі, характарыстыка жыхароў, вобразныя фрагменты) нітуе асоба аўтара, які то наўпрост звяртаецца да чытача, то хаваецца за займеннікам «мы» і раствараецца ў ім, то выяўляецца ў разнастайнай, па-караткевічаўску арыгінальнай вобразнасці. Мы бачым Браслаўе Караткевіча, аднак паступова яно становіцца і нашым, неад'емным ад сівых узгоркаў Навагрудчыны, ціхаплыннай Прыпяці і палескіх дуброў, урвішчаў Дняпра і зялёнай Белавежы, полацкай Сафіі і гродзенскай Каложы. Любі тое, што цябе акаляе, бо толькі любоў мае права на існаванне ў адносінах паміж людзьмі, — чытач нібы чуе ўнутраны голас У. Караткевіча і прыслухоўваецца да яго. У той жа час, голас Караткевіча-патрыёта, Караткевіча-грамадзяніна прымушае думаць, а гэта адна з інтэнцыйных і камунікатыўных характарыстык жанру эсэ, да якога так часта звяртаўся пісьменнік.***

***Прапануючы твор «Маладосці», мы аддаём даніну павагі часопісу, які набраўся моладзевага «нахабства» ў 1969 годзе апублікаваць смелае эсэ «Званы ў прадоннях азёр», пасля якога, як прызнаецца У. Караткевіч у дзённіку, «таўклі мяне ў карак і мяшалі з гразёй на ўсіх канферэнцыях». Але, магчыма, пасля гэтага «зацікавіліся і прачыталі нават тыя, што павек нічога не чытаюць. А прачытаўшы, сакратар нават самага захудалага раёна не мог не задумацца і, калі ў ім была драбінка розуму, спытаць у сябе: "А раптам гэта ён мае рацыю?"»***

***Наперад, дарагі чытач! Перад табою — невядомы твор Уладзіміра Караткевіча.***

**Пятро ЖАЎНЯРОВІЧ,**
**кандыдат філалагічных навук**

Самая поўнач Беларусі. Светлая паўночная ноч. Фасфарычна і цьмяна свецяцца глыбіні азёр і дрэмле ў прадоннях, вяршынямі ўніз, зажураны дымна-сіні лес.

Сотні азёр. Малых, зусім маленькіх і вялізных. Сотні адценняў вады — ад цёмных да бялёсых, ад блакітных да сініх, а між іх грывы і ўзгоркі, зарослыя ялінамі і хвоямі, таксама сінімі, хутары і вёскі ў сініх ільняных палях, сінія піраміды ядлоўцу ў жыце, сіняе неба над усім гэтым. І сярод гэтага разліву гарадок, таксама сіні пры поўні.

Браслаўе, Браслаў, Браслава. Сіні край. Сіні? Так, часцей за ўсё сіні. Але і няпэўны, прывідны, зменлівы, як чараўніца.

Вось часам вецер і хмары і навальніца, і ўсё чарнее: чарнеюць камяніскі на ўзмежках, чарнеюць лясы і ядловец, гоніць белых коней грыфельная вада, і ўзлятаюць іхнія белыя грывы над гмахамі і праваламі.

...I зноў сонца. Яно сядае і залівае аранжавай чырванню і лясы, і бясконцыя воды азёр, і камяні.

...А вось адсунуўся летні сонечны дождж, і аднаўлены край, абмыты ім, зіхоткі, мокрабліскучы, стаіць, нібы ён толькі што выплыў з гэтых азёрных глыбінь, а над ім, як дараванне, мігціць вясёлка.

Зменлівы, чароўны, незразумелы. Як вочы яго жанчын, што тысячагоддзямі адбівалі ўсё гэта: глянь у гэтыя вочы — сэрца сціснецца і ўпадзе. I ўсё зачараванне і яго і іх у гэтай зменлівасці, калі не разбярэшся, што ў гэтых вачах, што ў гэтых азёрах, што ў самім абліччы гэтай зямлі. Сумная радасць? Светлая туга? Сонца праз дождж? Усмешка праз слёзы?

Вы, белыя аблокі над ласкавай вадой, вы, урвістыя берагі Струсты, вы, горы высокія і вежы на іх, вы, рыбацкія хаткі, абплеценыя сецямі, вы, браслаўскія стрэхі і вясковыя студні, падобныя на капліцы, — мы любім вас. Проста нельга не любіць, проста не дадзена іншага. Проста мы выраслі тут і ўсё, усё да апошняга, ад вас. Сітнягі над гэтымі водамі спявалі нам першую калыханку пад рытм адвечнага прыбою. Сілу нам давалі камяні на палёх, спявучасць — плёскат Струсты і Дрывятаў, Снуды і Войсы. Рамантычны склад душы — поўня над азёрамі і плач азёрнай чайкі над імі. I яшчэ далечы, што адкрываюцца з гэтых узгоркаў. На дзесяць, на пятнаццаць, на дваццаць вёрст... Далёка.

А працавітасці мы навучыліся самі, бо гэтага патрабавала скупая зямля і глыбокія прадонні Струсты.

Што ж датычыцца мужнасці, то мы нарадзіліся з ёю і выхавалі яе ўсёй шматвяковай нашай, крывавай нашай, жалезнай і дымнай, адчайдушнай, вогненнай і, аднак, чалавечнай нашай гісторыяй.

Таму што і ў дыме тысячагоддзяў, і тады, калі на рубяжах гэтых буянілі агонь і меч — усё адно, нават тады, мы заставаліся людзьмі.

...Браслаў, якому ў 1965 годзе стукнула дзевяцьсот гадоў, — ад першага ўпамінання ў летапісе, ляжыць між азёр, на гары, на адзінай сухапутнай перамычцы ў суцэльным, больш як трыццацікіламетровым азёрным ланцугу. Заснаваны князем Брачыславам Ізяславічам, чалавекам, якому ўдалося адстаяць самастойнасць Полацкай зямлі ў бясконцых сутычках з суседзямі, ён, займаючы ключавую пазіцыю, на доўгія гады робіцца фарпостам, замком, які замыкае адзіныя з захаду вароты на Полацк. Абысці яго нельга. Азёры, плошчаю да 38 кв. км і глыбінёю часам да трыццаці (Струста), цягнуцца справа і злева. Далей — непраходныя лясы і дрыгва. Ворагу адна дарога — цераз яго. I вось паўтара стагоддзя маленькі мужны гарадок у бесперапынных нападах, у сечах і агні, целам і крывёю сваёй выкупляў спакой, мір, працу на гэтай зямлі. Аж пакуль цэнтр падзей беларускай гісторыі не перамясціўся і Браслаўскі замак не страціў свайго значэння.

Цяпер гэта ў даўнім мінулым. I толькі старажытны герб захаваў памяць пра тыя дні: блакітны трохкутны меч, а на ім чалавечае вока і крылатае сонца ў залатых прамянях. Крылатае сонца — яшчэ вавілонскі, яшчэ егіпецкі, яшчэ ацтэкскі сімвал бога святла, канчатковай перамогі гэтага святла над цемрай.

Словам: «пільна сачы, каб змрок не напаў на ззянне, каб сонца перамагло».

I вось цішыня і спакой, і відны на дзесяць кіламетраў Слабодскі касцёл, пра які адзін амерыканскі падарожнік калісьці пісаў: «Калі я па раніцы пры ўсходзе сонца глядзеў на Слабодскі касцёл, прыгажэйшага віду ў Еўропе я не бачыў».

...Застаўся дух старажытнасці, славы і сілы народнай. I яшчэ засталіся старыя камяні будынкаў, каменныя і драўляныя вежы і званіцы, засталася мэтазгодная, ладная, стагоддзямі выпрабаваная архітэктура сялянскіх хат.

Засталіся дубовыя дзверы касцёлаў і цэркваў (Педруя, Слабодка, Дрысвяты), збітыя трохсотгадовымі каванымі цвікамі, а на іх каваныя завесы і клямары з беларускім нацыянальным арнаментам.

Засталіся гатычныя і барокавыя культавыя пабудовы. Барокавы базыльянскі кляштар у Друі (пач. XVII ст.). Педруйскі барокавы касцёл, пабудаваны Сапегамі ў 1613 годзе, і многае, многае такое, зробленае рукамі простых, каб давеку не згасла на гэтай зямлі прыгажосць.

Або вадзяны каменны млын у вёсцы Зарачча, пабудаваны ў 1822 годзе, муры якога інкруставаны беларускім народным

арнаментам. На бялюткіх каменных паверхнях выкладзены з кавалачкаў чорнага каменя птушкі, кветкі, галубы, буслы, зоркі, салдацікі ў ботах і кунтушах, ды яшчэ з узнятымі шаблямі. А вялікія шэрыя, чырвоныя і жоўтыя камяні зноў жа аблямаваныя каменьчыкамі і нагадваюць сланечнікі або фантастычныя сонцы.

Да ўсяго даходзілі рукі гэтага народу. І да замкаў, і да млыноў, і да ўласных хат, варот, калодзежаў. А пасля прыходзіў час — і адпраўляліся яны на верхавіны ўзгоркаў, абкружаных каменным мурам, на мініяцюрныя могілкі. Бо вечнай працай заслужылі вечны спакой. Вечнай працай, дабрынёй, гумарам, спявучасцю, нястрымнай фантазіяй, рамантызмам — неадрыўным ад рамантызму гэтай сціплай і, аднак, легендарнай зямлі.

Досыць узняцца на замкавую Браслаўскую гару, каб зразумець гэта.

Ноч. Гонтавыя і чарапічныя стрэхі гарадка, шпілі старажытных будынкаў, поўня ў азёрнай вадзе, водсветы яе на мокрых тратуарах, заімшэлыя муры даўніх гмахаў, лятуць над гладдзю спозненыя птушкі.

Але спускайся з гары і кроч у свой шлях. Спускайся ў старое паданне, як на дно зачараванага возера, як у туман многіх стагоддзяў — і фантастычнасць таго, што адбываецца вакол, уладна возьме цябе за сэрца і сцісне, і не адпусціць ужо ніколі больш. Да самага канца.

А можа, чалавек і пасля з невымоўнаю тугою, хаця рады ў гады, хаця раз на стагоддзе не зможа не ўспомніць усяго гэтага. Успамінаем жа мы ляск зброі, шалёнае імкненне коней, мыла, што падае з іхніх цугляў на зямлю, і пах свежай цамянкі, толькі што раствoранай для муроў у Слабодцы ці Відзах, і зноў агонь, і зноў шалёны лёт каня.

Не можам забыць стагоддзямі. То як жа магчыма забыць гэтыя стагі ў тумане, і гарбаносых ласёў між срэбных дрэў казачнага лесу, і коней, што нерэальна, павольна перабіраючы нагамі, танцуюць на беразе туманнага возера?

Спускайся ў паданне. Да каравых вербаў, якія ўздрыгваюць праз сон ад рэзкага крыку чайкі, да маўклівых, напрацаваных, абсыпаных рыбінай лускою рыбакоў, да тых сівых старых, што былі калісьці таксама рыбакамі, да тых, што ўзразаюць ільнянымі адваламі маці-зямлю (у, як яна пахне!), узразаюць, як людзі мораў узразаюць і пеняць абшары мораў.

Слухай іхнюю павольную, спявучую мову, пранізаную няспешным гумарам, калі гэтыя людзі стомлена сядзяць на ўзмежжы, склаўшы чорныя ад зямлі й мазуту, пасечаныя кожнай пясчынкай рукі, глядзі ў сінія (самыя сінія на свеце, як гэтыя азёры ў сонечны дзень) вочы дзяўчат. Вітайся з імі, і з рыбакамі, і з турыстамі на пляжы. З конямі і лісцікамі, з буслам над паплавамі і фантастычнымі дрэвамі. Памагай прыгожым дзяўчатам выцягваць вядро са студні і слухай разам з імі, як кроплі звонка падаюць у сцюдзёную глыбіню.

І астатняе слухай. Як напружана звініць вецер у дратах высакавольтнай перадачы, як спяваюць кабеты ў полі і як гудуць пчолы над мядовымі свепетамі.

А, галоўнае, слухай шэпт дрэў і ўсхліпванне азёр, з чаго і складаецца на гэтай высакароднай зямлі спявучая, канечная, гаючая цішыня.

Далей кроч. Далей. Да гатычных парталаў і ўзгоркаў, засеяных гарохам, ля руін старых — і ля хутароў, загубленых у палях канюшыны, ля валуноў і ля берагоў, аб якія плюскоча неіснуючая, магічная, як белая ноч, вада.

І яшчэ, і яшчэ далей. У туманы, у вынесеныя навальніцай на бераг карэнні. Паўз сеці з іхнім вострым водарам, паўз млыны, тарфяныя заводзікі і чаўны на беразе.

Сядзь у адзін з іх на рабрыстыя какоры і адплыві ў сіняе заспакаенне, каб шпілі амаль растварыліся ў туманным марыве. І ты пачуеш далёкі звон і ты адчуеш, як многа яшчэ сілы і любові ў тваім сэрцы. Любові да паэзіі і справядлівасці, да сардэчнасці, прыгажосці і праўды.

Любові да чалавецтва і да гэтых вось працавітых людзей.

Любові да гэтай сіняй зямлі, да нашай, да адзінай зямлі.

Любові да сонца ў кроне дрэва, нашага сонца, прыўкраснае ззянне якога нельга адабраць у чалавека і якое ніколі не згасне.

# ЛІТАРАТУРНЫЯ МЯСЦІНЫ БЕЛАРУСІ*

## НЯСВІЖСКІ РАЁН

### г. Нясвіж

**Радзівіла Мікалая** (мянушка Чорны; 4.2.1515—28/29.5.1565), дзяржаўнага і ваеннага дзеяча ВКЛ, мецэната. Уладар Нясвіжа. Пры ім у горадзе заснавана друкарня, у замку пачаў складвацца багаты збор дакументаў, рукапісаў і кніг. Акрамя друкарні Нясвіж меў літаратурны гурток, сродкі на які выдзяляліся Мікалаем Чорным. Сярод членаў гуртка былі **Якуб Лубельчык, Гжэгож Аршак, Пётр Статорыус, Джордж Шоман, Тэнанд, Станклар, Анджэй Тшэцескі, Павел з Бжэзін.** Доўгі час ядналі Чорнага сяброўскія адносіны з вядомымі публіцыстамі XVI ст. **Станіславам Аржахоўскім і Пятром Вяргерыем.** Чорнаму прысвяцілі свае творы **Кальвін, Булінгер, Флацій Ілірык, Павел Лісманін, Станіслаў Рапагелан, Марцін Градоўскі, В. Шрэцкі, Ф. Нігер, Ваўжынец з Пшасныша Нязгода** Яму прысвечаны пераклад на польскую мову твора Плутарха «Карысць ад непрыязні». Сам князь выступаў як пісьменнік-публіцыст. Вядомы яго адказ на «Ліст» (1556) папскага нунцыя ў Польшчы А. Ліпамана, які хацеў вярнуць князя ў каталіцызм, і «Прысвячэнне Жыгімонту Аўгусту», змешчанае ў брэсцкай Біблії 1563 г.

**Радзівіл Мікалай Крыштоф** (мянушка Сіротка), дзяржаўны і ваенны дзеяч ВКЛ, мецэнат, пісьменнік, ураджэнец г. Чмелеў Сандамірскага ваяв. (Польшча), пачатковую адукацыю атрымаў у Нясвіжы. Першы ардынат нясвіжскі. Спыніў дзейнасць Нясвіжскай друкарні (1571). Пры ім значна папоўнілася замкавая бібліятэка, якая ў канцы XVI ст. налічвала болей 700 тамоў. Аўтар «Вандровак у Святую Зямлю» (на лацінскай мове, Брандэнбург, 1601). Кніга вытрымала тры выданні на лацінскай мове, пяць — пераклад на польскую, нямецкую (1603), рускую (Санкт-Пецярбург, 1787, 1879), беларускую (1994). Сіротка аказваў апеку **Тамашу Трэтэру, Касперу Вількоўскаму, Андрэю Груцінішу** і іншым. Мецэнацтва М. К. Радзівіла спрыяла развіццю панегірычнага жанру. У 1588 г. быў выдадзены зборнік яго пахвальнай прозы і вершаў на польскай і лацінскай мовах некалькіх аўтараў у гонар князя (Вільня). Сярод аўтараў, якія прысвяцілі князю свае творы, былі **Ян Пратасевіч, Себасцьян Петрацы, Андрэй Волан.** У 1593 г. **М. Вітаслаўскі** выдаў паэтычны зборнік на лацінскай мове «Threnodia in obium», дзе сярод паэтычных твораў быў верш, які праслаўляў нясвіжскую бібліятэку Радзівілаў, а ў зборніку «Panegyrica» (1604) было апісанне замка ў Нясвіжы, згадвалася пра вядомага нясвіжскага гравёра **Т. Макоўскага.** Памёр і пахаваны ў Нясвіжы. У Нясвіжскім езуіцкім касцёле захаваўся мармуровы рэльеф князя Мікалая Крыштофа Радзівіла Сіроткі ў плашчы пілігрыма. У 1992 г. на тэрыторыі палаца-паркавага комплекса ў Нясвіжы ўстаноўлены бронзавы бюст М. К. Радзівіла Сіроткі (скульптар Л. Гулеўскі).

**Радзівіл Міхал Казімір** (мянушка Рыбанька), дзяржаўны і ваенны дзеяч ВКЛ, мецэнат. Вучыўся ў Нясвіжы, заснаваў у 1750 г. у горадзе друкарню, дзе выйшлі два выданні «Камедый і трагедый» **Францішкі Уршулі Радзівіл**, «Артыкулы вайсковыя» (1754),

* Працяг. Пачатак у № 10—12 за 2007 г., № 1—12 за 2008 г., № 1—10, 12 за 2009 г., № 1—7, 9—12 за 2010 г., № 1, 2, 3, 4, 5, 6, 7, 8, 9 за 2011 г.

«Хроніка бернардынская» (1750), «Старапольскія гаворкі» (1756) і інш. Амаль 40 гадоў князь вёў дзённік. Арыгінал яго захоўваўся ў нясвіжскай бібліятэцы, а копія — у Алыцкім кнігазборы, цяпер знаходіцца ў фондзе Радзівілаў у варшаўскім архіве.

**Радзівіл Францішка Уршуля** (з роду Вішнявецкіх), паэтэса, драматург, ураджэнка г. Чартарыйска Валынскага ваяв. (Украіна), жыла ў Нясвіжы. Была замужам за М. К. Радзівілам Рыбанькай. Пісала на польскай, італьянскай, французскай і нямецкай мовах. Стварыла шэраг вершаваных эпітафій, павучальных твораў для дзяцей. Аўтар вершаваных «Лістоў да мужа», паэтычнага зборніка «Збавенныя перасцярогі» (Нясвіж, 1755). У 1746 г. стварыла ў Нясвіжскім палацы тэатр, дзе ставіла спектаклі паводле сваіх п'ес. У 1746—1752 гг. напісала для тэатра 16 драматычных твораў і оперных лібрэта. У 1754 г. у Жоўкве выдадзены зборы твораў Ф. У. Радзівіл «Камедыі і трагедыі».

**Рудніцкі Дамінік** (4.8.1676—10.10.1739), ураджэнец Усходняй Беларусі (дакладнае месца невядома), беларускі і польскі пісьменнік, з 1730 г. жыў у Нясвіжы.

У 1814—1817 гг. у складзе конна-артылерыйскай роты ў Нясвіжы служыў паэт-дзекабрыст **Рылееў Кандрацій.** Цікавіўся польскай літаратурай, адсюль пасылаў лісты да маці, напісаў тут некалькі вершаў, пераклаў «Гістарычныя песні» Ю. Нямцэвіча.

**Рысінскі Саламон** [1560 (?)—13.11.1625], філосаф, паэт, педагог, вучоны-фалькларыст і этнограф, ураджэнец в. *Рысін* цяпер Себежскага р-на Пскоўскай вобл. Пасля 1600 г. служыў у князёў Радзівілаў. Служба прыдворным паэтам і выхавацелем княжацкіх дзяцей знайшла адлюстраванне ў яго творчасці. У вершаванай форме ён апісваў ваенныя паходы Радзівілаў, складаў эпітафіі для членаў княжацкай сям'і і некаторых знатных асоб, займаўся перакладамі.

**Сержпутоўскі Аляксандр**, фальклярыст, этнограф, публіцыст, мовазнаўца, ураджэнец в. *Бялевічы* цяпер Слуцкага р-на, скончыў Нясвіжскую настаўніцкую семінарыю.

**Сташэўскі Васіль**, пісьменнік, ураджэнец в. *Лугавая* Капыльскага р-на, скончыў Нясвіжскую настаўніцкую семінарыю (1914). У 1920 г. працаваў сакратаром Нясвіжскага павятовага ваенкамата.

**Сыракомля Уладзіслаў** (сапр. Кандратовіч Людвік), ураджэнец в. *Смольгава* Любанскага р-на, у 1833 г. пасля ўступных экзаменаў будучы паэт быў залічаны ў 2 клас нясвіжскай павятовай школы пры дамініканскім кляштары. Жыў у горадзе недалёка ад кляштара ў пані Марэтавай. Вучыўся старанна і меў добрыя вынікі, асабліва ў мовах — расійскай, лацінскай, польскай і нямецкай. Ва ўспамінах («Сыракомля пра сябе. Запіс В. Каратыньскага». Варшава, 1896) і ў гутарцы «Школьныя часы» («Szkolne czasy. Nowe opowiadania Jana Dęboroga przez Władyslawa Syrokomlę») пісаў пра школу, цвёрдую дамініканскую дысцыпліну, школьныя парадкі, выкладчыкаў, любімыя ўрокі. Аднак у 1835 г. школа была зачынена, і працягваць вучобу У. Сыракомля павінен быў у Навагрудку. У 1840 г. па хадайніцтве бацькі Людвік уладкаваўся на службу ў канцылярыю па кіраўніцтву Радзівілаўскімі маёнткамі на пасаду перапісчыка-канцылярыста. Гэта быў час, калі радзівілаўская рэзідэнцыя была ўжо ў заняпадзе, але вакол яе ўсё ж гуртаваліся адукаваныя людзі, сярод якіх былі выпускнікі Віленскага ўніверсітэта **Адольф Дабравольскі**, кіраўнік канцылярыі, **Ян Рыхтар**, былы сябра літаратурна-грамадскага таварыства шубраўцаў і рэдактар газеты «Навіны бруковыя» («Wiadomości Brukowe») у Вільні. У. Сыракомля мог карыстацца іх хатнімі бібліятэкамі, пачаў стала чытаць польскую і французскую літаратуру, перыёдыку, удзельнічаў у літаратурных вечарах. Пасяліўся будучы паэт у самым маленькім пакойчыку старадаўняга замка. Ва ўспамінах ён пісаў пра той час: «Для мяне пачалося новае жыццё. Канцылярыя, куды я ўсяліўся, і вялікая частка чыноўнікаў мелі памяшканні ў старажытным радзівілаўскім замку. Але як малады, сціплы, маўклівы, побач са старымі сапраўднымі службістамі, кракавякамі-зухамі выглядаў тут апошнім. Мне было цяжка пасябраваць з імі, да таго ж кіраўнік канцылярыі пан Дабравольскі выказаў мне пагарду. Хацеў заняцца

літаратурай, але дзе там! Кніжак не меў, а калі сядаў пісаць, мае калегі знаходзілі напісанае і высмейвалі і тое, што напісана, і аўтара». Прайшоў пэўны час, пакуль становішча не памянялася, і «жыццё сяброўскае, пачуццёвае цалкам пажырала мяне; пісаў тады вяршыдлы на розныя выпадкі, рабіў выбрыкі, якія досыць голасна разносіліся ў маёй ваколіцы...» А ў лісце да Адама Плуга 30 кастрычніка 1843 г. пісаў: «Што да мяне, то пішу і пішу; маю ўжо рой дзетак, але гэта дамаседы; не думаю іх паказаць свету; табе аднаму мог бы я даверыць літаратурныя таямніцы». У Нясвіжы з'явіліся яго першыя гумарыстычныя вершы «Ліст Крышталевіча з Елісейскіх палёў да Раймонда Бараноўскага», «Да паламанай гітары Рамбовіча», «Далей за сонца». Відаць, у Нясвіжы паэт упершыню па-юнацку захапіўся мясцовай прыгажуняй Міхалінай Рыхтар, якой адрасаваў вершаванае пасланне. Але захапленне было нядоўгім, бо 16 красавіка 1844 г. у нясвіжскім фарным касцёле ён абвянчаўся з Паўлінай Мітрашэўскай, пляменніцай А. Дабравольскага. Пасля гэтага У. Сыракомля пакінуў службу канцылярыста і стаў па сямейнай традыцыі арандатарам, перабраўшыся з маладой жонкай у Залучча (Стаўбцоўскі р-н). Нясвіж і мясціны, якія ляжаць на шляху з Міра ў гэтае мястэчка, Сыракомля апісаў у «Вандроўках па маіх былых ваколіцах». Нясвіжу, яго мінуламу прысвечаны ранні цыкл санетаў «Успаміны Нясвіжа» (1844), які ўключае творы «Замак», «Труны Радзівілаў», «Святы крыж», «Да Багародзіцы», «Канторшчык бедны, там сядзеў я днямі», «Малы запушчаны горад стаіць у руінах». У 1912 г. у будынку езуіцкага касцёла ўстаноўлена мемарыяльная дошка памяці У. Сыракомлі. Яго імя носіць адна з цэнтральных вуліц Нясвіжа. У 1990 г. на будынку Нясвіжскага палаца Радзівілаў устаноўлена мемарыяльная дошка з выявай У. Сыракомлі (скульптар І. Чумакоў), а на тэрыторыі палацава-паркавага комплексу — бронзавы бюст (скульптар С. Гумілеўскі).

**Тшэцескі Анджэй** (да 1530—?), паэт, перакладчык, выдавец, уваходзіў у склад нясвіжскага літаратурнага гуртка.

**Храптовіч (Літавор Храптовіч) Іаахім Ігнацы Юзаф**, дзяржаўны і культурны дзеяч ВКЛ ураджэнец в. *Ясянец* цяпер Баранавіцкага р-на Брэсцкай вобл., вучыўся ў Нясвіжскім калегіуме.

**Чорны Кузьма,** (сапр. Раманоўскі Мікалай), пісьменнік, адзін з заснавальнікаў эпічнага жанру ў беларускай літаратуры, ураджэнец в. *Боркі* цяпер Слуцкага р-на Мінскай вобл., скончыў Нясвіжскую настаўніцкую семінарыю.

**Шышыгіна Клаўдзія,** краязнаўца, пісьменніца, ураджэнка в. *Вялікія Стралкі* цяпер Рагачоўскага р-на Гомельскай вобл., скончыла Нясвіжскае педвучылішча. Працавала ў педвучылішчы, потым у Нясвіжскай СШ № 2 і № 3. Аўтар шматлікіх краязнаўчых кніг, кніжкі-маляванкі для дзяцей «Нясвіж: назва горада». Жыла ў Нясвіжы.

**Ягадынскі (Ягадзінскі) Станіслаў Серафін** (каля 1590 — каля 1644), паэт, перакладчык, геральдык, з 1625 да 1627 г жыў пры двары Радзівілаў у Нясвіжы. Пісаў у гэты час пераважна панегірыкі, у асноўным на лацінскай і польскай мовах.

**Янушкевіча Адольфа** (9.6.1803—6.6.1857), падарожніка, пісьменніка-мемуарыста, радзіма. Пачатковую адукацыю атрымаў у нясвіжскай школе damініканцаў, потым вучыўся ў Вінніцкай гімназіі, на літаратурным факультэце Віленскага ўніверсітэта. Удзельнічаў у тайных студэнцкіх таварыствах. Даследчыкі творчасці А. Міцкевіча лічаць, што А. Янушкевіч стаў прататыпам рэвалюцыянера Адольфа з 3-й часткі яго паэмы «Дзяды». Прымаў удзел у паўстанні 1830—1831 гг. Быў сасланы ў Сібір. Падарожнічаў па Сібіры, Казахстане, Кіргізіі. У 1856 г. вярнуўся ў Беларусь — у маёнтак бацькоў Дзягільну (Дзяржынскі р-н). У студэнцкія гады пісаў на польскай мове сентыментальныя вершы, у ссылцы пераклаў «Гісторыю заваявання Англіі нарманамі» А. Цьера. Яго падарожныя нататкі сабраў брат Яўстафій, выдаў **Ф. Вратноўскі** пад назвай «Жыццё Адольфа Янушкевіча і яго лісты з кіргізскіх стэпаў» (кн. 1—2, Парыж, 1861). У 2008 г. выйшла на беларускай мове ў Мінску (выдавецтва «Медысонт). Памёр і пахаваны ў Дзягільне (Дзяржынскі р-н).

* * *

**Вёска Аношкі** Казлоўскага сельсавета

**Пракарына Івана** (н. 1946), паэта, радзіма. Скончыў Мінскую вышэйшыю партыйную школу. Аўтар зборнікаў вершаў «Заручыны», «Куток дзівосных гнёздаў салаўіных». Жыве ў г. Капыль Міскай вобл.

**Вёска Высокая Ліпа,** цэнтр Ліпскага сельсавета

Спадчыннае ўладанне **Абуховічаў.** Мемуарыст і дзяржаўны дзеяч ВКЛ **Абуховіч Піліп** (?—6.9.1656) скончыў Замойскую акадэмію (цяпер Люблінскае ваяв., Польшча). З 1649 г. пісар ВКЛ. Пасол у Венецыі і Маскве (1651). Ваявода віцебскі, смаленскі (1653). У 1654 г. узначальваў абарону Смаленска і пасля доўгай аблогі здаў горад рускім войскам. За гэта быў абвінавачаны ў здрадзе, але на сойме 1658 г. апраўданы. Яму адрасаваны «Ліст да Абуховіча». Аўтар вершаў на лацінскай мове. У 1617 г. у Замосці апублікаваў прамовы на лацінскай і грэчаскай мовах у гонар П. Замойскага. У «Дыярыушы» апісаў падзеі 1630—1654 гг. Выдадзены М. Бялінскім у 1859 г. Яго сын **Тэадор Геранім** (1642—14.4.1707) — аўтар мемуараў, дзяржаўны дзеяч ВКЛ. У дзённіку, які вёў у апошнія гады жыцця, падаў свой жыццяпіс, апісаў важнейшыя падзеі тагачаснага палітычнага жыцця (выдадзены М. Бялінскім у 1859 г.).

**Гарадскі пасёлак Гарадзея**

Рускі пісьменнік **Паўстоўскі Канстанцін** у сваёй «Аповесці аб жыцці» апісаў станцыю Замір’е, дзе яго атрад прастаяў усю зіму ў час Першай сусветнай вайны. Адсюль ён пісаў лісты сваёй будучай жонцы Кацярыне Загорскай.

**Сазончык Міхаіл,** паэт, ураджэнец в. *Юрцава* Аршанскага р-на Магілёўскай вобл., жыве тут. Аўтар зборнікаў вершаў «Вераб’іная дача», «Пад родным небам».

**Вёска Долкінды** Казлоўскага сельсавета

**Тамашэвіча Георгія** (н. 14.8.1939), пісьменніка, радзіма. Закончыў Калінінградскае медыцынскае вучылішча, факультэт журналістыкі Кіеўскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Т. Шаўчэнкі. Старшыня Брэсцкай абласной арганізацыі Саюза журналістаў. Аўтар кніг «Брэсцкія ўрокі Машэрава» (1998), «Зямля Берасцейская» (1999), «Нашчадкам слова застаецца» (2001), «Жытнёвае слова» (2008), «Новы дзень» (2009). Лаўрэат Прэміі Беларускага саюза журналістаў. Жыве ў Брэсце.

**Вёска Дольны Сноў** Сноўскага сельсавета

Народны пясняр Беларусі **Купала Янка** з вясны 1907 да восені 1908 г. працаваў у гэтай вёсцы памочнікам вінакура на бровары, які належаў памешчыку Мікалаю Гартынгу. Жывучы тут, Я. Купала шмат пісаў. Значная частка з напісанага ў Дольным Снове ўвайшла ў зборнік «Жалейка» (1908).

**Вёска Затур’я** Юшавіцкага сельсавета

**Жука Кастуся** (н. 2.5.1954), беларускага паэта, радзіма. Скончыў БДУ (1981). Працаваў у прэсе, на Беларускім тэлебачанні, з 1988 г. — у выдавецтве «Мастацкая літаратура». Друкуецца з 1968 г. Аўтар зборнікаў «Планета маёй душы» (1982), «Зямная ноша» (1988), «У найме ў сонца» (1991), «Пладаносны агонь» (1991), «Галгофа» (1997).

***Дзмітрый КРЫВАШЭЙ, Адам МАЛЬДЗІС***

***Працяг у наступным нумары.***